НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

**МАТЭРЫЯЛЫ ПА АРХЕАЛОГІІ БЕЛАРУСІ, ВЫП. 10.**

**Я. Г. ЗВЯРУГА**

# БЕЛАРУСКАЕ ПАВІЛЛЕ

# У ЖАЛЕЗНЫМ ВЕКУ І РАННІМ СЯРЭДНЕВЯКОЎІ

Мінск
ДНУ "Інстытут гісторыі НАН Беларусі"
2005

УДК 902.26
ББК 63.44 2 (4 Бел)
З 456



**Сэрыя заснавана ў 1957 годзе**

Навуковы рэдактар выпуска
П.Ф. Лысенка, д. г. н., прафесар

Рэцэнзенты:
Г.В. Штыхаў, д. г. н., прафесар
Т.М. Каробушкіна, к. г. н.
Л.У. Калядзінскі, к. г. н.

**Я.Г. Звяруга.**
**З 456** Беларускае Павілле у жалезным веку і раннім сярэднявякоўі / Матэрыялы па археологіі Беларусі, Вып. 10. — Мінск: ДНУ “Інстытут гісторіі НАН Беларусі”, 2005. — 174 с., іл. — Бібліяграфія ў канцы кн. Рез. на рус., англ. яз.

**ISBN 985-6769-07-8**

Рэдакцыя “Матэрыалаў па археалогіі Беларусі” прадстаўляе манаграфію Я.Г. Звяругі “Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі” (Матэрыялы па археалогіі Беларусі, Вып. 10).

У манаграфіі прадстаўлены матэрыялы даследаванняў аўтара на тэрыторыі Беларускага Павілля. Прыведзены даныя розных археалагічных культур (штрыхаванай керамікі, банцараўскай, усходнелітоўскіх курганоў, славянскія помнікі ранняга сярэднявякоўя). На выснове прадстаўленых матэрыялаў рэканструіруецца жыццё насельніцтва адзначанай тэрыторыі на працягу больш чым двух тысячагоддзяў.

Выданне разлічана на археолагаў, гісторыкаў і спецыялістаў смежных абшараў ведаў, а таксама ўсіх тых, што цікавіцца гісторыяй нашай Радзімы.

УДК 902.26
ББК 63.44 2 (4 Бел)

*На вокладцы змешчана выява бронзавай пальчатай фібулы з селішча Мікольцы (даследаванні Я.Г. Звяругі)*



**ISBN 985-6769-07-8**

# ЗМЕСТ

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

АБ – Археалогія Беларусі

АіНБ – Археалогія і нумізматыка Беларусі

АО – Археологические открытия

БД – Белорусские древности

БС – Беларускія старажытнасці

Вестник МГУ – Вестник Московского Государственного университета

ГАЗ – Гістарычна–археалагічны зборнік

ДБ – Древности Белоруссии

ЗСЗОРГО – Записки Северо–Западного отделения Русского географического общества

КСИИМК – Краткие сообщения Института истории материальной культуры

МАБ – Матэрыялы па археалогіі Беларусі

МИА – Материалы и исследования по археологии СССР

Працы... – Працы секцыі археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай Акадэміі навук

СА – Советская археология

САИ – Свод археологических источников

Труды АС – Труды археологического съезда

Труды ВОМПК – Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета

Труды ГИМ – Труды Государственного исторического музея

BW – Biblioteka Warszawska

LA – Lietuvos arheologija

LAA – Lietuvos archeologijos atlasas

RA – Rocznik arheologiczny

WA – Wiadomosci archeologiczne

# УВОДЗІНЫ

Гэта кніга прысвечана гісторыі насельніцтва, якое ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі пражывала на тэрыторыі, абмежаванай вадазборам ракі Віліі ў межах Беларусі. Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу, гэта паўднёва-заходняя ўскраіна Віцебскай вобласці, паўночна-заходняя частка Мінскай і паўночна-ўсходняя частка Гродзенскай вобласці.

У сярэдзіне І тысячагоддзя да н. э. у паўночнай частцы вывучаемага рэгіёну праходзіла пагранічная паласа паміж дзвюма культурамі адзінага ўсходне-балцкага этнічнага масіву – культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культуры.

У сярэдзіне І тысячагоддзя н. э. у заходняй частцы рэгіёну культура штрыхаванай керамікі змяняецца культурай усходнелітоўскіх курганоў, а ва ўсходняй частцы – банцараўскай культурай. Зноў з'явілася пагранічная паласа.

У першых стагоддзях II тысячагоддзя н. э. усходняя частка Павілля з'яўляецца зонай кантактаў паміж усходнеславянскімі плямёнамі дрыгавічамі і крывічамі (палачанамі), а заходняя частка – пагранічнай зонай паміж славянамі і балтамі (літвой).

Вывучэнне стыкаў паміж культурамі і плямёнамі, пагранічных зонаў і зонаў кантактаў выклікае вялікую навуковую цікавасць у многіх адносінах. Яно дазваляе высветліць як агульныя, так і лакальныя асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры, гаспадарчага жыцця, грамадскага ладу насельніцтва сумежных культур і плямён, прасачыць ступень пранікнення элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры ад адной групы насельніцтва да другой, шляхі іх інфільтрацыі, вынікі ўнутрырэгіянальнага кантактавання і інш.

Пры амаль поўнай адсутнасці пісьмовых крыніц (фрагментарныя звесткі маюцца толькі па двух-трох апошніх стагоддзях) адзінай, па сутнасці, крыніцай для вывучэння гісторыі краю з'яўляюцца археалагічныя матэрыялы. Толькі грунтуючыся на іх аснове можна асвятліць гаспадарчае жыццё, матэрыяльную і духоўную культуру і ў значнай ступені грамадскі лад вывучаемага рэгіёну на розных этапах яго гісторыі: ад родавага ладу да дзяржаўных утварэнняў і пачатку фарміравання беларускай народнасці.

Першым даследчыкам старажытнасцей Беларускага Павілля быў Я.П. Тышкевіч, які па праву лічыцца адным з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі (Алексеев, 1967. С. 150–153). У 1837–1843 гг. ён праводзіў сістэматычныя раскопкі курганоў Лагойскага графства, у тым ліку ў ваколіцах вёскі Янушкавічы і маёнтка Відагошч (мал. 1). Важнейшай жыццёвай справай Я.П. Тышкевіча было заснаванне Віленскага музея старажытнасцей (адкрыты 1 студзеня 1856 года ў будынку Віленскага універсітэта), якому перадаў вялізную калекцыю ўласных збораў. Пры музеі ён арганізаваў і ўзначаліў Віленскую археалагічную камісію. Камісія выдала некалькі тамоў "Запісак" і шэраг краязнаўчых работ.

Брат Я.П. Тышкевіча Канстанцін паклаў пачатак вывучэнню старажытных гарадоў, замкаў і гарадзішчаў. Апублікаваў манаграфію "Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі" (1865). Важнейшай работай, у якой сабраны звесткі па археалогіі, архітэктуры, этнаграфіі, фальклору і тапаніміцы вывучаемага рэгіёну, з'яўляецца манаграфія "Вілія і яе берагі", якую К.П. Тышкевіч завяршыў у 1858 годзе (выйшла ў свет у 1871 годзе). Кніга багата ілюстравана графічнымі малюнкамі Артура Бартэльса, якія ён выканаў з натуры ў час сумеснага падарожжа па Віліі (ад вытокаў да ўпадзення яе ў Нёман) у 1856 годзе. Падчас падарожжа К. П. Тышкевіч наведаў каля 300 вёсак і мястэчак, зрабіў падрабязныя апісанні шматлікіх гарадзішч і помнікаў старажытнай архітэктуры, правёў раскопкі курганных могільнікаў у вёсцы Кастыкі (Вілейскі раён) і каля маёнтка Рысгоры (Астравецкі раён), зрабіў малюнкі трапіўшых яму выпадковых знаходак. Перад тым як адправіцца ў падарожжа па Віліі, даследчык прасіў сваіх знаёмых прысылаць звесткі па гісторыі мястэчак, пра помнікі даўніны (Каханоўскі, 1984. С. 55).

У 50-я гады XIX ст. вялікія разведачныя работы ў Павіллі правёў А. Кіркор. Ім былі абследаваны гарадзішчы каля вёсак Галянова, Малышкі, Рэчкі, курганныя могільнікі ля вёсак Губы і Рудня (усе – Вілейскі раён). Пры раскопках курганоў каля вёскі Рудні ім былі выяўлены чалавечыя косці, жалезныя фібулы, алебарды (відаць, шырокалязовыя сякеры). У працы "Археалагічнае падарожжа па Віленскай губерні" А. Кіркор змясціў кароткія гістарычныя даведкі

пра Міхалішкі, Свір, Дабраўляны, Мядзел і іншыя мясціны (Kirkor, 1855. С. 237–257). На востраве возера Мястра абследаваў фундаменты замка другой паловы XVI – пачатку XVII стст. У цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы знаходзіцца падрыхтаваны А. Кіркорам альбом археалагічных знаходак як выяўленых ім самім, так і тых, якія захоўваліся у калекцыях аматараў - краязнаўцаў на месцах (Каханоўскі, 1984. С. 59).

Вялікія археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Павілля праведзены ў канцы XIX ст. у сувязі з падрыхтоўкай да IX археалагічнага з'езда, які адбыўся у Вільні ў 1893 годзе напярэдадні з'езда і ў першыя гады пасля яго Ф. В. Пакроўскі толькі ў межах сучаснага Астравецкага і ў заходняй частцы Мядзельскага раёна (на захад ад возера Нарач) раскапаў каля 100 курганоў. Раскопкам падвергліся курганныя могільнікі каля вёсак Будрані, Занарач, Засвір, Жэлядзь, Лоша, Лынтупы, Панізоўе, паблізу хутароў Зязюлька, Чорная Лужа і іншых месцах (Покровский, 1893а. С. 136–139; 1897. С. 140–153; 1899. С. 71–164). Ён жа правёў раскопкі на гарадзішчах каля вёсак Астраўляны (Мядзельскі раён) і Якубішкі (Астравецкі раён), на адкрытым паселішчы на беразе возера Свір ля вёскі Коркі (Мядзельскі раён) (Покровский, 1899. С. 164–168). Ім складзена карта Віленскай губерніі, якая пры далейшых даследаваннях аказалася даволі дакладнай (Покровский,1893в). У сваіх публікацыях Ф. В. Пакроўскі дае падрабязнае апісанне помнікаў і выяўленых ім матэрыялаў, якія да гэтага часу з'яўляюцца важнейшай крыніцай для вывучэння пахавальных могільнікаў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў (знаходкі з яго раскопак цалкам захаваліся).

У пачатку XX ст. пахавальныя могільнікі Ашмянскага раёна абследаваў С. Яроцкі (Jarocki, 1901. S. 46–49). Напярэдададні першай сусветнай вай-ны курганы паблізу ст. Смаргонь раскопваў П. С. Рыкаў (Рыков, 1913а. С. 7–12; 1913б. С. 13–17).

У міжваенныя гады значныя даследаванні на вывучаемай тэрыторыі правялі Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. У 1933–1937 гг. яны раскопвалі курганы каля вёсак Лоша (Астравецкі раён), Курган (Ашмянскі раён), Галянова (Вілейскі раён), Калінаўка, Наўры, Свінка, Шкленікова (Мядзельскі раён), Андрэеўцы, Гаравішкі, Жодзішкі, Пільці, Расла (усе Смаргонскі раён) (Hołubowicz, 1937а. S. 83–90). Імі праведзена абследаванне гарадзішч каля вёсак Галянова, Рэчкі (Вілейскі раён), на возеры Мядзел (Мядзельскі раён). Падчас экспедыцый выяўлена шмат новых і праверана наяўнасць вядомых па дарэвалюцыйнай літаратуры археалагічных помнікаў (Голубович Е., Голубович В., 1945. С. 126–137).

Вынікі раскопачных работ засталіся неапублікаванымі, за выключэннем аднаго помніка – Наўранскага курганнага могільніка. Акрамя абагульняючага артыкула Г. Цэгак-Галубовіч (Cehak-Hołubowicz, 1937б. S. 5–51) у "Археалагічным штогодніку", апублікаваны артыкул У. Галубовіча, прысвечаны наўранскай караміцы (Hołubowicz, 1937. S. 52–69) і артыкул А. Вжосэка аб выніках даследавання знойдзеных у курганах шкілетаў (Wrzosek, 1937. S. 70–82).

У 1934 годзе раскопкі курганнага могільніка каля вёскі Засвір (Мядзельскі раён) праводзілі супрацоўнікі Дзяржаўнага археалагічнага музея ў Варшаве (кіраўнік К. Салевіч). Матэрыялы раскопак апублікавала Д. Ясканіс (Jaskanis, 1962. S. 459–483).

Першым, хто ў пасляваенныя гады (з 1949 года ), побач з іншымі рэгіёнамі сярэдняй Беларусі, распачаў планамернае і сістэматычнае абследаванне тэрыторыі Павілля, быў А.Р. Мітрафанаў. Ім выяўлена значная колькасць розначасовых помнікаў, пачынаючы ад эпохі бронзы да перыяду Кіеўскай Русі ўключна.

Аб'ектам спецыяльных даследаванняў А.Р. Мітрафанава былі гарадзішчы штрыхаванай керамікі. У 50–60-я гады ён вёў раскопкі на гарадзішчах Вязынка (Маладзечанскі раён), Гарадзішча (Мядзельскі раён), Збаравічы (Мінскі раён), Малышкі (Вілейскі раён) (Митрофанов,1957. С. 155–164; 1970а. С. 302–303; 1973. С. 364–365; 1978б. С. 421–422; 1978а. С. 8–83; 1979. С. 443)

Адначасова з гарадзішчамі культуры штрыхаванай керамікі А.Р. Мітрафанаў даследаваў селішчы банцараўскай культуры. На трох селішчах: Гуры (Гуркі) (Вілейскі раён), Гарадзішча і Равячка (Мядзельскі раён) ім праведзены раскопачныя работы. Па ступені археалагічнага вывучэння Гарадзішчанскае селішча сярод аналагічных сінхронных помнікаў не мае роўных на тэрыторыі Беларусі. Тут выяўлены рэшткі 42 жытлаў, 17 ям-скляпоў, вялікая колькасць разнастайных рэчаў. На селішчы Равячка ўскрыты грунтавыя магілы (Митрофанов, 1966. С. 218–235; 1968. С. 248–249; 1969а. С. 240–261; 1972б. С. 129–130; 1974. С. 377–378; 1975. С. 393; 1978а. С. 84–150).

А.Р. Мітрафанавым зроблена спроба вырашыць праблемы паходжання культуры штрыхаванай керамікі і банцараўскай культуры (Митрофанов, 1969б. С. 69–76; 1972а. С. 150–163).

У 1962–1963 гады Ю.І. Драгун даследаваў курганны могільнік каля былой вёскі Навасёлкі (зараз у межах горада Мядзел).

У 1971 годзе гарадзішча, у 1981 годзе гарадзішча і селішча на паўвостраве возера Мястра (Мядзельскі раён) даследаваў М.А. Ткачоў. У 1981 годзе ім праведзены раскопкі Маладзечанскага замка (Ткачёв, 1972. С. 409; 1983. С. 360–361).

Пачынаючы з 1972 года даследаванні ў басейне Віліі праводзіць аўтар. У 1972 годзе даследаваў селішча і курганны могільнік каля вёскі Сосенкі, у 1973 годзе – курганны могільнік у вёсцы Кастыкі, у 1974 годзе – курганныя могільнікі ва ўрочышчы Караліно (Камена 1) і паблізу вёскі Камена (Камена 2) Вілейскага раёна (Зверуго,1973. С. 360–361; 1974. С. 372–373; 1975а. С. 386; Звяруга, 2001. С. 173–186).

У 1975 годзе аўтар даследаваў курганныя могільнікі каля вёсак Вайшкуны і Янава (Пастаўскі раён), у 1976 годзе – каля вёскі Засвір (Мядзельскі раён) і Свідарышкі (Астравецкі раён). У 1976 годзе правёў раскопкі на сярэдневяковым умацаваным паселішчы ў гарадскім пасёлку Свір і распачаў даследаванне Засвірскага селішча (працягвалася да 1979 года). У 1977 годзе раскопваў курганы паблізу гарадскога пасёлка Лынтупы (Пастаўскі раён) (Зверуго, 1976. С. 418; 1977. С. 404–405; 1978. С. 414–415; 2001. P. 111–120).

На працягу чатырох палявых сезонаў (1978-1981 гг.) аўтар даследаваў гарадзішча паблізу вёскі Гарані і двух сезонаў (1979, 1982 гг.) – селішча ў ваколіцах вёскі Хведзевічы (Смаргонскі раён).

У 1981–1983, 1986–1991 гг. правёў раскопкі на селішчы каля вёскі Мікольцы (Мядзельскі раён) (Зверуго, 1979. С. 435–436; 1980. С. 362–363; 1981. С. 336–337; 1983. С. 350; 1984. С. 356–357; 1985. С. 391; 1988. С. 362; Зверуго, Медведев, 2003а. С. 85–100; 2003б. С. 85–110; Звяруга, 2002. С. 146–184).

Матэрыялы даследаванняў часткова апублікаваны ў манаграфіі “Верхняе Панямонне ў IX–XIII стст.” (1989 г.). Вынікі раскопачных работ на Гаранскім гарадзішчы і Засвірскім селішчы выкладзены ў спецыяльных артыкулах (Зверуго, 1992. С. 92–103; Звяруга, Мядзведзеў, 1994. С. 27–37).

У апошнія два дзесяцігоддзі XX ст. значныя работы па даследаванню помнікаў Павілля праведзены археалагічнай экспедыцыяй БДУ. У 1987–1993 гг. В.Н. Рабцэвіч і А.М. Плавінскі даследавалі курганныя могільнікі каля вёсак Навасёлкі, Нагаўкі, Наўры, Мілты (усе Мядзельскі раён). Матэрыялы апублікаваны толькі па Нагаўскаму могільніку (Плавінскі А., Плавінскі М., 2003. С. 173–183).

У 1986 годзе Э.М. Загарульскі даследаваў гарадзішча каля вёскі Гарадзішча (Мядзельскі раён), а ў 1990–1994 гг. – гарадзішча на ўскраіне вёскі Малышкі (Вілейскі раён). Вынікі даследаванняў не апублікаваны.

У 1982 годзе Г. В. Штыхаў абследаваў курганны могільнік на беразе ракі Дзвінасы (левы прыток Віліі) каля вёскі Ізбішча (Лагойскі раён) (Штыхов, 1984. С. 377–378). У 1987–1989 гг. В. У. Казей, у 1990 – Г. В. Штыхаў правялі раскопкі курганнага могільніка (даследавана 108 насыпаў) і размешчанага непадалёку селішча (Штыхаў, Казей, 1993. С. 281–282).

Апошнія гады актыўна і плённа працуе ў Павіллі А.М. Мядзведзеў. У 1994 годзе сумесна з В.У. Шаблюком ён даследаваў гарадзішчы каля вёскі Краснае (Маладзечанскі раён), у 1995, 2000 і 2002 гг. правёў раскопкі на гарадзішчы Равячка (Мядзельскі раён), у 2002 годзе – на селішчы Курчына (Мядзельскі раён) (Мядзведзеў, 2003. С. 32–43).

Значныя работы па выяўленні і папярэднім вывучэнні новых помнікаў эпохі ранняга жалеза і сярэдневяковага перыяду праведзены даследчыкам больш ранніх перыядаў М.М. Чарняўскім. Ім у басейне верхняй Віліі адкрыта больш за 20 новых паселішчаў, у тым ліку каля вёскі Ізбішча, на паўвостраве возера Мястра, у ваколіцы вёскі Хведзевічы і інш.

У 1999 годзе Э.М. Зайкоўскі даследаваў цалкам курган каля вёскі Ашмянец (Смаргонскі раён), самавольныя раскопкі якога пачалі мясцовыя школьнікі (Зайкоўскі, 2002. С. 181–190).

У выніку працы некалькіх пакаленняў археолагаў Павілле аказалася адным з найбольш грунтоўна даследаваных рэгіёнаў Беларусі. Па ступені археалагічнага асваення з ім хіба што могуць параўнацца ваколіцы Мінска ды яшчэ дватры рэгіёны рэспублікі. Здабытыя матэрыялы дазваляюць даволі поўна ўстанавіць гісторыю насельніцтва за амаль два апошнія тысячагоддзі.

Матэрыялы даследаванняў апошніх двух-трох дзесяцігоддзяў у большасці сваёй заставаліся да гэтага часу неапублікаванымі. Значная частка здабытых матэрыялаў патрабавала дадатковай апрацоўкі, а зробленыя на іх аснове вывады і заключэнні – карэктыроўкі, а то і істотнай папраўкі. Гэта і паспрабаваў зрабіць аўтар.

У падрыхтоўцы кнігі да выдання прынялі удзел супрацоўнікі аддзелаў археалогіі Інстытута гісторыі НАН Беларусі С.В. Мілюціна, А.В. Мотуз, В.М. Зубко. Ілюстрацыі выканалі М.М. Федасееў, А.І. Марковіч і М.П. Сцяпанава. Аўтар выказвае глыбокую ўдзячнасць усім, хто дапамог яму карыснымі парадамі і кансультацыямі.

# ГЛАВА І. ПАСЕЛІШЧЫ КУЛЬТУРЫ ШТРЫХАВАНАЙ КЕРАМІКІ

Яшчэ ў эпоху позняй бронзы склаліся ўмовы для фарміравання дзвюх культур: днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі. Пачынаючы з 8–7 стст. да н. э. і да 4–5 стст. н. э. плямёны гэтых культур жылі ў Верхнім Падняпроўі, Сярэднім Падзвінні, Верхнім і Сярэднім Панямонні. У арэал культуры штрыхаванай керамікі ўваходзілі землі сярэдняй Беларусі і Усходняй Літвы. Паўночная граніца культуры ў межах Беларусі праходзіла па лініі Паставы – Дунілавічы — Лепель – Чашнікі. На поўдні граніцай з'яўляўся водападзел Нёмана і Прыпяці (у склад культуры часткова ўваходзілі вярхоўі рэк Морачы і Лані). Усходняй граніцай з'яўлялася цячэнне ракі Усяж – Бук і верхняе цячэнне Друці (Митрофанов, 1969б. С. 71). На тэрыторыі Літвы паселішчы са штрыхаванай керамікай вядомы ў Занёманні, але большасць з іх канцэнтруецца на ўсход і поўдзень ад сярэдняга цячэння ракі Швянтойі і ніжняга цячэння ракі Нярыс (Віліі). Заходняя граніца арэала культуры штрыхаванай керамікі ішла ад горада Каўнаса па рэках Есі і Шашупе (Данилайте, 1968. С. 13–14).

Адной з найбольш характэрных рыс культуры штрыхаванай керамікі з'яўляецца наяўнасць штрыхоўкі на знешняй, а часта і на ўнутранай паверхні гліняных пасудзін. Штрыхаваная кераміка як у пачатку фарміравання культуры, так і ў час яе існавання, сустракаецца не толькі ў сярэдняй Беларусі і ўсходняй Літве, але і ў Латвіі, Эстоніі, прылягаючых да Прыбалтыкі абласцях Расіі, Верхнім Падзвінні і нават у Фінляндыі і Швецыі. Аднак за межамі асноўнага арэала яна нідзе не сустракаецца ў чыстым відзе, а толькі перамешаная з керамічнымі тыпамі мясцовых культур. Больш таго, самі формы штрыхаваных пасудзін там капіруюць мясцовыя формы керамікі, якія істотна адрозніваюцца ад пасудзін асноўнага арэала. Такім чынам, тэрыторыя распаўсюджання ўласна культуры штрыхаванай керамікі значна менш тэрыторыі, на якой штрыхаваная кераміка сустракаецца ў змяшэнні з керамікай іншых культур (Граудонис, 1980. С. 59–69; Станкевич, 1960. С. 150).

### 1. Тапаграфія, абарончаыя збудаванні, забудова

Як і ў іншых рэгіёнах Беларускага Панямоння, паселішчы плямён, якія жылі ў басейне Верхняй Віліі ў эпоху неаліту і бронзы, размяшчаліся на берагах рэк і азёр. Гэта былі, як правіла, нізкія і адкрытыя месцы: пясчаныя дзюны ў поймах рэк, краі тэрас, дзе да іх падыходзілі старыцы і залівы, месцы каля ўпадзення меншай рэчкі ў большую і інш. (Чарняўскі, 1979. С. 8,68). Гэта тлумачыцца тым, што адной з важнейшых крыніц існавання насельніцтва таго часу было (побач з паляваннем і збіральніцтвам) рыбалоўства.

Найбольш старажытныя паселішчы плямён культуры штрыхаванай керамікі амаль не адрозніваліся ад стаянак папярэдніх эпох. Гэта былі неўмацаваныя адкрытыя селішчы, размешчаныя на берагах вадаёмаў або ў непасрэднай блізкасці ад іх.

Адным з найбольш ранніх паселішч з'яўляецца селішча, размешчанае за 1,5 км на поўнач ад вёскі Гатавічы (Мядзельскі раён), на левым беразе ракі Скемы, якая злучае азёры Мястра і Нарач. Яно займае пакатую ўзвышанасць, што падымаецца над поймай усяго на 1,5–2 м. Селішча адкрыў у 1963 годзе і даследаваў у 1964-м М. М. Чарняўскі. Культурны пласт ускрыты на плошчы 100м$^2$. Яго таўшчыня дасягае 0,5 м. Выяўлены чатыры размешчаныя ў адзін рад ямы. Верагодна, гэта рэшткі характэрнага для паселішча штрыхаванай керамікі жытла слупавой канструкцыі. Знойдзена ляпная кераміка з прымессю буйных зярнят жарствы ў цесце. Яна дзеліцца на штрыхаваную і гладкасценную. Абломкі штрыхаваных пасудзін – жоўтыя, гладкасценных – шэрыя і цёмна-шэрыя. Аднавіць форму штрыхаваных пасудзін па захаваўшыхся фрагментах аказалася немагчымым. Гладкасценныя пасудзіны па форме падзяляюцца на два тыпы: гаршкі з рэзка адагнутым венчыкам, выразна выражаным плечыкам, выпуклым тулавам, не зусім плоскім дном і пасудзіны баначнай формы з лёгка адагнутым краем венчыка і плоскім дном. Па форме і арнаменце (размешчаныя ў адзін рад ямкі) пасудзіны першага тыпу маюць аналогіі ў ранняй кераміцы мілаградскай культуры (VI–IV стст. да н. э.) (Митрофанов, 1978а. С. 9).

Абломкі штрыхаваных і гладкасценных пасудзін выяўлены таксама на адкрытым селішчы, размешчаным на паўднёвым беразе возера Нарач, за 2 км на захад ад вёскі Занарач (урочышча Сцюдзянец). Яно, як і Гатаўскае паселішча, размешчана на невысокай палогай узвышанасці (Чернявский, 1976. С. 428–429).

Фрагменты такіх жа, як у Гатавічах і Занарачы, пасудзін знойдзены на адным з найбольш ранніх умацаваных паселішчах культуры штрыхаванай керамікі (размешчаным, праўда, за межамі даследуемай тэрыторыі) – паселішчы каля вёскі

Аўгустова (Лепельскі раён). Яно займае мыс прыроднага ўзвышша, які ўкліньваецца ў забалочаную нізіну. Схілы ўзвышша былі ў старажытнасці штучна падрэзаны. У цяперашні час іх вышыня не больш за 3 м. Пляцоўка вельмі невялікая, усяго 35х30 м. Ніякіх земляных абарончых збудаванняў няма. На думку А.Р. Мітрафанава, найбольш раннія гарадзішчы ўмацоўваліся толькі драўлянай сцяной па краі пляцоўкі. Паселішчы, якія не маюць земляных абарончых збудаванняў, ён прапануе разглядаць як паселішчы пераходнага тыпу – ад неўмацаваных да ўмацаваных. Абарончыя збудаванні ў выглядзе землянога вала на краі пляцоўкі і сцяны з бярвення на яго вяршыне з'явіліся не раней IV–III стст. да. н. э. (Митрофанов, 1970б. С. 187). Гэта ўжо былі гарадзішчы ў поўным сэнсе гэтага слова.

Пераход ад неўмацаваных паселішч (селішч) да ўмацаваных (гарадзішч) быў абумоўлены зменамі характару крыніц існавання насельніцтва. З распаўсюджаннем жалеза, развіццём падсечна-агнявога (ляднага) земляробства з'явіліся ўмовы для накаплення матэрыяльных каштоўнасцей. У сувязі з гэтым з'явілася неабходнасць у збудаванні такіх умацаванняў, якія забяспечвалі б бяспеку насельніцтва. Зараз паселішчы ўзнікаюць у месцах, якія былі абаронены самой прыродай: на высокіх стромкіх берагах рэк і азёр, у глухіх лясных масівах і г. д.

Пачынаючы з I–II стст. н. э. на гарадзішчах, акрамя землянога вала са сцяной з бярвення на краі пляцоўкі, насыпаюцца валы (часам у два і тры рады ) на схілах гарадзішч або ўздоўж іх асновы. Па сваім месцазнаходжанні гэтыя гарадзішчы звычайна амаль не адрозніваліся ад больш ранніх: яны размяшчаліся на мысах і ўзгорках на берагах і ў поймах рэк, на ўзвышанасцях сярод балот. Форма гарадзішча залежала ад формы ўзгорка (узвышанасці) або мыса, на якім яно размяшчалася. Мысавыя гарадзішчы звычайна мелі падтрохвугольную форму (трохвугольнік з закругленымі вугламі) або авальную. Узгоркавыя гарадзішчы часцей за ўсё былі круглыя або авальныя. Памеры гарадзішч былі невялікімі, іх плошча вагалася ў межах ад 0,5–0,6 да 2,5–3 тыс. м². (Митрофанов, 1978а. С. 15).

Пры даследаванні асобных паселішч культуры штрыхаванай керамікі ў Верхнім Павіллі было ўстаноўлена, што яны ў сваім развіцці прайшлі некалькі этапаў. Такімі з'яўляюцца Вязынскае і Збаравіцкае гарадзішчы.

Вязынскае гарадзішча (мясцовая назва Замэчак) знаходзіцца за 0,25 км на паўднёвы ўсход ад будынка філіяла літаратурнага музея Янкі Купалы. Яно размешчана на невысокім (3,5–4 м) узгорку, на левым беразе ракі Вязынкі. Пляцоўка авальнай формы, памерам 60х50 м. , выцягнута з поўначы на поўдзень. Паўночны, усходні і паўднёвы схілы стромкія, заходні – пакаты. Гарадзішча абследаваў у 1952 г. К.М. Палікарповіч. У гэтым жа годзе А.Р. Мітрафанаў правёў раскопкі на плошчы 284 м².

Раскопкамі ўстаноўлена, што першапачаткова селішча было ўмацавана толькі драўлянай сцяной, рэшткі якой у выглядзе згарэўшых бярвенняў і вялікай колькасці вугалю выяўлены паблізу мацерыка. Пачатковы этап, калі паселішча было яшчэ слаба ўмацавана, працягваўся нядоўга. Пасля пажару, які знішчыў сцяну (магчыма, жытлы і іншыя пабудовы) уздоўж краю пляцоўкі насыпаны вал, на грабяні якога была збудавана новая абарончая сцяна, якая, як і першая, таксама знішчана пажарам. Мяркуючы па захаваўшыхся рэштках, таўшчыня бярвенняў (елкі, сасны) раўнялася 0,2–0,3 м. На апошнім этапе свайго існавання паселішча было яшчэ больш умацавана. Схілы ўзгорка для прыдання ім большай круцізны зрэзаны. З менш умацаванага заходняга боку былі насыпаны валы і выкапаны равы. Відаць, была зроблена падсыпка асноўнага, размешчанага на краі пляцоўкі вала (у яго насыпе прасочваецца вугольная праслойка). І, нарэшце, была збудавана трэцяя па ліку сцяна (Митрофанов,1957. С. 157–158).

Не менш двух разоў перабудоўвалася абарончая сістэма Збаравіцкага гарадзішча (мясцовая назва Выспа). Яно размешчана за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Збаравічы (Мінскі раён), на высокім (34 м ) узгорку, на левым беразе ракі Гуйкі (правы прыток ракі Рыбчанкі), пры ўпадзенні ў яе маленькай рэчкі Памаўзы. Пляцоўка мае форму правільнага авала, выцягнутага з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Яе даўжыня 50 м, шырыня 30 м. З усходняга і паўночнага бакоў прасочваюцца рэшткі вала вышынёй 0,3–0,4 м. Гарадзішча адкрыў у 1912 годзе археолаг–аматар А.К. Снітка. У 1951–1952 і 1958 гг. А.Р. Мітрафанаў правёў раскопкі на плошчы 862 м². Таўшчыня культурнага пласта ад 0,3–0,35 м у цэнтры пляцоўкі і да 0,65–0,95 м каля яе краёў.

Падобна як і Вязынскае, Збаравіцкае гарадзішча першапачаткова было ўмацавана толькі драўлянай сцяной на краі пляцоўкі, якая была знішчана пажарам. Пасля пажару з мэтай узмацнення абарончых магчымасцей паселішча каля яго асновы выкапаны роў шырынёй ад 3,2 да 5 м і глыбінёй ад 0,4 да 1,2 м. Узятая з рова зямля выкарыстана для падсыпкі схілаў узгорка і краёў пляцоўкі. У выніку гэтых работ схілы сталі больш

стромкімі, а па краі пляцоўкі ўтварыўся невялікі вал, які з'яўляўся не толькі ўмацаваннем, але адначасова і сцяной жытлаў (Митрофанов, 1978а. С. 19–20).

Толькі драўлянай сцяной на краі пляцоўкі было ўмацавана на начальным этапе свайго існавання Гаранскае гарадзішча (мал. 2: 1). Яно рзмешчана за 1,5 км на паўночны захад ад вёскі Гарані (Смаргонскі раён), на заходнім беразе возера Свір. Займае мыс прыроднага ўзвышша выцягнутага з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Пляцоўка мае форму, блізкую да раўнабедранага трохвугольніка, звернутага вяршыняй на поўнач. Вуглы закругленыя (асабліва каля асновы), а бакі выпуклыя. Памеры пляцоўкі па восі поўнач – поўдзень 75 м, а па восі захад – усход 60 м. Над прылягаючай мясцовасцю яна падымаецца на 7–12 м. З трох бакоў (паўночнага захаду, паўночнага ўсходу і паўднёвага ўсходу) пляцоўка абаронена стромкімі схіламі. З чацвёртага напольнага боку (паўднёвага захаду), дзе схіл пакаты, пазней быў насыпаны вал, ад якога ў цяперашні час на паверхні не засталося і следу. Для надання большай стромкасці паўночна-заходняму схілу ён у старажытнасці быў падрэзаны, аб чым сведчыць тэраса ў яго аснове. Паўночна-ўсходні схіл быў, відаць, падрэзаны пры пракладцы дарогі Смаргонь – Свір, якая праходзіць ушчыльную да гарадзішча. Адразу за дарогай пачынаецца нізінны часткова забалочаны бераг возера Свір (адлегласць ад гарадзішча да возера – меньш за 50 м). Гарадзішча выявілі і абследавалі Х. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. Яно паказана на карце, складзенай імі ў 1930-я гады (Голубович Е. , Голубович В., 1945. Рис. 53). У 1978–1981 гг. аўтар правёў раскопкі на плошчы 680 м$^{2.}$. Магутнасць культурнага пласта вагалася ад 0,2–0,3 м па краях пляцоўкі да 2–2,5 м у яе цэнтры.

Паселішчы культуры штрыхаванай керамікі, якія з'явіліся ў першых стагоддзях нашай эры, умацоўваліся з моманту свайго ўзнікнення магутнымі валамі і глыбокімі равамі. Як і раней, на грэбені вала будуюцца сцены з бярвенняў. Да ліку такіх паселішч на тэрыторыі Верхняга Павілля адносіцца Малышкаўскае гарадзішча Яно размешчана за 0,1км на захад ад вёскі Малышкі (Вілейскі раён), на высокім (каля 10 м ад узроўню вады) беразе ракі Сэрвач (правы прыток Віліі). У адрозненне ад іншых гарадзішч рэгіёну, яно размешчана не на ўзгорку або мысе, а на роўным месцы. Пляцоўка паўавальнай формы. Яе даўжыня 52 м, шырыня 45,5 м. Гарадзішча адкрылі і абследавалі ў 1938 годзе Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. У 1955–1957, 1969, 1977–1978 гадах яго даследаваў А.Р. Мітрафанаў, а ў 1990–1994 гг. Э.М. Загарульскі. А.Р. Мітрафанаў ускрыў 930 м$^2$ плошчы. Вынікі работ Э.М. Загарульскага застаюцца неапублікаванымі.

Пляцоўка гарадзішча з трох бакоў (поўначы, усходу, поўдня) умацавана магутным валам, вышыня якога са знешняга боку дасягае 5 м, з унутранага – 4 м. Прыродным умацаваннем з чацвёртага (заходняга) боку з'яўляўся высокі абрывісты бераг ракі. Даследаваннямі ўстаноўлена, што вал тры разы падсыпаўся. Непасрэдна за валам маецца невялікае паніжэнне. Хутчэй за ўсё гэта сляды існаваўшага ў старажытнасці, а цяпер заплыўшага рова.

Усе шэсць гарадзішчаў у басейне Верхняй Віліі, на якіх праводзіліся раскопкі, значна папоўнілі звесткі аб канструкцыі і ўстройстве жылых і гаспадарчых пабудоў культуры штрыхаванай керамікі ў цэлым.

Жытлы на Збаравіцкім гарадзішчы размяшчаліся на краі пляцоўкі ў спецыяльна выкапаным канавападобным паглыбленні з роўным дном. Яны мелі слупавую канструкцыю, пры якой слупы з'яўляліся не толькі асноўным канструкцыйным элементам, які забяспечваў трываласць усёй пабудовы, але і падтрымлівалі перакрыццё (Митрофанов,1970б. С. 189). Тры сцяны (сцяна, звернутая у бок пляцоўкі і дзве бакавыя) былі зроблены з пакладзеных адно на другое бярвенняў, канцы якіх уваходзілі ў пазы слупоў. Функцыю чацвёртай сцяны выконваў абарончы вал. Пры гэтым адзін канец бярвенняў бакавых сцен быў, відаць, упушчаны ў насып вала. Стрэхі жытлаў былі аднасхільнымі. Найбольш верагодна, што адны канцы кроквяў апіраліся на слупы, другія - на земляны вал (яго вышыня была не больш за 0,8–0,85 м). Аналагічныя збаравіцкім жытлы выяўлены на Тушамлінскім гарадзішчы (Смаленшчына). Там, як і ў Збаравічах, функцыі задняй сцяны выконваў абарончы вал на краі пляцоўкі (Третьяков, Шмидт 1963. С. 60).

Жытлы былі шматкамернымі. Плошча асобнага памяшкання раўнялася 20–25 м$^2$. Агнішчы мелі авальную ці амаль круглую форму. Памеры аднаго з лепш захаваўшыхся авальных агнішч – 1,3х0,9 м, дыяметр аднаго з круглых – 0,75–0,8 м. Чарэнь агнішч складаўся з праслойкі пяску таўшчынёй прыкладна 0,1 м. Па краях быў абкладзены валікамі гліны, у якую паўмазваны камяні.

Акрамя жытлаў, на Збаравіцкім гарадзішчы ўскрыта пабудова, якая зроблена па тых жа будаўнічых прыёмах, што і жытлы, але мела нейкае гаспадарчае прызначэнне (агнішча ўнутры

не было). А.Р. Мітрафанавым выказана меркаванне, што яна прызначалася для жывёлы (Митрофанов, 1978а. С. 22).

Унутры жытлаў, у сярэдняй частцы пляцоўкі і каля гаспадарчай пабудовы выяўлены ямы – скляпы. У плане яны авальнай (яйкападобнай) або круглай формы. Памеры авальных ям 1,1–3,0 х 0,6–2,0 м, глыбіня ад 0,3–0,4м да 1,1 м. Дыяметр круглых 1–1,2 м, глыбіня 0,5–0,7м. У запаўненні адной з ям з верху да нізу траплялiся абломкі штрыхаванай керамікі і жалезныя шлакі. У другой яме знойдзена даволі многа абпаленых зярнят пшаніцы. Значыць, яма прызначалася для захавання збожжа (Митрофанов,1970б. С. 191; 1978а. С. 22).

Збаравіцкае гарадзішча – аднаслойны помнік. Жыццё на ім працягвалася параўнаўча нядоўга. Жытлы перабудоўваліся не больш двух разоў. І ўсе яны былі слупавой канструкцыі.

Вязынскае гарадзішча таксама аднаслойны помнік, але тут побач з жытламі слупавой канструкцыі былі зрубныя дамы. З'яўленне наземных зрубных дамоў сведчыць аб новых, больш прагрэсіўных прыёмах у домабудаўніцтве мясцовага насельніцтва.

Рэшткі вялікага зрубнага дома выяўлены ў верхнім пласце гарадзішча. Граніцы дома ўдалося прасачыць па палосах глінянай абмазкі, якая звалілася са сцен падчас пажару. На кавалках абмазкі захаваліся адбіткі пальцаў рук і тоўстых бярвенняў (глінай былі запоўнены пазы паміж бярвеннямі). Мяркуючы па размяшчэнні палос гліны, дом быў падзелены на тры жылыя памяшканні (камеры). У папярэдняй публікацыі па выніках раскопак кожнае з гэтых памяшканняў А.Р. Мітрафанаў лічыў асобным жытлом. Праўда, выказаў меркаванне, што яны ўсе мелі агульнае перакрыццё і складалі па сутнасці адну вялікую пабудову (Митрофанов,1957. С. 158–159). Адно з памяшканняў мела прыблізна 11 м у даўжыню і 5,5 м у шырыню. Два іншыя памяшканні мелі разам такую ж, як адно першае, даўжыню і некалькі меншую (5 м) шырыню. Унутры кожнага памяшкання знаходзілася агнішча, якое складалася са слоя буйназярністага пяску, абкладзенага па краях камянямі. Са знешняга боку камянёў меліся гліняныя валікі, якія засцерагалі іх ад развалу. Форма агнішчаў авальная. Памеры 1,3–1,8 х 1,1–1,4 м.

Рэшткі двух наземных жытлаў ускрыты на мацерыку. Несумненна, дакладныя іх граніцы прасачыць не ўдалося. Выяўлены агнішчы і часткова сляды ніжняга вянка зруба. Выяўлены тры гаспадарчыя ямы. Адна з іх круглая ў плане, дыяметрам 1,6 м, глыбінёй 0,6 м, мела вертыкальныя сценкі і плоскае дно. Другая авальнай формы, памерам 5,25 х 3,8 м, з няроўным дном. Трэцяя амаль круглая, памерам 2,7 х 2,65 м.

Паколькі інтэнсіўнае жыццё на адносна невялікім участку Гаранскага гарадзішча працягвалася адносна доўгі час, прыкладна 14–15 стагоддзяў (магчыма, з невялікімі перапынкамі), рэшткі жытлаў захаваліся вельмі дрэнна.

У розных месцах і на розных узроўнях выяўлены абпаленыя камяні, якія засталіся больш чым ад 20 агнішчаў. Паблізу мацерыка ў раскопе 1981 года (плошча 112 м$^2$) прыблізна на адным узроўні ўскрыты рэшткі пяці круглых у плане агнішчаў дыяметрам 1–1,3 м. Даволі шчыльна пакладзеныя ўпрытык адзін да аднаго камяні велічынёй 0,15–0,35 м у папярэчніку не былі змацаваны глінай.

Усе жылыя пабудовы на гарадзішчы, несумненна, былі наземнымі. Ні воднага значнага па плошчы паглыблення ні ў культурным пласце, ні ў мацерыку не зафіксавана. Як і на іншых гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі Верхняга Павілля, так і на паселішчах Літвы, яны былі ў асноўным слупавой канструкцыі, хаця існаванне прымітыўных зрубных пабудоў таксама не выключана (Grigalavičienė, 1986. P. 86–87; Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 47). Кавалкі глінянай абмазкі, якая пакрывала з унутранага боку пераплеценыя галінкамі сцены ці запаўняла пазы паміж бярвеннямі, на Гаранскім гарадзішчы не знойдзены.

Найбольш істотныя даныя аб канструкцыі і ўстройстве жытлаў атрыманы ў выніку раскопак у Малышках. Тут А.Р. Мітрафанавым ускрыты рэшткі пяці вялікіх наземных жытлаў. Падобна як і ў Вязынцы, сляды іх удалося прасачыць па шматлікіх кавалках глінянай абмазкі, якая звалілася са сцен пры пажары. Тут, як і ў Вязынцы, глінай запаўняліся пазы паміж бярвеннямі. Таму, амаль на ўсіх кавалках выразна бачны адбіткі даволі тоўстых (да 20–30 см ) бярвенняў і адбіткі пальцаў. Гліняная абмазка, перамешаная з вуглямі і попелам, ляжала радамі таўшчынёй да 20–25 см і выразна абводзіла контуры жытлаў. Іх памеры былі амаль аднолькавыя: даўжыня 17–18 м, шырыня 7,5–8 м.

Жытлы мелі аднолькавую планіроўку: усе былі падзелены на чатыры жылыя памяшканні. Кожнае з іх глухой сцяной адбівалася на дзве паловы, памяшканні ў якіх былі аддзелены адно ад другога вузкім калідорам. Ва ўсіх дамах уваходы знаходзіліся з тарцовых бакоў. Яны вялі ў калідоры. Уваходы у асобныя памяшканні знаходзіліся ўнутры калідораў.

Ва ўсіх памяшканнях меліся адкрытыя агнішчы. Іх устройства ва ўсіх жытлах было аднолькавым. Чарэнем з'яўляўся слой пяску (часцей за ўсё буйназярністага) таўшчынёй 0,05–0,25 м. Па краях ён абкладзены валікам гліны шырынёй у аснове 0,15–0,25 м і вышынёй 0,1–0,3 м. У плане агнішчы мелі круглую або авальную форму. Дыяметр круглых агнішчаў вагаўся ад 0,9 да 1,75 м. Памеры авальных таксама вагаліся ў значных межах: ад 0,95х1,5 да 1,25х1,9 м. Па меры накаплення культурнага пласта агнішчы прыходзілася падымаць. У асобных памяшканнях іх абнаўлялі па тры-чатыры разы. Новыя агнішчы заўсёды размяшчаліся на месцы больш ранніх (Митрофанов, 1979. С. 443).

На аснове даных, атрыманых пры даследаванні жытлаў культуры штрыхаванай керамікі, А. Р. Мітрафанаў зрабіў выснову, што яны ў сваім развіцці прайшлі два этапы: першы – доўгія дамы слупавой канструкцыі, падзеленыя на вялікую колькасць жылых памяшканняў, другі – шматкамерныя зрубныя дамы. Першы этап, на яго думку, адпавядаў таму часу, калі патрыярхальная сям'я была яшчэ адзіным нераздзеленным калектывам. Другі этап адлюстроўваў пачатак працэсу распаду вялікай сям'і на больш дробныя. Кожны асобны дом Малышкаўскага гарадзішча належаў, відаць, малой сям'і, дарослым дзецям і ўнукам. Асобныя малыя сем'і, відавочна, самастойнай гаспадаркі не вялі, а былі часткай вялікай патрыярхальна-сямейнай абшчыны. (Митрофанов,1970б. С. 189, 192). Жытлы першага этапу размяшчаліся, як правіла, па краях пляцоўкі, у яе цэнтры знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы і загарадзі для жывёл. На другім этапе жытлы размяшчаліся не толькі па краях пляцовак паселішч, але і на ўсёй іх плошчы.

**2. Аналіз рэчавага матэрыялу**

На ранніх паселішчах культуры штрыхаванай керамікі колькасць і асартымент металічных вырабаў нязначная. Затое даволі многа вырабаў з косці, рога і каменя. На позніх гарадзішчах комплекс металічных вырабаў даволі шматлікі і разнастайны. Яны прадстаўлены прыладамі працы, прадметамі ўзбраення, прыналежнасцямі касцюма і ўпрыгожаннямі.

На Гаранскім і Малышкаўскім гарадзішчах знойдзены цэлыя жалезныя сякеры (абломкаў выяўлена шмат). Абедзве сякеры вузкалязовыя. Сякера з Гаранёў злёгку выгнутая (пярэдняя частка ў яе выпуклая, задняя – увагнутая) (мал. 15: 32). Адтуліна для тапарышча амаль круглая. Даўжыня сякеры 17,2 см, шырыня ляза 5,2 см, дыяметр адтуліны 2,6—2,8 см. Аналагічная сякера знойдзена ў Лаздынскім могільніку (Латвія) (Граудонис, 1967. Табл. XXVII: 5), падобная – на гарадзішчы Аўгустова (Лепельскі раён) (Митрофанов, 1969в. Рис. 2:1). Сякера з Малышак адносіцца да паўднёвапрыбалтыйскага тыпу (мал. 11: 7). Яе даўжыня 16,2 см, шырыня ляза 6,1 см, дыяметр круглай адтуліны для тапарышча 2–2,1см. Грунтуючыся на класіфікацыі Х. А. Моора (другая група), А.Р. Мітрафанаў датуе яе I–III стст. н. э. (Митрофанов, 1978а. С. 34).

Значна часцей, чым сякеры, пры раскопках трапляюцца нажы для жніва і сярпы. На гарадзішчы Гарані іх знойдзена 14 экзэмпляраў: 5 цэлых, астатнія ў абломках (мал. 4: 1–12, 14–17); у Малышках – 7, 3 цэлых і 4 абломкі (мал.11: 5–7); у Збаравічах – 2 , адзін амаль цэлы, другі – абломак ляза (мал. 7: 13, 14); у Вязынцы – 4, 2 з абламанымі канцамі і 2 абломкі (мал. 7: 20, 21). У жатных нажоў прамое або ледзь-ледзь сагнутае лязо, выгнутая, асабліва ў пачатковай частцы) спінка і адагнутая ў бок ляза ручка. У сярпоў лязо выгнута больш, выгіб спінкі больш раўнамерны, лінія дзяржання звычайна непасрэдна пераходзіць у лінію спінкі. Па сваіх памерах абсалютна пераважаюць сярпы невялікіх памераў: даўжыня асновы (па прамой лініі ад пачатку ручкі да рабочага канца) вагаецца ад 7–8 да 14–15 см. Па характары выгібу значная большасць сярпоў адносіцца да тыпу сіметрычных. У іх вышыня дугі знаходзіцца пасярэдзіне даўжыні асновы або крыху ссунута. На думку Ю.А. Краснова, сярпы гэтага тыпу былі распаўсюджаны толькі ў лясной паласе Усходняй Еўропы, што дазваляе гаварыць аб іх мясцовым паходжанні (Ю.А. Красноў звязвае іх з балцкімі плямёнамі) (Краснов, 1971. С. 74–78). У Гаранях знойдзены серп, дзяржанне якога заканчваецца кручком (мал. 4: 14). Сярпы, ручка якіх замацоўвалася на кручку (падобна як у кос-гарбуш), шырока бытавалі ў плямён мілаградскай і зарубінецкай культур (Максимов, 1972. Табл. XI: 1–2; XIX: 19–20; Мельниковская, 1967. Рис 22: 1–5). Плямёны штрыхаванай керамікі такіх сярпоў не ведалі.

Сярод іншых прылад працы найбольш багата прадстаўлены шылы (мал. 5: 6–10, 12–14; 7: 8, 9; 11: 9, 10). У Гаранях іх знойдзена 29 экзэмпляраў, у Малышках – 6, Вязынцы – 5, Збаравічах – 1 экзэмпляр. Усе яны зроблены з круглага ў сячэнні стрыжня дыяметрам 3–4 мм. Рабочы канец завостраны, а процілеглы расплюснуты ці прамавугольны ў сячэнні. На яго надзявалася драўляная або касцяная ручка (у Малышках знойдзена шыла з касцяной ручкай). Даўжыня шылаў вагаецца ад 7–8 да 18–20 см. Даўжыня большасці экзэмпляраў не перавышае 10–12 см.

У Гаранях трапіліся дзве жалезныя іголкі (мал. 5: 4, 5). Яны зроблены з круглага ў сячэнні стрыжня таўшчынёй 2 і 2,5 мм. Адна іголка цэлая, у другой часткова абламана вушка. Даўжыня цэлай іголкі 11см.

Жалезных нажоў выяўлена нямнога: у Гаранях – 3 экзэмпляры (усе тры у абломках), у Малышках – 2 абломкі і нарыхтоўка (мал. 4: 13, 18, 19; 11: 14). Сярод усіх даследаваных на тэрыторыі Беларусі гарадзішч культуры штрыхаванай керамікі толькі на Лабеншчынскім гарадзішчы (Мінскі раён) знойдзена каля дзесятка нажоў (дакладней 9 штук). А.Р. Мітрафанаў дзеліць іх на два тыпы: з выгнутай спінкай і з прамой. Нажы з выгнутай спінкай, на яго думку, з'яўляюцца больш раннімі (з'явіліся ў I ст. да н.э.) (Митрофанов, 1978а. С. 34–35). Пры гэтым параўнаўча доўга ўжываліся нажы абодвух тыпаў адначасова. Мяркуючы па захаваўшыхся абломках, і ў Гаранях, і ў Малышках ужываліся ў асноўным нажы з прамой спінкай.

На Гаранскім гарадзішчы знойдзена жалезная брытва з выпуклым лязом, прамой спінкай і прамым дзяржаннем (мал.4: 20). Гэта не першая знаходка на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі. Яны былі знойдзены на Банцараўскім (Мінскі раён) і Лабеншчынскім гарадзішчах. Аднак у банцараўскай брытвы кольцападобнае дзяржанне (Митрофанов, 1967. Рис. 2:3), а ў лабеншчынскай увагнутая спінка (Митрофанов, 1978а. Рис. 20:24). Найбольш блізкай аналогіяй гаранскай знаходцы з'яўляецца брытва з гарадзішча днепра-дзвінскай культуры Барсукі (Верхнядзвінскі раён). У яе таксама выпуклае лязо, прамая спінка і прамое дзяржанне (на дзяржанні захаваліся рэшткі драўлянай ручкі (Шадыро, 1985. Рис. 40: 8)). На другім гарадзішчы днепра-дзвінскай культуры – Буракова (Гарадоцкі раён) трапілася брытва, аналагічная лабеншчынскай (Шадыро, 1985. Рис 40: 9). Вельмі падобная маецца ў матэрыяле з гарадзішча Мукукалне (Латвія), дзе яна датуецца пачаткам нашай эры. Паралелі такім брытвам маюцца сярод поз-нелатэнскіх знаходак на тэрыторыі былой Усходняй Прусіі і Польшчы (датуюцца канцом I тысячагоддзя н. э. (Граудонис, 1967. Табл. XXI:7).

У верхнім пласце Гаранскага гарадзішча знойдзена 9 рыбалоўных кручкоў рознай велічыні і канструкцыі (мал. 5: 15–21, 26, 27). Пяць з іх невялікіх памераў, зроблены з круглага ў сячэнні стрыжня. Канец стрыжня патоўшчаны і злёгку расплюшчаны. На канцы вастрыя няма жала для ўтрымання рыбы пры падсечцы. Гэтыя кручкі прызначаліся для лоўлі рыбы на вудачку або з дапамогай перамёта (шнур з павадкамі, да якіх прымацаваны кручкі). Чатыры кручкі з гаранскай калекцыі вялікіх памераў: даўжыня 6,5–10,5 см, дыяметр дугі прыблізна 3,5–4,5 см (дакладны дыяметр не можа быць вызначаны, паколькі ва ўсіх чатырох кручкоў канец вастрыя абламаны). Па гэтай прычыне застаецца нявысветленым ці былі ў іх жалы для падсечкі. Сячэнне стрыжня ў вялікіх кручкоў прамавугольнае. На канцы стрыжня маецца пятля для прывязвання да лёскі. Такія кручкі прызначаліся для прамысловай здабычы буйной рыбы.

У верхнім пласце Гаранскага гарадзішча знойдзены стрыжань-зуб ад шматзубай складанай восці (мал. 5: 25). Ён масіўны, прамавугольнага сячэння. Магчыма, ён больш позняга часу. Верагодна, не звязаны з адкладаннямі гарадзішчанскай пары.

Прадметаў узбраення і рыштунку воіна выяўлена мала. Яна прадстаўлены толькі трыма катэгорыямі знаходак: наканечнікамі коп'яў, дроцікаў (коп'яў для кідання) і стрэл.

На Малышкаўскім гарадзішчы знойдзены цэлы наканечнік кап'я і два наканечнікі дроцікаў (адзін цэлы, ад другога захавалася толькі пяро) (мал. 11: 3, 15). Наканечнік кап'я ўтулкавы. Пяро лаўралістай формы. Папярочнае сячэнне рамбічнае. Адносіны даўжыні пяра да даўжыні ўтулкі 2:1. Такія наканечнікі датуюцца не пазней I–IV стст. н. э. (Митрофанов, 1978а. С. 37). Наканечнікі дроцікаў двухшыпныя (трохвугольнае пяро з двума шыпамі ў ніжняй частцы). Даўжыня цэлага наканечніка 15,7 см, дыяметр утулкі 1,7 см. Аналагічныя наканечнікі выяўлены ў Чаплінскім могільніку (II–I стст. да н. э.) (Поболь, 1971. Рис. 55: 2–4).

На Гаранскім гарадзішчы знойдзены моцна каразіраваная ўтулка кап'я або дроціка і тры наканечнікі стрэл (мал. 15: 10–12). Усе тры ўтулкавыя з перакручанай шыйкай. У двух пяро двухшыпнае, у трэцяга абламана. Адносіны даўжыні пяра да агульнай даўжыні ў цэлых наканечнікаў роўна 1:2. Гэтыя наканечнікі трапілі на гарадзішча ў больш позні час. У сярэднія вякі ўтулкавыя наканечнікі былі найбольш распаўсюджанай формай на тэрыторыі Польшчы і ўсёй Цэнтральнай Еўропы. Вядомы яны былі і на арабскім Усходзе. Для Русі і народаў Усходняй Еўропы не характэрны (на Русі складаюць каля 1% (Медведев, 1966. С. 54–56).

Значна багацей, у параўнанні з прадметамі ўзбраення, прадстаўлены металічныя прыналежнасці касцюма і ўпрыгожанні. Гэта шпількі, фібулы, спражкі.

Вельмі характэрнымі для паселішч культуры штрыхаванай керамікі прадметамі з'яўляюцца

жалезныя посахападобныя шпількі, тыпалогію якіх зрабіў А.М. Мядзведзеў (Медведев, 1996б. С. 172–197). На Гаранскім гарадзішчы іх знойдзена 17 экзэмпляраў (мал. 6: 1–9). Па колькасці знаходак гаранская калекцыя – адна з найбольш шматлікіх ў Беларусі і ўступае толькі лабеншчынскай (18 экзэмпляраў). У Малышках выяўлены тры посахападобныя шпількі, у Збаравічах – адна (мал. 7: 2; 11: 1). З'явіліся такія шпількі ў эпоху бронзы і бытавалі вельмі доўгі час. У эпоху ранняга жалеза яны былі распаўсюджаны ў Прыбалтыцы, Верхнім і Сярэднім Падняпроўі, Падзвінні і Панямонні (Митрофанов, 1978а. С. 37; Шадыро, 1985. С. 63–65). У спецыяльнай працы, прысвечанай шпількам гэтага тыпу, В.В. Сядоў даказвае, што яны характэрны толькі для ўсходнебалцкіх плямён (Седов, 1967. С. 129–145). А.Р. Мітрафанаў таксама лічыць посахападобныя шпількі адной з характэрных рыс культуры ўсходнебалцкіх плямён. Разам з тым ён прызнае шырокае іх бытаванне не толькі ва ўсходніх, але і ў заходніх балтаў. У Літве і Латвіі бытавалі ў V–VIII стст. н. э. , а ў асобных выпадках і ў XII–XIII стст.

На Малышкаўскім гарадзішчы знойдзена познелатэнская фібула (мал. 11: 2). У яе кароткая пружына, слаба выгнутая спінка, ножка і прыёмнік пласціністыя, іголка круглая ў сячэнні. Гэты тып фібул бытаваў адначасова з фібуламі з падвязанай ножкай і таксама, як і яны, датуецца I ст. да н. э. – I ст. н. э. У Чаплінскім могільніку абодва тыпы сустракаюцца разам у адным пахаванні (Кухаренко, 1961. С. 53).

У Гаранях і Малышках выяўлены падковападобныя фібулы (мал. 5: 1; 11: 4). Гаранская фібула жалезная, зроблена з круглага ў сячэнні стрыжня. Адзін канец абламаны, другі загнуты ў трубку. Язычок не захаваўся.

Фібула з Малышак бронзавая, літая. Сячэнне кольца трохвугольнае. На сярэдзіне кольца маецца рэльефны выступ, на канцах – дыскі. На вонкавым баку кожнага з дыскаў у цэнтры маецца паглыбленне, а вакол яго прарэзана акружнасць. І паглыбленне, і акружнасць запоўнены чырвонай эмаллю. Гэта пакуль што адзіная рэч з выемчатай эмаллю, знойдзеная на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі ў Беларусі. Такія фібулы трапляюцца ў Літве, дзе яны датуюцца сярэдзінай II ст. н. э. (Kulikauskas, Kulikauskiene, Tautavičius, 1961. P. 228; Pav. 153). Малышкінская знаходка, безумоўна, прывазная.

У Малышках і Гаранях знойдзены жалезныя спражкі (мал. 5: 3; 11: 8). Рамка спражкі з Малышак мае авальную форму. Яна зроблена з авальнага ў сячэнні стрыжня. Спражка з Гаранёў кольцападобнай формы. Сячэнне стрыжня круглае.

Вырабы з каляровых металаў на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі басейна Верхняй Віліі нешматлікія. Гэта ў асноўным упрыгожанні. Адным з найбольш характэрных, хаця і не так часта сустракаемых упрыгожанняў, былі трапецападобныя падвескі. Па адной такой падвесцы трапілася ў Малышках і Збаравічах (мал. 7: 3). Аналагічныя ўпрыгожанні сустракаюцца на помніках іншых культур ранняга жалезнага веку Беларусі (мілаградскай, зарубінецкай, днепра-дзвінскай). Яны бытавалі доўгі час, але найбольш шырокае распаўсюджанне атрымалі ў I–IV стст. н. э. Па назіраннях А.Р. Мітрафанава, больш познія (V–VIII стст. н. э. ) трапецападобныя падвескі мелі іншыя прапорцыі: яны вузейшыя і даўжэйшыя за ранейшыя (Митрофанов, 1978а. С. 39).

На Збаравіцкім гарадзішчы знойдзена акулярападобная падвеска (мал. 7: 10). Яна зроблена з круглага ў сячэнні бронзавага дроту. Такія падвескі вядомы на помніках эпохі бронзы ў Сярэднім Паволжы (абашаўская культура) (Смирнов, 1962. Рис. 7: 9–12), на тэрыторыі Польшчы (Кухаренко, 1969. Табл. XVIII:10), на Беларускім Палессі (гарадзішча Івань) (Егорейченко, 1996. Рис. 34: 13, 14).

На гэтым жа гарадзішчы трапіўся бранзалет, зроблены з тонкай (0,1 см) бронзавай пласціны (мал. 7: 11). Максімальная шырыня пласціны 1,6см. Моцна звужаны канец бранзалета (другі абламаны) адагнуты вонкі і ўтварае кручок. Вонкавы бок пласціны арнаментаваны па краях размешчанымі ў адзін рад кропкамі.

Вырабы з каляровых металаў Гаранскага гарадзішча прадстаўлены толькі двума рэчамі: бронзавай спіралькай і кавалкамі тонкага меднага дроту.

Разам з металічнымі вырабамі ў раннім жалезным веку шырока ўжываліся прылады працы і прадметы дамашняга ўжытку, зробленыя з каменю, косці, рога і гліны.

Каменныя прылады – частая знаходка на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі як вывучаемага рэгіёну, так і суседніх тэрыторый. Сярод іх асаблівы інтарэс уяўляюць свідраваныя і клінападобныя сякеры.

На Гаранскім гарадзішчы свідраваных сякер знойдзена 7 экзэмпляраў: адна цэлая, астатнія ў абломках (мал. 9: 5, 8, 9, 11, 12, 14, 16). Цэлая сякера клінападобнай формы з пляскатым абухом (тып 2 па класіфікацыі А. Я. Брусава і М. П. Зімінай). Гэты тып быў найбольш распаўсюджаным на вялікіх прасторах лясной паласы Усходняй

Еўропы, у тым ліку Беларускім Панямонні і Літве (Брюсов, Зимина, 1966. С. 24. Табл. 2). Мяркуючы па захаваўшыхся абломках, астатнія свідраваныя сякеры з Гаранёў мелі раўнамерна выгнутыя бакі, прамое лязо і, відаць, адносіліся да тыпу клінападобных. Сярод іх былі не толькі з пляскатым абухом, але і з круглым. Аналагічныя сякеры шырока вядомыя на паселішчах эпохі ранняга жалеза Заходняй Дзвіны (днепра-дзвінская культура) (Шадыро, 1985. Рис. 15: 8–10), на помніках эпохі позняй бронзы і ранняга жалезнага веку ў Латвіі (Граудонис, 1967. Табл. I: 1,3,4). Частка свідраваных сякер, магчыма, была зроблена раней і выкарыстоўвалася паўторна. Але нейкая частка была, несумненна, зроблена на месцы, аб гэтым сведчаць знойдзеныя высвідравіны (мал. 9: 6, 15).

Сякер-кліноў і іх абломкаў на Гаранскім гарадзішчы знойдзены 42 экзэмпляры (мал. 8: 1–16; 9: 1–4, 7, 10, 13). Пераважная большасць мае трапецападобную форму, прамавугольнае або авальнае сячэнне, прамое або злёгку выгнутае лязо і тоўсты абух. Сякеры авальнай формы з авальным ці прамавугольным сячэннем і вострым абухом адзінкавыя. Сякеры- кліны – вельмі частая знаходка на гарадзішчах ранняга жалезнага веку Беларускага Падзвіння (на гарадзішчы Замошша на плошчы 400 м$^2$ іх выяўлена больш за 100 экзэмпляраў). Тут таксама пераважаюць сякеры трапецападобнай формы. Сякеры іншых тыпаў нешматлікія (Шадыро, 1985. С. 34–36. Рис. 15: 1–7; 16: 1–9; 17: 1–9).

Сякеры–кліны часта сустракаюцца на мілаградскіх гарадзішчах. Пры гэтым неабходна асобна падкрэсліць, сустрака-юцца на аднаслойных балотных гарадзішчах (у месцах, не характэрных для стаянак) і на помніках, на якіх не выяўлена ніводнай, больш ранняй, чым мілаградскі час, рэчы. Гэтыя і некаторыя іншыя даныя сведчаць, як справядліва лічыць В. М. Мельнікоўская, аб іх вырабе ў мілаградскую эпоху (Мельниковская, 1967. С. 67).

На Гаранскім гарадзішчы выяўлены крамянёвыя вырабы: адшчэпы, пласцінкі (у тым ліку з рэтушы), наканечнікі стрэл і інш. Яны, як і каменныя сякеры, сустракаліся ў асноўным у ніжніх пластах.

Даволі частай знаходкай на гарадзішчах штрыхаванай керамікі з’яўляюцца зерняцёркі. Рабочая паверхня ніжняга каменя плоская або злёгку ўвагнутая, верхняга – плоская або крыху выпуклая. У якасці верхніх камянёў-церачнікаў ужываліся мялы, што знаходзіць пацвярджэнне у матэрыялах Смаленшчыны, Пскоўшчыны (мілаградская і днепра-дзвінская культуры).

Нявысветленым застаецца прызначэнне знойдзенага на Гаранскім гарадзішчы каменнага круга з адтулінай у цэнтры (мал. 10: 10). Яго дыяметр 14,2 см, дыяметр адтуліны 3,1–3,3 см. Сячэнне авальнае.

Найбольш шматлікую групу знаходак (не лічачы керамікі) на вывучаемых паселішчах складаюць прадметы з косці і рога. Адны з іх захавалі форму аналагічных вырабаў каменнага веку, іншыя блізкія па форме да металічных вырабаў, з’яўляюцца іх імітацыяй. Тут патрэбна згадзіцца з В.І. Шадыра, які адзначае, што хаця касцяныя прадметы на помніках ранняга жалезнага веку Беларусі шматлікія і разнастайныя, ім да нядаўняга часу у публікацыях не надавалася належнай увагі (Шадыро, 1985. С. 37–38).

Сярод касцяных вырабаў пераважаюць прылады працы і прадметы ўзбраення.

Вельмі цікавымі і рэдка сустракаемымі ў гарадзішчанскіх слаях знаходкамі, з’яўляюцца рагавыя муфты-насадкі, з дапамогай якіх замацоўваліся ў ручках (дзяржаннях) спачатку каменныя, а пазней металічныя прылады. На Гаранскім гарадзішчы іх знойдзена 10 экзэмпляраў (мал. 12: 1–10). Агульная даўжыня 7,7–8,9 см. Даўжыня авальных ці прамавугольных у сячэнні стрыжняў, якія ўстаўляліся ў адтуліну драўлянай ручкі, складае 3,2–5,4 см. Памеры авальных (шчылінападобных) у разрэзе паглыб-ленняў для прылад 0,4–0,9 х 2,6–2,9 см. Адна такая муфта–насадка выяўлена ў Малышках (мал. 11: 20). Аналагічныя прадметы знойдзены на гарадзішчах Неверышке (Grigalavičienė, 1986. Pav. 16: 1) і Наркунай (Volkaite-Kulikauskienė, 1986. Pav. 42). Гарадзішча Неверышке – адно з найбольш ранніх у Літве паселішч культуры штрыхаванай керамікі.

З косці і рога выраблялася і больш часта сустракаемыя пры раскопках прылады працы. Сярод іх ёсць многа такіх, якія выкарыстоўваліся ў розных мэтах, гэта значыць, мелі шырокі дыяпазон функцыянальнага прызначэння. Правесці дакладную граніцу паміж рознымі катэгорыямі такіх вырабаў вельмі цяжка. Некаторыя з іх бытавалі на працягу многіх стагоддзяў аж да навейшага часу. Гэта перш за ўсё розныя завостраныя кавалкі касцей і рагоў: праколкі–шылы, інструменты для развязвання вузлоў, качадыкі і інш. Праколкі–шылы зроблены ў асноўным з метакарпальных касцей, рэбраў і тонкіх трубчатых касцей. Для вырабаў развязвальнікаў вузлоў часцей за ўсё выкарыстоўваліся рэбры і кавалкі рога. Далёка не заўсёды ўдаецца аддзяліць здабытыя пры раскопках долаты ад скрабкоў і скобляў. Усе яны рабіліся з трубчатых касцей і маглі выкарыстоўвацца для выканання

розных работ: долаты ў якасці скрабкоў і скобляў, скрабкі ў якасці долатаў і г. д.

У Гаранях знойдзены прыстасаванне для лоўлі рыбы ў выглядзе завостранай з двух бакоў костачкі з адтулінай пасярэдзіне (мал. 14: 8) (Р. Волкайтэ-Куліскаўскене называе яго "кручком для рыбалоўства" (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 48)), касцяная ручка для шыла (мал. 16: 16), загатоўкі ручак, загатоўка невялікай шыракалязовай сякеры, абрэзаны з двух бакоў кусок рога з адтулінай у цэнтры (мал. 16: 12), функцыянальнае прызначэнне якога застаецца няясным. Выяўлены восем невялікіх і сярэдніх памераў іголак, якія ўжываліся для сшывання тканін, і каля дзесятка буйных іголак, якія прымяняліся пры вырабе пляцёнак (мал. 13: 28, 29; 14: 3, 5, 6, 15–21). Апошнія маглі выкарыстоўвацца таксама ў якасці шпілек.

Касцяныя прадметы ўзбраення ў гаранскай калекцыі прадстаўлены наканечнікамі стрэл і коп'яў, фрагментамі баявых нажоў. Наканечнікаў стрэл знойдзена 29 экзэмпляраў: 9 утулкавых і 20 чаранковых (мал. 15: 1–9, 13–26). Сярод утулкавых наканечнікаў 8 куляпадобных канічных і 1 цыліндрычны. Абодва тыпы сустракаюцца на дзякаўскіх гарадзішчах (Смирнов, 1974. С. 29). Сярод чаранковых наканечнікаў – 1 шылападобны з упорам, астатнія (19) плоскія. Па форме пяра апошнія дзеляцца на пяць тыпаў: ланцэтападобныя без перахвату (5 экзэмпляраў), ланцэтападобныя з перахватам (2 экзэмпляры), лістападобныя без упору (4 экзэмпляры), лістападобныя з упорам (5 экзэмпляраў), лістападобныя з перахватам (3 экзэмпляры). Ланцэтападобныя і лістападобныя (авальныя па класіфікацыі К. А Смірнова) наканечнікі былі распаўсюджаны на гарадзішчах дзякаўскай культуры (Смирнов, 1974. Табл. I: 28, 34, 36). Сустракаюцца яны і на гарадзішчах Беларускага Падзвіння (Шадыро, 1985. Рис 28: 13–16; 29: 8, 9; 30: 2, 6, 11, 12).

Касцяных наканечнікаў коп'яў на Гаранскім гарадзішчы знойдзена шэсць экзэмпляраў (мал. 15: 27–31). Пяць з іх утулкавыя, зроблены з коса зрэзаных трубчатых касцей. Іх памеры: даўжыня 10,8–16,8 см, дыяметр утулкі 1,9–2,7 см. Аналагічныя наканечнікі выяўлены ў Мукукалнсе (Латвія) (Граудонис, 1967. Табл. XIV: 12), на гарадзішчы Невярышке (Grigalavičienė, 1986a. Pav. 18: 1–4). Два такія знойдзены на гарадзішчы Замошша (Верхнядзвінскі раён) (Шадыро, 1985. Рис. 29: 1, 2). Шосты гаранскі наканечнік зроблены з рога і выдзяляецца высокай якасцю і акуратнасцю апрацоўкі. Захавалася частка пяра рамбічнага сячэння з падоўжаным валікам на адным баку (магчыма, імітацыя ліцейнага шва). Аналаг дадзенай рэчы невядомы.

Як ужо адзначалася, кінжалы, або баявыя нажы на Гаранскім гарадзішчы пададзены толькі абломкамі. Аднавіць іх памеры па захаваўшыхся фрагментах не прадстаўляецца магчымым. Верагодна, у якасці кінжала выкарыстоўвалася і асобнае вастрыё.

Адным з найбольш распаўсюджаных на паселішчах штрыхаванай керамікі бытавых прадметаў з косці былі шпількі. Як ужо сведчыць сама назва, яны служылі для зашпільвання верхняга адзення і, безумоўна, з'яўляліся ўпрыгожаннем. На Гаранскім гарадзішчы іх знойдзена 17 экзэмпляраў (мал. 6: 10, 11, 13—25; 13: 18, 29). Адзінаццаць з іх мае выгляд роўных або злёгку выгнутых стрыжняў, якія заканчваюцца адным-двума , а то і трыма валікамі. Сячэнне стрыжня амаль ва ўсіх шпілек гэтага тыпу круглае. Падобныя шпількі выяўлены на гарадзішчы Неверышке (Grigalavičienė, 1986. Pav. 20: 4).

У дзвюх гаранскіх шпілек прафіляваныя галоўкі. Стрыжні гэтых шпілек круглыя ў сячэнні, а галоўкі - авальныя. Галоўка адной з іх упрыгожана чатырма двухстароннімі выразамі, другой – трыма. У апошняй каля асновы галоўкі маецца валік. Аналаг гэтым вырабам на сумежных тэрыторыях невядомы. Пяць шпілек з Гаранёў лапаткападобнай формы (некаторыя з перахватам у аснове лапатачкі). Аналагічныя рэчы часта сустракаюцца на помніках ранняга жалеза ад Прыбалтыкі да Урала.

Падвескі ў Гаранях выўлены двух тыпаў: спецыяльна апрацаваныя і прасвідраваныя зубы жывёл і лістападобныя касцяныя пласцінкі з адтулінамі для падвешвання (мал. 14: 10–12, 24, 25). Знойдзены амулеты-зубы мядзведзя (4 экзэмпляры) і ажурная падвеска ў выглядзе антрапаморфнай фігуркі. Апошняя знаходка не адзіная на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі. Касцяная антрапаморфная фігурка (праўда, выкананая зусім у іншым стылі) знойдзена на гарадзішчы Наркунай (Volkaitė–Kulikauskienė, 1986. Pav. 39: 3, 4).

Асаблівую цікавасць ўяўляе знойдзеная на Гаранскім гарадзішчы дудка-свістулька (мал. 14: 1). Яна зроблена з трубчатай косці птушкі. Абодва канцы срэзаны прама. На адным баку маюцца дзве круглыя адтуліны (адлегласць паміж імі 3,1 см), на процілеглым – адна. Інструмент прыгодны для ўжытку і цяпер. Другая падобная дудка трапілася пры паверхневых зборах (мал. 14: 2). Абломкі дудак–свістулек выяўлены на гарадзішчы Наркунай (Volkaitė–Kulikauskenė, 1986. Pav. 40: 1, 2), на Даўгмальскім гарадзішчы (Латвія). На думку В. Уртана, такія інстументы

прымяняліся для прываблівання птушак і звяроў, для сігналізацыі, у дзіцячых гульнях, і наўрад ці можна іх лічыць сапраўднымі музыкальнымі інструментамі (Уртан, 1970. С. 226. Рис. 2: 1).

У заключэнне агляду касцяных вырабаў Гаранскага гарадзішча патрэбна адзначыць, што сярод іх ёсць прадмет, які па мастацкіх вартасцях, майстэрству апрацоўкі, можна аднесці да лепшых узораў мастацтва таго часу. Гэта ручка з касой моцна расшыраючайся адтулінай (мал. 14: 4). Яна з выключнай стараннасцю і майстэрствам апрацавана і надзвычай багата арнаментавана.

Як і ў іншых месцах пастаяннага пражывання людзей, найбольш масавымі знаходкамі на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі з'яўляюцца абломкі гліняных пасудзін. На Гаранскім гарадзішчы іх знойдзена 18 000 (Звяруга, Мядзведзеў, 1993. С. 95).

Па спосабу апрацоўкі паверхні выдзяляюццца 4 групы керамікі: штрыхаваная, гладкасценная, шурпатая (аблітая) і глянцаваная. На ўсіх гарадзішчах Верхняга Павілля рашуча пераважае штрыхаваная кераміка. На Гаранскім гарадзішчы яна складае 73,3% ад агульнай колькасці фрагментаў, гладкасценная – 13,8%, шурпатая – 9,3% і глянцаваная – 3,6%.

Па прафілёўцы верхняй часткі сярод штрыхаваных пасудзін выдзяляюцца 3 асноўныя формы: гаршкападобныя або прафіляваныя (у тым ліку з S – падобнай прафілёўкай), слоікавыя (з прамымі ці амаль прамымі сценкамі) і рабрыстыя. Сярод прафіляваных, у сваю чаргу, выдзяляюцца слаба-, сярэдне- і моцнапрафіляваныя. Такія ж формы характэрны і для іншых помнікаў культуры штрыхаванай керамікі Беларусі (Митрофанов, 1978а. С. 29–31) і Літвы (Данилайте, 1968. С. 15–16). У цэнтральнай Латвіі дабаўляюцца яшчэ пасудзіны вядропадобнай формы (Граудонис, 1980. С. 66. Рис. 5). Асноўнымі на паселішчах вывучаемага рэгіёну з'яўляюцца пасудзіны слабапрафіляванай і слоікавай формы.

На паселішчах Гатавічы і Сцюдзянец, у ніжніх слаях гарадзішча каля вёскі Гарадзішча выяўлены толькі прафіляваныя і слоікавыя пасудзіны. Апошнія дзеляцца на 3 разнавіднасці: з вертыкальнымі, конусападобнымі і злёгку выпуклымі сценкамі. Арнамент на слоікавых пасудзінах бывае вельмі рэдка.

У Гатавічах і Гарадзішчы знойдзены абломкі пасудзін з прамым або адагнутым (часам рэзка) венчыкам, кароткай шыйкай, пакатымі або акруглымі плечыкамі, выпуклым тулавам, плоскім ці акруглым дном. Вышыня пасудзін перавышае дыяметр вусця. Найбольшае расшырэнне тулава знаходзіцца пасярэдзіне ці ў трэцяй знізу чвэрці пасудзіны. Дыяметр тулава роўны або некалькі большы дыяметр вусця (Митрофанов, 1978а. С. 30). Арнамент наносіўся пад венчыкам, на шыйцы, рэдка на плечыках. Ён складаўся з размешчаных у адзін рад круглых або авальных ямачак з аднолькавымі прамежкамі паміж імі. Часам ямкі размяшчаліся групамі (часцей па дзветры, зрэдку да дзесяці ў кожнай з іх). Па форме і арнаменце пасудзіны гэтага тыпу маюць аналагі ў комплексах ранняга (VI–IV стст. да н. э.) паселішчах Літвы. Падобна як і мілаградскія, раннія прафіляваныя пасудзіны басейна Верхняй Віліі гладкасценныя.

Прафіляваныя пасудзіны бываюць сярэдняй велічыні і вялікіх памераў (дыяметр да 30 см). Сярод пасудзін слоікавай формы сустракаюцца рознай велічыні: вышыня вагаецца ў межах ад 12–13 см да 25–27 см, дыяметр верхняй часткі – ад 10 да 20–24 см, дыяметр дна – ад 9–11 см да 13–15 см. Слоікавыя пасудзіны на працягу I тысячагоддзя да н. э. былі асноўнай формай у заходняй частцы арэала культуры штрыхаванай керамікі.

Пазней, па ўсёй верагоднасці, з канца I тысячагоддзя да н. э. асноўнай формай становіцца рабрысты посуд. На гарадзішчах Верхняга Павілля, узнікшых на рубяжы і ў пачатку нашай эры (Вязынка, Малышкі) рабрыстыя пасудзіны складаюць не менш 85–90% усёй керамікі (Митрофанов, 1978а. С. 32). У іх загнуты ўнутр венчык, самы край якога часам адагнуты вонкі, кароткая шыйка (у некаторых пасудзін яна адсутнічае), пры пераходзе плечыкаў у тулава – рабро і прамыя , паступова звужаныя ўніз, сценкі. У некаторых пасудзін сценкі злёгку выпуклыя. Найбольшы дыяметр знаходзіцца ў чацвёртай зверху чвэрці пасудзін. Е. Данілайтэ лічыць, што рабрыстая форма ўзнікла са слоікавай (Данилайте, 1968. С. 16). З гэтым меркаваннем пагаджаецца А.Р. Мітрафанаў (Митрофанов, 1978а. С. 32).

Памеры рабрыстых пасудзін вар'іруюць у значных межах: вышыня вагаецца ад 10 да 30 см, дыяметр верхняй часткі – ад 10 да 40 см, дыяметр дна – ад 7 да 17 см. Найбольш часта сустракаюцца пасудзіны сярэдняй велічыні, дыяметр верхняй часткі якіх складае 20–25 см.

Арнамент рабрыстых пасудзін даволі разнастайны: зашчыпы, пазногцевыя і пальцавыя паглыбленні, ямкі, насечкі, нарэзы. Часцей за ўсё ён размешчаецца на рабры, радзей – на плечыках, шыйцы і краі венчыка. Найбольш распаўсюджаным відам арнаменту на працягу ўсяго існавання рабрыстага посуду (ад рубяжа да сярэдзіны I тысячагоддзя нашай эры) былі зашчыпы. Яны наносіліся двума пальцамі і размяшчаліся ў адзін

рад (зрэдку у два ) або групамі па 2–4 зашчыпы. Сустракаюцца вертыкальныя (яны пераважаюць) і гарызантальныя зашчыпы. Для позніх пасудзін характэрны слаба выражаныя зашчыпы, якія нагадваюць простыя паглыбленні, зробленыя пальцамі. Пазногцевыя і пальцавыя паглыбленні сустракаюцца радзей, чым зашчыпы. Ямачны арнамент характэрны не менш, чым зашчыпы. Ямкі, як правіла, размяшчаліся на рабры, зрэдку – на шыйцы. Даволі многа пасудзін арнаментавана насечкамі і наколамі. Яны заўсёды наносіліся на рабро пасудзіны.

У адрозненне ад рабрыстых, слоікавыя і прафіляваныя пасудзіны першай паловы I тысячагоддзя нашай эры амаль не арнаментаваліся. Пасудзіны з арнаментам (зашчыпы і ямкі) сустракаюцца як выключэнне.

У перыяд росквіту культуры штрыхаванай керамікі (I–III стст. н. э.) рабрыстыя пасудзіны былі вядучай формай. Пазней яны паступова страцілі сваю найбольш характэрную рысу – рабрыстасць. Рабро паступова згладжваецца, а затым поўнасцю знікае. У выніку адны пасудзіны набылі форму слоікавых, іншыя – слабапрафіляваных. Пасудзіны слоікавых форм па сваіх прапорцыях амаль не адрозніваліся ад рабрыстых. У позніх слабапрафіляваных пасудзін край венчыка злёгку адагнуты вонкі, шыйка даволі высокая, плечыкі выражаны слаба, тулава мае невялікую выпукласць.

Своеасаблівым арнаментам на пасудзінах усіх трох форм (слоікавых, прафіляваных і рабрыстых) можна лічыць штрыхі. На думку большасці даследчыкаў, першапачаткова яны атрымліваліся пры выраўноўванні паверхні пасудзін пучком травы, тонкіх галінак ці спецыяльнай грэбнепадобнай прыладай (Граудонис, 1980. С. 59; Данилайте, 1968. С. 10; Митрофанов, 1978а. С. 28–29). Гэта быў толькі тэхнічны прыём апрацоўкі паверхні сценак. Штрыхі атрымоўваліся неглыбокімі і хаатычнымі. У Літве сляды штрыхоўкі сустракаюцца ўжо на кераміцы 4–3 тысячагоддзя да н. э. У эпоху позняй бронзы штрыхоўка, як прыём выраўноўвання паверхні пасудзін, сустракаецца на вялізнай тэрыторыі ад Прыбалтыкі да Верхняга Паволжа.

У цяперашні час агульнапрынятай з’яўляецца думка, што кераміку са слядамі штрыхоўкі эпохі неаліту і бронзавага веку нельга атаясамліваць са штрыхаванай керамікай гарадзішч. Апошняя больш глыбокая, выразная і разнастайная. Яна пакрывае ўсю знешнюю, а часта і ўнутраную паверхню пасудзін. У большасці выпадкаў штрыхоўка знешняй паверхні вертыкальная, а ўнутранай – гарызантальная. Пакрываючая ўсю паверхню штрыхоўка перастае быць толькі тэхнічным прыёмам, набывае значэнне ўпрыгожання, становіцца як бы арнаментам. Дадатковая арнаментацыя становіцца рэдкасцю.

Разам са штрыхаванай керамікай на паселішчах знойдзена шурпатая (аблітая ) кераміка. Паводле асаблівасці апрацоўкі паверхні сярод яе выдзяляюцца два падтыпы. Паверхні пасудзін першага падтыпу перад абпальваннем пакрываліся дробнай жарствой, у выніку чаго яна набывала, па словах А.М. Мядзведзева, выгляд наждачнай паперы (Медведев, 1991. С. 13). Па сваёй форме гэтыя пасудзіны былі вельмі блізкімі да штрыхаваных. У большасці выпадкаў гэта пасудзіны сярэдніх памераў. У Літве сустракаюцца штрыхаваныя пасудзіны, паверхня якіх пакрывалася тонкім слоем густой і тлустай гліны, а затым паўторна абпальвалася (Даугудис, 1966. С. 55-57). У Гаранях траплялiся пасудзіны, знешняя паверхня якіх штрыхаваная, а ўнутраная – шурпатая. Кераміка першага падтыпу была распаўсюджана у канцы I тысячагоддзя да н. э. і пачатку нашай эры.

У пасудзін другога падтыпу паверхня бугрыстая. Яны да абпальвання абмазваліся глiністым растворам з вялікай колькасцю жарствы. Частка пасудзін гэтага падтыпу, асабліва сярэдняй велічыні, яшчэ таксама нагадваюць познія тыпы штрыхаванай керамікі. Форма іншых пасудзін ужо моцна адрозніваецца ад штрыхаваных. У іх звычайна прамыя сценкі і даволі часта вялікія памеры (вышыня да 50 см, дыяметр да 40 см). Кераміка другога падтыпу характэрна для сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н. э. Гэта ўжо ў асноўным культура ўсходнелітоўскіх курганоў.

Глянцаванай керамікі на паселішчах басейна Верхняй Віліі вельмі мала. Знешняя і ўнутраная паверхня глянцаваных пасудзін добра загладжана, часам да бляску. Па форме сярод іх выдзяляюцца два віды: рабрыстыя гаршкі і міскі. У абодвух відаў венчык загнуты ўнутр. Памеры глянцаваных пасудзін невялікія ( дыяметр не перавышае 12–15 см). У Вязынцы і Малышках знойдзены падглянцаваныя пасудзіны, якія па форме і прапорцыях не адрозніваюцца ад глянцаваных. У іх у адрозненне ад апошніх, добра загладжана толькі знешняя паверхня, унутраная глянцаванню не падвяргалася.

А.М. Мядзведзевым на аснове карэляцыі розных тыпаў керамікі і памераў пасудзін устаноўлена, што розныя тыпы мелі рознае прызначэнне. Штрыхаваная і шурпатая кераміка выкарыстоўвалася ў якасці кухоннага посуду і для

захоўвання прадуктаў. Глянцаваная кераміка з'яўлялася сталовым і парадным посудам (Медведев , 1991а. С. 14).

Даволі частай знаходкай на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі з'яўляюцца мініяцюрныя пасудзіны. Большасць з іх мае слоікавую форму. Амаль усе гладкасценныя, але сустракаюцца і са штрыхоўкай. Вельмі сумніўна, што яны прызначаліся для нейкіх практычных мэт. Хутчэй за ўсё, яны мелі культавае прызначэнне.

Пасля керамікі найбольш шматлікай катэгорыяй вырабаў з гліны з'яўляюцца прасліцы. На Малышкаўскім гарадзішчы іх знойдзена 157 экзэмпляраў, на Вязынскім – 132, на Збаравіцкім – 77. Цяжка вытлумачальным застаецца той факт, што на Гаранскім гарадзішчы іх няма (знойдзены толькі адзін абломак) у той час, як на іншых непадалёку размешчаных паселішчах культуры штрыхаванай керамікі і днепра – дзвінскай , а таксама на помніках другой паловы I тысячагоддзя н. э. яны сустракаюцца ў вялікай колькасці.

А.Р. Мітрафанаў лічыць, што па форме і арнаменту гэтыя вырабы настолькі своеасаблівыя, што ёсць усе падставы разглядаць іх як адну з важных, спецыфічных рыс культуры (Митрофанов,1978а. С. 40).

Па класіфікацыі А.Р. Мітрафанава, усе прасліцы дзеляцца на пяць тыпаў. Да першага тыпу адносяцца вырабы ў выглядзе шапачкі невялікага грыба. Адзін круглы бок у іх выпуклы, другі – увагнуты. У другога тыпу адзін бок плоскі, другі – увагнуты. Да трэцяга тыпу адносяцца прасліцы, у якіх адзін круглы бок плоскі, другі – выпуклы. Чацвёрты тып прадстаўлены вырабамі з абодвума плоскімі бакамі. І, нарэшце, да пятага тыпу адносяцца прасліцы, у якіх абодва круглыя бакі ўвагнутыя. Бакавыя паверхні вырабаў першых двух тыпаў, як правіла, акруглыя, астатніх трох – акруглыя (у большасці выпадкаў), прамыя і вуглаватыя. Найбольш распаўсюджанымі былі прасліцы чацвёртага тыпу (Митрофанов, 1978а. С. 40–41).

Не менш паловы прасліц арнаментаваныя (мал. 22: 1–19, 21). Арнамент наносіўся на адзін ці абодва круглыя бакі, часам – толькі на бакавыя паверхні. Сустракаюцца вырабы, у якіх арнаментаваныя і абодва круглыя бакі і бакавыя паверхні.

Арнамент двух тыпаў:наразны і кропкавы. Наразным звычайна ўпрыгожваліся круглыя бакі, а кропкавым – бакавыя паверхні. На круглых баках найбольш распаўсюджаным быў узор, які складаўся з ліній, што праменепадобна разыходзіліся з цэнтра. У некаторых прасліц упрыгожаны лініямі толькі бакавыя паверхні. Кропкі на бакавых паверхнях утвараюць, як правіла, геаметрычныя фігуры: трохвугольнікі, ромбы і трапецыі. Часам кропкі спалучаюцца з наразнымі лініямі. Зрэдку яны нанасіліся і на круглыя бакі, але ў гэтым выпадку як дапаўненне да нарознага арнаменту.

Сярод іншых гліняных вырабаў адносна шматлікія грузікі "дзякавага тыпу". На Гаранскім гарадзішчы іх знойдзена 32 экзэмпляры, на Малышкаўскім – 4, Вязынскім – 3, Збаравіцкім – 3. Па форме папярочнага сячэння гаранскія грузікі дзеляцца на плоскія (7 экзэмпляраў), плоска-выпуклыя (4), увагнута-выпуклыя (2), у выглядзе ўсечанага конуса (1), конуса з увагнутымі бакамі (4) і, нарэшце, конуса з перахватам (10 экзэмпляраў) (мал. 23: 1–16). Ад чатырох грузікаў захаваліся невялікія абломкі, якія не паддаюцца вызначэнню. Акрамя насечак па краі, частка грузікаў арнаментавана ўзорамі, якія складаюцца з наколаў, невялікіх уцісканняў і наразных ліній. На адным з іх – касы крыж, з загнутымі канцамі. Грузікі з Вязынкі, Збаравіч і Малышак арнаментаваны, падобна як і прасліцы, праменепадобна разыходзячыміся ад цэнтра наразнымі лініямі.

У Гаранях і Малышках знойдзены гліняныя грузілы для сетак (мал. 24: 1–9). Яны маюць выгляд аладкі з адтулінай на краі ці па сярэдзіне. У Гаранях траплялiся гліняныя грузілы біканічнай формы без адтуліны. Калі грузілы з адтулінамі непасрэдна мацаваліся да сетак, то грузілы без адтулін апляталіся бярозавай карой або лыкам і толькі затым мацаваліся.

На Гаранскім гарадзішчы знойдзены цэлы тыгель з акруглым дном, злёгку звужанымі ўверх сценкамі і чатыры такія тыглі ў абломках. Яшчэ адзін выяўлены на гэтым паселішчы тыгель меў лыжкападобную форму. Падобны тыгель выўлены на гарадзішчы Наркунай (Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. Pav. 52). Два цэлыя тыглі знойдзены ў Малышках. У абодвух акруглае дно і злёгку пашыраныя ўверх сценкі (мал. 11: 21, 22).

**3. Гаспадарка**

Асноўнымі галінамі гаспадаркі плямён культуры штрыхаванай керамікі былі земляробства і жывёлагадоўля. Існаванне адносна развітога земляробства адны даследчыкі адносяць да першай паловы I тысячагоддзя да н. э. (Медведев, 1991. С. 15), іншыя – да другой яго паловы (Митрофанов, 1978а. С. 43). На працягу амаль, ці нават больш за тысячагоддзе земляробства мела падсечны (лядны) характар.

У першай палове I тысячагоддзя да н. э. , калі клімат быў даволі сухім, пад пасевы асвойваліся значныя плошчы ў нізінных месцах, у раёнах з

пясчанымі і супясчанымі глебамі. У сярэдзінеI тысячагоддзя да н. э. у сувязі з рэзкім пагаршэннем клімату (паніжэннем тэмпературы, павялічэннем вільготнасці) і павышэннем узроўню вады, земляробства ў нізінных месцах стала немагчымым. Зараз пад пасевы выдзяляюцца зарослыя лесам участкі зямлі на ўзвышанасцях. Гэтымі абставінамі і было выклікана "перамяшчэнне" паселішч з берагоў вадаёмаў на ўзгоркі, мысы, астравы (Медведев, 1991. С. 15). У пачатку нашай эры ў сувязі з больш шырокім распаўсюджаннем жалезных прылад, якія садзейнічалі больш прадукцыйнай працы, стала магчымым не толькі пашырыць пасяўныя плошчы з дапамогай ляда, але і паступова пераходзіць да ляснога пералога і, як мяркуе А. М. Мядзведзеў, нават да паравой сістэмы земляробства (Медведев , 1996а. С. 48).

Матэрыялы з раскопак паселішч у басейне Верхняй Віліі не даюць, на жаль, уяўлення аб складзе вырошчваемых культур (у Збаравічах знойдзена толькі зярняты пшаніцы). Затое гэта можна зрабіць на аснове знаходак з размешчанага паблізу вывучаемага рэгіёну Банцараўскага гарадзішча (на паўночны захад ад Мінска). Тут у пластах IVст. да н. э. – IV ст. н. э. выяўлены абвугленыя зярняты гароху, конскага бобу, проса, пшаніцы (Фляксбергер, 1932. С. 163). Акрамя пералічаных культур, вырошчваліся, відаць, лён і каноплі. Аб гэтым сведчаць знаходкі днішчаў гліняных пасудзін з адбіткамі даволі тонкай, відаць, ільняной ці канаплянай тканіны.

Асноўнай прыладай пры лядным земляробстве была сякера. Ёй высякаліся або падсякаліся дрэвы і кусты, якія пасля падсушвання спальваліся. Атрыманы пры гэтым попел з'яўляўся добрым удабрэннем, дзякуючы чаму ў першыя два-тры гады збіраліся даволі добрыя ўраджаі. Зразумела, затраты працы пры падрыхтоўцы ўчасткаў зямлі пад пасевы (высечка лесу, карчаванне пнёў і г. д.) былі вельмі значнымі. Гэта мог зрабіць толькі даволі вялікі калектыў. Нельга не пагадзіцца з П. М. Траццяковым, які лічыў, што ляднае земляробства заўсёды выступала як калектыўная, абшчынная вытворчасць (Третьяков, 1953. С. 163). Такім вытворчым калектывам магла быць вялікая патрыярхальная сям'я, а ў больш ранні перыяд, магчыма, і патрыярхальны род.

Прыладамі ўборкі збожжа з'яўляліся сярпы і нажы для жніва. Размол зерня на муку ажыццяўляўся на зерняцёрках. Яны складаліся з двух камянёў: ніжняга, на які насыпалася зерне, і верхняга, які служыў для яго расцірання. Ніжні камень быў больш буйных памераў і меў плоскую або злёгку ўвагнутую рабочую паверхню. Рабочая паверхня цёрачнага каменя была плоскай або злёгку выпуклай. У Вязынцы знойдзены 2 ніжнія камяні і 8 верхніх, у Малышках – 1 ніжні і 4 верхнія, у Збаравічах – 2 верхнія.

Аб значэнні жывёлагадоўлі сведчаць перш за ўсё астэалагічныя матэрыялы. Паводле даных раскопак у Малышках і Васькаўцах (Маладзечанскі раён), у складзе статку вядучае месца займала буйная рагатая жывёла, на другім месцы былі свінні, на трэцім – коні, і на чацвёртым – дробная рагатая жывёла (авечкі і козы) (Медведев, 1991. С. 15). Падобны склад статка зафіксаваны на гарадзішчах усходняй часткі арэала культуры штрыхаванай керамікі (Навасёлкі, Кімія Барысаўскага раёна) (Митрофанов, 1978а. С. 44–46). Іншыя суадносіны розных відаў свойскіх жывёл прасочаны на літоўскіх гарадзішчах Наркунай і Неверышке. Там пераважаюць свінні, на другім месцы – буйная рагатая жывёла, на трэцім – дробная рагатая жывёла і на чацвёртым — коні (Grigalavičienė, 1986. P. 88; Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 47).

На ўсіх вышэй пералічаных гарадзішчах Беларусі і Літвы косці свойскіх жывёл пераважаюць над дзікімі. У Навасёлках і Кімііі яны складаюць каля 60% усіх косных астаткаў, у Наркунай – 78%, Неверышке – 93% (Митрофанов, 1978а. С. 44; Grigalavičienė, 1986. P. 88; Volkaitė-Kulikauskienė, 1986. P. 47). Значыць, паляванне адыгрывала важную, але ўсё-такі другарадную, у параўнанні з жывёлагадоўляй, ролю. Палявалі у асноўным на буйных звяроў, здабываемых пераважна дзеля мяса: лася, кабана, высакароднага аленя. На гарадзішчы Лабеншчына косныя астаткі гэтых трох відаў складаюць 56% касцей усіх дзікіх жывёл. Аб'ектамі палявання ў насельніцтва гэтага паселішча былі таксама мядзведзь, бабёр, лісіца, воўк, выдра, вавёрка, тхор (Митрофанов, 1978а. С. 44).

У якасці паляўнічай зброі выкарыстоўваліся коп'і, дроцікі, лук са стрэламі. Пры раскопках знойдзены касцяныя наканечнікі стрэл з тупым канцом. У сярэднія вякі стрэлы з такімі наканечнікамі ўжываліся для палявання на дробных пушных звяроў. Яны забівалі звярка і не псавалі скурку. Паляўнічай зброяй маглі быць сякеры і доўгія нажы. Пры паляванні на буйных звяроў прымяняліся, відаць, загоны і аблавы. Пры лоўлі дробных звяркоў і птушак выкарыстоўваліся, несумненна, розныя петлі, сілкі, пасткі, самаловы і іншыя прыстасаванні. Іх, на жаль, няма ў археалагічным матэрыяле і аб гэтым можна толькі меркаваць.

Рыбнай лоўляй займалася насельніцтва калі не ўсіх, то большасці гарадзішч і ў першую чаргу

тых, якія размяшчаліся па берагах рэк і азёр. Пры раскопках знойдзены косці і луска рыб, рыбалоўныя кручкі, грузілы для сетак.

На Вязынскім і Збаравіцкім гарадзішчах выяўлены апаленыя шкарлупіны лясных арэхаў (Митрофанов, 1978а. С. 47). Можна не сумнявацца, што насельніцтва гарадзішч займалася збіраннем ягад, грыбоў, дзікарастучых пладоў і г. д.

Сярод дамашніх рамёстваў цэнтральнае месца займалі металургія жалеза і кавальская вытворчасць. Жалеза здабывалася з мясцовых балотных, азёрных і лугавых руд. Гэта адбывалася амаль на кожным паселішчы. Аб гэтым сведчаць знаходкі жалезных шлакаў, крыц, рэштак сырадутных печаў (домніц), абломкаў соплаў. Аснова домніцы ўскрыта на Вязынскім гарадзішчы (Митрофанов, 1957. С. 163). Тут жа, на гарадзішчах, жалеза і апрацоўвалася, аб чым сведчаць знаходкі балванак, нарыхтовак, незавершаных апрацоўкай вырабаў. У Малышках знойдзены каменны кавальскі молат. Ён авальнай формы з авальнам папярочным сячэннем. Памеры 20х16,5 см. У сярэдняй частцы маецца жалабок для мацавання яго да ручкі (Митрофанов, 1978а. С. 48). Такім молатам праводзілася дадатковая апрацоўка атрыманых сырадутным спосабам жалезных крыц (іх падвяргалі працяглай гарачай коўцы).

Разам з металургіяй жалеза жыхары гарадзішч былі добра знаёмы з бронзаліцейнай справай. Плаўка металу выконвалася ў невялікіх таўстасценных пасудзінах – тыглях, абломкі якіх трапляюцца на ўсіх падвергнутых раскопкамі гарадзішчах. У Малышках і Гаранях знойдзены цэлыя тыглі, у Збаравічах – кавалкі свінцу. Мяркуючы па знаходках, з каляровых металаў адліваліся толькі ўпрыгожанні.

На кожным гарадзішчы, несумненна, адбывалася апрацоўка касцей і рагоў жывёл. Гэта датычыцць перш за ўсё ранніх гарадзішч, калі жалеза з'яўлялася ўсё яшчэ рэдкім металам і каштоўным вырабным матэрыялам. Да такіх ранніх паселішч адносяцца, як ужо адзначалася, Гаранскае гарадзішча, даследаванні якога далі надзвычай багаты комплекс касцяных вырабаў. На паселішчах, якія ўзніклі на рубяжы нашай эры, наменклатура і колькасць касцяных вырабаў, як правіла, невялікія.

Насельніцтва ўсіх гарадзішч, безумоўна, займалася апрацоўкай дрэва. Яно мела шырокае прымяненне ў домабудаўніцтве і фартыфікацыйнай справе, з яго выраблялася большасць рэчаў, якія акружалі чалавека таго часу ў штодзённым жыцці. Дрэва, пачынаючы з глыбокай старажытнасці і да нашых дзён, было і застаецца важнейшым вырабным матэрыялам. Апрацоўка дрэва жыхарамі паселішч штрыхаванай керамікі ажыццяўлялася з дапамогай сякер, долатаў, нажоў і іншых інструментаў. На гарадзішчы Кімія знойдзены лыжкар (Митрофанов, 1978а. Рис. 19: 27).

Важнымі галінамі дамашняга рамяства, у якіх асноўную ролю адыгрывала жанчына, з'яўляліся прадзенне, ткацтва, шыццё, пляценне. Аб шырокім развіцці прадзення сведчаць шматлікія гліняныя прасліцы. На гарадзішчы Івань (Слуцкі раён), напрыклад, іх знойдзена 445 экзэмпляраў (Егарэйчанка, 1999. С. 144). Аб ткацтве і пляценні можна меркаваць па адбітках тканіны (як грубай, так і адносна тонкай) і пляцёнкі (тыпу сучаснай рагожы) на дне гліняных пасудзін. Для шыцця адзення выкарыстоўваліся касцяныя і жалезныя іголкі.

### 4. Грамадскі лад. Вераванні. Паходжанне і этнічная прыналежнасць

Перш за ўсё трэба адзначыць, што археалагічных даных для характарыстыкі грамадскага ладу плямён культуры штрыхаванай керамікі вельмі мала. Але і тое, што ўдалося ўстанавіць (характар гаспадаркі, устройства паселішчаў, планіроўка і канструкцыя жытлаў і інш.) дазваляе з поўнай перакананасцю сцвярджаць, што гэтыя плямёны жылі не ва ўмовах першабытнаабшчыннага ладу, а менавіта на стадыі развітога патрыярхату. Ужо сам характар гаспадаркі, асновай якой з'яўлялася ляднае земляробства ў спалучэнні з жывёлагадоўляй і паляваннем, абумоўліваў кіруючую ролю мужчыны.

Асноўнай гаспадарчай адзінкай грамадства з'яўлялася вялікая патрыярхальная сямейная абшчына. Ляднае земляробства патрабавала намагання вялікага калектыву людзей. Расчыстка лясных участкаў і падрыхтоўка іх да сяўбы, апрацоўка зямлі, ахова культур ад дзікіх звяроў, уборка ўраджаю – усё гэта былі вельмі працаёмкія справы, якія не маглі адолець асобныя невялікія сем'і. Узвядзенне гарадзішчаў, будаўніцтва на ранніх паселішчах драўляных (драўляна–земляных) умацаванняў, а на позніх – магутнай сістэмы абарончых збудаванняў, якая складалася з некалькіх земляных валоў і равоў, таксама патрабавала вялікіх калектыўных намаганняў.

Агульнапрынятай у цяперашні час з'яўляецца думка аб тым, што на кожным асобным гарадзішчы жыла кампактная група кроўнародных людзей. Дыскусійным застаецца пытанне аб тым, ці была гэта патрыярхальная сямейная абшчына як частка патрыярхальнага роду, ці ўвесь патрыярхальны род цалкам. А.Р. Мітрафанаў пагаджаецца з думкай П.М. Траццякова, які лічыў, што кожнае асобнае гарадзішча належала

патрыярхальнай сямейнай абшчыне, у той час як патрыярхальнаму роду належала некалькі блізка размешчаных гарадзішч (Митрофанов, 1978а. С. 53). З такім меркаваннем пагаджаецца і А.А. Егарэйчанка, але з агаворкай – неабходна пацвярджэнне сінхроннасці ўсіх гарадзішч у кампактнай групе ("гняздзе") (Егарэйчанка, 1999. С. 146).

У першых стагоддзях н. э. першабытныя адносіны ў плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі паступова пачалі раскладацца. Вялікія патрыярхальныя сем'і распадаюцца на малыя. На змену наземным вялікім дамам, падзеленым на асобныя памяшканні з агнішчам у кожным з іх, з'явіліся паўзямлянкавыя жытлы параўнальна невялікіх памераў. Раней, чым у іншых рэгіёнах, такія жытлы з'явіліся ў паўднёвай частцы арэала культуры (гарадзішча Мыслі, Капыльскі раён). Гэта дало падставу А.А. Егарэйчанку сцвярджаць, што іх з'яўленне адбылося пад уплывам зарубінецкіх плямёнаў (Егарэйчанка, 1999. С. 146).

У пачатку н. э. у сувязі з шырокім укараненнем жалезных прыладаў, якія забяспечвалі больш высокую прадукцыйнасць працы і як вынік павялічэнне дадатковага прадукту, узмацніліся міжродавыя сутычкі. Асноўнай прычынай такіх сутычак была наяўнасць накопленых матэрыяльных каштоўнасцей унутры патрыярхальных абшчын. Ваеннай здабычай станавіліся не толькі жывёла, хлеб, маёмасць, але, як мяркуе А.Р. Мітрафанаў, і людзі, якіх ператваралі ў рабоў. Рабская праца ў эканамічным жыцці насельніцтва гарадзішч не магла яшчэ адыгрываць вялікай ролі. Хутчэй за ўсё, рабы выконвалі другарадныя работы, звязаныя з абслугоўваннем дамашняй гаспадаркі патрыярхальнай сям'і (Митрофанов, 1978а. С. 53–54). Асноўную ролю ў гаспадарцы, безумоўна, адыгрывала праца свабодных абшчыннікаў.

На пытанне аб тым, ці была маёмасная няроўнасць унутры патрыярхальнага роду, адказаць цяжка, паколькі неабходнай сукупнасці матэрыялаў для адказу няма. А.Р. Мітрафанаў дапускае, што нейкая розніца ў маёмасным становішчы патрыярхальных сем'яў ужо мела месца (Митрофанов, 1978а. С. 54). (Аўтар, відаць, меў на ўвазе заключны этап існавання культуры) На думку А.А. Егарэйчанкі, той факт, што ў літоўскім арэале і паўднёвым арэале культуры штрыхаванай керамікі Беларусі разам са шматкамернымі дамамі атрымалі распаўсюджанне жылыя пабудовы невялікіх памераў, разлічаныя на адну сям'ю, яшчэ не дае падстаў меркаваць пра распад вялікай сямейнай абшчыны. Для гэтага патрэбна наяўнасць самастойных сямейна-вытворчых комплексаў, якія ўключалі б жылы дом з прылягаючымі да яго гаспадарчымі пабудовамі. Ён дапускае нераўнамернасць развіцця асобных абшчын, аднак адвяргае вядзенне гаспадаркі малымі сем'ямі і маёмасную дыферэнцыяцыю ўнутры абшчын (Егарэйчанка, 1999. С. 145–146).

Аб вераваннях носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі можна сказаць, на жаль, вельмі нямногае. Для іх, як і для іншых плямён першабытнаабшчыннага ладу, характэрна сакралізацыя сіл, з'яў і прадметаў прыроды (сонца, агню, жывёл і інш. ). Аб тым сведчыць салярная сімволіка ў выглядзе праменепадобна разыходзячыхся ліній на кругавых плоскасцях, канцэнтрычных кругоў з кропак і ямкавых уціскненняў на бакавых паверхнях, што прысутнічае на многіх арнаментаваных прасліцах з Малышак, Збаравічаў, Вязынкі. На прасліцах (Малышкі) і грузіках "дзякавага тыпу" (Гарані) сустракаюцца выявы крыжа розных канфігурацый (у тым ліку свастыкі) – салярнага знака, звязанага з пакланеннем сонцу, ці сімвалам агню. З культам жывёл звязаны знаходкі амулетаў з клыкоў мядзведзя (Вязынка, Гарані), з культам урадлівасці – знаходкі акулярападобных падвесак (Збаравічы).

У плямён культуры штрыхаванай керамікі, як і ў іншых плямён, якія жылі ва ўмовах першабытна-абшчыннага ладу на стадыі патрыярхату, існаваў культ продкаў. (Некаторыя даследчыкі дапускаюць, што культ продкаў узнік яшчэ на стадыі мацярынскага роду). Ушанаванне памерлых было звязана з верай у існаванне душы і ўяўленнямі аб продках як апекунах роду.

З культам продкаў цесна звязаны пахавальны абрад. Пахавальныя помнікі культуры штрыхаванай керамікі да цяперашняга часу застаюцца невядомымі. В.Ф. Урбавічус лічыць, што носьбіты гэтай культуры памерлых спальвалі, а ўрны з попелам хавалі ў вадзе (Урбанавичюс, 1972. С. 75–76). Э.М. Зайкоўскі, спасылаючыся на легенду аб Совіі з устаўкі "Хронікі" І. Малалы (сярэдзіна XIII ст.), дзе сказана, што сын памерлага бацьку "въ древо положи", дапускае, што "штрыхавікі" хавалі памерлых у дуплах дрэў (Зайковский, 1992. С. 104–106). Такі абрад пахавання, зразумела, не мог пакінуць археалагічных слядоў.

Па пытанні аб паходжанні культуры штрыхаванай керамікі сярод даследчыкаў няма адзінства. Адны з іх (А. Гірынінкас, А. Васкс) з'яўленне масавай штрыхоўкі на пасудзінах звязваюць з заключным этапам позненарвенскай культуры (Васкс, 1985. С. 52; Гирининкас, 1983. С. 17–18), іншыя – з заключным этапам нёманскай неалітычнай культуры (Чарняўскі, 1979. С. 61). Разам з тым дакладна ўстаноўлена, што

штрыхоўка паверхні пасудзін на тэрыторыі Літвы і Латвіі вядома з эпохі ранняга неаліту (IV – першая палова III тысячагоддзя да н. э.). захоўваецца на ўсім працягу неаліту і пераходзіць у бронзавы век. У той час яна была звязана з працэсам апрацоўкі паверхні пасудзін (Граудонис, 1980. С. 66; Митрофанов, 1969б. С. 73).

Штрыхаваная кераміка эпохі бронзы выяўлена і ў басейне Верхняй Віліі (Чернявский, Кохановский, Адамович, 1969. С. 67–68).

Канчатковае фарміраванне культуры штрыхаванай керамікі цесна звязана з рассяленнем носьбітаў шнуравой керамікі. Працэс гэты быў дастаткова працяглым і завяршыўся толькі дзесьці у канцы II тысячагоддзя да н. э., калі культура набыла класічныя рысы ранняга этапу (Егарэйчанка, 1999. С. 152).

Найбольш раннія паселішчы беларускага арэала культуры размешчаны на паўночным захадзе і поўначы Беларусі. Яны ўзніклі ў канцы II – пачатку I тысячагоддзя да н. э. (Егарэйчанка, 1999. С. 153). Да ліку такіх у Верхнім Павіллі адносіцца гарадзішча Гарані. Іншыя гарадзішчы вывучаемага рэгіёну ўзніклі значна пазней: у канцы I тысячагоддзя да н. э. узнікла гарадзішча каля вёскі Гарадзішча, а ў I ст. н. э. – Збаравіцкае і Малышкаўскае, у II ст. н. э. – Вязынскае (АіНБ, 1993. С. 145, 159, 271, 394–395).

На думку А. А. Егарэйчанкі, паўночны захад Беларусі разам з усходняй Літвой з'яўляўся ядром фарміравання культуры штрыхаванай керамікі.

На працягу I тысячагоддзя да н. э. адбываецца рассяленне яе носьбітаў у паўднёвым і паўднёва-усходнім напрамках, а ў другой палове 1 ст. да н. э. – 1 ст. н. э. паўднёвая мяжа арэала культуры стабілізуецца па лініі Баранавічы – Нясвіж – Капыль – Слуцк, пасля чаго пачынаецца яго скарачэнне ў адваротным напрамку.

Ужо ў канцы 1 ст. н. э. некаторыя гарадзішчы ў паўднёвай частцы арэала (Івань, Слуцкі раён; Мыслі, Капыльскі раён) спынілі сваё існаванне (Егарэйчанка, 1999. С. 154–155).

У IV ст н. э. спынілася жыццё на гарадзішчах Збаравічы, Гарадзішча і Малышкі, у V ст. – на гарадзішчы Вязынка (АіНБ, 1993. С. 145, 149, 271, 394–395).

На гарадзішчы Гарані жыццё працягвалася да VII–VIII ст. , але ўжо з сярэдзіны I тысячагоддзя н. э. на ім пражывалі носьбіты культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Нейкі непрацяглы час гэта гарадзішча выкарыстоўвалася і ў раннім сярэдневякоўі, аб чым сведчаць асобныя металічныя знаходкі і адзінкавыя фрагменты кругавой керамікі.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі пераважнай большасцю даследчыкаў вырашаецца адназначна: яны, пачынаючы з А. М. Ляўданскага, лічаць іх балтамі. А.Р. Мітрафанаў, В.В. Сядоў, Е. Данілайтэ, Я. Граўдоніс і інш. звязваюць "штрыхавікоў" з усходнелітоўскім насельніцтвам (Граудонис, 1967. С. 104; Данилайте, 1968. С. 30; Митрофанов, 1978а. С. 151; Седов, 1970. С. 21–25). У працы "Этногенез литовцев", падрыхтаванай калектывам гісторыкаў, археолагаў, лінгвістаў і антраполагаў Літвы, культура ўсходнелітоўскіх курганоў разглядаецца як пераемніца культуры штрыхаванай керамікі (1987. С. 244–247).

Аднак ёсць даследчыкі (Ф.Д. Гурэвіч, В.А. Ушынскас), якія адмаўляюць генетычную сувязь паміж культурай штрыхаванай керамікі і культурай усходнелітоўскіх курганоў. Паводле Ф.Д. Гурэвіч, старажытнасці культуры штрыхаванай керамікі былі пакінуты балцкімі плямёнамі, культура якіх па-за вобласцю усходнелітоўскіх плямён знікла ў выніку славянскай каланізацыі (Гуревич, 1962. С. 36). Паводле В.А. Ушынскага, большая частка "штрыхавікоў" была вымушана пакінуць занятую імі тэрыторыю пад уздзеяннем некалькіх хваляў носьбітаў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, таму і ўклад іх у этнагенез балтаў абмежаваны (Ушынскас, 1989. С. 62–67).

У апошні час група пецярбургскіх археолагаў (Д.А. Мачынскі, В.А. Булкін, Г.С. Лебедзеў) звязвае этнічную прыналежнасць культуры штрыхаванай керамікі з праславянскім светам. На думку Д.А. Мачынскага, носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі можна ідэнтыфікаваць з заходнімі славянамі, якія ў першых стагоддзях н. э. перасяліліся ў Прыкарпацце (Мачинский, 1981. С. 31–52). Гіпотэзу Д.А. Мачынскага падтрымаў В.А. Булкін (Булкин, 1983. С. 5–8). Паводле Г.С. Лебедзева, плямёны штрыхаванай керамікі разам з мілаградскімі плямёнамі з'яўляліся ядром славянскай прарадзімы, у якую, акрамя іх, уваходзілі носьбіты днепра-дзвінскай , юхнаўскай і верхняокскай культур (Лебедев, 1989. С. 107–114).

У сярэдзіне I тысячагоддзя н. э. у літоўскім арэале культуры штрыхаванай керамікі і заходняй частцы (на захад ад возера Нарач) беларускага арэала склалася культура ўсходнелітоўскіх курганоў. У цэнтральнай і ўсходняй частках беларускага арэала ў сярэдзіне і трэцяй чвэрці I -га тысячагоддзя н. э. пражывалі плямёны банцараўскай (па вызначэнні некаторых даследчыкаў банцараўска–тушамлінскай) культуры. Апошнія прадстаўнікі культуры штрыхаванай керамікі былі тут асіміляваны прышлымі з усходу носьбітамі банцараўскай культуры.




Мал. 1. Даследаваныя археалагічныя помнікі: 1 – Асінавік; 2 – Вілейка; 3 – Ізбішча; 4 – Камена; 5 – Кастыкі; 6 – Малышкі; 7 – Равячка; 8 – Гуркі, 9 — Сосенка; 10 — Янушкавічы, 11 — Відагошч, 12 – Збаравічы; 13 – Вязынка; 14 – Нагаўкі; 15 – Мілты, 16 — Калінаўска, 17 — Шклёнікава, 18 — Наўры; 19 – Гарадзішча; 20 — Рэчкі, 21 — Галянова, 22 – Замак на воз. Мядзел; 23 — Свінка, 24 – Мікольцы; 25 – Гатавічы; 26 – Замак на воз. Мястра; 27 – Навасёлкі; 28 — Занарач, 29 – Лынтупы; 30 — Янава, 31 – Вайшкуны; 32 — Чорная Лужа, 33 – Засвір; 34 — Коркі, 35 — Гускі, 36 — Астраўляны, 37 – Свір; 38 — Паніззе, 39 – Хведзевічы; 40 – Гарані; 41 — Выгаліненты, 42 — Андрэеўцы, 43 – Ашмянец; 44 — Жодзішкі, 45 — Пільцы, 46 — Расла, 47 — Смаргонь, 48 — Курган, 49 — Будраны, 50 — Жэлядзь, 51 – Сідарышкі; 52 — Пільвіны, 53 – Якубішкі; 54 — Рысгары, 55 — Лоша.




Мал. 2. Планы гарадзішчаў: 1 – Гарані; 2 – Гарадзішча; 3 – Асінавік




Мал. 3. Гарадзішча Малышкі. Планы і профілі агнішчаў з раскопак 1977 (1—4) і 1978 (5, 6) гадоў




Мал. 4. Гарадзішча Гарані: 1 – 12, 14 – 17 – жатныя нажы, сярпы і іх фрагменты; 13, 18, 19 – нажы; 20 – брытва; 21 – прадмет нявызначанага прызначэння




Мал. 5. Гарадзішча Гарані: 1 – фібула; 2 – язычок фібулы; 3 – спражка; 4, 5 – іголкі; 6-10, 12-14 – шылы; 11 – бронзавая спіралька; 15-21, 26, 27 – рыбалоўныя кручкі; 23.24 – зубілы; 25 – зуб восці



Мал. 6. Гарадзішча Гарані: 1-9 – посахападобныя шпількі; 10, 11, 18—25 – касцяныя шпількі; 12-15 – шпількі з касцянымі блокападобнымі галоўкамі; 16, 17, 26 – галоўкі




Мал. 7. Знаходкі з гарадзішчаў Збаравічы (1-19) і Вязынка (20-24): 1, 7, 17, 18 – прасліцы; 2 – посахападобная шпілька; 3, 10 – падвескі; 4-6 – кольцы; 8-9 – шылы; 11 – упрыгожанне; 12 – спіралька; 13, 14, 20, 21 – сярпы; 15, 16 – нажы; 19, 24 – грузікі “дзякавага тыпу”; 22 – клык мядзведзя; 23 – прадмет нявызначанага прызначэння (паводле А.Р.Мітрафанава)




Мал. 8. Сякеры-кліны з гарадзішча Гарані




Мал. 9. Сякеры-кліны (1-4, 7, 10, 13), свідраваныя сякеры (5, 8, 9, 11, 12, 14, 16) і высвідраванні (6, 15) з гарадзішча Гарані




Мал. 10. Гарадзішча Гарані: 1-7 – мялы; 8-10 - каменныя прадметы нявызначанага прызначэння




Мал. 11. Гарадзішча Малышкі: 1 - посахападобная шпілька; 2, 4 - фібулы; 3-наканечнік дроціка; 5-7 – сярпы; 8-спражка; 9, 10 – шылы; 11 – зуб з адтулінай; 12 – праколка; 13 – прасліца; 14 – нож; 15 – наканечнік кап'я; 16 – грузік; 17 – сякера; 18, 19 - грузікі "дзякавага тыпу"; 20 – муфта; 21, 22 – тыглі (паводле А.Р. Мітрафанава)




Мал. 12. Касцяныя муфты з гарадзішча Гарані




Мал. 13. Касцяныя вырабы з гарадзішча Гарані: 1-5 – вастрыі; 6, 8-13, 22 - далоты; 7, 14-21, 23-27 – праколкі; 28, 29 – шпількі; 30, 31 – качадыкі




Мал. 14. Гарадзішча Гарані: 1, 2 – дудкі – свістулькі; 3, 5, 6, 15-21 – іголкі; 4 – ручка; 7, 13 – шпількі; 8 – прыстасаванне для лоўлі рыбы; 9, 27 – праколкі; 10-12 – падвескі; 14 – шыла; 22, 23, 26 - прадметы нявызначанага прызначэння; 24, 25 – зубы-амулеты




Мал. 15. Прадметы ўзбраення з гарадзішча Гарані: 1-9, 13-26 – касцяныя наканечнікі стрэл; 10-12 – жалезныя наканечнікі стрэл; 27-31 – касцяныя наканечнікі коп’яў; 32 – жалезная сякера




Мал. 16. Вырабы з каменя (1, 2, 4, 5, 7), гліны (3, 6, 8, 9) і косці (10-25) з гарадзішча Гарані




Мал. 17. Гарадзішча каля вёскі Гарадзішча: 1 – бранзалет; 2 – кручок; 3 - спіралька:4 – 6 шпількі; 7 – 9 шпоры; 10 – 12, 21, 22, 24 – сярпы; 13 – трымальнік; 14, 16 – прасліцы;15, 19 – іголкі; 17 – шыла;18 – ручка; 20 – грузік “дзякавага тыпу”; 23 – кальцо; 25 – сякера; 26 – фібула (паводле А.Р. Мітрафанава)




Мал. 18. Кераміка з паселішчаў культуры штрыхаванай керамікі:1, 8, 9 – гарадзішча каля вёскі Гарадзішча; 2 – селішча Гатавічы; 3, 5, 7, 10, 14 – гарадзішча Малышкі; 4, 6, 11—13 – гарадзішча Збаравічы; 15 – 17— гарадзішча Вязынка (паводле А.Р. Мітрафанава)




Мал. 19. Кераміка з гарадзішча Гарані



Мал. 20. Кераміка з гарадзішча Гарані




Мал. 21. Кераміка з гарадзішча Гарані




Мал. 22. Гліняныя прасліцы з гарадзішча Малышкі (паводле А.Р. Мітрафанава)




Мал. 23. Грузікі "дзякавага тыпу" з гарадзішча Гарані




Мал. 24. Грузілы для сетак (1 – 9), грузікі “дзякавага тыпу” (10 – 12, 14 – 17), прасліца (13) з гарадзішча Гарані



Мал. 25. Вырабы з гліны з гарадзішча Малышкі (паводле А.Р. Мітрафанава)

# ГЛАВА ІІ. КУЛЬТУРА ЎСХОДНЕЛІТОЎСКІХ КУРГАНОЎ

У сярэдзіне I тысячагоддзя н. э. на частцы арэала культуры штрыхаванай керамікі (паўднёва–ўсходняя частка сучаснай тэрыторыі Літвы і прылягаючыя да яе раёны Беларусі) з'явілася новае прышлае насельніцтва, якое прынесла звычай пахавання пад курганнымі насыпамі. На думку адных даследчыкаў, гэта адбылося ў IV ст. н. э. (Седов, 1987. С. 392–395), на думку іншых – у другой палове V ст. н. э. , магчыма, на рубяжы IV–V стст. н. э. (Медведев, 1991. С. 17). Па рознаму вырашаецца даследчыкамі і пытанне аб вытоках міграцыі. В.В. Сядоў лічыць, што курганны абрад у заходнія раёны арэала культуры штрыхаванай керамікі прыйшоў у выніку міграцыі насельніцтва з сярэдняй і паўночнай Літвы, а таксама сумежных раёнаў Латвіі (там гэты абрад быў вядомы з першых вякоў нашай эры) (Седов, 1987. С. 395). А.М. Мядзведзеў бачыць у прышэльцах выхадцаў з заходнебалцкіх (яцвяжскіх) зямель Занямоння і паўночна–усходняй Польшчы (Медведев, 1991. С. 16–17).

Новыя пахавальныя помнікі ў навуковай літаратуры атрымалі назву ўсходнелітоўскіх курганоў. Ад іх і новая культура, якая прыйшла на змену культуры штрыхаванай керамікі, атрымала назву культуры ўсходнелітоўскіх курганоў.

**1. Пахавальныя помнікі**

Найбольш раннія курганы (IV–V стст. ) з пахаваннямі па абрадзе трупапалажэння з'яўляюцца, на думку В.В. Сядова, помнікамі прышлага насельніцтва. Больш познія (пачынаючы з V ст. ) з пахаваннямі па абраду трупаспалення з'яўляюцца пахавальнымі збудаваннямі асобнага балцкага племені, якое сфарміравалася ў выніку ўзаемадзеяння мясцовага насельніцтва – нашчадкаў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі і прышэльцаў з паўночнага захаду. (Апошнія вельмі хутка растварыліся ў асяроддзі мясцовага насельніцтва) На тэрыторыі сучаснай Літвы арэал курганоў з трупаспаленнем трэцяй чвэрці I тысячагоддзя супадае з арэалам культуры штрыхаванай керамікі (Седов, 1987. С. 395).

Вобласць распаўсюджання ўсходнелітоўскіх курганоў абмежавана на поўначы вярхоўямі ракі Швянтойі, на ўсходзе дасягае возера Свір, на поўдні ахоплівае басейн ракі Мяркіс, на захадзе праходзіць па ніжнім цячэнні Швянтойі і сярэднім цячэнні Нёмана (Таутавичюс, 1959. С. 141). У межах Беларусі граніца ўсходнелітоўскіх курганоў праходзіць па лініі: возера Дрысвяты – вярхоўі ракі Дзісны – Лынтупы – усходні бераг возера Свір – Смаргонь – Гальшаны – Ліда.

Курганы заўсёды размешчаны групамі, часцей за ўсё паблізу рэк або азёр. Колькасць насыпаў у могільніку звычайна невялікая (ад некалькіх да двух-трох дзесяткаў) і толькі ў асобных выпадках дасягае ста і больш. Адзін з найбольш буйных могільнікаў знаходзіцца паблізу вёскі Засвір (Мядзельскі раён) (мал. 26: 2). У канцы XIX ст. у ім налічвалася каля 200 насыпаў. У могільніках каля вёскі Лоша (Астравецкі раён) і засценка Чорная Лужа (Мядзельскі раён) было ў той час па 80 насыпаў.

У залежнасці ад таго як размяшчаюцца насыпы ў могільніках, яны дзеляцца на два тыпы. У адных насыпы размешчаны даволі кампактна (часам упрытык), у іншых раскіданы на значнай плошчы, адлегласць паміж насыпамі часам дасягае некалькіх дзесяткаў метраў. Спасылаючыся на думку літоўскіх археолагаў, В.В. Сядоў выказвае меркаванне, што могільнікі другога тыпу з'яўляюцца больш познімі (Седов, 1987. С. 392).

Курганныя насыпы, як правіла, маюць у плане круглую форму. Дыяметр іх вагаецца ад 5–7 м да 10–12 м, вышыня ад 0,3–0,4 м да 1–1,2 м. Насыпы дыяметрам больш за 15 м і вышынёй больш за 1,5 м адзінкавыя. Прасачыць нейкую заканамернасць у размяшчэнні курганоў рознай велічыні ўнутры могільнікаў не прадстўляецца магчымым. У Засвіры курганы сярэдняй велічыні размяшчаліся ў цэнтральнай частцы могільніка, а найбольш буйныя – на яго краях (Покровский, 1899. С. 93). У Лынтупах (Пастаўскі раён) больш буйныя курганы знаходзяцца ў цэнтральнай і паўночна-заходняй частках могільніка, а больш дробныя – у паўднёва-ўсходняй частцы.

Раннія курганы (IV–VII стст. ) звычайна каля асновы маюць вянцы, складзеныя з валунных камянёў рознай велічыні (пераважаюць камяні сярэдніх і даволі буйных памераў). Вянец складаецца з аднаго або двух радоў камянёў. Пры наяўнасці двух радоў камяні ляжаць або паралельна на адным узроўні, або адзін рад на другім. Каменныя вянцы меліся ва ўсіх чатырох даследаваных курганах каля вёскі Рымшанцы (Смаргонскі раён), ва ўсіх трох раскапаных курганах паблізу вёскі Гускі (Мядзельскі раён), каля асновы ўсіх курганоў цэнтральнай групы могільніка каля вёскі Пільвіны (Астравецкі раён) (Покровский,1899. С. 78, 98–99, 122). Курганы паблізу вёскі Выгалінені (Смаргонскі раён) мелі пад дзёрнам суцэльную вымастку з камянёў

(Покровский, 1899. С. 76). Камяні сярэдняй велічыні пакрывалі цэнтральную частку насыпу аднаго з двух даследаваных курганоў каля вёскі Янава (Пастаўскі раён). Пачынаючы з VII ст. звычай абкладваць насыпы курганоў вянцамі з камянёў паступова знікае. Але адзінкавыя насыпы з каменнымі вянцамі сустракаюцца ў VIII–IX стст.

Каля асновы курганоў VI–VIII стст. нярэдка прасочваюцца прадаўгаватыя (авальныя ці дугападобныя) ямы. Колькасць іх розная. У Лынтупскім могільніку, напрыклад, яна вагаецца ад двух да васьмі. Курганы больш позняга часу (пачынаючы з VIII ст. ) часта абкружаны ровам шырынёй да 3–3,5 м і глыбінёй да 0,8–1,2 м.

У аснове многіх курганоў на ўзроўні старажытнага гарызонту глебы маецца тонкая праслойка чорнага або цёмна-шэрага колеру з дробнымі вуглямі. Часамі такія праслойкі сустракаюцца ў насыпе. Самі насыпы зроблены з чыстага пяску, узятага з прылягаючых да іх ям і равоў.

У курганах IV–V стст. маюцца адно–два і, як выключэнне, тры пахаванні па абрадзе трупапалажэння. Нябожчыкаў, як правіла, клалі ў асобныя грунтавыя (падкурганныя) ямы глыбінёй ад 0,1 да 1 м (больш глыбокія ямы сустракаюцца рэдка). Становішча касцякоў выцягнутае, галовамі на захад. На аснове даных з усяго арэала ўсходнелітоўскіх курганоў В.В. Сядоў робіць вывад, што пахаванні жанчын арыентаваны на ўсход (Седов, 1987. С. 392). Матэрыялы Верхняга Павілля з прычыны невялікай колькасці пахаванняў па абраду трупапалажэння не даюць, на жаль, падставы для такога заключэння.

Пры наяўнасці ў кургане двух пахаванняў, другое звычайна знаходзіцца ў аснове насыпу, над магільнай ямай першага. Дзіцячыя пахаванні амаль заўсёды знаходзяцца ў аснове насыпу.

Курганы ўсходняй Літвы і прылягаючых раёнаў Беларускага Павілля адрозніваюцца некаторымі асаблівасцямі пахавальнага абраду ад курганоў астатняй тэрыторыі Літвы і паўднёва-ўсходняй Латвіі. Тут няма курганоў з калектыўнымі пахаваннямі, якія сустракаюцца ў цэнтральнай частцы Літвы і на паўднёвым усходзе Латвіі. Пахаванні, як правіла, знаходзяцца ў грунтавых ямах, у той час як у іншых раёнах Літвы яны размешчаны на мацерыку або ў насыпе кургана. Пакладзеныя парамі камяні, характэрныя для пахавальных помнікаў цэнтральнай і паўночнай Літвы, ва ўсходнелітоўскіх курганах не сустракаюцца (Таутавичюс, 1959. С. 133).

Пахавальны інвентар мужчынскіх трупапалажэнняў усходнелітоўскіх курганоў прадстаўлены ў асноўным прадметамі ўзбраення і рыштунку воіна: вузкалязовыя сякеры, наканечнікі коп’яў, нажы, зрэдку ўмбоны шчытоў, шпоры, спражкі. Часамі сустракаюцца падковападобныя фібулы з выемчатай эмаллю і манжэтападобныя бранзалеты. Пахавальны інвентар звычайна знаходзіцца каля ног нябожчыка.

Асноўную масу інвентару жаночых пахаванняў складаюць упрыгожанні. Часта сустракаюцца распаўсюджаныя ў літоўскіх і латышскіх плямёнаў шыйныя грыўні з ложкападобнымі і канічнымі канцамі, вітыя шыйныя грыўні з пяцельчатымі канцамі. Зрэдку трапляюцца драцяныя скроневыя кольцы са спіральным завітком на адным канцы, арбалетныя фібулы, ажурныя эмаліраваныя падвескі, манжэтападобныя бранзалеты, шкляныя пацеркі. Прылады працы прадстаўлены жалезнымі нажамі, сярпамі, шыламі і гліňянымі праслiцамі. У пахавальным інвентары (як мужчынскіх, так і жаночых пахаванняў) амаль не сустракаюцца распаўсюджаныя ў астатніх літоўскіх плямён шпількі.

Вобласць распаўсюджання асобных спецыфічных для ўсходняй Літвы ўпрыгожанняў (падковападобныя эмаліраваныя фібулы, ажурныя эмаліраваныя падвескі, скроневыя кольцы са спіральным завіткам і інш.) амаль поўнасцю супадае з тэрыторыяй распаўсюджання курганоў усходнелітоўскага тыпу. Гэтыя абставіны (побач з ужо адзначанымі вышэй асаблівасцямі пахавальнага абраду) дазволілі А.З. Таутавічусу зрабіць вывад аб вылучэнні асобнага літоўскага племені ( або саюза плямён), насельніцтва якога ўжо IV–V стст. мела свой абрад пахавання, свае спецыфічныя ўпрыгожанні, сваё асаблівае адзенне (Таутавичюс, 1954. С. 10).

У V ст. абрад трупапалажэння ва ўсходнелітоўскіх курганах змяняецца абрадам трупаспалення. Пры гэтым змена абраднасці ў розных частках арэала адбылася не адначасова: на поўдні яна закончылася ў V ст. , а ў паўночных раёнах пахаванні з трупапалажэннямі сустракаюцца да сярэдзіны VI ст.

Па знешнім выглядзе курганы з трупаспаленнем не адрозніваюцца ад курганоў з трупапалажэннем: тая ж круглая форма насыпаў, тыя ж каменныя вянцы ў іх аснове і каменныя вымасткі на паверхні, тыя ж прадаўгаватыя ямы вакол. Але камянёў у насыпах стала больш. У курганах VI–VII стст. каменныя вянцы часамі выкладзены ў некалькі ярусаў і дасягалі паловы вышыні насыпаў. У курганах VIII–IX стст. вянцы з камянёў сустракаюцца як выключэнне.

Нябожчыкаў спальвалі па-за межамі будучага кургана. Рэшткі спалення (косці, пахавальны інвентар, часамі невялікая колькасць вугалёў) змяшчаліся ў падкурганнай яме, на грунце ў

аснове кургана або ў яго насып на рознай глыбіні. Змяшчаліся яны, як правіла, кампактна, але сустракаюцца і ў выглядзе россыпу. Так, у рымшанскіх курганах № 2 і № 3 рэшткі спаленняў былі перамяшаны з пяском такім чынам, што іх як бы перакінулі з пахавальнага вогнішча лапатай (Покровский, 1899. С. 78).

Трупаспаленні ў грунтавых ямах сустракаюцца радзей, чым у аснове кургана і яго насыпе. Выключэннем з'яўляецца могільнік каля засценка Чорная Лужа, у якім яны складаюць большасць (у дзевяці з дванаццаці раскапаных курганоў). Глыбіня ям 0,35–0,6 м. У кургане № 5 гэтага могільніка рэшткі спаленняў знаходзіліся ў каменных скрынках аб'емам менш за 0,1 м$^3$, складзеных з цэлых і расшчапаных камянёў. Скрынкі былі заглыблены ў мацярых такім чынам, што іх накрыўкі знаходзіліся на ўзроўні старажытнага гарызонту глебы. Акрамя Чорнай Лужы спаленні ў неглыбокіх грунтовых ямах выяўлены ў курганах каля вёсак Рымшанцы і Паніззе (Смаргонскі раён) (Покровский, 1899. С. 77, 102, 109).

Найбольш распаўсюджаным абрадам у курганах з трупаспаленнем канца I – пачатку II тысячагоддзя з'яўляецца пахаванне на ўзроўні старажытнага гарызонту глебы або некалькі вышэй за яго. Такі абрад зафіксаваны ва ўсіх адзінаццаці даследаваных у 1976 годзе засвірскіх курганах, у васьмі з дзевяці (раскопкі 1977 годзе) курганах каля гарадскога пасёлка Лынтупы, ва ўсіх дзевяці курганах каля вёскі Вайшкуны (Пастаўскі раён). Рэшткі спаленняў часамі ляжаць на камянях або ўнутры кальца з камянёў. Зрэдку камяні перакрываюць іх зверху. У насыпе аднаго з курганоў паблізу вёскі Жэлядзі (Астравецкі раён, курган № 8) мелася каменная скрынка аналагічная тым, якія выяўлены ў Чорнай Лужы.

Як рэдкае выключэнне сустракаюцца курганы са спаленнямі на грунце, якія адбываліся на месцы (курганы насыпаліся непасрэдна на пахавальных вогнішчах). Такімі, напрыклад, з'яўляюцца два курганы (№ 7 і № 20), (раскопкі 1895 года) у Засвіры, пад насыпамі якіх на ўсёй плошчы меліся тоўстыя праслойкі чорнай зямлі з вялікай колькасцю вуглёў і перапаленых касцей. Верагодна, тут былі спалены людзі і коні (Покровский, 1899. С. 89–92). Усе курганы з трупаспаленнямі на месцы адносяцца да пачатку II тысячагоддзя н. э.

Сярод пахаванняў у насыпу пераважаюць размешчаныя ў ніжняй яго частцы. Аднак нярэдка у курганах X–XII стст. рэшткі спаленняў знаходзяцца ў верхняй частцы насыпу на глыбіні ўсяго 10–15 см ад паверхні. Такія пахаванні выяўлены ў Чорнай Лужы (курган № 6), Лынтупах (курган № 4, раскопкі 1977 года) і іншых месцах. Зусім верагодна, што нейкая частка пахаванняў у верхняй частцы насыпу з цягам часу была развеяна вятрамі, размыта дажджавымі і талымі водамі. Гэтым, відаць, можна растлумачыць наяўнасць сярод курганоў з трупаспаленнем пустых (без пахаванняў) насыпаў (Седов, 1987. С. 393; Таутавичюс, 1959. С. 136).

Усе пахаванні ўсходнелітоўскіх курганоў з трупаспаленнем бязурнавыя. Выяўленыя паблізу іх пасудзіны мелі, на думку адных даследчыкаў, рытуальнае прызначэнне. На думку іншых, у іх прыносілі рэшткі спаленняў з месца крэмацыі.

Колькасць пахаванняў у курганах з трупаспаленнем значна большая, чым у курганах з трупапалажэннем. Пераважаюць курганы з адным пахаваннем, даволі часта сустракаюцца з двуматрыма, часамі бывае пяць-шэсць, а ва ўсходняй Літве як выключэнне нават дзевяць-дзесяць. Па шэсць пахаванняў мелася ў курганах № 5 і № 6 у Чорнай Лужы, у кургане № 3 у Засвіры (раскопкі 1976 года). Пяць пахаванняў выяўлены ў кургане № 11 паблізу ст. Смаргонь. На думку А. З. Таутавічуса звычай хаваць некалькіх нябожчыкаў у адным кургане прыйшоў разам з самім абрадам трупаспалення з паўднёвага Занямоння, з зямель яцвягаў, з якімі ўсходнелітоўскія плямёны ўжо ў IV–V стст. падтрымлівалі цесныя сувязі. У паўднёвым Занямонні сустракаюцца курганы, у якіх 15–16 пахаванняў. На карысць гэтага меркавання сведчыць той факт, што найбольш раннія пахаванні з трупаспаленнямі ва ўсходняй Літве знаходзяцца ў яе паўднёвых раёнах (Таутавичюс, 1959. С. 135).

Пры наяўнасці ў адным кургане некалькіх пахаванняў яны часцей за ўсё размешчаны аднолькава. Але сустракаецца і рознае размяшчэнне: у аснове кургана (на грунце) і ў насыпе (Пільвіны); у аснове, у насыпе і падкурганнай (грунтовай) яме (Чорная Лужа). Калі ў кургане адно пахаванне, яно, як правіла, знаходзіцца ў цэнтры. Калі ж пахаванняў некалькі, некаторыя з іх могуць размяшчацца на самым краі насыпу.

Пахавальны інвентар з трупаспаленнем сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н. э. па сваім складзе мала адрозніваецца ад інвентару пахаванняў з трупапалажэннем. Ён звычайна пашкоджаны агнём. Бронзавыя ўпрыгожанні нярэдка зламаныя. Ад іх захаваліся толькі нязначныя фрагменты або кускі расплаўленай бронзы. Жалезныя прадметы, асабліва наканечнікі коп'яў, часта сагнутыя. А увогуле пабываўшыя ў агні жалезныя прадметы, захоўваюцца

добра. Зрэдку ў пахаваннях сустракаюцца рэчы, некранутыя агнём. У большасці выпадкаў гэта ў багатых пахаваннях (Лоша, Лынтупы). Пахавальны інвентар (як той, які пабываў у агні, так і без слядоў яго дзеяння) звычайна складзены кучкай на рэштках трупаспалення або паблізу іх. Але нярэдка таксама выпадкі, калі ён раскіданы на значнай плошчы. Побач з пахаваннямі, якія выдзяляюцца шматлікім і разнастайным інвентаром, у курганах другой паловы Ітысячагоддзя н. э. сустракаюцца пахаванні з надзвычай бедным інвентаром, а то і зусім без яго.

У мужчынскіх пахаваннях VI–VIII стст. многа прадметаў узбраення. Амаль у кожным з іх сустракаюцца адзін-два, а то тры і больш наканечнікаў коп'яў. Пераважаюць утулкавыя наканечнікі з пяром ланцэтападобнай, лаўралістай, полымяпадобнай, рамбічнай, падоўжана-трохвугольнай і прадаг аўвата-яйкападобнай формы. Зрэдку трапляюцца двухшыпныя. Рэдкай знаходкай з'яўляюцца таксама наканечнікі з мечападобнай формай пяра. Яны вядомы толькі ў арэале ўсходнелітоўскіх курганоў (Казакявичюс, 1988. С. 79). Адзін такі знойдзены ў кургане № 1 (раскопкі 1976 г.) у Засвіры (мал. 30: 1).

Даволі часта сустракаюцца вузкалязовыя правушныя сякеры. Форма іх паступова ўдасканальвалася: лязо станавілася шырэйшым, адтуліна для тапарышча – авальнай. Такія сякеры знойдзены ў курганах № 2 і № 8 паблізу станцыі Смаргонь.

У некаторых мужчынскіх пахаваннях знойдзены ўмбоны шчытоў і ручкі шчытоў. Сустрэнуты ўмбоны як з цыліндра-канічнай выпуклай часткай (курган №17, раскопкі 1895 года і № 1, раскопкі 1976 года у Засвіры (мал. 30: 1); курган № 6 у Чорнай Лужы), так і з паўшарападобнай (курган № 10 у Чорнай Лужы). Палі умбонаў па краях упрыгожаны ціснёным арнаментам, які складаецца з радоў выпукла-ўвагнутых кропак. Ручкамі шчытоў з'яўляліся тонкія прамыя жалезныя палосы, у расшыраных канцах якіх маюцца адтуліны для мацавання да дошак шчытоў.

Да прадметаў узбраення адносяцца некаторыя экзэмпляры жалезных нажоў, даўжыня якіх дасягае 20–25 см. Такія нажы, у прыватнасці, знойдзены ў Засвіры (мал. 32: 12; 33: 6; 34: 5, 7) і Смаргоні.

Прадметы рыштунку вершніка і верхавога каня прадстаўлены страмёнамі, шпорамі, цуглямі-псаліямі, вупражнымі кольцамі і іншымі дэталямі аброці.

Страмёны ў асноўным двух тыпаў: акруглыя з пласцінністым прамавугольным або трапецападобным вушкам, моцна выгнутай падножкай і арачныя з такім жа, як у першага тыпу, вушкам, але ў адрозненне ад яго плоскай падножкай, якая загінаецца з бакоў амаль пад прамым вуглом. Страмёны першага тыпу былі распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі сучаснай Літвы. Страмёны другога тыпу характэрны выключна для ўсходняй Літвы. Яны з'явіліся ў VI–VII стст. і атрымалі шырокае распаўсюджанне на вялізнай тэрыторыі (ад Саяна–Алтая да Венгрыі) і ў XI ст. амаль паўсюдна выйшлі з ужытку. А. М. Кірпічнікаў дапускае, што ў Заходняй Беларусі ў месцах распаўсюджання культуры каменных магіл страмёны гэтага тыпу ўжываліся да XII ст. (Кирпичников, 1973. С. 49).

Шпоры – даволі рэдкая знаходка ў курганах з трупаспаленнем. У кургане № 8 у Паніззі знойдзены дзве шпоры ў выглядзе неглыбокіх дужак з канічнымі шыпамі і заклёпкамі для мацавання рамянёў. У кургане № 20 (раскопкі 1985 годзе ) у Засвіры знойдзена шпора з глыбокай гарызантальнай дужкай і доўгім шыпом у выглядзе прытупленага стрыжня круглага сячэння. Каля асновы шыпа маюцца два валікі. Знешні бок дугі і валік арнаментаваны кропкамі.

Кольчатыя цуглі трапляюцца двух тыпаў: двухзвённыя і трохзвённыя. Двухзвенныя цуглі вядомы на тэрыторыі Усходняй Еўропы, пачынаючы з ранняга сярэдневякоўя. З XII ст. яны з'яўляюцца пануючай формай. Трохзвенныя – тыповыя для Скандынавіі і Фінляндыі, пачынаючы з эпохі вялікага перасялення народаў. У краінах Усходняй Прыбалтыкі бытавалі ў X–XIV стст. (Кирпичников, 1973. С. 17). У кургане № 1 у Зязюльцы (Астравецкі раён) знойдзены цуглі з прамымі стрыжнепадобнымі псаліямі, прадзетымі ў кольцападобныя канцы муштука. У склад аброцевага набору, акрамя жалезных кольцаў уваходзілі бронзавыя бляшкі, бразготкі, званочкі і іншыя падвескі.

Ва ўсходнелітоўскіх курганах канца I – пачатку II тысячагоддзя прадметы ўзбраення сустракаюцца рэдка, у асноўным толькі ў багатых пахаваннях. Знойдзены толькі некалькі экзэмпляраў баявых сякер з шырокім, адцягнутым лязом. (Рабочыя сякеры ў гэты час таксама сустракаюцца рэдка) Для больш ранніх пахаванняў характэрны адналязовыя кароткія мячы, для больш позніх – двухлязовыя мячы агульнаеўрапейскіх тыпаў, часам з упрыгожанымі серабром дзяржаннямі. Чатыры мячы з рознымі па форме навершамі (галоўкамі) знойдзены ў курганным могільніку пачатку II тысячагоддзя каля вёскі Гуркавіцы (Вілейскі павет) (Гуревич, 1962. С. 188). Меч у эпоху ранняга феадалізму з'яўляўся індывідуальнай уласнасцю, што пацвярджаецца і яго

наўмысным пашкоджаннем (зламаны, сагнуты) перад укладаннем у магілу. Відаць, два сагнутыя кароткія мячы (даўжынёй 36 і 40,5 см) знойдзены разам з умбонам у адным (№ 8) са смаргонскіх курганоў. Аўтар раскопак палічыў іх за шаблі (Рыков, 1914а. С. 12).

У курганах рубяжа I і II тысячагоддзяў, а таксама больш позняга часу адсутнічаюць наканечнікі стрэл, якіх многа на гарадзішчах IX–XIII стст.

Акрамя ўзбраення, рыштунку вершніка і верхавога каня ў мужчынскіх пахаваннях сустракаюцца тачыльныя брускі, шылы, крэсівы, падковападобныя і арбалетападобныя фібулы, спражкі. Апошнія даволі шматлікія і розныя па форме: круглыя, авальныя, прамавугольныя, з увагнутымі бакамі і закругленымі вугламі і інш. Па акуратнасці апрацоўкі выдзяляюцца спражкі В–падобнай формы, арнаментаваныя насечкамі (мал. 30: 4; 32: 3) (Засвір, Паніззе і іншыя месцы). Вельмі характэрнымі прадметамі мужчынскіх пахаванняў з’яўляюцца жалезныя нажы.

Інвентар жаночых пахаванняў з трупаспаленнямі пададзены двума катэгорыямі рэчаў: прыладамі працы і ўпрыгожаннямі. Сярод прылад працы – жалезныя сярпы, нажы, шылы, зрэдку іголкі, а таксама гліняныя прасліцы, якіх у адным пахаванні бывае да пяці экзэмпляраў. Сустракаюцца сярпы з адагнутымі ўверх канцамі, так званага літоўскага тыпу. Найбольш характэрнымі ўпрыгожаннямі з’яўляюцца шыйныя грыўні з сядлопадобнымі і пласціністымі заходзячымі адзін за другі канцамі.

Сустракаюцца жалезныя і бронзавыя арбалетападобныя фібулы, падковападобныя фібулы са спіральназагнутымі ці звярынагаловымі канцамі, жалезныя і бронзавыя спражкі, бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, спіральныя пярсцёнкі, псеўдаспіральныя пацеркі біканічнай формы. У склад жаночых упрыгожанняў уваходзілі, несумненна, шкляныя пацеркі, але яны часта дэфармаваныя, а ад многіх засталіся толькі кавалачкі расплаўленага шкла.

Зрэдку ва ўсходнелітоўскіх курганах сустракаюцца гліняныя пасудзіны. У ранніх курганах – гэта грубыя, зробленыя ўручную пасудзіны баначных форм, а таксама неарнаментаваныя гаршкі і міскі. Пасудзіна з Андрэеўцаў (Смаргонскі раён) мае шурпатую паверхню. У канцы I – пачатку II тысячагоддзя побач з ляпной сустракаецца кругавая кераміка. Пры гэтым уся кераміка (і больш ранняя, і больш позняя) абпалена больш слаба, чым кераміка з гарадзішч. Кругавыя пасудзіны часам упрыгожаны хвалістымі або гарызантальнымі лініямі (мал. 36: 1, 4, 5).

Колькасць пасудзін у адным кургане звычайна не адпавядае колькасці пахаванняў. Так, у аснове кургана № 16 у Засвіры (раскопкі 1895 года) выяўлены тры гаршкі, якія стаялі побач па прамой лініі, а пахаванняў было два (Покровский, 1899. С. 87). Аднак у большасці выпадкаў колькасць пахаванняў значна перавышае колькасць пасудзін. Усе, як засвірскія, так і іншыя пасудзіны, былі запоўнены аднолькавым з курганным насыпам пяском, гэта значыць, змешчаны ў курган пустымі. На думку Ф.В. Пакроўскага, у іх пераносілі рэшткі трупаспаленняў з вогнішча ў курган (Покровский, 1899. С. 94).

У канцы I – пачатку II тысячагоддзя ў басейне Верхняй Віліі, як і ва ўсходняй Літве, шырокае распаўсюджанне атрымалі з’явіўшыяся яшчэ ў сярэдзіне I тысячагоддзя пахаванні коней. Спаленага або неспаленага каня звычайна хавалі асобна ад чалавека ў спецыяльным кургане. Курганы з конскімі пахаваннямі па знешнім выглядзе не адрозніваюцца ад курганоў з пахаваннямі людзей. У адрозненне ад цэнтральнай Літвы, дзе ў адным кургане сустракаюцца два-тры і нават восем конскіх шкілетаў, у адным усходнелітоўскім кургане знаходзіцца толькі па адным (Куликаускене, 1953. С. 215).

Пахаванне каня па абрадзе трупаспалення змяшчалася ў аснове кургана або на рознай вышыні ў яго насыпе. Неспаленага каня змяшчалі ў неглыбокай яме пад насыпам або ў яго аснове. Касцякі коней звычайна ляжаць у нармальным становішчы, галовамі арыентаваны на захад, усход і поўдзень. Перапаленыя косці каня знойдзены ў аснове кургана № 2 у Паніззі і кургана № 7 у Пільвінах. У Будранах (Астравецкі раён), у кургане № 1 на грунце выяўлены касцяк каня, які, відаць, быў забіты на месцы пахавання (Покровский, 1899. С. 73, 120, 138). Інвентар конскіх пахаванняў бедны. Гэта з двух і трох звёнаў цуглі, псаліі, спражкі, пласціны-накладкі і стрыжанькі-заклёпкі. Адносна рэдка сустракаюцца страмёны і бронзавыя падвескі ад аброці (бразготкі, званочкі, пласцінкі).

Як выключэнне часамі сустракаюцца пахаванні людзей у адным кургане з канём (курган № 3 у Рымшанцах, курган № 7 у Пільвінах, №7 (раскопкі 1895 года) у Засвіры). Наяўнасць спецыяльных курганоў з пахаваннямі коней і адсутнасць пахавальнага інвентару ў пахаваннях людзей з конямі дазваляе меркаваць, што верхавых коней воінаў хавалі ў асобных курганах, а коней радавых земляробаў – разам з іх гаспадарамі.

Сярод курганоў Засвірскага могільніка выдзяляецца як па абрадзе пахавання, так і па

пахавальнаму інвентары курган № 8 (раскопкі 1895 года). Гэта чатырохвугольны насып памерам 8,2 х 7,1 м, вышынёй нямногім больш 1 м, граніцы яго былі памечаны слоем белага пяску. У аснове кургана на вугальнай праслойцы знаходзіўся касцяк галавой на захад. Каля чэрапа знойдзена шкляная пасярэбраная пацерка, паблізу таза – бронзавы пярсцёнак, каля левага бядра – каменная сякера–клін, каля ног – жалезны нож, гліняны гаршчок з кляймом у выглядзе дзвюх канцэнтрычных акружнасцей і каменная прасліца. Гэта пахаванне Ф.В. Пакроўскі вызначыў як славянскае, з чым нельга не згадзіцца (Покровский, 1899. С. 86, 93).

Падводзячы вынікі шматгадовым даследаванням курганоў на славяна-літоўскім парубежжы, Ф.В. Пакроўскі выказаў меркаванне, што курганы канца І – пачатку ІІ тысячагоддзя з трупаспаленнем належаць літоўцам, а сінхронныя курганы з трупапалажэннем – славянскаму насельніцтву, дрыгавічам (Покровский, 1899. С. 196–197). Пазнейшыя даследаванні пацвердзілі правільнасць гэтага меркавання з тым толькі ўдакладненнем, што побач з дрыгавічамі тут маюцца помнікі, якія належаць крывічам.

Найбольш позня курганы з трупаспаленнем датуюцца пачаткам XIII ст. Звычай хаваць нябожчыкаў у курганах знік, на думку А.З. Таутавічуса, у час складвання літоўскай народнасці (Таутавичюс, 1959. С. 142). Трупы па-ранейшаму спальваюць, але хаваюць у грунтавых магілах. У некаторых рэгіёнах Літвы трупаспаленне захавалася да XIV–XV стст. У 1377 годзе быў спалены разам з 18 коньмі князь Альгерд (паводле Длугаша гэта адбылося каля Крэўскага замка), а ў 1382 годзе – князь Кейстут. Такое працяглае захаваннне абраду трупаспалення было ў значнай ступені звязана з барацьбой супраць крыжакоў. Яна набыла форму рэлігійнай, адной з праяў якой і з'яўлялася захаванне абраду спалення трупаў супляменнікаў (Гуревич, 1947. С. 35, 37).

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва, пакінуўшага ўсходнелітоўскія курганы, ва ўсіх даследчыкаў мінулага, пачынаючы з Ф.В. Пакроўскага, сумнення не выклікала. На думку А.А. Спіцына, літоўскія курганы займалі басейн Нёмана, пераходзячы на яго левы бераг, і басейн Віліі (Спицын, 1896. С. 113). Гэты пункт гледжання падзяляюць і сучасныя даследчыкі. Яны толькі разыходзяцца ў тым, якім непасрэдна літоўскім плямёнам належалі гэтыя помнікі. Адны даследчыкі (Ф.Д. Гурэвіч, Р.К. Кулікаўскене) адносяць усходнеслітоўскія курганы да аўкштайтаў (Гуревич, 1947. С. 39; Куликаускене, 1950. С. 17). Іншыя (А.З. Таутавичюс, Р.К. Рымантэне) звязваюць іх з некалькімі аб'яднаннямі літоўскіх плямён (Таутавичюс, 1954. С. 17–18; Яблонските–Римантене, 1954. С. 18). З племянной групоўкай, вядомай у пісьмовых крыніцах пад назвай "літва" звязвае ўсходнелітоўскія курганы В.В. Сядоў (Седов, 1987. С. 390, 395).

У "Аповесці мінулых часоў" "літвой" у розных месцах называецца і племя, і народнасць. У іншых летапісах пад гэтай назвай выступае і народнасць, і краіна, і яе жыхары. Паколькі тэрыторыя распаўсюджання ўсходнелітоўскіх курганоў у пісьмовых крыніцах называецца "літвой", А.З. Таутавічус прапануе насельніцтва, іх пакінуўшае, называць літоўцамі. Што датычыць аўкштайтаў, то гэта племя ўпершыню згадваецца ў басейне ракі Нявежыс, дзе курганы ўсходнелітоўскага тыпу не вядомы (Таутавичюс, 1954. С. 17–18).

У працы "Этногенез литовцев" культура ўсходнелітоўскіх курганоў разглядаецца як пераемніца культуры штрыхаванай керамікі. Але гэта адносіцца не да ўсяго арэала культуры штрыхаванай керамікі, а толькі да заходняй яго часткі. Што датычыць усходняй часткі і амаль усяго арэала днепра–дзвінскай культуры, то тут у V ст. з'явілася банцараўская культура, якую пакінулі таксама балцкія плямёны (Lietuvių etnogeneze. 1987. P. 243–244).

Насельніцтва, пакінуўшае ўсходнелітоўскія курганы, падтрымлівала цесныя сувязі з суседнімі славянскімі плямёнамі. У выніку шматвяковага этнічнага змяшэння многія элементы матэрыяльнай і духоўнай культуры былі запазычаны славянамі ў літоўцаў, іншыя, наадварот, праніклі да іх ад славян.

Адлюстраваннем пахавальных традыцый літоўскіх плямён з'яўляецца выкарыстанне камянёў пры ўзвядзенні курганных насыпаў. Многа камянёў, у прыватнасці, выяўлена пры раскопках славянскага курганнага могільніка каля вёскі Камена (Вілейскі раён). У 1974 годзе тут было даследавана шэсць курганоў дыяметрам 3,6 – 4,3 м, вышынёй 0,7 – 0,9 м. Ва ўсіх курганах нябожчыкі ляжалі ў ямах глыбінёй 0,4-0,8 м у выцягнутым становішчы на спіне, галавой на захад (у двух выпадках – з невялікім адхіленнем на поўдзень). У чатырох ямах прасочаны рэшткі дамавін (відаць, дашчатых). Каля дамавін і над імі знаходзілася даволі многа валунных камянёў, а ў трох ямах камяні ляжалі каля галавы нябожчыкаў. У двух пахаваннях яны перакрывалі магільную яму над галавой і нагамі пахаваных. Заслугоўвае ўвагі той факт, што сярод пахавальнага інвентару меліся два скроневыя

кольцы з меднага дроту з надзетымі на яго васьмю пустымі ў сярэдзіне шарыкамі і больш дзесятка квадратных і трохвугольных медных пласцінак ад налобнай павязкі. Шматпацеркавыя скроневыя кольцы і налобныя павязкі (венчыкі) з'яўляюцца характэрнымі ўпрыгожаннямі ў жаночых пахаваннях каменных магіл, якія большасцю даследчыкаў звязваюцца з каменнымі курганамі балтаў.

Літоўскім па сваім паходжанні з'яўляецца звычай класці ў магілу прадметы ўзбраення. Славянскія пахаванні са зброяй сканцэнтраваны ў асноўным у пагранічных раёнах. Так, напрыклад, у курганным могільніку каля вёскі Наўры (Мядзельскі раён), які належаў змешанаму крывіцка-дрыгавіцкаму насельніцтву, у шасці з адзінаццаці мужчынскіх пахаванняў выяўлены сякеры (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 24–25). Усе яны шырокалязовыя. У трох – адцягнутае ўніз лязо, дзве пары бакавых шчакавіц і падоўжаны выразны абух (тып IV па класіфікацыі А.М. Кірпічнікава). Сякеры гэтага тыпу, на думку А.М. Кірпічнікава, з'яўляліся рускім вынаходствам. На Русі яны з'явіліся яшчэ ў X ст., а большасць зарубежных аналогій, у тым ліку і прыбалтыйскія, адносяцца да XI ст. (Кирпичников, 1966. С. 36–37). У трох сякер з Наўраў бакавыя шчакавіцы адсутнічаюць, тыльны бок абуха ўяўляе шырокія мысападобныя выступы (тып IV A па класіфікацыі А. М. Кірпічнікава). Такія сякеры характэрны для XII–XIII стст. Сякеры абедзвюх разнавіднасцей знойдзены галоўным чынам на поўдні, паўднёвым захадзе і захадзе Русі. У X–XI стст. яны былі распаўсюджаны ў Польшчы і Прыбалтыцы (Кирпичников, 1966. С. 36–37).

Такім чынам, зыходзячы з вышэй сказанага, можна зрабіць вывад, што ў Наўранскім могільніку прасочваецца такое спалучэнне: пахавальны інвентар – славянскі, а элемент абраднасці – літоўскі. Часам балцкія (літоўскія) рэчы сустракаюцца з тыпова славянскімі прадметамі ў адных і тых жа пахавальных комплексах. Гэта будзе паказана ў главе IV, якая прысвечана славянскім старажытнасцям.

Надзвычай выразна ўзаемасувязі славян і літоўцаў прасочваюцца ў ганчарнай справе, жалезаапрацоўчым рамястве і іншых сферах жыцця і дзейнасці насельніцтва абодвух этнічных рэгіёнаў. Некаторыя гліняныя гаршкі з усходнелітоўскіх курганоў і сінхронных славянскіх могільнікаў амаль не адрозніваюцца. Металаграфічны аналіз жалезных прылад працы і прадметаў узбраення паказаў, што і славянскія, і літоўскія кавалі X–XII стст. паспяхова валодалі рознымі тэхналагічнымі прыёмамі. Відаць, адбывалася ўзаемнае ўзбагачэнне вытворчымі навыкамі (Зверуго, 1989. С. 20).

**2. Паселішчы**

Курганы ўсходнелітоўскага тыпу з'явіліся ў той час, калі насельніцтва Беларускага Павілля і ўсходняй Літвы пакідала ўмацаваныя паселішчы – гарадзішчы і стварала неўмацаваныя паселішчы – селішчы.

У спецыяльным даследаванні, прысвечаным усходнелітоўскім курганам (аб якім ужо гаварылася вышэй), А.З. Таўтавічус адзначаў, што селішчы першапачатковага перыяду (IV–V стст.) на тэрыторыі ўсходняй Літвы яшчэ ў канцы 50-х гадоў XX ст. не былі вядомы (Таутавичюс, 1959. С. 142). Іх выяўленне і вывучэнне пачалося толькі ў апошнія дзесяцігоддзі.

Вывучэнне селішч у арэале ўсходнелітоўскіх курганоў на тэрыторыі Беларускага Павілля пачалося таксама толькі ў апошнія дзесяцігоддзі. Найбольш значныя работы праведзены на двух селішчах: паблізу вёскі Засвір (Мядзельскі раён) і ў наваколлі вёскі Хведзевічы (Смаргонскі раён). Раскопкі і на абедзвюх помніках праводзіў аўтар.

Як ужо адзначалася вышэй, насельнікі Засвірскага селішча пакінулі буйнейшы на аналізуемай тэрыторыі курганны могільнік, які налічваў у канцы XIX ст. каля 200 насыпаў. Могільнік, які пакінулі жыхары Хведзевіцкага селішча выявіць пакуль што не ўдалося, хаця даволі грунтоўна абследавана тэрыторыя ў радыусе прыкладна 10 км ад помніка. У познім сярэдневяковую на тэрыторыі селішча знаходзіўся грунтавы могільнік. Вынікі яго даследавання пададзены ніжэй.

Засвірскае селішча размяшчаецца за 0,3 км ад усходняга берага возера Свір, на пакатай (вышынёй ад узроўня возера не больш 4–5 м) мысападобнай узвышанасці, падзеленай безыменным упадаючам у возера Свір ручаём на дзве часткі. Селішча займае абодва берагі ручая, але большая яго частка знаходзіцца на левым беразе. Тут культурны пласт прасочваецца на працягу 300–400 м уздоўж ручая. На поўнач і поўдзень ад занятай селішчам узвышанасці знаходзіцца забалочаная нізіна.

Селішча даследавалася ў 1976–1979 гг. Культурны слой магутнасцю ад 0,3 да 1,2 м ускрыты на плошчы 1180 м$^2$. Пры гэтым 1120 м$^2$ ускрыты на левым паўднёвым беразе ручая і 60 м $^2$ – на процілеглым беразе. Культурны слой уяўляе сабой у большасці выпадкаў даволі аднародны супесак цёмна–шэрага, месцамі амаль чорнага колеру.

Дрэва і іншыя арганічныя рэчывы ў культурным слаі не захоўваюцца. Граніцы жылых і гаспадарчых пабудоў з неабходнай дакладнасцю ў амаль аднародным па структуры і колеры слаі прасачыць не ўдалося. У многіх месцах і на розных ўзроўнях выяўлены скапленні абпаленых цэлых і расколатых камянёў, якія, несумненна, з'яўляюцца рэшткамі печаў–каменак і агнішчаў. Паблізу мацерыка зафіксаваны развалы пяці печаў-каменак і шасці агнішчаў. Мяркуючы па максімальным скапленні камянёў, дыяметр печаў-каменак па знешнім абводзе быў роўны 0,7–0,9 м. Аснова адной печы-каменкі была апушчана ў мацярык на 0,25 м. Чатыры агнішчы ўяўлялі сабой скапленне дробных моцна абпаленых камянёў, пакладзеных у адзін рад. Адно з іх мела форму круга дыяметрам 2,2 м, тры астатнія – авальную форму памерамі 1,1 х 1,5 м, 1,2 х 1,6 м і 1,4 х2,4 м. Камяні ляжалі на пясчаных падсыпках таўшчынёй 0,1–0,15 м. Два агнішчы захаваліся ў выглядзе гліняных пляцовак круглай формы дыяметрам каля 1 м. Таўшчыня слоя моцна абпаленай гліны раўнялася 10–12 см. Пад глінай меліся невялікія пясчаныя падсыпкі.

У мацерыку было выўлена многа розных па форме і велічыні ям, у тым ліку ад слупоў, што са значнай доляй упэўненасці дазваляе сцвярджаць, жытлы мелі ў асноўным слупавую канструкцыю (хаця наяўнасць зрубных пабудоў не выключана). У мацерыку меліся тры чатырохвугольныя ў плане ямы памерамі 1,5 х 4 м, 2 х 2 м і 2 х 2,4 м. Глыбіня першых дзвюх ям 0,3 м, апошняй – 0,5 м. Ні ў адной з іх рэштак печаў–каменак ці агнішчаў не выяўлена. Гэта, несумненна, былі нейкія гаспадарчыя пабудовы (магчыма, майстэрні). Усе тры пабудовы загінулі ў пажары. У ямах было шмат вуголля, а ў адной з іх (першай) і кускоў абгарэлага дрэва. Ніякіх слядоў наяўнасці зямлянкавых і паўзямлянкавых жытлаў не выяўлена. З усёй перакананасцю можна сцвярджаць, што адзіным тыпам жатлаў на працягу ўсяго часу існавання паселішча з'яўляліся наземныя дамы.

Рэчавы матэрыял паселішча бедны. Знойдзены чатыры абломкі шліфаваных каменных сякер (свідраваных і сякер-кліноў) (мал. 50: 20, 23, 25). Такія сякеры ў вялікай колькасці сустракаюцца на помніках культуры штрыхаванай керамікі ў Літве (гарадзішча Невярышкес, Сокішкяй (Grigalavičienė, 1986а. Pav. 8-9; 1986б. Pav. 10-14) і Беларусі (у тым ліку на гарадзішчах басейна Верхняй Віліі).

Сярод вырабаў з косці асаблівую цікавасць уяўляе сабой кулепадобны наканечнік стралы (утулка пашкоджана) (мал. 50: 16). Такія наканечнікі знойдзены на помніках дзякаўскай культуры ў міжрэччы Волгі і Акі (Смирнов, 1974. С. 24).

Жалезныя вырабы прадстаўлены нажамі, абломкамі сякер, разцамі, рыбалоўнымі кручкамі, абломкам крэсіва, шыламі, шпількамі з S–падобным завітком, шпількай з расшыранай верхняй часткай.

Знойдзены тры цэлыя нажы і тры абломкі (мал. 49: 1–6). Усе яны маюць ступеньчатыя пераходы ад дзяржання да ляза і прамыя спінкі. Такія нажы былі шырока распаўсюджаны на працягу ўсяго I тысячагоддзя на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы, у тым ліку на помніках банцараўскай культуры і культуры усходнелітоўскіх курганоў. Яны знойдзены і ў Засвірскім могільніку. Праўда, побач з такімі у пахаваннях выяўленны нажы, у якіх дзяржанне плаўна пераходзіць у лязо як з боку спінкі, так і процілеглага боку. Спінка аднаго нажа з селішча (між іншым выключна добрай захаванасці) упрыгожана насечкай.

Сякеры такія ж вузкалязовыя, як і большасць знойдзеных у Засвірскіх курганах. Вузкалязовыя правушныя сякеры сустракаюцца ў пахаваннях усходняй і цэнтральнай Літвы пачынаючы з II ст. і заканчваючы пачаткам VII ст. Пазней трапляюцца зрэдку, хаця прымяняліся да X ст (LAA, 1978. P. 149).

Адзін з двух разцоў мае выгляд масіўнага стрыжня з крута выгнутым аднабаковым лязом (мал. 49: 9). Падобныя разцы сустракаюцца на помніках дзякаўскай культуры (Смирнов, 1974. С. 42–43).

Абодва рыбалоўныя кручкі зроблены з круглага стрыжня дыяметрам 0,3 см (мал. 49: 19, 20). У абодвух адагнутае ўбок вастрыё без зубца (жала) для ўтрымання рыбы пры падсечцы. На канцы стрыжня маецца пятля для лёскі Аналагічныя кручкі знойдзены на Асоцкім гарадзішчы (Латвія) (Шноре, 1961. Табл. XII: 24, 26–28, 30, 32) Сустракаюцца і ў старажытных гарадах Беларусі (Брэст, Ваўкавыск і інш. ) (Зверуго, 1975б. Рис. 31: 10, 11, 16; Лысенко, 1985. Рис. 162:4).

У крэсіва абламана ніжняя частка, захавалася верхняя з пятлёй для падвешвання (мал. 49: 22). Такія сустракаюцца на Смаленшчыне і ў міжрэччы Волгі і Акі (Смирнов, 1974. С. 60–64; Шмидт, 1976. Рис. 20: 14).

Посахападобная шпілька мае круглую галоўку, якая заканчваецца S–падобным завітком (мал. 49: 13). Сячэнне галоўкі рамбічнае. Даўжыня шпількі 11,5 см. Шпількі з S–падобнымі галоўкамі сустракаюцца на помніках розных культур на працягу доўгага часу, але вырабы з невялікімі круглымі галоўкамі, зробленыя са стрыжня

рамбічнага сячэння, датуюцца I–V стст. і сустракаюцца ў Літве, Латвіі, Беларусі, на Смаленшчыне і ў Падзясенні, гэта значыць у асноўным на тэрыторыі балцкіх плямён. Аналагічныя засвірскай знаходцы шпількі з расшыранай плоскай верхняй часткай сустракаюцца на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі (Гарадзішча, Мядзельскі раён) (Митрофанов, 1978а. Рис. 57: 7; 58: 11).

З каляровых металаў зроблены пінцэты, трапецападобная падвеска, вітая шыйная грыўня, спіральны пярсцёнак. Абодва пінцэты захаваліся ў абломках (мал. 49: 11, 12). Адзін з іх аздоблены насечкамі па краі. Такія вырабы служылі ў якасці часткі паяснога набору, а таксама як прылада пры бронзаліцейнай вытворчасці. У трапецападобнай падвескі вузкая верхняя частка (мал. 49: 16). Яе форма блізкая да трохвугольнай. Вышыня – 4,3 см, найбольшая шырыня – 3,3 см. Ніжняя частка аздоблена чаканным арнаментам. Такія падвескі сустракаюцца на помніках трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. (тры экзэмпляры знойдзены на селішчы Гарадзішча) і ў VIII–IX стст. (Митрофанов, 1978а. С. 112; Перхавко, 1978. С. 60. Рис. 1: 16).

Ад вітой шыйнай грыўні захаваўся толькі фрагмент (мал. 49: 26). Яна звіта з трох драцін. Аб тыпе меркаваць цяжка, паколькі канцы абламаныя. Вітыя грыўні з'явіліся ў Літве ў II–V стст. , а потым ужываліся ў VIII–XIII стст. (LAA, 1978. P. 145–146).

Спіральныя пярсцёнкі, аналагічныя засвірскаму (мал. 49: 23), сустракаюцца на вялікай тэрыторыі і датуюцца шырокімі храналагічнымі рамкамі. Меліся яны і ў пахавальным інвентары Засвірскага могільніка.

Акрамя ўжо згаданых каменных сякер, на селішчы знойдзены каменныя бруські, якія служылі для заточкі жалезных вырабаў. Выяўлены шліфаваныя камяні для апрацоўкі каменных і касцяных вырабаў, а таксама для расцірання зерня. Сустрэты камяні, якія маглі выкарыстоўвацца ў якасці малаткоў і адбойнікаў.

Знойдзены тры шкляныя пацеркі (цэлая і два абломкі) (мал. 50: 8–10). Адна з пацерак мае кубічную форму, памеры 0,9 х1 х 1 см, дыяметр адтуліны 0,3 см. Яна выраблена са шкла блакітнага колеру. У Паўночным Прычарнамор'і такія пацеркі датуюцца ў межах I–III стст. (Алексеева, 1978. С. 69. Табл. 33: 30). На помніках паўднёва–усходняй Еўропы яны сустракаюцца ў VI–VII стст. (Деопик, 1963. С. 216, 218. Рис. 4: 10). Гэтым часам і патрэбна, відаць, датаваць усе тры пацеркі, знойдзеныя на Засвірскім селішчы.

Гліняныя вырабы прадстаўлены прасліцамі, тыглямі, шматлікімі фрагментамі разнастайнай ляпной керамікі і адзінкавымі фрагментамі пасудзін, зробленых на ганчарным крузе.

Гліняныя прасліцы складаюць найбольш значную па колькасці катэгорыю індывідуальных знаходак (24 экзэмпляры) (мал. 50: 2–7, 12–15, 18, 19, 21, 22). Па своеасаблівасцях формы яны падзяляюцца на чатыры тыпы: зонныя з акруглымі бакамі, біканічныя з выразна выражанымі бакавымі плоскасцямі, цыліндрычныя, цыліндрычныя з двума жалабкамі на баку. Вырабы першага і трэцяга тыпаў знойдзена па чатыры экзэмпляры, другога і чацвёртага – па восем. Прасліцы першага тыпу вядомы па раскопках помнікаў культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978а. С. 40–41), другога тыпу з'явіліся ў другой чвэрці I тысячагоддзя на помніках кіеўскай культуры (Терпиловский, 1984. С. 33), а пазней на помніках розных культур. Аналагі прасліц трэцяга і чацвёртага тыпаў знойдзены на тэрыторыі Літвы (Лухтан, 1987. С.13. Рис. 7: 9). Сустракаюцца яны і ў пахавальным інвентары Засвірскага могільніка.

Тыглі, мяркуючы па фрагментах з поўным профілем (цэлыя экзэмпляры не знойдзены) былі невялікіх памераў і мелі акруглае дно.

На селішчы знойдзена 2586 фрагментаў керамікі, з якіх па характары апрацоўкі знешняй паверхні вызначана 1586 фрагментаў. На паселішчы прысутнічае шурпатая, гладкасценная, штрыхаваная і глянцаваная кераміка.

Пераважае шурпатая кераміка: 820 фрагментаў, або 56,7% усёй керамікі. У калекцыі маюцца абодва варыянты шурпатай керамікі: дробна- і буйнашурпатая (аблітая). Дробнашурпатая кераміка больш ранняя. Колькасць яе з цягам часу паступова змяншаецца, а колькасць аблітой, наадварот, павялічваецца. Найбольш распаўсюджанай формай былі баначныя пасудзіны з прамым або вогнутым верхнім краем, дыяметрам 9–34 см (у большасці 13–28 см). Такія пасудзіны маглі выкарыстоўвацца як у якасці кухонных, так і для захавання прадуктаў. Дробнашурпатая кераміка з'явілася ў Літве яшчэ ў эпоху бронзы, аблітая – у IV–V стст. Першапачаткова аблітыя пасудзіны мелі рабрыстую форму, накшталт посуду культуры штрыхаванай керамікі. Пасудзіны баначнай формы з'явіліся ў V ст (Даугудис, 1966. С. 163–165).

Гладкасценная кераміка прадстаўлена 579 фрагментамі (36,5% усёй керамікі). Колькасць яе з цягам часу павялічваецца. Выдзяляюцца пасудзіны двух форм: прафіляванай і рабрыстай. Апошняя мае прамыя аналогіі на позніх помніках культуры штрыхаванай керамікі. Пасудзіны прафіляванай формы, арнаментаваныя па верхнім

краі пальцавымі ўціскамі, блізкія па аздабленню да керамікі культуры тыпу Лукі–Райкавецкай (Этнокультурная карта..., 1985. С. 109).

Штрыхаванай керамікі знойдзены 141 фрагмент (8,9% ад агульнай колькасці керамікі). У асноўным гэта гаршкі рабрыстай формы дыяметрам у верхняй частцы 10–22 см. Керамікі з пазногцевымі зашчыпамі на знешняй паверхні знойдзена 33 фрагменты, ці 2,1 %. Асноўнай формай з'яўляюцца баначныя гаршкі дыяметрам па верхняму краю 13–16 см. Такі посуд вядомы на паселішчах Літвы ў І тыс. н. э. (Данилайте, 1967. С. 24).

Глянцаванага посуду знойдзена толькі 13 фрагментаў (0,8%). Знешняя паверхня ў іх светла-рудога і жоўтага колеру. Гэты посуд добра выраблены. У гліну дамешана дробная жарства. Сярод венцаў маюцца экзэмпляры ад посуду рабрыстай формы дыяметрам 13–18 см. Такі посуд сустракаецца на помніках культуры штрыхаванай керамікі Беларусі і Літвы (Данилайте, 1967. С. 23–24; Митрофанов, 1978а. С. 34).

На селішчы знойдзена вялікая колькасць кавалкаў жалезнага шлаку і крыц. Неаднаразова сустракаліся абломкі соплаў ад сырадутных печаў. Хоць несумненныя рэшткі печаў пакуль што не выяўлены, атрыманыя матэрыялы дазваляюць гаварыць аб існаванні тут у старажытнасці буйнога жалезаробчага цэнтра. Вытворчасць жалеза з мясцовай (лугавой) руды адбывалася часткова, відаць, на самім паселішчы, але ў асноўным на прылягаючай да яго з поўдня тэрыторыі. Паверхня яе літаральна ўсеяна кавалкамі шлаку. Засвірскае паселішча ў гэтых адносінах не з'яўляецца выключэннем. Шмат кавалкаў жалезнага шлаку знойдзена на размешчаным за 2–2,5 км на паўднёвы ўсход ад яго паселішча каля вёскі Коркі. Абследаваўшы ў 1895 годзе паселішча, Ф.В. Пакроўскі выявіў у адным месцы кучу шлаку вагой у некалькі пудоў (Покровский, 1899. С. 167).

На аснове керамікі і комлексу індывідуальных знаходак, можна выдзеліць два этапы жыцця на селішчы. Першы этап, для якога характэрны каменныя сякеры і касцяны наканечнік стралы, адносіцца да I тысячагоддзя да н. э., верагодна да першай паловы. Пачатак другога этапа, калі мець на ўвазе знаходку посахападобнай шпількі і гаршкоў рабрыстай формы розных тыпаў, патрэбна аднесці да другой чвэрці I тысячагоддзя н. э. Але пакольк і на паселішчы адсутнічае рабрыстая форма шурпатай керамікі, якая ў Літве ёсць на помніках III–V стст. , пачатак другога этапа трэба аднесці да IV–V стст. Мяркуючы па аздобленай гладкасценнай кераміцы і трапецападобнай падвесцы, верхняй датай паселішча можна лічыць VIII–IX стст. Гэтым часам (V–IX стст. ) датуецца і размешчаны паблізу курганны могільнік, на якім жыхары паселішча хавалі нябожчыкаў. Першапачаткова быў заселены правы бераг безыменнага ручая і толькі праз паўтара-два стагоддзі левы яго бераг.

Другое паселішча культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, размешчана (адносна Засвірскага селішча) на процілеглым, заходнім беразе возера Свір у наваколлі вёскі Хведзевічы. Яно, як і Засвірскае, размешчана на даволі нізкім (3–4 м ад ўзроўню вады) беразе.

Раскопкі прваводзіліся ў 1979 і 1982 гг. Культурны пласт таўшчынёй 0,3–0,8 м ускрыты на плошчы 560 м². Ён працяглы час разворваўся, таму ў верхняй частцы (на глыбіні 0,2–0,3м) быў аднародны і меў больш светлую, чым напластаванні размешчаныя ніжэй, афарбоўку. Паблізу мацерыка ў многіх месцах меліся скапленні моцна абпаленых камянёў, якія з'уляліся, несумненна, рэшткамі печаў–каменак або агнішчаў. Асобна ляжачыя камяні са слядамі дзеяння агню траплялiся на ўсёй даследаванай плошчы.

Рэчавы матэрыял паселішча нешматлікі. Знойдзены жалезны серп, посахападобная шпілька з S–падобным завітком, шпілька з невялікім кольцападобным навершам, гліняныя прасліцы, гліняныя грузікі для сетак, бронзавая трубачка, жалезныя вырабы нявызначанага прызначэння.

У сярпа ледзь-ледзь выгнутае, амаль прамое лязо і злёгку выгнутая спінка, лінія якой непасрэдна пераходзіць у лінію ручкі (мал. 54: 15). Некаторыя даследчыкі такія прылады ўборкі ўраджаю называюць жатнымі нажамі. Найбольш блізкія аналогіі хведзевіцкаму сярпу вядомы ў старажытнасцях культуры штрыхаванай керамікі (Навасёлкі, Лабеншчына, Гарадзішча) і днепра-дзвінскай культуры (Кастрыца, Барсукі) (Митрофанов, 1978а. Рис. 9: 6–8; 21: 3, 4; Шадыро, 1985. Рис. 34: 6, 7). Датуюцца такія сярпы I–IV стст. Пры гэтым найбольш раннія экзэмпляры сустракаюцца ў Прыбалтыцы.

Аналагічныя посахападобныя шпількі (мал. 54: 20) былі на працягу ўсяго I тысячагоддзя шырока распаўсюджанымі на вялізнай тэрыторыі ад вярхоўяў Волгі да Балтыйскага узбярэжжа, але асабліва шмат іх у Прыбалтыцы.

На тэрыторыі Беларусі сустракаюцца амаль на кожным паселішчы культуры штрыхаванай керамікі і днепра–дзвінскай культуры (у сярэднім Падзвінні датуюцца першымі стагоддзямі нашай эры (Митрофанов, 1978а. С. 37; Шадыро, 1985. С. 65). Нярэдкай знаходкай яны з'яўляюцца і на

помніках трэцяй чвэрці I тысячагоддзя (селішча Гарадзішча, Мікольцы).

Шпількі з кольцападобным навершам (мал. 54: 19) таксама былі распаўсюджаны на шырокай тэрыторыі, пачынаючы з эпохі бронзы да першых стагоддзяў нашай эры і пазней. У паўночнай Беларусі яны датуюцца канцом I тысячагоддзя да н. э. – пачаткам нашай эры (Шадыро, 1985. С. 63. Рис. 38: 18–24). На тэрыторыі Верхняга Павілля ўжываліся яшчэ ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя (гарадзішча Гарадзішча) (Митрофанов, 1978а. Рис. 58: 14).

Гліняныя прасліцы біканічнай формы, як ўжо адзначалася, у другой чвэрці I тысячагоддзя з'явіліся на помніках кіеўскай культуры. Пазней яны атрымалі шырокае распаўсюджанне на помніках розных культур.

Грузілы для сетак маюць выгляд круглай, авальнай у разрэзе аладкі з адтулінай на краі. Аналагічныя грузілы вядомы на помніках культуры штрыхаванай керамікі (Малышкі, Гарані) і банцараўскай культуры (Мікольцы).

Адзіным гарадзішчам, якое даследавалася ў арэале культуры ўсходнелітоўскіх курганоў Беларускага Павілля, з'яўляецца Свірскае гарадзішча. Яно размешчана на ізаляваным узгорку, які ўзвышаецца над прылягаючай мясцовасцю на 12–15 м. Схілы ўзгорка вельмі стромкія. Усход-няя частка гарадзішча разбурана кар'ерам. Захавалася частка пляцоўкі памерам 12х28м. Першапачатковы памер складаў прыкладна 30х40м.

У 1976 годзе аўтарам даследавана 48 м$^2$ плошчы. Магутнасць культурнага пласта дасягала 2,6 м. Па структуры і афарбоўцы ён вельмі розны: ад цёмна–шэрага, амаль чорнага, перамешанага з вуголлем і попелам каля мацерыка, да светлашэрага з гумусам паблізу паверхні.

Устаноўлена, што першапачаткова на ўзгорку знаходзілася паселішча эпохі ранняга жалеза, у прыватнасці культуры штрыхаванай керамікі. Яно, відаць, не мела земляных абарончых збудаванняў; надзейнай абаронай з'яўляліся перш за ўсё стромкія схілы ўзгорка. Відаць, па перыметру мелася драўляная сцяна ў выглядзе частаколу ці тыну. Працяглы час гарадзішча выкарыстоўвалася мясцовым насельніцтвам ў якасці сховішча ў час ваеннай небяспекі. З XIII ст. тут знаходзіцца замак, заснаванне якога прыпісваецца літоўскаму князю Даўмонту. Пазней ім валодалі князі Свірскія. Драўляны замак быў абнесены кольцападобным валам вышынёй да трох метраў. Апісанне руін замка маецца ў польскага храніста М. Стрыйкоўскага.

Сярод рэчавых знаходак найбольш шматлікімі з'яўляюцца ўпрыгожанні: скроневыя кольцы, бразготкі, пярсцёнкі, спіралькі, бранзалет, фрагмент падковападобнай фібулы з канцом у выглядзе макавай галоўкі, фрагмент пласціны-накладкі з раслінным арнаментам.

Відаць, усе знойдзеныя скроневыя кольцы (ад некаторых захаваліся толькі абломкі) адносяцца да аднаго тыпу – пярсцёнкападобных (мал. 55: 8, 15). Усе яны зроблены з бронзавага круглага дроту. Яны прадстаўлены ў трох варыянтах: з заходзячымі канцамі (паўтараабаротныя), самкнутыя (злучаныя) і несамкнутыя.

Усе бразготкі таксама аднатыпныя - грушападобныя з крыжападобнай прараззю, ніжняя частка якіх пакрыта касой насечкай (мал. 55: 4–7). Усе яны літыя з бронзы. Аналагічныя бразготкі шырока сустракаюцца на славянскіх помніках канца I – пачатку II тысячагоддзя н. э. У Ноўгарадзе яны бытавалі ў X і XI стст. (Седова, 1959. С. 237).

Пярсцёнкі прадстаўлены двума тыпамі: спіральнымі (мал. 55: 1–3, 9, 10) і пласціністым вусатым. Пярсцёнкі першага тыпу зроблены з бронзавага круглага дроту, укладзенага спіральна ў некалькі радоў. Такія вырабы шырока вядомы сярод старажытнасцей X–XI стст. у Прыбалтыцы. У пярсцёнка другога тыпу шырокая бронзавая пласцінка заканчваецца доўгімі вузкімі вусікамі, якія абвіваліся вакол пальца. Аналагічныя пярсцёнкі вядомы на вялікай тэрыторыі, асабліва многа іх ў Прыбалтыцы. У наўгародскіх курганах сустракаюцца ў асноўным у пахаваннях XI ст. і ў меншай колькасці – у пахаваннях XII ст. (Седова, 1959. С. 254).

Бронзавыя спіралькі (мал. 54: 19, 20), аналагічныя свірскім вырабам, даволі частая знаходка ў жаночых пахаваннях VIII–IX стст. усходнелітоўскіх курганоў. Яны разам з багата арнаментаванымі чаканкай чатырохвугольнымі пласцінкамі ўваходзілі ў склад жаночага галаўнога ўпрыгожання ў выглядзе налобнай павязкі, асновай якой з'яўлялася стужка з тканіны.

Бранзалет літы. У разрэзе мае форму сплюшчанага раўнабедранага трохвугольніка (мал. 54: 13). Канцы бранзалета абламаныя. Магчыма, на іх меліся выявы галовак. Такія бранзалеты распаўсюджаны на землях Прыбалтыкі. Нямала іх і на старажытнарускіх помніках (Левашова, 1967. С. 216).

Асаблівую цікавасць уяўляе фрагмент падковападобнай фібулы з канцом у выглядзе макавай галоўкі (мал. 54: 17). Сячэнне дужкі круглае. Паверхня яе ўпрыгожана касымі вузкімі паглыбленнямі, падобнымі на віццё. У Літве фібулы з круглым сячэннем дужкі з'яўляюцца найбольш шматлікімі (277 экзэмпляраў з 520

знаходак фібул з канцамі ў выглядзе макавых галовак). Шырока распаўсюджаны ў заходняй Літве, зрэдку сустракаюцца ў цэнтральнай, і толькі аднойчы знойдзена ва ўсходняй Літве (могільнік Дукштас) (LAA. P. 147).

Знайсці аналогіі свірскай пласцінцы–накладцы (мал. 54: 29), на жаль, не ўдалося. І зрабіць гэта не так проста, паколькі захавалася толькі невялікая яе частка з адтулінамі для прымацавання да цвёрдай (дрэва, косць) або мяккай (скура, тканіна) асновы.

Жалезныя вырабы ў матэрыяле раскопак Свірскага гарадзішча прадстаўлены фрагментамі вісячых (здымных) замкоў, нажамі, наканечнікамі стрэл, вырабамі нявызначанага прызначэння.

Сярод вісячых замкоў ёсць спружынныя самазамыкаючыяся (мал. 54: 31), якія шырока прымяняліся ў Старажытнвй Русі. Яны цыліндрычнай формы з высоўнай дужкай, адзін канец якой заходзіць у цыліндр, а другі – у дадатковы прыліў на цыліндры (паміж імі маецца прамежная пласцінка). Такія замкі адмыкаліся знізу пры дапамозе ключоў, якія часам мелі вельмі складаны рысунак. Выраб замкоў патрабаваў вялікага майстэрства. Зробленыя рускімі майстрамі вісячыя спружынныя замкі ўяўлялі вялікую практычную цікавасць не толькі для насельніцтва Старажытнай Русі, але і для суседніх краін. Як адзначае Б. А. Рыбакоў, у Цэнтральнай Еўропе ў сярэднія вякі такія замкі называліся “рускімі” замкамі (Рыбаков, 1948. С. 114).

Нажы ў матэрыяле раскопак Свірскага гарадзішча прадстаўлены звычайнымі для сярэдневяковых помнікаў формамі (мал. 54: 21). У іх прамыя спінкі. Пры пераходзе ляза ў ручку маюцца ўступы як з боку спінкі, так і з процілеглага боку. Вось ручкі праходзіць паралельна спінцы і заканчваецца крыху ніжэй завостранага канца ляза. Па функцыянальным прызначэнні гэта ўніверсальныя гаспадарчыя нажы.

Наканечнікі стрэл пададзены двума тыпамі: двухшыпнымі ўтулкавымі (мал. 54: 11) і шылападобнымі тронкавымі. Двухшыпныя былі найбольш распаўсюджанай формай на тэрыторыі Польшчы і ўсёй Цэнтральнай Еўропы (Медведев,1966. С. 56). Усходнія славяне і, верагодна, літоўцы, запазычылі гэты тып у сваіх суседзяў. Шылападобныя з’явіліся на рубяжы нашай эры і ўжываліся да XIV ст. і пазней (Медведев, 1966. С. 83). Наканечнікі гэтага тыпу былі шырока распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Старажытнай Русі і ў суседніх народаў.

У калекцыі знаходак шырока прадстаўлены касцяныя вырабы: праколкі, муфтачкі, ручкі, абоймы, косці для гульні і іншыя. Разам з прымітыўнымі праколкамі з кавалкаў рога і абломкаў касцей знойдзены даволі старанна апрацаваныя вырабы з адпаліраванымі паверхнямі і старaранна завостранымі канцамі.

Муфтачкі маюць форму танкасценных цыліндрычных трубачак рознай даўжыні. Адносна іх прызначэння няма пэўнай думкі. П.Ф. Лысенка лічыць, што яны выкарыстоўваліся ў якасці абоймаў на канцах драўляных ручак ці з’яўляліся састаўнымі часткамі наборных ручак (Лысенко, 1985. С. 281).

Ручкі нажоў уяўляюць сабой цыліндрычныя стрыжні з паглыбленнямі для чаранкоў. Абоймы маюць форму круглага ці авальнага дыска з адтулінай для стрыжня ручкі нажа ў цэнтры. Яны, відаць, размяшчаліся на канцах драўляных ручак і ахоўвалі іх ад расколвання. Знойдзена масіўная авальная ў сячэнні ручка з вялікім прамавугольным (з закругленымі вугламі) паглыбленнем для нейкай вялізнай устаўкі (мал. 54: 22). Знойдзена пясцевая косць з прасвідраванай адтулінай (мал. 54: 30). Яе, відаць, трэба аднесці да ліку дзіцячых цацак. Пры вярчэнні на туга нацянутых нітках яна выдавала спецыфічны гук.

Асаблівую цікавасць ўяўляе каменная ліцейная форма (мал. 54: 16), верагодна, для вырабу полых пацерак (складаліся з дзвюх палавінак) для трохпацеркавых і шматпацеркавых скроневых кольцаў. Форма зроблена з пясчаніку. Рабочая паверхня акуратна апрацавана. У верхняй частцы маецца літок (літнік), праз які наліваўся расплаўлены метал. Пры ліцці форма звязвалася з гладкай каменнай пліткай, дзякуючы чаму адваротны бок быў гладкі і не меў ліцейных швоў.

У ніжнім гарызонце Свірскага гарадзішча знойдзена невялікая колькасць ляпной керамікі (штрыхаванай і гладкасценнай). Многа разнастайнай кругавой керамікі, у тым ліку эпохі позняга сярэдневякоўя.




Мал. 26. Планы селішча (1) і курганнага могільніка (2) Засвір




Мал. 27. Планы курганных могільнікаў: 1— Вайшкуны; 2 — Сідарышкі; 3— Пільвіны–1; 4 — Пільвіны–2




Мал. 28. Планы і профілі курганоў у Засвіры: 1 – курган № 1; 2 – курган № 2; 3 – курган № 4; 4 – курган № 3; 5 – курган № 5




Мал. 29. Планы і профілі курганоў у Засвіры: 1 — курган № 6; 2 — курган № 8; 3 — курган № 9; 4 — курган № 7; 5 — курган № 10




Мал. 30. Пахавальны інвентар з кургана № 1, пахавання № 2 у Засвіры




Мал. 31. Пахавальны інвентар з курганоў у Засвіры: 1 – 5 - з кургана № 1, пахавання № 1; 6 – 8, 10 – з кургана № 1, пахавання 2; 12- 15 – з кургана № 4, пахавання № 1; 11 – з кургана № 4, пахавання № 2




Мал. 32. Інвентар з кургана № 3 у Засвіры: 1 – 6 – з пахавання № 3; 7 – 12 – з пахавання № 2




Мал. 33. Інвентар з кургана № 3 у Засвіры: : 1 – 5 – з пахавання № 1; 6 – 8 – з пахавання № 4




Мал. 34. Інвентар з кургана № 3 у Засвіры: : 1 – 5 – з пахавання № 5; 6 – 8 – з пахавання № 6




Мал. 35. Пахавальны інвентар з курганоў у Засвіры, даследаванні К. Салевіча 1934 г.: 1—3, 5, 14, 16, 23 – з кургана № 7; 4, 10 – з кургана № 19; 6 – з кургана № 16, пахавання № 2; 7, 8, 11, 12 – з кургана № 2, пахавання № 2; 9 – з кургана № 2, пахавання № 1; 13, 15 – з кургана № 5; 17 – з кургана № 1; 18 – 21 – з кургана № 6; 22, 24, 26 – з кургана № 16, пахавання № 1; 25 – з кургана № 4 (паводле Д. Ясканіс).




Мал. 36. Гаршчкі з кургаНоў у Засвіры, даследаванні К. Салевіча 1934 г.: 1 – з кургана № 5; 2 — з кургана № 1; 3 – з кургана № 11; 4 – з кургана № 7; 5 – з кургана № 8 (паводле Д. Яcканіс)




Мал. 37. Планы і профілі курганоў у Лынтупах: 1 – курган № 1; 2 – курган № 2;
3 – курган № 3; 4 – курган № 5




Мал. 38. Планы і профілі курганоў у Лынтупах: 1 – курган № 4; 2- курган № 6;
3 – курган № 8; 4 – курган № 9




Мал. 39. Пахавальны інвентар з карганоў у Лынтупах: 1, 2 – з кургана № 2; 3 – 8 – з кургана № 3; 9, 11, 16 – з кургана № 4; 10 – з кургана № 9; 12 – 15 – з кургана № 5; 17 – з кургана № 8; 18 – з кургана № 7; 19 – з кургана № 6




Мал. 40. Гаршчкі з кургана № 5 у Засвіры (1) і з кургана № 8 у Лынтупах (2)




Мал. 41. Планы і профілі курганоў у Вайшкунах: 1 - курган № 1; 2 – курган № 3; 3 – курган № 4; 4 – курган № 5




Мал. 42. Планы і профілі курганоў у Вайшкунах: 1 – курган № 2; 2 – курган № 6; 3 – курган № 8; 4 – курган № 9; 5 – курган № 7




Мал. 43. Пахавальны інвентар з курганоў у Вайшкунах: 1 – 26, 28, 30 – 32 – з кургана № 5; 27 – з кургана № 6; 29, 33 – з кургана № 1




Мал. 44. Упрыгожанні жанчыны с Вайшкун (рэканструкцыя) (А); пахавальны інвентар з могільніка Каробкі: 1 — наканечнік кап'я, 2 — умбон; 3 — сякера (Б)




Мал. 45. Пахавальны інвентар з кургана могільніка Ашмянец: 1 – серп: 2, 5 – прадметы нявызначанага прызначэння: 3, 4 – гаршчкі; 6 – 10 – крэсівы; 11- 13 – кольцы; 14 – тачыльны камень; 15, 16 – накладкі; 17 – грыўня; 18, 19 – брытвы (паводле Э.М. Зайкоўскага)




Мал. 46. Пахавальны інвентар з кургана могільніка Ашмянец: 1 – 5 – пярсцёнкі; 6 – бразготка; 7, 8, 15, 19 – спражкі; 9, 18, 22, 26 – кольцы; 10 – трымальнік; 11 – 13, 20 – накладкі; 14 – дэфармаваная шкляная пацерка; 16, 17, 21, 27 – бранзалеты; 23, 24 – ключы; 25 – падвеска (паводле Э.М. Зайкоўскага)




Мал. 47. Прадметы ўзбраення і рыштунку воіна з кургана могільніка Ашмянец: 1 – меч; 2–7 – наканечнікі коп’яў; 8 – наверша булавы; 9 – наканечнік ножнаў мяча; 10–12, 16 – баявыя нажы; 13, 14, 17, 18 – сякеры; 15, 19 – шпоры (паводле Э.М. Зайкоўскага)




Мал. 48. Могільнік Сідарышкі: 1 – план і профілі кургана № 7; 2 – 8 – інвентар з кургана № 3




Мал. 49. Знаходкі з селішча Засвір: 1- 6 – нажы; 7, 8, 14 – шылы; 9 – разец; 10, 15, 17 – прадметы нявызначанага прызначэння; 11, 12 – пінцэты; 13 – шпілька; 16 – падвеска; 18 – спіралька; 19, 20 – рыбалоўныя кручкі; 21, 24, 25 – цвікі; 22 – крэсіва; 23 – пярсцёнак; 26 – фрагмент шыйнай грыўні; 27 – лязо сякеры; 28 – бляшня




Мал. 50. Знаходкі з селішча Засвір: 1 – тыгель; 2 – 7, 12 – 15, 18, 19, 21, 22 – прасліцы; 8 – 10 – шкляныя пацеркі; 11 – злітачак шкла; 16 – наканечнік стралы; 17, 26 – прадметы нявызначанага прызначэння; 20, 23, 25 – абломкі каменных сякер; 24 – тачыльны камень



Мал. 51. Селішча Засвір. Ляпная кераміка




Мал. 52. Селішча Засвір. Кераміка



Мал. 53. Селішча Засвір. Ганчарная кераміка



Мал. 54. Знаходкі з селішча Хвадзевічы: 1 – 10 – крамянёвыя прылады; 11-14, 27-33 – фрагменты керамікі; 15 – серп; 16 – нож; 17, 21-23 – шылы; 18 – трубачка; 19, 20 – шпількі; 24 – прадмет нявызначанага прызначэння; 25 – грузіла; 26 – прасліца



Мал. 55. Знаходкі з гарадзішча Свір: 1 – 3, 9, 10 – пярсцёнкі; 4- 7 – бразготкі; 8, 15 – скроневыя кольцы; 11 – наканечнік стралы; 12, 31 – замкі;13 – бранзалет; 14, 18, 23, 28 – вырабы з косці; 16 – ліцейная форма; 17 – фібула; 19, 20 – спіралькі; 21 – нож; 22 – касцяная ручка; 24, 25, 27 – прасліцы; 26 – шыла; 29 – накладка; 30 – ігральная косць




Мал. 56. Кераміка са Свірскага гарадзішча




Мал. 57. Кераміка са Свірскага гарадзішча

# ГЛАВА ІІІ. ПОМНІКІ БАНЦАРАЎСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Ужо ў другой чвэрці І тысячагоддзя н. э. у жыцці плямён сярэдняй і паўночнай Беларусі абазначыліся істотныя перамены. Яны былі абумоўлены як унутранымі, так і знешнімі абставінамі.

Сярод унутраных абставін – значнае развіццё падсечна-агнявога (ляднага) земляробства і звязанай з ім жывёлагадоўлі, ускладненне і ўдасканаленне дамашніх рамёстваў і перш за усё – металургіі жалеза. Патрыярхальна-абшчынныя адносіны стрымлівалі далейшы рост вытворчых сіл. Яны, як правільна адзначаў А.Р. Мітрафанаў, абмяжоўвалі прыватную ініцыятыву найбольш прадпрымальных малых сем'яў і гэтым стрымлівалі індывідуалізацыю вытворчасці, заміналі асваенню новых зямель, ускладнялі гандлёвы і культурны абмен паміж родамі і плямёнамі і г. д. (Митрофанов, 1978а. С. 84). Вось чаму трэцяя чвэрць І тысячагоддзя н. э. з'явілася перыядам паскоранага распаду першабытнаабшчыннага ладу.

Разам з тым гэта быў перыяд бесперапынных войн славянскіх і іншых плямёнаў з Візантыйскай імперыяй, пастаянных набегаў на землі славян вандроўнікаў. Усё гэта не магло не датычыць лёсу плямён, засяляўшых тэрыторыю Беларусі, не выклікаць сярод іх значнага перамяшчэння. Пачынаючы з сярэдзіны І тысячагоддзя н. э. на землі сярэдняй і паўночнай Беларусі пранікае новае насельніцтва – плямёны кіеўскай культуры або культуры тыпу Абідні (ад назвы селішча ў Верхнім Падняпроўі).

Насельніцтва кіеўскай культуры жыло на селішчах, размешчаных па берагах рэк і азёр, на невысокіх узвышшах сярод балот ці па краях надпойменных тэрас. У асобных выпадках селішчы размяшчаліся побач з раней узнікшымі гарадзішчамі. Існавалі жытлы двух тыпаў: наземныя і паўзямлянкі. Канструкцыя сцен слупавая ці зрубная. Заняткі насельніцтва: земляробства, жывёлагадоўля, рыбалоўства. Добра былі развіты ганчарства, чорная і каляровая металургія, ткацтва. Пахавальны абрад – трупаспаленні па–за межамі пахаванняў, урнавыя ці бязурнавыя ў грунтавых магілах.

З пранікненнем плямён кіеўскай культуры большасць даследчыкаў звязвае змену культуры штрыхаванай керамікі ў сярэдняй Беларусі і днепра-дзвінскай культуры ў паўночнай яе частцы банцараўскай культурай. Матэрыялы гэтай культуры ўпершыню былі выяўлены ў 1920-я гады С.А. Дубінскім у верхнім пласце Банцараўскага гарадзішча, размешчанага на левым беразе ракі Свіслачы за 2,5 км на паўночны ўсход ад чыгуначнай станцыі Ждановічы (зараз вадасховішча Дразды). Адсюль некаторыя даследчыкі называюць яе культурай тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

### 1. Паселішчы

У адрозненне ад плямён днепра–дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, якія жылі на гарадзішчах, асноўным тыпам паселішч у насельніцтва банцараўскай культуры былі адкрытыя неўмацаваныя селішчы. Працэс змены гарадзішч селішчамі, на думку А.Р. Мітрафанава, пачаўся ў IV ст. н. э. і не пазней V ст. н. э. паўсюдна, на ўсёй тэрыторыі распаўсюджання банцараўскай культуры, закончыўся (Митрофанов, 1978а. С. 85).

Як і ў іншых рэгіёнах, у басейне Верхняй Віліі існуюць дзве групы селішч банцараўскай культуры. Селішчы першай групы размяшчаюцца на берагах азёр, пакатых узвышшах у поймах рэк або мысападобных узвышшах надпойменных тэрас. Гэтыя селішчы не звязаны з гарадзішчамі папярэдняга часу. Адлегласць паміж імі і бліжэйшымі гарадзішчамі часам дасягае дзесяці і больш кіламетраў. Селішчы другой групы цесна звязаны з гарадзішчамі і размяшчаліся ў непасрэднай блізкасці ад іх (часцей за ўсё – каля падножжа).

Паводле назіранняў А.Р. Мітрафанава, на першай стадыі развіцця банцараўскай культуры (V–VI стст. н. э. ) яе носьбіты жылі на селішчах толькі першай групы. Гэта сведчыць аб тым, што палітычныя абставіны былі тады спакойнымі. І толькі пазней (канец VI ст. н. э.) у сувязі з іх абвастрэннем узнікаюць селішчы каля гарадзішч, іх жыхары павінны былі прыняць меры для забеспячэння сваёй бяспекі. Яны пераўтвараюць закінутыя да гэтага часу раннія гарадзішчы ў крэпасці-сховішчы: насыпаюць дадатковыя земляныя абарончыя валы, падсыпаюць краі пляцовак, на грэбнях валоў і краях пляцовак узводзяць драўляныя сцены (Митрофанов, 1978а. С. 85, 87–88).

Да ліку паселішч першай групы адносяцца селішчы каля вёсак Курчына (левы бераг ракі Сэрвач, іх тут чатыры), Равячкі (правы бераг Сэрвачы) Мядзельскага раёна, Сосенка (левы бераг Віліі), Гуры (правы бераг Сэрвачы) Вілейскага раёна. Да паселішч другой групы адносяцца гарадзішчы і селішчы паблізу вёсак Гарадзішча, Мікольцы і Некасецк Мядзельскага раёна.

На трох ранніх селішчах (Гуры, Равячка і Сосенка) праведзены раскопачныя работы.

Найбольш ранні комплекс рэчаў выяўлены на селішчы каля вёскі Равячкі (мал. 58: 1). Акрамя гэтага, тут ускрыты грунтовыя пахаванні, якія па дэталях пахавальнага абраду з'яўляюцца поўнай аналогіяй грунтавых могільнікаў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. у Верхнім Падняпроўі (мал. 58: 2). Селішча размешчана за 1 км на паўднёвы захад ад вёскі на доўгім пакатым грудку, які цягнецца ўздоўж моцна забалочанага берага ракі. Даўжыня грудка 165 м, шырыня 30—35 м, вышыня над узроўнем ракі не больш за 4—5 м. Мясцовая назва ўрочышча Васіліха.

У 1973—1975 гг. А. Р. Мітрафанаў вёў раскопачныя работы ва ўсходняй частцы селішча. Культурны пласт ускрыты на плошчы 1292 м$^2$. Магутнасць культурнага пласта не перавышае 0,5—0,65 м. Паколькі грудок доўгі час разорваўся, адразу пад дзёранам да глыбіні 0,2—0,25 м залягае аднародны па сваёй структуры слой цёмна-шэрага колеру. Ніжэй культурны пласт мае чорную афарбоўку. Прадмацерыковая праслойка жоўта-карычневага колеру таўшчынёй не больш 0,1 м. У ёй выяўлены абломкі керамікі эпохі бронзы, крамянёвыя наканечнікі стрэл, крамянёвыя адшчэпы. Значыць, на месцы селішча знаходзілася стаянка бронзавага веку.

Пры разборцы культурнага пласта на ўсёй даследаванай плошчы на глыбіні 0,15—0,2 м выяўлена многа камянёў рознай велічыні. У некаторых месцах яны ляжаць даволі шчыльна і ўтвараюць суцэльныя вымасткі. Залягаюць у большасці ў адзін рад, але сустракаюцца ў два і нават у тры рады. Пераважная большасць дробных камянёў не нясе на сабе слядоў дзеяння агню. Зато буйныя камяні, як правіла, абпалены. Відавочна, яны, як і дробныя камяні, пабываўшыя ў агні, з'яўляюцца рэшткамі адкрытых агнішчаў ці печаў-каменак. Астатнія хутчэй за ўсё былі прынесены на паселішчы для абарончых мэт. Большасць камянёў залягала на паўднёвым краі селішча, уздоўж берага Сэрвачы, адкуль напад ворагаў быў найбольш верагодным (з усіх астатніх бакоў паселішча было абаронена забалочанай поймай ракі).

Паселішча датуецца V—VI стст. н. э. Мяркуючы па характары керамікі, яно было заснавана абшчынай роднаснай плямёнам днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Аднак, відавочна, неўзабаве ім авалодала насельніцтва, прыйшоўшае з паўднёва-ўсходняй Беларусі (Митрофанов, 1978а. С. 87).

Селішча Гуры размешчана на паўднёвай ускраіне аднайменнага хутара. У спецыяльнай літаратуры яно вядома пад назвай Задвор'е. (У афіцыйных дакументах хутар Гуры ўжо не існуе, хаця там жывуць людзі) Яно займае палогае мысападобнае ўзвышша, абмежаванае з усходу берагам Сэрвачы, з поўдня і паўднёвага захаду — месцамі забалочанай поймай гэтай ракі. Плошча селішча каля 0,7 га.

У 1971 годзе А.Р. Мітрафанаў правёў раскопкі ва ўсходняй частцы селішча. Культурны пласт ускрыты на плошчы 328 м$^2$. Таўшчыня пласта не перавышала 0,25—0,3 м. Ён цёмна-шэрай афарбоўкі ў верхняй частцы і амаль чорнай у ніжняй. Па кераміцы і комплексу рэчаў (а насычанасць культурнага пласта знаходкамі надзвычай слабая) селішча датуецца V—VI стст. н. э. ).

Пазней (VIII—IX стст. н. э. ) на значнай частцы селішча былі насыпаны курганы, пры ўзвядзенні якіх моцна пашкоджаны культурны пласт селішча. У 1965 годзе могільнік налічваў яшчэ не менш 70 насыпаў. У 1971 г. іх было ўжо 66, а ў 1985 г. – 55, у тым ліку 19 круглых і 36 падаўжаных. У 1955—1956, 1965, 1971—1972 гадах А. Р. Мітрафанаў даследаваў 16 курганоў. Два паўразбураныя насыпы раскапалі ў 1956 гаду Л. Д. Победь і Э. М. Загарульскі. У насыпах курганоў знойдзены рэчы, аналагічныя тым, якія выяўлены ў некранутых напластаваннях селішча.

Трэцяе, падвергнутае раскопачным работам селішча першай групы, размяшчаецца за 1 км на паўднёвы захад ад вёскі Сосенкі, на востраве Вілейскага вадасховішча. Раней гэта быў левы даволі высокі карэнны бераг р. Віліі. Калісьці рака працякала побач з паселішчам. У апошнія перад затапленнем часы тут была старыца, якая злучалася з ракой толькі ў час веснавой паводкі.

Як і на паселішчы Равячка, у культурным пласце гэтага селішча таксама сустракаюцца матэрыялы больш ранняга часу. Знойдзены фрагменты грабеньчатай керамікі з дамешкамі раслінных рэштак у гліне, крамянёвыя скрабкі, разцы, рэтушаваныя адшчэпы. Выходзіць, на месцы селішча знаходзілася неалітычная стаянка (М. М. Чарняўскі датуе яе IV – канцом III тысячагоддзя да н. э. ).

Падобна паселішчу Гуры, на Сосенскім селішчы таксама размяшчаўся курганны могільнік, які налічваў 23 насыпы: 17 круглых і 6 падоўжаных. У 1972 г. у сувязі з мяркуемым затапленнем помніка водамі Вілейскага вадасховішча ўсе курганы былі раскапаны аўтарам. Адначасова была даследавана тая частка селішча, якая была занята могільнікам, больш дакладна: знаходзілася паміж насыпамі (каля 250–300 м$^2$). Культурны пласт тут быў пашкоджаны пры ўзвядзенні курганоў. Іх насыпы амаль цалкам

складаліся з шэрай, месцамі цёмна–шэрай зямлі, аналагічнай культурнаму пласту селішча. Праслойкі жоўтага мацерыковага пяску былі нязначнымі і прасочваліся далёка не ва ўсіх курганах. У насыпах часта трапляліся фрагменты керамікі, крамянёвыя адшчэпы і прылады эпохі неаліту. Многа было вырабаў з каменю і гліны, але асабліва шмат металічных прадметаў, характэрных для банцараўскай культуры. Як і два папярэднія (Равячка і Гуры), Сосенскае паселішча ўзнікла не пазней V ст. н. э. , але ў адрозненне ад іх спыніла існаванне не ў VI ст. , а ў VII, магчыма нават пачатку VIII ст. н. э.

З ліку паселішч другой групы , гэта значыць тых, якія размяшчаліся ў непасрэднай блізкасці ад гарадзішч, значныя раскопачныя работы праведзены на селішчах паблізу вёсак Гарадзішча і Мікольцы. Невялікія раскопкі былі на селішчы каля вёскі Некасецк.

Як ужо адзначалася вышэй, паселішчы другой групы ўзнікаюць пазней селішч першай групы (не раней VI ст. н. э. паводле А.Р. Мітрафанава). Старыя запусцелыя гарадзішчы жыхары селішч дадаткова ўмацоўваюць і выкарыстоўваюць у якасці сховішч у выпадку ваеннай небяспекі.

Адным з такіх старых (культуры штрыхаванай керамікі) гарадзішч, пераўтвораных у сховішча, з'яўляецца гарадзішча каля вёскі Гарадзішча (мал. 2: 2). Яно размешчана на мысе ўзвышша, якое пачынаецца каля паўночнай ускраіны вёскі і на працягу 200–250 м цягнецца ў паўночна-заходнім напрамку. Вышыня мыса над прылягаючай мясцовасцю 8–10 м Пляцоўка гарадзішча авальнай формы, памерам 62 х 36 м, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Умацавана двума дугападобнымі валамі: унутраным вышынёй 0,6–0,7 м, шырынёй 8–10 м, які праходзіў па краю пляцоўкі (разбураны кар'ерам), і вон-кавым, размешчаным на схіле ўзвышша, на 4 —5 м ніжэй краю пляцоўкі. Паміж валам і схілам маецца роў. З паўночнага боку вал і роў утвараюць тэрасу.

Даследаваннямі, праведзенымі А.Р. Мітрафанавым у 1969–1973 гг., устаноўлена, што гарадзішча неаднаразова перабудоўвалася. Яно было заснавана абшчынай, якая належала да плямён, блізкіх насельніцтву мілаградскай культуры (датуецца VII–III стст. да н. э.). Першымі жыхарамі на краі пляцоўкі была ўзведзена драўляная абарончая сцяна, якая згарэла. Пазней гарадзішчам авалодала новая абшчына, якая належала да плямён культуры штрыхаванай керамікі. Новае насельніцтва ў канцы I тысячагоддзя да н. э. – пачатку I тысячагоддзя н. э. значна павялічыла пляцоўку, для чаго культурны пласт быў зрэзаны і перамешчаны на схілы. Па краі пляцоўкі была ўзведзена новая сцяна, якая таксама была знішчана пажарам. У канцы III – пачатку IV стст. н. э. жыццё на гарадзішчы спынілася. Яно прыйшло ў запусценне. Новая, на гэты раз карэнная перабудова гарадзішча адбылася ў VI ст. н. э. Гэта зрабілі жыхары ўзнікшага побач з ім селішча. Яны яшчэ больш павялічылі пляцоўку, зрабілі схілы больш стромкімі. З усходняга боку па краі пляцоўкі насыпалі вал (унутраны), а на схіле выкапалі роў і насыпалі другі вал (вонкавы). З трох астатніх бакоў пляцоўка была абнесена новай абарончай сцяной. У гэты час гарадзішча выкарыстоўвалася як сховішча ў выпадку ваеннай небяспекі для насельніцтва, якое жыло на селішчы (Митрофанов, 1978а. С.88–89).

На адным узроўні з рэшткамі апошняй абарончай сцяны выяўлена вялікая колькасць камянёў рознай велічыні (дыяметрам ад 5–7 да 20–25 см). Нічым не замацаваныя паміж сабой, яны залягалі ў адзін, два, тры, а месцамі і больш радоў. У месцах максімальнай канцэнтрацыі ўтваралі суцэльныя пляцоўкі 2–7 м даўжынёй і 1,8–3,6 м шырынёй. Слядоў дзеянню агню на іх не было. Відавочна, гэта запасы камянёў, прынесеных на гарадзішча ў абарончых мэтах. Аналагічныя каменныя пляцоўкі выяўлены на шэрагу гарадзішч культуры штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай. Вядомы яны і на гарадзішчах тушамлінскай культуры (IV–VIII стст. н. э. ) Смаленшчыны і Усходняй Беларусі (Третьяков, Шмидт, 1963. С. 65). Таўшчыня культурнага пласта на гарадзішчы вагаецца ад 0,15–0,2 м у цэнтры пляцоўкі да 1,5–1,7 м каля яе краёў.

З паўночнага, паўночна-заходняга і заходняга бакоў да гарадзішча прымыкае селішча. Яно размешчана на пакатых схілах узвышша, найбольш высокую частку якога займала крэпасць – сховішча. Плошча, занятая селішчам, мае нахіл на поўнач і паўночны ўсход. Большая яе частка доўгі час разворвалася. Некранутай засталася паласа шырынёй 10–15 м, якая прымыкае да вонкавага вала. Культурны пласт прасочваецца на плошчы не менш 2–2,5 га.

У 1965–1972 гг. А.Р. Мітрафанаў ускрыў на селішчы 2612 м$^2$. Раскопкі праводзіліся на паўночным схіле ўзвышша. Таўшчыня культурнага пласта ад 0,15–0,2 м да 0,6–0,7 м. Па афарбоўцы і ў нейкай ступені па структуры ён дзеліцца на два гарызонты: верхні шматразова перааралы, цёмна – шэрага колеру таўшчынёй 0,2–0,25 м і ніжні, непатрывожаны разворваннем чорнай афарбоўкі. Селішча датуецца VI–VII стст.

У адрозненне ад гарадзішча каля вёскі Гарадзішча, на якім жыццё працягвалася доўгі час, Мікольскае не з'яўлялася месцам пастаяннага

пражывання, а выкарыстоўвалася толькі ў якасці сховішча. Яно размешчана за 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі і прыкладна на такой жа адлегласці на поўнач ад возера Мястра. Яно займае асобны ізаляваны пагорак больш 10 м вышынёй. Мясцовая назва Чорная Гара. З трох бакоў да яго прымыкае ворнае поле. За 40–50 м на поўнач ад гарадзішча знаходзіцца забалочаная катлавіна, якая яшчэ нядаўна была вадаёмам. Пляцоўка амаль круглая, памерам 35 х 40 м. Земляныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Відавочна, адзіным умацаваннем з'яўлялася драўляная сцяна па перыметру пляцоўкі. Не выключана, што жыхары ўзнікшага каля падножжа гарадзішча паселішча ў адных месцах падразалі, а ў іншых падсыпалі схілы пагорка з мэтай надання ім большай стромкасці. Культурны пласт на гарадзішчы маецца толькі на асобных участках. У цэнтры пляцоўкі ён не больш 0,2 м. Каля краю месцамі дасягае 0,4–0,5 м. Усюды, дзе быў выяўлены, аморфны па сваёй структуры, моцна перамешаны.

З трох бакоў да гарадзішча прымыкае селішча. Яно размешчана на пакатых схілах пагорка і прылягаючых да яго ўчастках з адносна роўнай паверхняй. Культурны пласт прасочваецца на плошчы не менш 3–3,5 га.

У 1981–1983 і 1986–1992 гг. даследаванні праводзіў аўтар. Культурны пласт ускрыты на плошчы 1712 м$^2$. З паўднёвага боку гарадзішча даследавана на плошчы 180 м$^2$, з усходняга – 292 м$^2$, з паўночна-заходняга, заходняга і паўднёва-заходняга – 1240 м$^2$. Магутнасць культурнага пласта вагалася ад 0,3–0,35 м да 1,7–1,9 м. На большай частцы раскапанай плошчы яна складала 0,6–0,9 м. Па комплексу рэчаў і керамічнага матэрыялу селішча датуецца VI–IX стст.

Як ужо адзначалася вышэй, невялікія раскопачныя работы праведзены на селішчы, размешчаным каля гарадзішча паблізу вёскі Некасецк. Яно размешчана за 1,5 км на захад ад вёскі, на высокім з абрывістымі схіламі пагорка. З паўднёвага, усходняга і заходняга бакоў вышыня ад падножжа – 9 м, з паўночнага боку – 7 м. Мясцовая назва Чорная Гара. Пляцоўка авальнай формы, выцягнута з поўначы на поўдзень, нахілена ў паўднёвым напрамку. Яе памеры 47 х 39 м. Пляцоўка доўгі час разворвалася.

У 1953 годзе А. Р. Мітрафанаў даследаваў 40 м$^2$ культурнага пласта. Выяўлены тры гарызонты: ніжні са знаходкамі, характэрнымі для культуры штрыхаванай керамікі, сярэдні з матэрыяламі банцараўскай культуры і верхні з рэчамі эпохі Кіеўскай Русі. Значыць, жыццё на гарадзішчы працягвалася, праўда, з перапынкамі, доўгі час: з I да XI ст. н. э. уключна. Больш дакладнае датаванне гарадзішча I–IV, VI–VIII і X–XI стст.

Вакол гарадзішча на працягу 50–70 м ад яго падножжа знаходзіцца селішча банцараўскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі. Яго плошча 1,3 га. Культурна пласт мае цёмна–шэрую афарбоўку, а ў тых месцах, дзе, як высветлілася пры раскопках размяшчаліся жытлы, чорны колер. Пры абследаванні селішча ў 1953 годзе А.Р. Мітрафанаў налічыў на свежаўзараным полі 18 чорных плям, якія засталі на месцы жытлаў (Митрофанов, 1965. С. 30).

У 1965 годзе А.Р. Мітрафанаў правёў у паўднёва–усходняй частцы селішча раскопачныя работы. Адзін раскоп плошчы 35 м$^2$ быў закладзены на краі селішча, за 70–80 м ад гарадзішча. Таўшчыня культурнага пласта была не больш 0,3–0,4 м. Другі раскоп плошчай 64 м$^2$ знаходзіўся за 50 м на поўнач ад першага. Таўшчыня культурнага пласта тут дасягала 0,6–0,65 м. У сувязі з тым, што плошча селішча доўгі час разворвалася, верхні слой да глыбіні 0,2–0,25 м меў шэрую ці цёмна-шэрую афарбоўку, ніжні – інтэнсіўна чорны колер і быў насычаны дробнымі вугалькамі.

**2. Жытлы**

Адным з асноўных элементаў матэрыяльнай культуры грамадства з'яўляецца жытло. Даследаваннямі апошніх дзесяцігоддзяў устаноўлена, што ў плямён банцараўскай культуры існавалі два тыпы жытлаў: паўзямлянкі зрубнай канструкцыі і наземныя жытлы слупавой канструкцыі. Для абодвух тыпаў былі аднолькава характэрны адкрытыя агнішчы, якія звычайна размяшчаліся паблізу цэнтра, ці печы-каменкі, што найчасцей знаходзіліся ў далёкім ад уваходу куце.

На селішчы Равячка выяўлены рэшткі чатырох жытлаў: двух паўзямлянак (адна з іх ускрыта не поўнасцю) і двух наземных. Яма цалкам ускрытай паўзямлянкі мела ў плане прамавугольныя абрысы памерам 4 х 3,8 м і была арыентавана па лініі паўднёвы ўсход – паўночны захад. Глыбіня ямы 0,3–0,45 м. Ад сцен ніякіх слядоў не захавалася. Памеры жытла аўтар раскопак вызначыў па контурах максімальна паглыбленай часткі ямы: даўжыня 3,3 м, шырыня 2,45 м. У паўночна-ўсходнім куце знаходзілася агнішча. Яно мела выгляд пакладзеных пераважна ў адзін рад дробных, моцна абпаленых камянёў, якія ляжалі на невялікай (0,2 м над земляной падлогай) пясочнай падсыпцы (Митрофанов, 1978. С. 86). Яма другой паўзямлянкі мела, відавочна, авальныя абрысы (прынамсі, ускрытая яе частка мела форму паўавала памерам 2,6 х 2,5 м). Арыентавана па старанах свету. Глыбіня ямы 0,6

м. У паўночна-усходнім куце на невялікім (0,15–0,2 м) павышэнні знаходзілася печ-каменка. Ад яе застаўся развал абпаленых камянёў рознай велічыні. Як і ў папярэдняй яме, ніякіх слядоў ад сцен жытла не захавалася. Адсутнасць ям ад слупоў дазваляе меркаваць, што абодва яны мелі зрубную канструкцыю.

Абодва наземныя жытлы арыентаваны па старанах свету. Яны злёгку ўрэзаны ў пакаты схіл пагорка. Глыбіня ямы каля паўднёвай сцяны аднаго з іх складала 0,4 м, другога – 0,2 м. Каля паўночных сцен абодвух жытлаў ямы выходзілі на дзённую паверхню. Памеры ям: 4,26 х 4 м і 3,8 х 3 м. Вызначыць памеры саміх жытлаў цяжка, паколькі ад сцен нічога не захавалася. Слядоў ям ад слупоў таксама не выяўлена. Печы-каменкі размяшчаліся ў кутах. Відаць, абодва жытлы былі зрубнымі.

На селішчы Гуры слядоў сцен жытлаў не выяўлена. Пад насыпам аднаго з курганоў ускрыта аморфных абрысаў пляцоўка з абпаленай гліны таўшчынёй 0,15–0,2 м. Верагодна, гэта рэшткі адкрытага агнішча. Акрамя таго, у адным месцы раскопу 1971 года трапіўся развал розных па велічыні камянёў са слядамі дзеяння агню. Відавочна, гэта рэшткі печы-каменкі.

На селішчы Сосенка ўскрыта некалькі печаўкаменак у выглядзе развалу моцна абпаленых камянёў рознай велічыні, якія ляжалі ў праслойках цёмна-шэрай зямлі з вугалькамі і попелам. У двух месцах выяўлены круглыя ў плане пляцоўкі дыяметрам каля 1 м моцна перапаленага пяску аранжава-чырвонага колеру з вуглямі, попелам і невялікай колькасцю камянёў. Напэўна, гэта рэшткі агнішчаў. Сляды сцен ні ў адным выпадку не прасочаны. Аднак можна не сумнявацца, што жытлы былі наземнымі. Ям, якія засталіся ад паўзямлянак, на даследаванай плошчы не было.

Найбольш грунтоўныя звесткі аб характары і канструкцыі жытлаў банцараўскай культуры не толькі на тэрыторыі басейна Верхняй Віліі, але і ўсёй Беларусі, атрыманы ў выніку даследавання селішча каля вёскі Гарадзішча. Навуковая каштоўнасць гэтага паселішча перш за ўсё і заключаецца ў тым, што тут добра ў параўнанні з іншымі помнікамі, захаваліся жылыя комплексы.

За ўсе гады даследаванняў на Гарадзішчанскім селішчы ўскрыты рэшткі 42 жытлаў (мал. 59: 1–6; 60: 1–6) і 17 гаспадарчых ям. Паводле канструкцыйных асаблівасцей А. Р. Мітрафанаў дзеліць жытлы на тры групы. Да першай ён адносіць наземныя жытлы, да другой – таксама наземныя, але ўрэзаныя ў схіл узвышша, да трэцяй – паўзямлянкавыя жытлы (Митрофанов, 1978а. С. 90).

У першай групе сем жытлаў. Пяць з іх слупавой і два зрубнай канструкцыі. Граніцы жытлаў слупавой канструкцыі прасочваліся па ямах ад слупоў, якія размяшчаліся па вуглах і ўздоўж сцен. Граніцы зрубных жытлаў вызначаліся па рэштках ніжніх вянцоў, якія выступалі ў выглядзе абгарэлых бярвён ці скопішчаў вугалю, якія размяшчаліся ўздоўж сцен. Рэшткі жытлаў абодвух тыпаў у выглядзе чорных плям выразна выдзяляліся на фоне жоўтага мацерыковага пяску.

Сцены шасці наземных жытлаў арыентаваны па старанах свету, аднаго – па лініі паўночны ўсход – паўднёвы захад. Тры жытлы мелі ў плане прамавугольную форму, чатыры – трапецападобную. У апошніх розніца ў даўжыні процілеглых сцен вагалася ад 0,05 да 0,55 м. Да аднаго з жытлаў трапецападобнай формы (№ 24) прымыкала прыбудова слупавой канструкцыі такой жа формы (розніца ў даўжыні процілеглых сцен – 0,45 і 0,6 м). Яна, відавочна, выконвала функцыю сяней.

У пяці жытлах знаходзіліся адкрытыя агнішчы, у адным – печ-каменка, у адным ні агнішча, ні печы не выяўлена. Ад печы-каменкі засталіся развалы моцна абпаленых камянёў рознай велічыні. Мяркуючы па ўстройству печаў на іншых сінхронных селішчах Беларусі (Замкавая Гара ў Барысаўскім раёне) найбольш буйныя камяні звычайна падтрымлівалі пярэднюю частку скляпення печы. Лепш захаваліся адкрытыя агнішчы. Яны маюць выгляд гліняных пляцовак круглай або авальнай формы. Таўшчыня слоя моцна абпаленай гліны 8–12 см. У гліне знаходзіліся камяні дыяметрам 7–8 см.

Жытлы першай групы размяшчаліся на роўным ці амаль на роўным месцы, таму іх падлога на ўсёй яе плошчы была апушчана ў зямлю аднолькава: на 0,1–0,2 м. У адрозненне ад іх жытлы другой групы размяшчаліся на схілах узвышша. Таму іх сцены, звернутыя ў бок вяршыні, былі ўрэзаны ў зямлю, а процілеглыя выходзілі на дзённую паверхню. Глыбіня ўрэзкі залежала ад стромкасці схіла. Яна вагалася ад 0,4 да 1,2 м.

Ускрыты дваццаць жытлаў другой групы. Пяць з іх мелі слупавую канструкцыю, астатнія – зрубную. Сцены пераважная большасці жытлаў былі арыентаваны па старанах свету. У чатырох жытлах знаходзіліся адкрытыя агнішчы, у трынаццаці – печы-каменкі, у трох ні агнішчаў, ні печаў не выяўлена. Лепш, чым у іншых, захавалася агнішча ў жытле слупавой канструкцыі № 3. Яно знаходзілася ў цэнтры пабудовы. Форма авальная, памеры 1,65 х 1,3 м. Слой чыстай гліны таўшчынёй 15–20 см пакладзены на вымастку з дробных камянёў, якія выкладзены даволі акуратна ў адзін рад. Уздоўж заходняга і

паўночна-заходняга краю агнішча ў гліну ўмазаны даволі буйныя камяні, верхнія часткі якіх выходзяць на паверхню. Гэта, верагодна, было зроблена для таго, каб гарачыя вуглі не сыпаліся пад ногі гаспадыні. Якраз з заходняга боку да агнішча прымыкала чашападобная яма памерам 1,5 х 0,8 м і глыбінёй 0,35 м, у якой гаспадыні было больш зручна працаваць. Ямы каля агнішчаў прасочваліся і ў іншых жытлах. Падобна як і ў жытлах першай групы ад печаў–каменак захаваліся, як правіла, толькі развалы моцна абпаленых камянёў.

У жытлах абодвух тыпаў агнішчы размяшчаліся амаль пасярэдзіне пабудоў, бліжэй да адной са сцен, а печы-каменкі – у адным з вуглоў. Жытлы абодвух тыпаў былі невялікіх памераў. Плошча аднаго жытла першай групы была менш за 7 м$^2$, астатніх шасці вагалася ад 10 да 15,5 м$^2$. Плошча дзесяці жытлаў другой групы не перавышала 8–9 м$^2$, плошча шасці вагалася ў межах ад 10 да 14 кв. м і толькі чатырох дасягала 19–20 м$^2$. (Митрофанов, 1978а. С. 90–91).

Да аднаго з наземных урэзаных у схіл жытлаў слупавой канструкцыі (№ 2) прымыкала невялікая пабудова такой жа канструкцыі, якая, відавочна, выконвала ролю сяней. Унутры яе знаходзілася яйкападобная ў плане гаспадарчая яма з прыступкай. Другая гаспадарчая яма няправільнай авальнай формы памерам 1,8 х 0,65 м, глыбінёй 0,55 м (таксама з прыступай) прымыкала з паўночнага боку да агнішча. Пры гэтым большая яе частка знаходзілася за межамі жытла. Значыць, ёю можна было карыстацца як знадворку, так і не выходзячы з жытла.

Ямы ад слупоў ва ўсіх наземных жытлах абедзвюх груп у плане мелі круглую форму дыяметрам ад 0,2 да 0,6 м і такой жа глыбіні. Сценкі ям вертыкальныя, дно плоскае або акруглае. Некалькі ям мелі ў разрэзе форму ўсечанага конуса.

Трэцяя група жытлаў (паўзямлянкі) прадстаўлена пятнаццацю пабудовамі. У адрозненне ад жытлаў другой групы, у якіх адна сцяна выходзіла на дзённую паверхню, у жытлаў гэтай групы ўсе чатыры сцяны былі заглыблены ў зямлю. У тых выпадках, калі яны будаваліся на роўным месцы, глыбіня ям, зразумела, была аднолькавай каля ўсіх сцен. Калі ж яны ўзводзіліся на схілах, то сцены, звернутыя ў бок вяршыні ўзвышша, былі апушчаны на большую глыбіню, чым сцены, звернутыя да яго асновы. Аднак патрэбна адзначыць, што глыбіня ям каля апошніх сцен была нязначнай. У большасці выпадкаў яна раўнялася 0,2–0,35 м і толькі ў трох жытлах дасягала 0,5–0,6 м.

Адна паўзямлянка (№ 5) мела слупавую канструкцыю, астатнія – зрубную. Сцены дзесяці жытлаў былі арыентаваны па старанах свету, астатніх пяці – па лініі паўночны ўсход – паўднёвы захад. Усе паўзямлянкі ацяпляліся печамі-каменкамі, рэшткі якіх у выглядзе развалаў пераважна даволі буйных абпаленых камянёў размяшчаліся ў адным з куткоў жытла, часта непасрэдна каля ўваходу. У некалькіх паўзямлянках выяўлены рэшткі драўлянай падлогі. У тых жытлах, у якіх такой падлогі не было, зямля моцна ўтрамбаваная і паверхня яе гладкая. Таўшчыня бярвён, з якіх былі зроблены сцены, дасягала 0,3–0,35 м.

Ямы, у якія былі апушчаны ніжнія вянкі паўзямлянак, па сваёй плошчы значна перавышалі плошчу саміх жытлаў. Форма іх была такой, як і форма жылых пабудоў. Выключэннем з'яўлялася яма № 10. Яна мела грушападобную форму: даўжыня 4,8 м, шырыня максімальная 4,3 м, мінімальная 3,3 м. Памеры паўзямлянкі 4,2 х 2,85 м.

Пры расчыстцы ніжняга вянка паўзямлянкі слупавой канструкцыі аўтару раскопак удалося прасачыць спосаб злучэння бярвён з кутнімі слупамі. Ён істотна адрозніваўся ад сучаснага. Як вядома, зараз у слупах робяць два размешчаныя пад прамым вуглом пазы, у якія ўпускаюць зачасаныя з двух бакоў канцы бярвён. У вуглавых слупах ускрытай паўзямлянкі зроблены толькі адзін паз у выглядзе прамога вугла, вяршыня якога звернута да цэнтра слупа. Канцы бярвён зачэсваліся не з двух бакоў, а з аднаго і, апрацаваныя на вугал, замацоўваліся ўпрытык у пазе слупа (Митрофанов, 1969а. С. 247).

Па сваіх памерах паўзямлянкавыя жытлы ўступалі наземным. Плошча найменшага сярод іх складала ўсяго 6,2 м$^2$, а найбольшага не перавышала 15 м$^2$.

Арыентыроўка усіх жытлаў была абумоўлена тым, у якім напрамку паніжалася ўзвышша. Калі яно паніжалася з поўначы на поўдзень, жытлы былі арыентаваны па старанах свету. Калі ж паніжэнне ішло ў напрамку на паўночны ўсход, жытлы размяшчаліся па лініі паўднёвы захад – паўночны ўсход. У залежнасці ад напрамку паніжэння ўзвышша, а больш дакладна, напрамку сцёку вады, размяшчаліся ўваходы ў жытлы. Там, дзе ўдалося прасачыць, яны размяшчаліся ў сценах, звернутых у напрамку паніжэння. У адной паўзямлянцы (№ 16) уваход уяўляў сабой паўавальны ў плане выступ памерам 1,2 х 1 м.

Заслугоўвае ўвагі своеасаблівая заканамернасць у размяшчэнні жылых пабудоў на селішчы. Пры поўнай адсутнасці вуліц тут назіраецца размяшчэнне іх кампактнымі групамі па тры і больш

жытлаў у кожнай. Відавочна, кроўнароднасныя сувязі яшчэ не страцілі свайго былога значэння. Малая сям'я хаця і пражывала ў сваім асобным доме, але яшчэ не з'яўлялася самастой-най гаспадарчай адзінкай (Митрофанов, 1969а. С. 252).

Ускрытыя на Гарадзішчанскім селішчы жытлы вельмі падобныя на жытлы селішча Замкавая Гара, якое знаходзіцца за 5 км на захад ад вёскі Дзедзелавічы Барысаўскага раёна. Селішча размешчана на схілах высокага (каля 40 м) узгорка, на вяршыні якога знаходзіцца гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі. Тут А.Р. Мітрафанаў у 1962–1966 гг. даследаваў 54 жытлы. Паколькі ўсе яны размяшчаліся на схілах узгорка, таму іх ніжнія вянкі, як і на селішчы Гарадзішча, былі апушчаны ў зямлю. Аднак паколькі жылыя пабудовы селішча Гарадзішча знаходзіліся на пакатых, а на Замкавай Гары – на стромкіх схілах, то і ў зямлю яны апушчаны на значна большую глыбіню (да 1,1–1,8 м) (Митрофанов, 1978а. С. 99)).

Наземныя жытлы слупавой канструкцыі, несумненна, вядуць сваё паходжанне ад жылых пабудоў слупавой канструкцыі культуры штрыхаванай керамікі. Наземныя жытлы такой канструкцыі мелі таксама шырокае распаўсюджанне на паселішчах днепра-дзвінскай і юхнаўскай культур. Побач з паўзямлянкамі сустракаюцца яны і на помніках кіеўскай (тыпу Абідні) культуры. Паўзямлянкавыя жытлы Гарадзішча знаходзяць свае прамыя аналогіі ў жытлах на паселішчах паўднёвай і паўднёва-ўсходняй Беларусі (Тайманава, Шчаткава, Ніжняя Тошчыца і інш. (Митрофанов, 1970б. С. 229-234). Паяўленне іх на селішчах вывучаемага рэгіёну было, безумоўна, звязана з пранікненнем сюды новага насельніцтва – нашчадкаў культуры тыпу Абідні.

На Мікольскім селішчы рэшткі жытлаў выяўлены на ўсіх трох даследаваных участках: паўднёвым, усходнім і заходнім. На паўднёвым, каля падножжа ўзгорка, на якім размешчана гарадзішча, мелася канавападобнае паглыбленне шырынёй 1,5–1,8 м, глыбінёй да 0,5 м, запоўненае чорнай зямлёй са шматлікімі абпаленымі камянямі і драўлянымі вугалькамі. З процілеглага ад гарадзішча боку да паглыблення прымыкаў моцна расплыўшыся валападобны насып, які складаўся з мацерыковага пяску, перамешанага з глебавым слоем. На ўсёй раскапанай плошчы паблізу мацерыка выяўлены скопішчы камянёў рознай велічыні, у тым ліку буйных (дыяметрам да 0,4–0,5 м). Частка з іх ляжала ў чорнай зямлі з вугалькамі і попелам і была абпалена. У сямі выпадках яны ўтваралі суцэльныя пляцоўкі дыяметрам ад 0,9 да 1,6 м. Гэта, несумненна, развалы печаў-каменак.

На ўсходнім участку таксама мелася канавападобнае паглыбленне шырынёй 1,8–2,8 м, глыбінёй 0,8–1,4 м, запоўненае цёмна–шэрай зямлёй са шматлікімі камянямі. У адрозненне ад паглыблення на паўднёвым участку, якое ішло паралельна падножжу ўзгорка, гэта паглыбленне размяшчалася амаль перпендыкулярна да яго. У ніжняй частцы паглыблення на працягу дзесяці ўскрытых метраў мелася суцэльная, месцамі ў некалькі радоў, вымастка з дробных і сярэдняй велічыні камянёў, значная частка якіх неаднаразова пабывала ў агні. Пад камянямі прасочваліся плямы моцна напаленага пяску аранжавага колеру. У верхняй частцы паглыблення камяні ляжалі асобнымі ізаляванымі скопішчамі. На многіх з іх былі выразна бачны сляды дзеяння агню. Хаця блізкія аналогіі выяўленым у Мікольцах рэшткам збудаванняў на суседніх тэрыторыях пакуль што невядомы, можна ўсётакі, відавочна, дапусціць, што гэта рэшткі жытлаў, магчыма, часовых.

Тут жа на ўсходнім участку, выяўлены рэшткі наземнага жытла слупавой канструкцыі памерам 3,6 х 3 м, арыентаванага па старанах свету. Па кутах меліся ямы ад слупоў, а з двух бакоў (паўночнага і заходняга) прасочваліся сляды ніжніх бярвён. Печ–каменка ў выглядзе развалу розных па велічыні камянёў знаходзілася ў паўночна-заходнім куце, а ўваход размяшчаўся паблізу паўднёва-заходняга кута. Мяркуючы па наяўнасці некалькіх варыянтаў ям для дзвярных слупоў, уваход не менш трох разоў перарабляўся. Несумненных слядоў іншых жытлаў слупавой кантрукцыі не выяўлена.

Ні на паўднёвым, ні на ўсходнім участках не выяўлена ніякіх значных паглыбленняў у мацерыку, якія можны было б лічыць рэшткамі паўзямлянак ці жытлаў з апушчанай у зямлю падлогай. Усе жытлы і на адным, і на другім участках былі, несумненна, наземнымі і ў асноўным зрубнымі.

Некалькі іншым быў характар жылых пабудоў на заходнім участку. Тут жытлы размяшчаліся на схілах узвышша. Побач са звычайнымі наземнымі зрубнымі дамамі зафіксаваны рэшткі жылых наземных пабудоў, ніжнія вянкі якіх былі ўрэзаны ў схіл узвышша. Жытлы абодвух варыянтаў размяшчаліся двума асобнымі радамі. Уздоўж падножжа ўзгорка ішоў рад звычайных наземных жытлаў, перад пабудовай якіх пляцоўка была выраўнена, а зрэзаная зямля адкінута ўніз па схілу на 3–3,5 м. У другім радзе знаходзіліся жытлы, урэзаныя ў схіл узвышша. Пры гэтым, як і на Гарадзішчанскім селішчы, у зямлю была ўрэзана толькі тая частка пабудовы, якая была звернута ў

бок узгорка, процілеглая выходзіла на дзённую паверхню. Як і на папярэдніх, на заходнім участку Мікольскага селішча ўскрыты рэшткі шматлікіх печаў–каменак у выглядзе развалу абпаленых камянёў, якія ляжалі ў праслойках чорнай зямлі з вугалькамі і попелам.

На Некасецкім селішчы выяўлены рэшткі паўзямлянкі памерам 3,4 х 3,85 м. Глыбіня ямы 0,2–0,25 м. Ямы ад слупоў (за выключэннем адной, якая знаходзілася ў куце), размяшчаліся за межамі ямы жытла, на адлегласці 0,2–0,25 м ад яе краёў. А.Р. Мітрафанаў дапускае, што гэта была зрубная пабудова, з вонкавага боку якой былі пастаўлены слупы, каб дадаткова ўмацаваць яе сцены (Митрофанов, 1965. С. 31). Печка-каменка знаходзілася каля паўночна-заходняй сцяны. З паўднёва–усходняга боку да яе прымыкала чашападобная яма авальнай формы памерам 1,8 х 1,45 м, глыбінёй 0,3 м. Такія ямы каля печаў і агнішчаў – звычайная з'ява на паселішчах банцараўскай культуры, у прыватнасці на Гарадзішчанскім селішчы. Побач з разваламі камянёў, якія засталіся ад печаў, на Некасецкім селішчы выяўлены каменныя вымасткі, якія, відавочна, з'яўляюцца рэшткамі адкрытых агнішчаў.

Акрамя жытлаў, на даследаваных паселішчах выяўлены ямы гаспадарчага прызначэння. Яны адыгрывалі ролю паграбоў. На Гарадзішчанскім селішчы ўскрыта 17 такіх ям. Большасць з іх размяшчаліся за межамі жылых пабудоў. Некалькі ям непасрэдна прымыкалі звонку да жытлаў і толькі дзве-тры ці цалкам, ці часткова знаходзіліся ўнутры. Ямы мелі ў плане авальную (0,9–2,7 х 0,9–1,9 м), прамавугольную (1,3–2,8 х 0,9–1,9 м) або круглую (дыяметр 0,9–1,1 м) форму. У прамавугольных ямах-паграбах сцены былі амаль вертыкальнымі, у астатніх –пакатымі. У пяці буйных авальных ямах меліся прыступкі заглыбленыя ў мацярык на 0,2–0,45 м. Глыбіня ўсіх ям вагалася ў межах ад 0,4 да 0,8 м (Митрофанов, 1978а. С. 94).

**3. Рэчавы комплекс**

Хаця паселішчы банцараўскай культуры адносна бедныя на знаходкі, шматгадовыя раскопкі на тэрыторыі вывучаемага рэгіёну далі даволі вялікі матэрыял, які характарызуе гаспадарча-бытавое і ў нейкай ступені духоўнае жыццё насельніцтва. Сам пералік знойдзеных прадметаў параўнальна вялікі і разнастайны. Сярод іх асаблівую цікавасць выклікаюць жалезныя вырабы і перш за ўсё – прылады працы. Многія з іх амаль не адрозніваюцца ад вырабаў, выяўленых на паселішчах ранняга жалезнага веку. Яно і зразумела, культура банцараўскіх плямён сфарміравалася ў значнай ступені на аснове культуры папярэднікаў – носьбітаў днепра–дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур.

Найбольш распаўсюджанай і універсальнай прыладай працы, на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва быў і застаецца нож. У залежнасці ад узроўню развіцця тэхнікі нажы выраблялася з крэменю, медзі, бронзы, жалеза і, нарэшце, сталі.

Жалезных нажоў на паселішчах басейна Верхняй Віліі знойдзена 56 экзэмпляраў, у тым ліку на селішчах Равячка і Гарадзішча па 6 экзэмпляраў, на Мікольскім селішчы 39 (сярод іх цэлых ці амаль цэлых 26 экзэмпляраў). Найбольш архаічнымі з'яўляюцца нажы з выгнутай гарбатай спінкай. На селішчы Гарадзішча знойдзена пяць такіх нажоў, даўжыня чатырох з іх вагалася ад 10,5 да 18 см (даўжыня дзяржання для ручкі 4–6 см). Шырыня ляза 1,3–2,2 см. Пяты нож надзвычай малых памераў: даўжыня 7,5 см ( у тым ліку даўжыня дзяржання 3 см), шырыня ляза 1,2 см (мал. 61: 20). Аналагічныя нажы вядомы на помніках Латвіі. В.Я. Дэрумс, які вывучаў гісторыю хвароб і лячэнне ў старажытнай Прыбалтыцы, лічыць, што яны ўжываліся народнымі лекарамі пры аказанні хірургічнай дапамогі ў якасці скальпеляў (Дэрумс,1970. С. 66). Усе чатыры нажы з выгнутай спінкай з Мікольскага селішча вялікіх памераў: даўжыня 14,5–16,5 см, шырыня ляза 2,1–2,4 см (мал. 63: 9; 65: 9, 10). Лязо тонкае, амаль сіметрычнае. Па форме клінка гэтыя нажы маюць кінжалападобны выгляд. Зусім верагодна, што яны выкарыстоўваліся галоўным чынам у якасці халоднай зброі. Такое меркаванне верагодна яшчэ і таму, што канец клінка завостраны з двух бакоў.

Для банцараўскай і сінхронных культур больш характэрныя нажы з прамой спінкай. На Мікольскім селішчы яны складаюць пераважную большасць: 17 цэлых нажоў і 8 часткова пашкоджаных (мал. 62: 1–5; 63: 3, 4, 6–8). У 16 з іх спінка і лязо плаўна пераходзяць у дзяржанне, уступаў няма або яны вельмі слаба выражаны. У 9 астатніх такія ўступы маюцца. Даўжыня вагаецца ад 6,2 да 14,8 см, шырыня – ад 1,0 да 2,1 см. Па функцыянальным прызначэнню – гэта ў асноўным гаспадарчыя нажы. Няясным застаецца прызначэнне маленькіх нажоў з мініяцюрнымі, як правіла, моцна сточанымі лязамі даўжынёй 3 –4,5 см. Яны, відавочна, прымяняліся ў вытворчасці, магчыма, у кастарэзнай справе.

На селішчы Равячка знойдзены нож, клінок якога завостраны з абодвух бакоў. Форма клінка кінжалападобная. На жаль, захавалася толькі яго

частка даўжынёй 5,2 см. Відаць, ён з’яўляўся прадметам узбраення. Двухбаковае калючае і рэжучае лязо мелі старажытнарускія баявыя нажы, так называемые засапожнікі (Колчин, 1959. С. 56).

Побач з нажамі, якія мелі дзяржанні для насаджвання драўляных ці касцяных ручак, на селішчах басейна Верхняй Віліі знойдзены суцэльнаметалічныя нажы. Ручкі ў іх выкаваны разам з клінкамі. Асаблівую цікавасць уяўляюць суцэльнаметалічныя нажы, верхняя частка ручкі якіх заканчваецца двума спіралепадобнымі ці S–падобнымі завіткамі. Знойдзена пяць такіх нажоў: два на селішчы Равячка (мал. 67: 1,2), адзін на селішчы Гарадзішча (мал. 61: 13), два на Мікольскім селішчы (мал. 63: 1; 66: 12), у тым ліку абсалютна цэлых два (па аднаму ў Равячцы і Мікольцах). Іх даўжыня 12,5 і 14,5 см, шырыня клінападобнага ў сячэнні ляза 1,3 і 1 см, шырыня ручкі 1,5 і 1 см. У нажа з Гарадзішча абламаны канец клінка. Яго агульная даўжыня каля 9 см ( у тым ліку даўжыня ручкі 5 см), шырыня ляза і ручкі аднолькавыя – 1,5 см. За межамі вывучаемага рэгіёну знойдзены толькі два нажы са спіралепадобнымі (валютападобнымі) завіткамі (Тайманава, Лукомль). Польскі археолаг В. Шыманьскі, які спецыяльна займаўся такімі нажамі, лічыць, што яны мелі культавае прызначэнне і валодалі імі багатыя людзі (сустракаюцца ў пахаваннях з багатым інвентаром). Датуюцца шырокімі храналагічнымі рамкамі: ад рубяжа нашай эры да X–XIII стст. , але асабліва характэрны для трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. (Szymański, 1964. S. 221–228).

У Мікольцах знойдзены суцэльнаметалічны нож з амаль прамавугольнай у сячэнні ручкай і вузкім тонкім лязом (мал. 63: 2). Яго даўжыня 14,5 см, шырыня ляза 1,0 см, сячэнне ручкі 0,9 х 0,4 см. Дакладныя аналогіі на сінхронных помніках нявядомы. Падобны нож знойдзены ў Ноўгарадзе ў пласце першай паловы XIV ст. Два такія нажы трапіліся ў слаях XIII – пачатку XIV ст. у Ваўкавыску (Зверуго, 1975. С. 30). Зыходзячы з таго факта, што хірургічныя нажы XVIII–XIX стст. заўсёды выраблялiся з металічнымі ручкамі, Б.А. Колчын лічыць такія нажы лекарскімі інструментамі (ужываліся для ампутацый) (Колчин, 1959. С. 56).

Амаль несумненна лекарскім з’яўляўся таксама суцэльнаметалічны нож з Мікольскага селішча, ручка якога заканчваецца выявай галавы звера (змяі) (мал. 66: 11). Галава выцягнутых прапорцый з трыма невялікімі круглымі адтулінамі: дзве на месцы вачэй, трэцяя на канцы вузкай морды. Агульная даўжыня нажа 17,1 см, даўжыня ляза 6,5 см, шырыня 0,9 см, шырыня ручкі 1,4 см. Па сваіх абрысах мікольскі нож вельмі нагадвае сучасны хірургічны інструмент – ланцэт. Відавочна, ён таксама выкарыстоўваўся для кровапускання, праколаў паверхневых гнайнікоў і іншых аперацый.

Універсальнымі інструментамі для праколвання дзірак з’яўляліся шылы. На селішчы Гарадзішча знойдзена 14 жалезных шылаў ( у тым ліку сем цэлых) (мал. 61: 22, 23, 32), на аднайменным гарадзішчы – 9 (сярод іх тры цэлыя), на Мікольскім селішчы – 30 (цэлых 18 экзэмпляраў) (мал. 66: 1, 3, 13–16). Усе зроблены з круглага ў сячэнні стрыжня з завостраным рабочым канцом і плоскім дзяржаннем, на якое надзявалася драўляная ці касцяная ручка. Даўжыня шылаў вагаецца ад 6,2 да 19,5 см, даўжыня дзяржання – ад 2,5 да 6,5 см, дыяметр рабочай часткі 0,3–0,6 см. Найбольш распаўсюджанымі ў Мікольцах былі шылы сярэдніх памераў, даўжынёй 9–12 см.

На селішчах Мікольцы і Гарадзішча знойдзены жалезныя іголкі. Адзін канец стрыжня добра завостраны, у другім, расплюшчаным, маецца вушка для нітак. Даўжыня іголак 7,8 і 7,9 см, дыяметр сячэння 0,15 і 0,3 см. У мікольскай знаходкі шырыня расплюшчанага канца не больш дыяметра стрыжня (мал. 66: 2). Такія іголкі ў сярэдневякоўі прымяняліся для сшывання тканін. У іголкі з Гарадзішча вушка прабіта ў расплюшчаным канцы, шырыня якога прыкметна больш дыяметра стрыжня. Такімі інструментамі карысталіся для сшывання скуры і тоўстых тканін (Колчин, 1959. С. 65).

Сельскагаспадарчыя прылады ў матэрыялах раскопак паселішч басейна Верхняй Віліі прадстаўлены жатнымі нажамі, сярпамі, касарамі, косамі.

Жатных нажоў, якія побач з сярпамі з’яўляліся прыладамі ўборкі ўраджаю, знойдзена сем экзэмпляраў: два абломкі на селішчы Гуры, адзін цэлы і тры абломкі на гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча, адзін цэлы на селішчы Мікольцы (мал. 64: 1; 67: 17). Па форме яны не адрозніваюцца ад аналагічных прылад з гарадзішч культуры штрыхаванай керамікі. У іх злёгку выгнутая спінка і амаль прамое лязо. Дзяржане, на якое надзявалася драўляная ручка, адагнута ў бок ляза. Памеры нажоў: даўжыня ляза ад дзяржання да рабочага канца 12–15 см, даўжыня дзяржання 5–10 см, шырыня ляза 1,5–2 см. Найбольш блізкія аналогіі маюцца ў старажытнасцях днепра–дзвінскай культуры (Шадыро, 1985. С. 57–58. Рис. 34).

Сярпоў знойдзена 27 экзэмпляраў, у тым ліку дванаццаць цэлых і пятнаццаць абломкаў:

на селішчы Гарадзішча – два цэлыя і тры абломкі, на селішчы Гуры – адзін серп без дзяржання, у верхнім слаі гарадзішча вёскі Гарадзішча – дзевяць цэлых і чатыры абломкі, на селішчы Мікольцы – адзін цэлы і сем абломкаў.

З неабходнай упэўненасцю вызначаны тып 15 сярпоў (дванаццаці цэлых і трох буйных абломкаў). Пры класіфікацыі ўлічваліся наступныя параметры: даўжыня асновы ляза або адлегласць па прамой ад канца ляза да пачатку дзяржання (лінія АВ), адлегласць ад асновы да найвышэйшага пункта або вышыня дугі (лінія СД) і размяшчэнне найвышэйшага пункта адносна асновы або адлегласць ад пачатку ляза да асновы вышыні (лінія АС).

Паводле вызначаных параметраў выдзяляюцца *чатыры тыпы* сярпоў.

*Першы* прадстаўлены двума сярпамі: цэлым з селішча Гарадзішча (мал. 61: 31) і абломкам з Мікольцаў. У абодвух канцы дзяржання загнуты ўбок і сіметрычны выгіб ляза. Даўжыня асновы ляза (лінія АВ) цэлага сярпа 15 см, даўжыня дзяржання 6,5 см, шырыня клінка 2,3 см. Вышыня дугі (лінія СД) складае $^1/_2$ даўжыні асновы. Сярпы з загібам (кручком) не характэрны ні для мясцовых культур папярэдняга часу, ні для банцараўскай культуры. Яны бытавалі ў плямён мілаградскай і зарубінецкай культур (Максимов, 1972. С. 79; Мельниковская, 1967. С. 56).

Як і ва ўсіх астатніх, у сярпоў *другога* тыпу дзяржанне прамое без загібу. Такія сярпы былі распаўсюджаны на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі, юхнаўскай культуры басейна Дзясны, дзякаўскай культуры Смаленшчыны (Митрофанов, 1978а. С. 35–36; Третьяков, 1953. Рис. 21; Третьяков, Шмидт,1963. Рис. 4). Сярпоў другога тыпу знойдзена шэсць экзэмпляраў: пяць на гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча і адзін на селішчы Мікольцы (мал. 64: 5). Яны сіметрычнай формы. Лінія АС складае палавіну ці амаль палавіну лініі АВ. Даўжыня асновы ляза вагаецца ад 12 да 17,5 см, даўжыня дзяржання ў пяці сярпоў 5,9–7,7 см, а ў аднаго – 12 см, шырыня клінка 2,2–2,8 см. Сярпы гэтага тыпу захоўваюць форму больш ранніх з паселішч культуры штрыхаванай керамікі, але адрозніваюцца ад іх большай даўжынёй асновы і некалькі іншымі суадносінамі вышыні дугі і даўжынёй асновы. У аднаго сярпа клінок выгнуты не ў выглядзе дугі, а пад прамым вуглом. Падобны серп знойдзены на гарадзішчы Чымярычына (днепра–дзвінская культура) (Шадыро, 1985. Рис. 32:8).

*Трэці* тып прадстаўлены трыма сярпамі з гарадзішча каля вёскі Гарадзішча. У іх даволі круты выгіб пачатковай часткі ляза і пакатая канечная яго частка. Яны асіметрычныя, вяршыня дугі ссунута ў бок дзяржання. Канцы клінкоў двух сярпоў абламаны. Памеры цэлага сярпа: даўжыня асновы 15 см, вышыня дугі 1,5 см, такім чынам, адносіны вышыні (СД) да асновы (АВ) раўняюцца 1:10. Ад сярпоў гэтага тыпу, верагодна, вядуць сваё паходжанне падобныя па форме, але значна большыя па сваіх памерах сярпы XI–XIII стст.

Да *чацвёртага* тыпу адносяцца чатыры сярпы: два з гарадзішча каля вёскі Гарадзішча і па адным з селішчы Гуры і Гарадзішча (мал. 61: 29). Яны, як і сярпы трэцяга тыпу, асіметрычныя, але вяршыня дугі ссунута ў бок канца клінка. Лязо выгнута слаба, але значна больш, чым у сярпоў трэцяга тыпу. Даўжыня асновы ляза 11–16 см, вышыня дугі 2–3,1 см, што складае 1/5 або 1/6 даўжыні асновы. Шматлікія аналогіі сярпам гэтага тыпу вядомы ў старажытнасцях латгалаў, Літвы і Эстоніі.

Блізкімі да сярпоў па сваіму прызначэнні прыладамі былі касары. Імі карысталіся для расчысткі ўчасткаў ад кустоў пры падсечным земляробстве і зразання галінак на корм жывёле (Коробушкина, 1979. С. 52). Цэлы касар знойдзены на Мікольскім селішчы (мал. 64: 4). Яго памеры: даўжыня асновы ляза 9,6 см, шырыня ляза 2,7 см, даўжыня дзяржання 7,5 см. Канец дзяржання адагнуты ўбок і ўтварае выступ, з дапамогай якога касар прымацоўваўся да драўлянай ручкі.

Для ўборкі ўраджаю ў выключных, відаць, выпадках прымяняліся косы–гарбушы. Асноўным іх прызначэннем была, зразумела, касьба травы. Дзве цэлыя касы–гарбушы і абломак знойдзены на селішчы Мікольцы (мал. 64: 2, 3), абломак – на селішчы Гарадзішча (мал. 61: 33).

Гэта першыя знаходкі на паселішчах другой паловы I тысячагоддзя н. э. на тэрыторыі Беларусі. У адной касы з Мікольцаў шырокі слаба выгнуты клінок і даволі доўгае дзяржанне. Яе памеры: даўжыня клінка 23,4 см, шырыня 3,4 см, таўшчыня 0,4 см, даўжыня дзяржання 10,3 см. Па сваіх прапорцыях і форме гэта каса знаходзіць сабе аналогіі на помніках другой паловы I тысячагоддзя Украіны і паўднёвай Беларусі (Седов, 1982. Табл. XII: 7, 8, 10, 15, 16). У другой касы карацейшы і вузейны клінок, карацейшае дзяржанне і больш рэзкі выгіб у пачатковай частцы клінка. Яе памеры: даўжыня клінка 19,5 см, шырыня 2,6 см, яго таўшчыня 0,3 см, даўжыня дзяржання 6,2 см.

Па сваіх параметрах і ступені выгібу ляза гэта каса бліжэй да сінхронных кос–гарбуш Літвы (Седов, 1987. Табл. С XXIV: 23, 24).

Адной з найбольш універсальных прылад на працягу многіх тысячагоддзяў была сякера. Ёю карысталіся пры выкананні самых разнастайных работ, у тым ліку пры лядным (падсечным) земляробстве. Пры раскопках сякеры сустракаюцца надзвычай рэдка. Цэлая долатападобная сякера -кельт знойдзена ў верхнім пласце гарадзішча каля вёскі Гарадзішча. На Мікольскім селішчы, гарадзішчы і селішчы Гарадзішча знойдзены абломкі вузкалязовых, відавочна, правушных сякер (мал. 61: 26, 27; 62: 13, 18; 63: 11, 16). Утулкавыя сякеры-кельты былі распаўсюджаны ў паўночнай частцы Прыбалтыкі, а правушныя сякеры – у паўднёвай (Митрофанов, 1978а. С. 110).

На Міколькім селішчы знойдзены металічны наканечнік глебаапрацоўчай прылады тыпу сахі (мал. 64: 6). Агульная даўжыня наканечніка (сашніка) 13,5 см, даўжыня лопасці 4,7 см, яе шырыня 4,3 см. Утулка падоўжана-авальнай формы, шырынёй 5,3 см. Знойдзены сашнік у перакапаным пласце, таму не выключана, што ён трапіў на селішча ў больш позні час.

Асобную групу знаходак з Мікольскага селішча (на другіх паселішчах яны не выяўлены) складаюць рыбалоўныя кручкі (мал. 65: 2–6, 8). Іх знойдзена 7 экзэмпляраў: тры цэлыя, у аднаго абламана верхняя частка і пашкоджана джала, у трох захаваліся стрыжні і часткі дуг. Памеры цэлых кручкоў: даўжыня стрыжня 2,8 см, 4 см і 6,4 см, дыяметр дугі адпаведна 1,8 см, 1,5 см і 2,2 см. На канцы стрыжняў маюцца петлі для лёскі. Джалаў для падсечкі няма. Такія кручкі ўжываліся, відавочна, для лоўлі рыбы на вудачку або з дапамогай перамёта. Кручок з абламанай верхняй часткай і пашкоджаным джалам надзвычай масіўныя і вялікіх памераў: даўжыня захаваўшайся часткі стрыжня 11,5 см, дыяметр стрыжня 0,5 см, дыяметр дугі 6,2 см. У верхняй частцы стрыжань моцна расшыраецца (дыяметр максімальнага расшырэння 2,1 см). Гэты кручок быў, безумоўна, разлічаны на здабычу буйнай рыбы. Тры астатнія кручкі былі, відавочна, такімі, як тры цэлыя.

На Мікольскім селішчы знойдзена блешня (мал. 65: 7). Пятля для лёскі ў яе абламана. Даўжыня захаваўшайся часткі стрыжня з прымацаваным да яго металам белага колеру (аналіз металу не праводзіўся) 3,1 см, дыяметр дугі 0,8 см. На канцы вастрыя маецца джала. Абсалютная аналогія мікольскай знаходцы выяўлена ў Засвіры. Там жа знойдзены такія, як у Мікольцах (цэлыя), рыбалоўныя кручкі (Звяруга, Мядзведзеў, 1994. Мал. 1: 16).

Зробленыя з жалеза прыналежнасці адзення ў матэрыяле раскопак прадстаўлены шпількамі і фібуламі. Тры шпількі з Гарадзішча (адна з селішча (мал. 61: 25), дзве з гарадзішча) і дзве з Мікольскага селішча (мал. 66: 4, 5) адносяцца да тыпу вельмі характэрных для культуры штрыхаванай керамікі посахападобных шпілек. У Літве і Латвіі такія шпількі бытавалі ў V–VII стст. н. э., а ў асобных выпадках – да XII–XIII стст. уключна (Седов, 1967. С. 137). Тры шпількі з Гарадзішча (дзве з селішча і адна з гарадзішча) і тры з селішча Мікольцы (мал. 66: 6–8) маюць выгляд масіўных стрыжняў даўжынёй ад 6,6 см да 23,5 см з завостраным адным канцом і расшы-рэннем у форме трапецападобнай, авальнай ці паўкруглай лапатачкі на другім. Аналогій гэтым шпількам вядома вельмі мала. Шпілька з галоўкай у выглядзе трапецапа-добнай лапатачкі знойдзена на селішчы Ніжняя Тошчыца (Верхняе Падняпроўе) (Митрофанов, 1978а. С. 109).

Да ліку рэдкіх знаходак адносяцца фібулы – нагрудныя спражкі для зашпільвання верхняга адзення. Іх знойдзена пяць экзэмпляраў: па адной цэлай на селішчах Равячка, Гуры, Гарадзішча і Мікольцы. Ад пятай фібулы з гарадзішча каля вёскі Гарадзішча застаўся толькі язычок. Фібулы з Равячкі, Гарадзішча (мал. 61: 2) і Мікольцаў (мал. 66: 10) адносяцца да тыпу падковападобных. Фібула з Равячкі зроблена з прамавугольнага ў сячэнні стрыжня (яна больш позняя), а дзве астатнія выраблены са стрыжня круглага сячэння. Канцы стрыжняў расплюшчаны і скручаны кальцом або спіраллю. Падковападобныя фібулы мелі вельмі шырокае распаўсюджанне ў Прыбалтыцы як у балтамоўнага, так і фінамоўнага насельніцтва. Бытавалі з канца I тысячагоддзя да н. э., але найбольш пашыраны ў X–XIII стст. Фібула з селішча Гуры адносіцца да ліку арбалетападобных (мал. 67: 10) . У яе паўавальная сіметрычна выгнутая дуга шырынёй 0,4–0,7 см. У верхняй частцы дугі маецца трохвугольны шчыток. Даўжыня фібулы 6,2 см. Адлегласць паміж іголкай і вяршыняй дугі 2,0 см. Найбольш блізкія аналогіі маюцца ў старажытнасцях Літвы. (Kulikauskas, Kulikauskiene, Tautavičius, 1961. Pav. 233: 2, 3; 234: 2–4).

Прадметы ўзбраення і рыштунку воіна прадстаўлены наканечнікамі коп’яў і стрэл, шпорамі, а рыштунак верхавога каня – цуглямі, вупражнымі кольцамі і спражкамі.

На селішчы Гарадзішча знойдзены наканечнік кап’я з пяром падоўжана-трохвугольнай формы рамбічнага сячэння і доўгай утулкай (мал. 61: 14). Верхняя частка пяра пашкоджана. Агульная даўжыня наканечніка 23–24 см, даўжыня ўтулкі 11,7 см, максімальная шырыня пяра 4,5 см, дыяметр утулкі 4,2 см. Такія наканечнікі ў раннім

сярэдневякоўі былі шырока распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Еўропы, але найбольш блізкія аналогіі гарадзішчанскаму наканечніку выяўлены ў Латвіі і Літве (Митрофанов, 1978а. С. 110).

На Мікольскім селішчы знойдзены наканечнік кідальнага кап'я–дроціка, або суліцы (мал. 65: 15). У яго двухшыпнае пяро (адзін шып абламаны). Агульная даўжыня наканечніка 11, 5 см, даўжыня пяра 4,8 см, шырыня 2,2 см, дыяметр утулкі 1,7 см. Коп'і з такімі наканечнікамі ўжываліся ў асноўным як паляўнічая зброя. У Польшчы, Прыбалтыцы і на Русі яны захоўвалі прамысловае значэнне на працягу многіх стагоддзяў (Кирпичников, 1966. С. 17).

У Мікольцах знойдзены тры наканечнікі стрэл: адзін цэлы і два пашкоджаныя. У цэлага наканечніка двухшыпнае пяро, перакручанае шыйка і доўгая ўтулка (мал. 65: 11). Агульная даўжыня наканечніка 11,6 см, даўжыня пяра 3,1 см, дыяметр утулкі 0,8 см. Другі быў, несумненна, таксама двухшыпным (захавалася перакручаная шыйка і частка ўтулкі) (мал. 65: 14). Такія наканечнікі ў раннім сярэдневякоўі былі найбольш распаўсюджанай формай у Польшчы і ва ўсёй Цэнтральнай Еўропе. Выкарыстоўваліся як на вайне, так і на паляванні. Ужываліся і для запальных стрэл, яны чапляліся за страху і не падалі на зямлю (Медведев, 1966. С. 56). Утулкавым быў і трэці наканечнік (мал. 65: 12). Пяро лаўралістай формы з падоўжана-рамбічным сячэннем (утулка і пяро пашкоджаны). Даўжыня пяра каля 5,5 см, шырыня дзесьці 1,8 см. Адзінкавыя экзэмпляры такіх наканечнікаў сустракаюцца ўздоўж заходніх граніц старажытнай Русі. Шырока распаўсюджаны ў Швецыі (Медведев, 1966. С. 57).

Шпор знойдзена 6 экзэмпляраў: тры на гарадзішчы і дзве на селішчы Гарадзішча (мал. 61: 17, 18), адна на селішчы Мікольцы. Адна шпора з гарадзішча пашкоджана. Шпора з Мікольцаў дэфармаваная (мал. 65: 13). Усе шпоры маюць выгляд невялікай дугі з кароткім прытупленым шыпом і загнутымі ў вонкавы бок зачэпамі для рамянёў. Сячэнне дугі плоска–выпуклае. Сячэнне шыпа круглае. Памеры шпор: даўжыня дугі разам з шыпом 3,3–4,2 см, шырыня дугі 4,9–7 см, даўжыня шыпа 0,7–1,7 см. Аналагічныя шпоры знойдзены ў курганах былой Уладзімірскай губерні, на паселішчах V–VI стст. Смаленшчыны (Кирпичников, 1973. С. 103).

На Мікольскім селішчы трапіўся абломак цугляў. Двухсастаўныя цуглі – найбольш распаўсюджаная форма на помніках Усходняй Еўропы, пачынаючы з першых стагоддзяў н. э. і да позняга сярэдневякоўя ўключна. (Сальников, 1940. С. 133). Аналагічныя мікольскай знаходцы цуглі знойдзены на гарадзішчы IX–X стст. Хатомель (Брэсцкая вобласць) (Кирпичников, 1973. С. 91). На селішчы Гарадзішча і ў Мікольцах знойдзены жалезныя кольцы, якія хутчэй за ўсё ўваходзілі ў склад рыштунку верхавога каня. Такім жа, відавочна, было і прызначэнне буйных спражак, фрагменты якіх траплялiся ў Мікольцах.

Вырабы з бронзы, медзі і іншых каляровых металаў у колькасных адносінах значна ўступаюць жалезным вырабам. За малым выключэннем гэта ў асноўным жаночыя ўпрыгожанні: бранзалеты, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, прывескі, спіралькі і інш.

Бронзавых бранзалетаў знойдзена дванаццаць экзэмпляраў: адзін на селішчы Равячка, адзін на гарадзішчы і тры на селішчы Гарадзішча, сем на Мікольскім селішчы. Усе сем мікольскіх бранзалетаў (мал. 68: 4, 5, 8, 10, 19) і адзін з Гарадзішчанскага селішча (мал. 61: 9) зроблены з круглага ў сячэнні стрыжня дыяметрам ад 0,4 да 0,6 см. У аднаго бранзалета з Мікольцаў канец расплюшчаны (другі канец абламаны), ва ўсіх астатніх канцы злёгку закруглены ці крыху звужаны.

Другі бранзалет з гарадзішчанскага селішча (мал. 61: 7) зроблены з квадратнага ў папярочным сячэнні стрыжня таўшчынёй 0,5 см. Бранзалеты гэтага тыпу (кругладротавыя ці стрыжнявыя) былі распаўсюджаны на вельмі вялікай тэрыторыі на працягу многіх стагоддзяў.

У трэцяга бранзалета з Гарадзішчанскага селішча расшыраныя і патоўшчаныя канцы круглага сячэння (мал. 61: 3). Сам бранзалет у папярочным сячэнні плоска–выпуклы. Бранзалет такога тыпу, але авальнага сячэння і з эліпсоіднымі канцамі, знойдзены на гарадзішчы Банцараўшчына (Митрофанов, 1967. Рис. 2:14). Аналагічныя бранзалеты вядомы на шырокай тэрыторыі, але асабліва характэрны для старажытнасцей Прыбалтыкі, датуюцца V–VIII стст. (Митрофанов, 1978а. С. 112).

Бранзалеты з селішча Равячка і з гарадзішча каля вёскі Гарадзішча адносяцца да тыпу простых пласцінiстых, у сячэнні яны маюць форму выцягнутага прамавугольніка. Шырыня палоскі, з якой зроблены абодва бранзалеты, не перавышае 0,6 см. Такія бранзалеты бытавалі ў Латвіі і Эстоніі. М.Х. Шмідэхельм датуе іх III–VI стст. (Шмидехельм, 1955. С. 98).

Верагодна, рэшткамі дэфармаваных бранзалетаў з'яўляюцца знойдзеныя ў Мікольцах бронзавыя палоскі. Адна трохвугольная ў сячэнні, другая з падоўжным выпуклым рабром на вонкавым баку (мал. 68: 15), у трэцяй, зробленай з металу белага колеру, пяць падоўжных вузкіх

рэбраў на вонкавым баку і авальная адтуліна на канцы (другі канец абламаны) (мал. 68: 18).

Скроневыя кольцы ў матэрыялах Мікольскага селішча прадстаўлены *трыма тыпамі*. Два кальцы зроблены з тонкага меднага дроту. Адзін канец у іх загнуты спіраллю (мал. 68: 1, 7). Аналагічныя кольцы знойдзены ў смаленска-полацкіх доўгіх курганах VIII–IX стст. (Седов, 1970. С. 101–102). Неаднаразова траплялiся яны і ва ўсходнелітоўскіх курганах другой паловы I тысячагоддзя н. э. (Таутавичюс, 1959. С. 131).

*Другім* тыпам скроневых упрыгожанняў з'яўляюцца невялікія (дыяметрам 1,5–2 см) пярсцёнкападобныя кольцы таксама з круглага дроту. Знойдзены тры экзэмпляры (мал. 68: 13; 69: 13, 14). У іх канцы заходзяць адзін за другі. Пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з'яўляліся тыповымі ўпрыгожаннямі дрыгавічоў, але не былі выключна дрыгавіцкімі. Выяўлены ў курганах валынян, драўлян, славянскіх могільніках Падляшша (Седов, 1970. С. 80, 89).

*Трэці* тып прадстаўлены трыма пласціністымі кольцамі: адным цэлым, але дэфармаваным, і двума абломкамі (мал.68: 14, 18). Мяркуючы па цэлым экзэмпляры, у іх былі заходзячыя паступова звужаючыяся канцы. На вонкавым баку выпуклае падоўжнае рабро.

Два звычайныя пярсцёнкі з меднага дроту знойдзены на селішчы Гарадзішча, два таксама дротавыя, але спіралепадобныя трапіліся на Мікольскім селішчы (мал. 68: 6, 12). Апошнія шырока вядомы сярод старажытнасцей народаў Прыбалтыкі. У Мікольцах адразу пад дзёрнам знойдзены пярсцёнак з квадратным шчытком, па вуглах якога размешчаны чатыры круглыя паглыбленні (мал. 69: 8). Ён мог трапіць на паселішча ў больш позні час.

Найбольш шматлікую групу знаходак сярод упрыгожанняў складаюць трапецападобныя прывескі. На селішчы Гарадзішча іх, праўда, знойдзены толькі тры экзэмпляры, затое на Мікольскім селішчы – семнаццаць (у тым ліку абсалютна цэлых дзесяць экзэмпляраў) (мал. 69: 6, 20, 22, 24). Акрамя таго, сем прывесак непасрэдна прымацаваны да паўсферычных блях – трымальнікаў (мал. 69: 2, 4, 12). Частка прывесак арнаментавана паяскамі з выпуклых кропак і насечак уздоўж асновы і выпуклымі акружнасцямі з кропкамі ў цэнтры пасярэдзіне. Аналагічныя прывескі шырока прадстаўлены ў балцкіх старажытнасцях. Прыбалтыйскія аналогіі маюць паўсферычныя бляхі-трымальнікі. Даволі звычайнай знаходкай яны з'яўляюцца і для полацка-смаленскай групы доўгіх курганоў (Седов, 1970. Рис. 26: 4, 5, 7–9, 11).

Даволі частай знаходкай у полацка–смаленскіх доўгіх курганах з'яўляюцца таксама бронзавыя спіралькі, аналагічныя тым, якія выяўлены на селішчах Гарадзішча і Мікольцы (мал. 61: 1; 68: 17; 69: 17). У канцы I тысячагоддзя н. э. яны атрымалі шырокае распаўсюджанне ў некаторых балцкіх і фіна–ўгорскіх плямён (уваходзілі ў склад караляў, галаўных венчыкаў і іншых упрыгожанняў) (Седов, 1970. С. 102).

Асаблівую цікавасць сярод бронзавых упрыгожанняў з Мікольскага селішча прадстаўляюць фібулы, якія, падобна як і фібулы з жалеза, служылі для зашпільвання верхняга адзення.

Дзве фібулы з Мікольцаў двухчленныя, прагнутыя, падвязныя тыпу Альмгрэн VI–161(меншая па памерах) (мал. 68: 9) і тыпу Альмгрэн VI–162 (мал. 68: 11). Арэал фібул першага тыпу – паўднёва-ўсходняя Польшча, паўднёва-ўсходняя Прыбалтыка, паўночнае Прычарнамор'е. Датуюцца канцом II – пачаткам IV ст. (Амброз, 1966. С. 59). Найбольш верагодна датыроўка мікольскай знаходкі III ст.

Фібулы другога тыпу былі распаўсюджаны ад Паўночнага Прычарнамор'я і Падунаўя да Прыбалтыкі і басейна Акі. Датуюцца IV–V стст. (Амброз, 1966. С. 66). Найбольш верагоднае датаванне фібулы з Мікольцаў канец IV – першая палова V ст.

Трэцяя фібула з Мікольскага селішча пальчатая (мал. 68: 2). Аналагічныя фібулы ў VII ст. былі распаўсюджаны ў Ніжнім Падунаўі, Паўночным Прычарнамор'і, Сярэднім Падняпроўі, на Мазурскім Паазер'і. Фібула з Мікольцаў тыпалагічна адносіцца да ранніх экзэмпляраў, што дазваляе яе лічыць імпартам першай паловы – сярэдзіны VII ст.

Бронзавая фібула – брошка ў выглядзе дыска дыяметрам 9,8 см знойдзена на гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча. Са знешняга боку ў цэнтры дыска маецца шпянёк вышынёй 3 см з разеткападобнай галоўкай. Краі дыска загнутыя. Збоку маецца невялікі выступ з трыма круглымі адтулінамі. Іголка, з дапамогай якой фібула прымацоўвалася да адзення, адламана. Захаваліся дзве пятлі. Адна з іх прыпаяна наглуха, у другой адзін канец свабодны. Багата аздобленыя фібулы – брошкі з устаўкамі каштоўных камянёў, шкла, эмалі, былі шырока распаўсюджаны ў грэкаў і рымлян. Яны, як правіла, з'яўляліся прыналежнасцю мужчынскага гарнітура (Амброз, 1966. С. 30-32). Слядоў эмалі на фібуле з Гарадзішча не выяўлена.

Іншыя бронзавыя (медныя) рэчы ў матэрыяле раскопак прадстаўлены адзінкавымі экзэмплярамі. Гэта знойдзеныя ў Мікольцах лунніца,

спражка, трубачка, паўсферычная бляха для трапецападобных прывесак, ажурнае ўпрыгожанне з Гарадзішчанскага селішча.

Лунніца зроблена з тонкай меднай ціснёнай пласцінкі (мал. 69: 7). Паверхня яе арнаментавана трыма акружнасцямі з кропкамі пасярэдзіне, нанесенымі пуансонам і насечкамі па краі. Вушка для падвешвання прыкляпанае. У правым "ражку" круглая адтуліна. Левая частка лунніцы абламана.

Спражка амаль круглай формы з гладкай неарнаментаванай паверхняй (мал. 69: 9). Вызначаецца акуратнасцю апрацоўкі. На знешнім баку язычка ў ніжняй яго частцы два валікі.

Трубачка адносіцца да тыпу тых, якія ў некаторых балцкіх плямён разам з арнаментаванымі бляшкамі і спіралькамі з'яўляліся састаўнымі элементамі складаных упрыгожанняў (мал. 69: 10). Даўжыня трубачкі 2,3 см.

Паўсферычная бляха з палямі для падвешвання трапецападобных прывесак не мае адтулін, у якія прасоўваліся металічныя кольцы (мал. 69: 3). Зроблена яна, відавочна, на месцы.

Ажурнае ўпрыгожанне з Гарадзішчанскага селішча захавалася фрагментарна. Аналогія яму маецца ў старажытнасцях могільніка Рудайчай 1 (Літва) (Митрофанов, 1978a. С. 113).

Вызначыць з неабходнай доляй упэўненасці функцыянальнае прызначэнне некаторых бронзавых вырабаў з Мікольцаў (стрыжняў, палосак, пласцінак) не прадстаўляецца магчымым.

Бронзавыя прылады працы ў матэрыяле Мікольскага селішча прадстаўлены двума пінцэтамі (мал. 69: 1, 11). Гэта надзвычай рэдкія знаходкі не толькі на паселішчах банцараўскай культуры, але і на сінхронных помніках суседніх тэрыторый. Нават у сярэдневяковых гарадах яны трапляюцца рэдка. Так, у Ноўгарадзе, дзе знойдзена дзесяць пінцэтаў, толькі адзін быў бронзавы. (Рындина, 1963. С. 222, 224). Некалькі бронзавых пінцэтаў выяўлена на Асоцкім гарадзішчы (Шноре, 1961. Табл. XV: 5–7). Яны прымяняліся для заціску і ўтрымання ювелірных вырабаў у час іх апрацоўкі. У абодвух мікольскіх пінцэтаў Г–падобныя губы. Кольцы, якія насаджваліся на ножкі і фіксавалі заціск, не захаваліся. Памеры пінцэтаў: даўжыня 6 і 4 см, шырыня пласціністых ножак 0,5 і 0,4 см, шырыня губ 1,9 і 0,6 см. Па краях ножак аднаго пінцэта маюцца падоўжныя нарэзкі.

На Некасецкім селішчы знойдзена алавяная (магчыма, свінцовая, аналіз не праводзіўся) бляшня з жалезным кручком.

Сярэбраных вырабаў выяўлена вельмі мала. На Гарадзішчанскім селішчы гэта абломкі дзвюх грыўняў, найбольш блізкія аналогіі якім маюцца ў латгальскіх старажытнасцях V–VIII стст. (мал. 61: 4) У Мікольцах знойдзена тонкая пласціна з закругленым канцом (другі канец абламаны), арнаментаваная па контуры двума радамі дробных кропак (мал. 68: 20). У месцы аблому маюцца дзве круглыя адтуліны, якія сведчаць аб тым, што яна была да чагосьці прымацавана.

Вырабы з косці нешматлікія як па колькасці знаходак, так і па наменклатуры. Сярод іх ёсць такія, што выкарыстоўваліся ў розных мэтах, гэта значыць мелі шырокі дыяпазон функцыянальнага прызначэння. Гэта перш за ўсё праколкі-шылы. Іх на Мікольскім селішчы знойдзена 19 экзэмпляраў, у тым ліку сем абломкаў. (Частка апошніх з такой жа доляй верагоднасці маглі з'яўляцца абломкамі іголак, шпілек, качадыкаў і інш. )

Іголак у Мікольцах знойдзены тры экзэмпляры. Дзе з іх даўжынёй 7,4 і 8,2 см з вузкімі галоўкамі для вушкаў ужываліся для сшывання тканін (мал. 70: 6, 7). Трэцяя больш буйных памераў (у яе вастрыё абламана) і з шырокай галоўкай магла выкарыстоўвацца пры вырабе і сшыванні пляцёнак, а таксама ў якасці шпількі (мал. 70: 8).

На Мікольскім селішчы знойдзены абломак шпількі з круглым у папярэчным сячэнні стрыжнем і з галоўкай у выглядзе плешкі цвіка (мал. 70: 5). Бліжэйшым аналагам з'яўляецца шпілька з гарадзішча Замошша (Беларускае Падзвінне) (Шадыро, 1985. Рис. 27: 3).

Падвескі ў мікольскім матэрыяле прадстаўлены двума экзэмплярамі: адна ў выглядзе трапецападобнай пласцінкі (па памерах і форме нагадвае аналагічныя бронзавыя падвескі) (мал. 70: 11), другая ў выглядзе мініяцюрнага грэбеня (моцна пашкоджана) (мал. 70: 9). Прывескаграбеньчык добра захаваная з цыркульным арнаментам выяўлена на гарадзішчы Лабеншчына (Мінскі раён) (Митрофанов, 1978a. Рис. 21: 19).

Асобную групу прывесак з Мікольцаў складаюць спецыяльна апрацаваныя свідраваныя зубы жывёл. Іх знойдзена чатыры экзэмпляры, у тым ліку клык кабана і мядзведзя (мал. 70: 12–15). Клык кабана полы ў сярэдзіне з акуратна зрэзанай ніжняй часткай. Адтуліна ў клыку мядзведзя паступова звужваецца ў сярэдняй частцы. Свідраваныя клыкі мядзведзя – даволі частая знаходка на паселішчах Беларусі, пачынаючы з каменнага і бронзавага вякоў і да сярэдневякоўя ўключна, знойдзены пры раскопках стаянак, гарадзішч, селішч і гарадоў.

Касцяных прылад працы ў Мікольцах толькі дзве: долата (мал. 70: 1) і абломак інструмента для арнаментацыі керамікі (мал. 70: 2).

Паверхня аднаго касцянога вырабу ўпрыгожана нарэзкамі. Гэта полая, абрэзаная з двух бакоў косць, якая, відавочна, з'яўлялася ручкай нейкай прылады (мал. 70: 3). З аднаго боку каля самага абрэзу чатыры тонкія кругавыя лініі. З другога боку дзве кругавыя лініі і паясок з перасякаючыхся касых ліній.

Вырабы з каменю ў матэрыяле Мікольскага селішча прадстаўлены свідраванымі тапарамі (2 экзэмпляры), тапарамі–клінамі (2 экзэмпляры), тачыльнымі брускамі (9 экзэмпляраў, у тым ліку адзін з круглай адтулінай) (мал. 72: 1–6, 9, 11–13, 16).

Выяўлены каменныя мялы (пясты), якія служылі для расцірання зерня на каменных зерняцёрках (мал. 71: 8, 10).

Ёсць так званыя камяні–спарышы з двух, трох і нават чатырох зросшыхся шарыкаў (мал. 71: 14, 15). Па народнаму павер'ю, знаходка такіх камянёў прыносіла шчасце. У некаторых выпадках перахват паміж двума шарыкамі штучна паглыблены і пашыраны.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе каменная ліцейная формачка з лейкападобным літком (мал. 78: 1). Яна служыла для адліўкі мініяцюрных тонкіх бляшак прамавугольнай формы з гладкай паверхняй памерам 0,6 х 2,0 см. Пры ліцці такая формачка шчыльна звязвалася з гладкай каменнай пліткай, а расплаўлены металналіваўся праз літок. Дзякуючы гэтаму і адваротны бок бляшкі быў таксама гладкі.

У Мікольцах знойдзена шкляная зонная пацерка чорнага колеру дыяметрам 8 мм.

Кераміка – найбольш шматлікі матэрыял пры раскопках старажытных паселішчаў пачынаючы з эпохі неаліту. У калекцыях з даследаваных паселішч яна прадстаўлена (за нязначным выключэннем) абломкамі пасудзін.

Раздаўленых, але адноўленых пасудзін знойдзена толькі тры экзэмпляры: дзве на селішчы Равячка і адна на Гарадзішчанскім селішчы. На іншых помніках банцараўскай культуры цэнтральнай Беларусі іх выяўлена больш дваццаці: шэсць на селішчы Дзедзелавічы і не менш семнаццаці на Банцараў-скім гарадзішчы. Прыцягнуўшы для параўнання кераміку з сінхронных паселішч і могільнікаў Беларускага і Смаленскага Падняпроўя, Падзясення, Верхняга і Сярэдняга Падзвіння, А.Р. Мітрафанаў вылучае шэсць асноўных тыпаў ляпнога (вырабленага рукамі) посуду банцараўскай культуры: слабапрафіляваны, цюльпанападобны, слоікападобны, рабрысты, цыліндра–канічны і акруглабокі (Митрофанов, 1978а. С. 101).

У слабапрафіляваных пасудзін прамы або злёгку адагнуты вонкі (зрэдку ўнутр) венчык, слаба выражаныя шыйка і плечыкі, найбольшае расшырэнне тулава знаходзіцца ці пасярэдзіне, ці ў трэцяй яго чвэрці. Дыяметр горла больш за дыяметр дна, а дыяметр найбольшага расшырэння тулава роўны або крыху большы за дыяметр горла. Суадносіны велічынь розных паказчыкаў розныя: ёсць высокія пасудзіны з шырокім горлам і вузкім дном, ёсць сярэдняй вышыні з нешырокім горлам і шырокім дном і, нарэшце, прысадзістыя пасудзіны з шырокім горлам і шырокім дном.

Цюльпанападобныя пасудзіны найбольш характэрныя і шматлікія на паселішчах банцараўскай культуры. У іх венчык адагнуты вонкі больш выразна, чым у слабапрафіляваных пасудзін, выражаныя шыйка і плечыкі, больш расшырана тулава. Як і ў пасудзін першага тыпу, найбольшае расшырэнне тулава размяшчаецца пасярэдзіне ці ў трэцяй чвэрці. Дыяметр дна заўсёды меншы за дыяметр горла. Памеры пасудзін гэтага тыпу і суадносіны прапорцый розныя. Ёсць высокія з шырокім горлам і вузкім дном, але ёсць і невысокія з некалькі завужаным горлам і адносна шырокім дном.

Слабапрафіляваныя і цюльпанападобныя пасудзіны складаюць на паселішчах цэнтральнай Беларусі не менш 85–90 % ад усёй керамікі. Аналагічны па форме і прапорцыях посуд быў распаўсюджаны ў межах усяго арэала банцараўскай культуры (Поболь, 1974. Рис. 7: 3, 4; Станкевич, 1960. Рис. 2: 2–4; Третьяков, Шмидт, 1963. Рис. 29: 1–6).

Пасудзін трох наступных тыпаў знойдзена мала. У слоікападобных пасудзін прамы або загнуты ўнутр венчык, адсутнічае шыйка, няма або слаба выражаны плечыкі, найбольшае расшырэнне тулава знаходзіцца ў верхняй частцы (чацвёртай чвэрці). Пасудзіна гэтага тыпу з Равячкі нагадвае міску, у яе дыяметр горла большы, чым вышыня.

Рабрыстыя пасудзіны адносна невысокія, верхняя частка звужана, шыйка нізкая, на тулаве выразна выражанае загладжанае рабро, найбольшае расшырэнне тулава прыходзіцца на рабро. Па знешнім выглядзе і прапорцыях пасудзіны гэтага тыпу нагадваюць рабрыстыя гаршкі культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978а. С. 104).

У цыліндрычных пасудзін, як можна меркаваць ужо па назве, цыліндрычная прафіляваная верхняя палова і канічная ніжняя. Паміж двума паловамі вострае або загладжанае рабро. Найбольшае расшырэнне тулава прыходзіцца на рабро. Пасудзіны гэтага тыпу, як і двух першых

(слабапрафіляваных і цюльпанападобных), распаўсюджаны ў межах усяго арэала банцараўскай культуры, але іх значна менш.

Акруглабокія пасудзіны выдзяляюцца сярод астатніх выпуклымі акруглымі бакамі. Венчык вертыкальны ці адагнуты вонкі. Найбольшае расшырэнне тулава прыпадае на трэцюю чвэрць вышыні. Дыяметр найбольшага расшырэння большы, чым дыяметр горла. Паводле І.П. Русанавай, акруглабокія пасудзіны асабліва шматлікія на Кіеўшчыне і ў Падзясенні. (Русанава, 1976. С. 70). У Смаленскім Падняпроўі ў Падзвінні яны пакуль што невядомыя.

Усе пасудзіны гладкасценныя, пласкадонныя, фармаваліся са стужак кальцавым налепам. Фармоўка,верагодна, адбывалася на дошцы (камені) і пачыналася з венчыка, а заканчвалася донцам. У гліне дамешка драсвы (тоўчанага каменю). Знешняя паверхня загладжана даволі акуратна. Абпал, які выконваўся на вогнішчы, не заўсёды якасны, сустракаюцца пасудзіны абпаленыя слаба. У месцы злому чарапкоў маюцца двух -, а часам і трохколерныя праслойкі. На знешнім баку часта прасочваюцца сляды нагару, якія сведчаць аб тым, што ў пасудзінах, ад якіх яны засталіся, варылі ежу. Таўшчыня сценак звычайна залежала ад памераў посуду. У вялікіх пасудзін, якія выкарыстоўваліся ў якасці тары для захоўвання зерня, вадкасцей і іншых гаспадарчых запасаў, сценкі былі тоўстыя (да 0,8–1 см).

Асобную невялікую групу керамікі на даследаваных селішчах складаюць пасудзіны з добра загладжанай, часам амаль глянцаванай паверхняй. Яны зроблены з добра адмучанай гліны, зярняты драсвы дробныя (часам яе замяшчае пясок), абпал даволі якасны, хаця таксама выконваўся на вогнішчы.

Найбольш шматлікімі пасля керамікі знаходкамі з’яўляюцца гліняныя праслíцы: на селішчы Равячка іх знойдзена 5 экзэмпляраў, на селішчы Гуры – 12, на гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча 6, на селішчы Гарадзішча 68 (цэлых 54), на Мікольскім селішчы 245 (цэлых 108).

Падаўляючая большасць вырабаў біканічнай формы з выразна выражаным, а, нярэдка, і з адцягнутым рабром. Праслíц з загаджаным рабром адзінкі. А.Р. Мітрафанавым выказана меркаванне, што прататыпам біканічных праслíц банцараўскай культуры з’яўляюцца праслíцы такой жа формы з паселішч культуры штрыхаванай керамікі і селішч культуры тыпу Абідні. Характэрнай асаблівасцю біканічных праслíц з паселішч гэтых культур з’яўляецца ўвагнутасць адной, а то і абодвух гарызантальных паверхняў (Митрофанов, 1978а. С. 114).

Арнаментаваных праслíц адзінкі. На селішчы Гарадзішча знойдзена біканічны выраб, на бакавых плоскасцях якога трохвугольнікі і ромб, нанесеныя кропкамі (мал. 61: 16). На адным (біканічным) праслíцы з селішча Гуры арнамент у выглядзе зігзагападобнай лініі на адной бакавой плоскасці і хаатычна нанесеных кропак на другой (мал. 67: 9). У другога (зоннага) — арнамент хаатычна размешчаных кропак і на бакавой, і на гарызантальнай паверхнях (мал. 67: 15).

Сярод трынаццаці арнаментаваных праслíц з Мікольцаў дзевяць біканічных, у аднаго зрэзана рабро і два зонныя. У аднаго біканічнага выраба на бакавых плоскасцях трохвугольнікі з трох кропак, у другога дробныя наразныя крыжыкі (мал. 75: 10, 11). Бакавыя плоскасці трох іншых біканічных праслíц пакрыты вертыкальнымі (адзін экзэмпляр) ці касымі (адпаведна два экзэмпляры) густа нанесенымі лініямі (мал. 75: 2, 3, 7). У аднаго біканічнага касыя лініі нанесены групамі па тры ў кожнай, а ў трох (мал. 75: 1, 4, 5, 6) лініі і кропкі нанесены хаатычна. У праслíца са зрэзаным рабром бакавыя плоскасці арнаментаваны зігзагападобнымі лініямі (мал. 75: 13). Бакавая паверхня аднаго зоннага праслíца ўпрыгожана хвалепадобнай лініяй, другога – хаатычна размешчанымі буйнымі кропкамі, трэцяга – вертыкальнымі лініямі (мал. 75: 9, 12, 13).

На Мікольскім селішчы знойдзены 37 гліняных грузілаў для сетак, у тым ліку 13 цэлых, 5 пашкоджаных і 19 абломкаў, якія не паддаюцца вызначэнню. Сярод іх выдзяляюцца чатыры тыпы: аладкападобныя з адтулінамі на краі (7 экзэмпляраў) (мал. 76: 2, 6, 12, 15, 16), біканічныя ці авальныя ў сячэнні з адтулінамі пасярэдзіне (5 экзэмпляраў) (мал. 76: 4, 7, 8–10), плоскія з перахватам (4 экзэмпляры) (мал. 76: 11, 13, 14, 17), цыліндрычныя ці трапецападобныя ў сячэнні з раўчуком для шнурка на бакавой паверхні (2 экзэмпляры) (мал. 77: 13, 14). Усе грузілы непасрэдна прымацоўваліся да сетак. Такіх, якія спачатку апляталіся бярозавай карой або лыкам, не выяўлена.

Сярод мікольскіх вырабаў з гліны ёсць рэчы, якія, відавочна, не мелі практычнага прызначэння. Гэта перш за ўсё акуратна загладжаныя пліткі з добра адмучанай гліны. Адна ў выглядзе васьміканцовай зоркі, другая круглая з дзесяццю рамбічнымі паглыбленнямі на адным баку, трэцяя авальнай формы з дзвюма разеткамі на адным баку і дзевяццю мініяцюрнымі акружнасцямі, размешчанымі ў выглядзе квадрата (адна ў цэнтры квадрата) на другім баку (мал. 77: 2, 5, 6). Знойдзены абломак кружка з круглым паглыбленнем пасярэдзіне (мал. 77: 3),

блокападобны выраб з гладкімі паверхнямі (мал. 77: 1), абломак бруска з жалабком (мал. 77: 12).

**4. Заняткі насельніцтва**

Асноўным заняткам насельніцтва банцараўскай культуры было падсечнае (ляднае) земляробства. Роля яго ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. у параўнанні з папярэднім перыядам значна ўзрасла. Аб гэтым, як справядліва адзначаў А. Р. Мітрафанаў, сведчаць ужо самі памеры паселішч (да 5–6 і больш га). Каб пракарміцца такой вялікай колькасці людзей, патрэбна было шмат прадуктаў, і ў першую чаргу прадуктаў земляробства (Митрофанов, 1978а. С. 114–115).

Аб складзе вырошчваемых культур можна меркаваць па зерневым матэрыяле з Банцараўскага гарадзішча, у верхніх слаях якога знойдзены зярняты пшаніцы, проса, гароху, конскага (палявога) бобу, вікі. На сінхронных і з блізкай культурай паселішчах Смаленшчыны выяўлены зярняты ячменю і аўса. На гарадзішчы культуры доўгіх курганоў Свіла 1 (Глыбоцкі раён), якое датуецца IX ст., знойдзены зярняты жыта. (Митрофанов, 1978а. С. 115).

Пры падсечным земляробстве важнейшай прыладай з'яўлялася жалезная сякера. Падсякаліся ўчасткі лесу, якія затым спальваліся. Попел з'ўляўся добрым удабрэннем і першыя некалькі гадоў збіралі даволі высокія ўраджаі. Збожжа жалі жалезнымі жатнымі нажамі і сярпамі. І нажы, і сярпы былі невялікіх памераў. Нажы мелі слабавыгнутую спінку і прамое лязо. Ступень выгібу ляза ў сярпоў розная, але пераважаюць экзэмпляры з невялікім выгібам: вышыня дугі складае менш 1/5 даўжыні асновы ляза.

Збожжа на муку перацiралі пры дапамозе зерняцёрак. У параўнанні з такімі ж прыстасаваннямі больш ранняга часу ніжнія камяні зерняцёрак банцараўскай культуры мелі акуратна апрацаваныя бакавыя паверхні і моцна ўвагнутую рабочую паверхню. На гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча знойдзены чатыры такія камяні, тры цэлыя і адзін абломак. Цэлыя камяні аднолькава падоўжанай формы і амаль аднолькавых памераў: даўжыня 0,55, 0,6 і 0,65 м, шырыня 0,35, 0,35 і 0,5 м, вышыня 0,25, 0,3 і 0,3 м. У выніку працяглага выкарыстання рабочая паверхня аднаго каменя стала карытападобнай. У верхніх камянёў–цёрачнікаў, знойдзеных на гарадзішчы каля вёскі Гарадзішча і Мікольскім селішчы, рабочая паверхня плоская. На Мікольскім селішчы знойдзены абломак верхняга жорнавага каменя. Гэта ўжо другая знаходка на паселішчах банцараўскай культуры: ніжні жорнавы камень выяўлены ў жытле № 16 на селішчы Замкавая Гара (Дзедзелавічы) (Митрофанов, 1978а. С. 115). Некаторыя даследчыкі з'яўленне жорнаў на паселішчах банцараўскай і тушамлінскай (усходняя Беларусь) культур звязваюць з паяўленнем тут славян (Штыхов, 1992. С. 116).

У паўднёвай частцы арэала банцараўскай культуры, верагодна, паявілася ворнае земляробства. Аб гэтым сведчыць знаходка крывадышальнага дубовага рала з полазам у тарфяніку каля вёскі Капланавічы (Клецкі раён). У якасці цяглавай сілы пры апрацоўцы зямлі ралам выкарыстоўваліся валы або быкі. Мяркуецца, што ў другой палове I тысячагоддзя н. э. з'явіліся жалезныя наральнікі.

З земляробствам цесна звязана жывёлагадоўля. Асноўнымі крыніцамі, якія дазваляюць вызначыць ролю жывёлагадоўлі, з'яўляюцца касцяныя рэшткі і звязаныя з гэтай галіной сельскай гаспадаркі прадметы матэрыяльнай культуры. Як і на паселішчах днепра–дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур, на селішчах банцараўскай культуры колькасць касцей свойскіх жывёл перавышае колькасць касцей дзікіх.

У складзе дамашняга статка буйная і дробная рагатая жывёла, свінні, коні. Паводле назіранняў Я.А. Шміта, на паселішчах трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э. Смаленшчыны ў параўнанні з папярэдняй эпохай павялічваецца пагалоўе свойскіх жывёл. Разам з тым удзельная вага каня ў складзе статка значна зменшылася. Коней зараз разводзяць не столькі дзеля мяса, як гэта было раней, а для верхавой язды, аб чым сведчаць шматлікія знаходкі прадметаў рыштунку коннага воіна і баявога каня (Митрофанов, 1978а. С. 115–116).

Прыладай для скошвання травы з'яўлялася каса–гарбуша, а для зразання лугавых кустоў і галінак з дрэў на корм жывёле прымяняўся папярэднік касы – касар. Знойдзеныя ў Мікольцах косы-гарбушы маюць шматлікія аналогіі ў старажытнасцях Літвы. Касары на помніках Літвы з'явіліся не пазней сярэдзіны I тысячагоддзя н. э. (Дундулене, 1968. С. 19).

Важнымі галінамі гаспадарчай дзейнасці заставаліся паляванне і рыбалоўства, але яны адыгрывалі дапаможную ролю. Спецыяльнай паляўнічай зброі не выяўлена. Знойдзеныя на паселішчах наканечнікі стрэл, коп'яў, дроціка маглі з аднолькавым поспехам выкарыстоўвацца як у ваеннай справе, так і на паляванні. Паляўнічай зброяй маглі быць сякеры і масіўныя кінжалападобныя нажы. Для лоўлі дробных звяркоў і птушак прымяняліся, відавочна, петлі, капканы, самаловы і іншыя прыстасаванні, якіх, на жаль, няма ў археалагічным матэрыяле.

Важнай крыніцай для папаўнення харчовых запасаў жыхароў Мікольскага селішча была лоўля рыбы. Частымі знаходкамі на паселішчы з'яўляюцца розныя па форме гліняныя грузілы для сетак (рэшткі саміх сетак не захаваліся).

Побач з невялікімі і сярэдніх памераў (даўжынёй 2,8–6,4 см) кручкамі, прызначанымі для лоўлі рыбы на вудачку або з дапамогай перамёта, знойдзены надзвычай масіўны кручок даўжынёй больш 11,5 см (частка абламана) з моцна патоўшчаным стрыжнем уверсе, разлічаны на прамысловую здабычу буйнай рыбы. У Мікольцах і Некасецку знойдзены блешні.

Акрамя сетак і кручных снасцей для лоўлі рыбы прымяняліся колючыя прылады (восці і гарпуны), розныя драўляныя снасці (бучы, кашы і інш. ).

Здзіўляе адсутнасць касцей і лускі рыбы на Некасецкім селішчы. У Мікольцах іх знойдзена даволі многа, але на жаль, да гэтага часу застаюцца нявывучанымі.

Сярод дамашніх рамёстваў асобнае месца займала здабыча і апрацоўка жалеза. Амаль на ўсёй даследаванай плошчы Мікольскага селішча трапляліся жалезныя шлакі. Асабліва многа іх было ў заходняй і паўднёвай частках. За 7 м на поўдзень ад падножжа гарадзішча ўскрыты рэшткі вытворчай хутчэй за усё жалезаапрацоўчай печы ў выглядзе пляцоўкі моцна абпаленай гліны. Слой гліны таўшчынёй да 0,2–0,3 м ляжаў на каменнай вымастцы. У плане пляцоўка мела няправільна-авальную форму (авал з трыма языкападобнымі выступамі) памерам 2,8 х 3,6 м. У цэнтры знаходзілася авальнае паглыбленне памерам 0,4 х 1,2 м, запоўненае чорнай (сажыстай або вуглістай) зямлёй з камянямі без гліны. Паблізу пляцоўкі знойдзены некалькі дзесяткаў кавалкаў жалезнага шлаку і буйных кускоў абпаленай гліны. У культурным пласце ў розных раскопах неаднаразова трапляліся кавалачкі балотнай жалезнай руды. Частай знаходкай з'ўляліся камяні з моцна сцертымі адным, а то і двума – трыма бакамі. Магчыма, імі карысталіся для расцірання руды ў парашок. Адсюль можна канстатаваць, што жыхары селішча атрымлівалі жалеза непасрэдна на паселішчы, дзе і выкідаліся адыходы вытворчасці. Такая ж карціна назіралася на гарадзішчах са штрыхаванай керамікай (Лявданский, 1932. С. 56).

Спосабы здабычы і апрацоўкі жалеза заставаліся ранейшымі. Як і ў мінулым, металургія жалеза і кавальская справа знаходзіліся ў руках адных і тых жа майстроў. Менавіта майстроў, таму што здабыча і асабліва апрацоўка жалеза былі складанай справай. Патрэбны былі не толькі спецыяльныя інструменты і прыстасаванні, але і спецыяльныя веды і навыкі. У сувязі з гэтым вывад А.М. Ляўданскага аб тым, што на Дзвіне і ў іншых частках Беларусі амаль на ўсіх ранніх (раней IX ст. ) паселішчах кожная родавая сям'я займалася выплаўкай для сябе жалеза з мясцовай балотнай руды і выраблялa розныя прылады працы, у свеце сённяшніх дадзеных патрабуе карэкціроўкі. Відавочна, больш правільным будзе, не кожная сям'я, а толькі асобныя сем'і спецыялізаваліся ў гэтай складанай справе.

Спецыяльных майстэрань, дзе плавілі бронзу і выраблялі ўпрыгожанні, у трэцяй чвэрці I тысячагоддзя яшчэ не было. Абломкі тыгляў знойдзены амаль ва ўсіх жытлах Гарадзішчанскага селішча. Больш паўсотні фрагментаў гэтых пасудзін выяўлена на ўсіх даследаваных участках Мікольскага селішча (мал. 78: 2–9, 12). Ёсць ўсе падставы меркаваць, што бронзаліцейнай справай займалася калі не кожная, то многія асобныя сем'і. У Мікольскім матэрыяле ёсць цэлыя ці амаль цэлыя тыглі. Усе яны акругладонныя, круглыя ў папярэчным разрэзе, з вертыкальнымі сценкамі і моцна аплаўленыя. Вышыня захаваўшыхся і рэстаўраваных экзэмпляраў 6,5 – 7,5 см. На Гарадзішчанскім селішчы (жытло № 17) знойдзены цэлы тыгель усечана–канічнай формы (мал. 61: 34).

У Гарадзішчы і Мікольцах знойдзены льячкі, якія, як прынята лічыць, выкарыстоўваліся для разліўкі расплаўленых каляровых металаў. З такой трактоўкай прызначэння гэтых пасудзін не згодзен А.Р. Мітрафанаў. На яго думку, яны выконвалі аднолькавую з тыглямі функцыю, з той толькі розніцай, што ў тыглях плавілі бронзу, а ў льячках – легкаплаўкія металы. Падставай для такога меркавання з'явілася знаходка на Некасецкім селішчы льячкі, унутры якой захаваліся рэшткі металу (волава або свінцу), з якога была выліта бляшня. Гэта, па–першае, і, па–другое, нявядома ні адной льячкі, у якой бы захаваліся рэшткі бронзы (Митрофанов, 1978а. С. 113).

Абедзве льячкі з Гарадзішча і ўсе пяць льячак з Мікольскага селішча маюць выгляд авальнай ці паўавальнай паглыбленай лыжкі з масіўнай утулкавай ручкай (мал. 61: 28; 78: 10, 11, 13, 15, 16). Аб'ём іх роўны 8–10 $см^3$. Падобныя льячкі знойдзены на селішчы Лукомль, у Ноўгарадзе Вялікім (Рындина, 1963. Рис. 7: 5; Шмидт, 1976. Рис. 24: 9; Рис. 58:7; Штыхов, 1978. Рис. 18: 11).

У Мікольцах адшуканы медны (бронзавы) прамавугольны ў сячэнні брусок 0,6 х 1 см, даўжынёй 10,3 см, які, магчыма, прызначаўся для пераплаўкі на месцы (мал. 65: 1). Выяўлена каменная ліцейная формачка (аб ёй ужо

гаварылася вышэй) і паўсферычная бляха для падвешвання трапецападобных падвесак, у палях якой няма адтулін. Гэта, несумненна, мясцовы паўфабрыкат.

Апрацоўка касцей і рагоў жывёл мела шматвяковую традыцыю. Аднак у параўнанні з больш ранняй эпохай касцяныя прылады працы і ўпрыгожанні ўжываліся ў значна меншай колькасці. Асартымент вырабаў таксама прыкметна зменшыўся. Тэхніка апрацоўкі косці амаль не змянілася. Сярод выяўленых у Мікольцах паўфабрыкатаў вылучаецца старанна апрацаваная блокападобная галоўка для шпількі, у якой яшчэ не зроблена паглыбленне для металічнага стрыжня (мал. 70: 4). На Гаранскім гарадзішчы знойдзена восем жалезных шпілек з такімі галоўкамі (Зверуго, 1992. Рис. 6: 9–12).

Камень для вырабу прылад працы і прыстасаванняў на паселішчах банцараўскай культуры выкарыстоўваўся рэдка. З яго выраблялі зерняцёркі і мялы (цёрачнікі), а на заключным этапе існавання культуры – паставы (дыскі) для жорнаў. Найбольш распаўсюджанымі прыладамі працы з'яўляліся тачыльныя брускі. Побач з брускамі, якія ўжо доўга выкарыстоўваліся (аб гэтым сведчаць сляды заточвання рэжучых і колючых інструментаў), знойдзены не закончаныя апрацоўкай вырабы з няроўнымі бакавымі паверхнямі. Выяўленыя на паселішчах каменныя сякеры ўжо, відавочна, не мелі практычнага прымянення і з'яўляліся прадметамі культу ("грамавымі стрэламі"). Як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, на вывучаемай тэрыторыі з глыбокай старажытнасці быў распаўсюджаны культ каменю.

Хаця драўляныя рэчы ў культурных пластах паселішч не захаваліся, аднак, несумненна, дрэва з'ўлялася важнейшым матэрыялам для вырабу прадметаў штодзённага побыту, сельскагаспадарчага і іншага інвентару, збудавання жытлаў, абарончых умацаванняў, гаспадарчых пабудоў. Ручкі нажоў, сярпоў, шылаў, тапарышчы, дрэўкі стрэл, коп'яў, дроцікаў, некаторыя рыбалоўныя снасці, прыстасаванні для палявання і многае іншае выраблялася з дрэва. А.Р. Мітрафанаў дапускае, што з дрэва выраблялася частка хатняга посуду, у прыватнасці міскі, якія сярод гліняных пасудзін прадстаўлены адзінкавымі абломкамі (Митрофанов, 1978а. С. 116).

Важнымі галінамі хатніх промыслаў, у якіх былі заняты пераважна жанчыны, з'яўляліся прадзіва, ткацтва, шыццё і пляценне. Гліняныя праслíцы, якія надзяваліся на драўляныя верацёны, знойдзены па 1–2, а то і па 3–4 экзэмпляры амаль ў палове жытлаў Гарадзішчанскага селішча. Акрамя таго, больш двух дзесяткаў выяўлена па-за жытламі. Рэшткі тканін не знойдзены. Аб іх тыпах можна меркаваць па адбітках на донцах гліняных пасудзін (кавалкі тканін пры фармоўцы падсцілалі пад пасудзіны ў якасці падстаўкі). У асноўным гэта былі тканіны тыпу сялянскага палатна. Ткацкі станок, відавочна, быў вертыкальным. Для пашыву адзення карысталіся касцянымі і жалезнымі іголкамі. Яны ж, разам з шыламі і качадыкамі, з'яўляліся інструментамі для пляцення. Шматкі рыбалоўных сетак разнастайных відаў пляцення знойдзены на неалітычных стаянках Літвы. На паселішчах штрыхаванай керамікі знойдзены донцы гліняных пасудзін з адбіткамі пляцёнкі тыпу сучаснай рагожы. Матэрыялам для яе вырабу хутчэй за ўсё з'ўлялася кара ліпы (Митрофанов, 1978а. С. 50).

Адбіткі пальцаў на гліняным посудзе сведчаць, што вырабам яго займаліся пераважна жанчыны. Лішнім пацверджаннем гэтаму з'яўляюцца знаходкі ў Мікольцах гліняных вырабаў нявызначанага прызначэння ў выглядзе струкоў гароху (бобу) з адбіткамі падушачак тонкіх пальцаў.




Мал. 58. План селішча Равячка (1); пахаванне на селішчы Равячка (2) (паводле А.Р. Мітрафанава)




Мал. 59. Селішча Гарадзішча. Планы і профілі жытлаў: 1— жытла № 14; 2 – жытла № 17; 3 – жытла № 13; 4 – жытла № 16; 5 – жытла № 12; 6 – жытла № 19 (паводле А. Р. Мітрафанава)




Мал. 60. Селішча Гарадзішча. Планы і профілі жытлаў: 1— жытла № 33; 2 – жытла № 37; 3 – жытла № 40; 4 – жытлаў № 38, 39; 5 – жытла № 35; 6 – жытла № 24 (паводле А. Р. Мітрафанава)




Мал. 61. Знаходкі з селішча Гарадзішча: 1 – спіралька; 2 – фібула; 3, 7, 9 – бранзалеты; 4 – абломак сярэбранай грыўні; 5 – фрагмент шпількі; 6, 8 – падвескі; 10–12 – кольцы; 13, 19–21 – нажы; 14 – наканечнік кап’я; 15, 16 – прасліцы; 17, 18 – шпоры; 22, 23, 32 – шылы; 24 – гаршчочак; 25 – прадмет нявызначанага прызначэння; 26, 27 – фрагменты сякер; 28 – л’ячка; 29, 31 – сярпы; 33 – абломак касы; 34— тыгель (паводле А. Р. Мітрафанава)




Мал. 62. Селішча Мікольцы. Жалезныя вырабы: 1 – 5 – нажы; 6, 7 – кручкі; 8 – прабой; 9, 10, 15 – прадметы нявызначанага прызначэння; 11 – брытва; 12 – цвік; 13, 18 – сякеры; 14, 16, 17 – прабойнікі (?)




Мал. 63. Селішча Мікольцы. Жалезныя вырабы: 1 – шыла; 2 – 9 – нажы; 10 – шпілька; 11, 16 – сякеры; 12 – трубачка; 13, 14 – язычкі спражак; 15 – скаба; 17 – прабойнік




Мал. 64. Сельскагаспадарчыя прылады з селішча Мікольцы: 1 – жатны нож; 2, 3 – косы; 4 — касар, 5 – серп; 6 – сашнік




Мал. 65. Селішча Мікольцы: 1 – брусок бронзы; 2 – 6, 8 – рыбалоўныя кручкі; 7 – бляшня; 9, 10 – баявыя нажы; 11, 12, 14 – наканечнікі стрэл; 13 – шпора; 15 – наканечнік дроціка




Мал. 66. Селішча Мікольцы: 1, 3, 13 – 16 – шылы; 2 – іголка; 4 – 8 – шпількі; 9 – трымальнік; 10 – фібула; 11, 12 – нажы; 17 – кальцо




Мал. 67. Знаходкі з селішч Равячка (1–8) і Гуры (9–18): 1, 2, 6, 7, 16 – нажы; 3 – язычок спражкі; 4, 5, 9, 13–15 – прасліцы; 8 – шыла; 10 – фібула; 11, 12 – кольцы; 17 — жатны нож, 18 – серп (паводле А. Р. Мітрафанава)




Мал. 68. Ювелірныя вырабы з селішча Мікольцы: 1, 7, 13, 14 – скроневыя кольцы; 2, 9, 11 – фібулы; 3 – кальцо; 4, 5, 8, 10, 19 – бранзалеты; 6, 12 – пярсцёнкі; 15, 16 – дэфармаваныя бранзалеты; 17 – спіралька; 18 – абломак скроневага кальца; 20 – пласціна – накладка.




Мал. 69. Селішча Мікольцы: 1, 11 – пінцэты; 2, 4, 12 – трымальнікі з падвескамі; 3 – трымальнік; 5 – абломак скроневага кальца; 6, 18, 20 – 24 – прывескі; 7 – лунніца; 8 – пярсцёнак; 9 – спражка; 10 – трубачка; 13, 14 – скроневыя кольцы; 15, 16 – шкляныя пацеркі; 17 – спіралька; 19 – палоска




Мал. 70. Касцяныя вырабы з селішча Мікольцы: 1 – долата; 2 – інструмент для арнаментацыі керамікі; 3, 10, 18, 23 – ручкі; 4, 5 – галоўкі шпілек; 6—8 – іголкі; 9, 11 – падвескі; 12—15 – зубы-амулеты; 16, 17, 19, 20, 22 – праколкі; 21 – пласціна – накладка




Мал. 71. Вырабы з каменя з селішча Мікольцы: 1, 2 – сякеры – кліны; 3, 4 – свідраваныя сякеры; 5, 6, 9, 11–13, 16 – тачыльныя камяні; 7 – плітка з круглым паглыбленнем; 8, 10 – мялы; 14, 15 – камяні – спарышы




Мал. 72. Кераміка з Мікольскага селішча




Мал. 74. Кераміка з Мікольскага селішча




Мал. 75. Прасліцы з Мікольскага селішча



Мал. 76. Грузікі “дзякавага тыпу” (1, 3), грузілы для сетак (2, 4 – 17) і арнаментаваны выраб (5) з Мікольскага селішча




Мал. 77. Вырабы з гліны з селішча Мікольцы: 1 – блокападобны выраб; 2, 5 – арнаментаваныя пліткі; 3 – незаканчанае прасліца; 4, 7 – фрагменты керамікі; 6 – зоркападобная плітка; 8, 10, 11 – донцы пасудін; 9 – прасліца; 12 – тачыльны брусок (?); 13, 14 – грузілы для сетак




Мал. 78. Селішча Мікольцы: 1 – ліцейная формачка; 2—9 , 12 – тыглі; 10, 11, 13, 15, 16 – л’ячкі; 14, 17 – абломкі соплаў

# ГЛАВА IV. СЛАВЯНСКІЯ СТАРАЖЫТНАСЦІ

## 1. Паселішчы

Як ужо адзначалася вышэй, у сярэдзіне I тысячагоддзя н. э. заходняя частка Беларускага Павілля была заселена плямёнамі, якія пакінулі ўсходнелітоўскія курганы. Ва ўсходняй частцы вывучаемага рэгіёну ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя жылі плямёны, якія пакінулі гарадзішчы-сховішчы, селішчы і могільнікі, вядомыя ў археалагічнай літаратуры як помнікі “верхняга слоя Банцараўшчыны, Тушамлі, Калочына” або “банцараўскай культуры”. Большасць даследчыкаў (Э.М. Загарульскі, А.Р. Мітрафанаў, І.П. Русанава, В.В. Сядоў, П.М. Трэцякоў, Я.А. Шміт) лічаць іх балцкімі помнікамі. Л. Д. Побаль звязвае са славянамі. Асваенне зямель Беларускага Павілля славянамі (асабліва заходняй яе часткі) працягвалася некалькі стагоддзяў. Яно ахоплівала значную частку апошняй чвэрці I і пачатак II тысячагоддзя н. э.

Калі характэрныя для насельніцтва банцараўскай культуры адкрытыя паселішчы нярэдка размяшчаліся каля гарадзішч эпохі ранняга жалеза, якія выкарыстоўваліся як гарадзішчы-сховішчы, то славянскія неўмацаваныя паселішчы даволі часта размяшчаліся там, дзе да іх існавалі паселішчы банцараўскай культуры. Археалагічнае вывучэнне славянскіх паселішч канца I – пачатку II тысячагоддзя н. э. на даследуемай тэрыторыі пачалося толькі ў пасляваенныя гады. Да гэтага часу аб’ектамі археалагічных даследаванняў з’яўляліся толькі курганныя могільнікі.

Найбольш значныя раскопачныя работы праведзены на селішчы, размешчаным за 2 км на паўднёвы захад ад вёскі Ізбішча Лагойскага раёна ва ўрочышчы Калыскаўка. Яно размешчана на першай надпойменнай тэрасе правага берага ракі Дзвінасы (левы прыток Віліі), паміж краем тэрасы і курганным могільнікам. Памеры селішча прыкладна 300 х 150 м. Помнік адкрыў у 1985 годзе М.М. Чарняўскі. У наступным годзе абследаваў В.У. Казей. Раскопачныя работы вяліся пад кіраўніцтвам В.У. Казея (1987, 1989) і Г.В. Штыхава (1990, 1991). Культурны пласт ускрыты на плошчы 824 м$^2$. Таўшчыня пласта да 0,5 м. У некаторых месцах у выніку глыбокага ўзворвання ён пашкоджаны да мацерыка.

Раскопкамі ўскрыты рэшткі печаў-каменак і адкрытых агнішчаў. Знойдзены дзве познелатэнскія фібулы III–IV стст, літая шырокарогая лунніца, арнаментаваная V–падобна размешчанымі радамі выпуклых кропак (у Ноўгарадзе такія лунніцы датуюцца X ст. ), фрагмент змеягаловага бранзалета (у Літве такія бранзалеты датуюцца X–XIII стст.), абломак бронзавага пінцэта. Выяўлены бронзавыя бразготкі, накладка ад пояса, кальцо з разамкнутымі канцамі, гліняная ліцейная форма.

Жалезныя вырабы прадстаўлены фрагментамі сярпа, шылам, абломкам крэсіва, пласцінкай трохвугольнай формы, прызначэнне якой няяснае. Знойдзены шкляныя пацеркі (з вочкамі і зонная), гліняныя праслiцы. (Штыхаў, 1992а. С. 78–80). Разам з тым у раскопе 1988 г. знойдзены абломкі кафлі з зялёнай палівай і кераміка XVI–XVII стст.

Кераміка ляпная і кругавая. Сярод ляпной: штрыхаваная, з расчосамі, шурпатая, гладкасценная і глянцаваная. Найбольш шматлікія абломкі штрыхаванай керамікі. (У раскопе 1987 года яны складаюць амаль палову ўсёй ляпной керамікі). На другім месцы – гладкасценная ( у раскопе 1987 года – амаль чацвёртая частка ляпной керамікі). Кераміка з расчосамі, шурпатая і глянцаваная прадстаўлены амаль аднолькавай колькасцю фрагментаў (9–11%). Асобна патрэбна адзначыць знаходку на селішчы абломка венчыка рабрыстай пасудзіны з аблітай, шурпатай паверхняй. У Літве такая кераміка датуецца II–III стст. Селішча Ізбішча - гэта найбольш усходні пункт тэрыторыі Беларусі, дзе знойдзена такая кераміка. Кераміка, зробленая з прымяненнем ганчарнага круга, значна больш шматлікая, чым ляпная (у раскопе 1987 года яе колькасць больш чым у 6 разоў перавышае колькасць ляпной, 1382 фрагменты супраць 224). Даволі шматлікую групу складае познесярэдневяковая кераміка.

Такім чынам, на селішчы Ізбішча знойдзена штрыхаваная кераміка, якая адносіцца да заключнага этапу існавання гэтай культуры (III–IV стст.). Другой чвэрцю I тысячагоддзя н. э. датуецца кераміка з расчосамі і з шурпатай паверхняй, трэцяй чвэрцю – кераміка банцараўскай культуры. Побач з банцараўскай знойдзена падобная на яе кераміка доўгіх курганоў (апошняя чвэрць I тысячагоддзя н. э. ). І, нарэшце, разам з ранняй кругавой керамікай (канец X – пачатак XI ст.) знойдзена позняя (як ужо адзначалася, да XIV–XVII стст. уключна).

На аснове здабытага матэрыялу і перш за ўсё керамікі можа быць вызначана дата існавання паселішча. Яно ўзнікла ў другой чвэрці I тысячагоддзя н. э. і з перапынкамі існавала на працягу амаль паўтара тысячагоддзя (да XVI–XVII стст. уключна).

Да ліку шматслойных і рознакультурных помнікаў адносіцца і гарадзішча Некасецк Мядзельскага раёна (мясцовая назва Чорная Гара). Яно размешчана за 1,5 км на захад ад вёскі на ізаляваным узгорку. Над прылягаючай мясцовасцю ўзвышаецца на 7–9 м. Паўночны, усходні і заходні схілы ўзгорка стромкія. Магчыма, былі падрэзаны ў старажытнасці. Паўднёвы схіл злёгку пакаты. Пляцоўка авальнай формы, памерам 47 х 35 м, нахілена на поўдзень. Ніякіх нават самых нязначных слядоў земляных абарончых збудаванняў на краях пляцоўкі няма. Надзейнай абаронай для жыхароў былі перш за ўсё стромкія схілы. Па краях пляцоўкі меліся, відавочна, умацаванні ў выглядзе частаколу ці тыну.

Гарадзішча вядома з канца XIX ст. У 1930-я гады яго абследавалі Г. Цэгак–Галубовіч і У. Галубовіч. У 1953 годзе А.Р. Мітрафанаў правёў раскоп-кі. Культурны слой ускрыты на плошчы 40 м$^2$. Выяўлены тры культурныя пласты: у ніжнім знойдзены фрагмены штрыхаваных рабрыстых гаршкоў, у сярэднім – абломкі гладкасценных слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў, у верхнім – ганчарная кераміка. Знойдзены жалезны серп, абломак нажа, бронзавая трапецападобная падвеска, гліняныя праслiцы, касцяныя праколкі (Митрофанов, 1970в. С. 248, 250). Гарадзішча адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі, банцараўскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі. Датуецца I–IV, VI–VIII, X–XI стст.

Вакол гарадзішча размяшчаецца селішча. Яго плошча прыблізна 1–1,3 га. Культурны слой прасочваецца на адлегласці 50–70 м ад асновы гарадзішча. Селішча адкрыў у 1953 г. А.Р. Мітрафанаў. У 1965 г. ён правёў раскопкі. Культурны слой ускрыты на плошчы 65 м$^2$. Таўшчыня слоя 0,5–0,7 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла памерам 3,85 х 3,4 м з печкай-каменкай. Знойдзены фрагменты слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў, бронзавы пярсцёнак, шпілька, блешня, тыглі, льячка з рэшткамі свінцу (?) на сценках, гліняныя праслiцы. На схіле ўзгорка знойдзены абломкі кругавой керамікі, жалезны гарпун, бронзавая бразготка. Селішча адносіцца да банцараўскай культуры (VI–VIII стст. ) і да эпохі Кіеўскай Русі (IX–XI стст. ).

Тры комплексы паселішчаў, кожнае з якіх складаецца з гарадзішча і селішча, маюцца на трох буйнейшых азёрах нарачанскай групы: Мястра, Нарачы і Мядзеле (апошняе возера адносіцца да басейна Заходняй Дзвіны).

Гарадзішча на паўвостраве (раней востраве) возера Мястра вядома сярод мясцовых жыхароў пад назвай Замак. Яно займае ўзгорак памерам 120 х 105 м. З двух бакоў (усходу і поўдня) да гарадзішча прымыкае забалочаная нізіна, а з захаду – бераг возера. Над узроўнем возера і плаўнямі пляцоўка ўзвышаецца на 3,5–4 м. У археалагічнай літаратуры гарадзішча вядома з канца XIX ст. (Покровский, 1893. С. 33–34). У 1981 годзе яго даследаваў М.А. Ткачоў. Таўшчыня культурнага пласта да 0,7 м. Знойдзена кераміка XI–XVII стст. , у тым ліку белагліняная, абломкі паліхромнай кафлі з разнастайнымі сюжэтнымі малюнкамі (раслінннымі ўзорамі, малюнкамі бытавога характару і інш. ), жалезныя вырабы, косці свойскіх і дзікіх жывёл, манеты XVI–XVII стст. (Ткачев, 1972. С. 409; 1983. С. 360).

За 50–150 м на ўсход і паўднёвы ўсход ад гарадзішча знаходзіцца селішча. Ад гарадзішча яно аддзелена забалочанай нізінай. Культурны слой таўшчынёй 0,4–0,6 м прасочваецца на плошчы больш за 2 га. У 1981 годзе экспедыцыяй Гродзенскага універсітэта ўскрыта 88 м$^2$. Выяўлены рэшткі печаў–каменак і адкрытых агнішчаў. Знойдзены жалезныя нажы, жалезная дужка ад драўлянага вядра, кавалкі шлаку, кераміка X/XIII–XVII стст. (Ткачев, 1983. С. 360).

Ёсць меркаванне, што Мядзел як пагранічны горад Полацкай зямлі размяшчаўся на востраве Замак возера Мядзел (ад яго і атрымаў сваю назву). Тут добра захавалася гарадзішча авальнай формы памерам 70 х 52 м. З трох бакоў яно абмывалася вадой, а з чацвёртага напольнага (заходняга) боку было ўмацавана валам вышынёй больш за 5 м і шырокім 20–метровым ровам. Невысокія валы маюцца з поўдня і поўначы. Яны, як і вал з заходняга боку, узведзены з гліны вельмі шчыльнай структуры і з абодвух бакоў абкладзены камянямі. На валах меліся драўляныя збудаванні, якія, як устаноўлена даследаваннямі, тройчы гарэлі. Высока паднятая пляцоўка (усходні край узвышаецца над возерам на 10 м), стромкія схілы, магутныя абарончыя збудаванні і, нарэшце, шырокая водная прастора возера надзейна абаранялі жыхароў ад нечаканых нападаў. У 1934 годзе гарадзішча абследавалі Г. Цэгак–Галубовіч і У. Галубовіч (Hołubowicz, 1937. S. 86), у 1966 годзе – Л.В. Аляксееў (Алексеев, 1966. С. 82). У 1981 годзе М.А. Ткачоў зрабіў на ім шурфоўку. Выяўлены культурны слой таўшчынёй 1,8–2,45 м. Знойдзена кераміка X–XV стст., шыфернае праслiца, жалезныя нажы, тачыльныя брускі, касцяная пласцінка з цыркульным арнаментам, абломкі жорнаў, кавалкі шлаку, косці жывёл, птушак і рыб (Ткачев, 1983. С. 360). Мяркуючы па кераміцы, гарадзішча было заселена ўжо ў X ст., а ў XV ст. пакінута жыхарамі.

Каля падножжа гарадзішча маецца селішча плошчай больш 1,5 га. Пры шурфоўцы знойдзена кераміка XI–XIII стст., бронзавая спражка з язычком, тачыльны брусок, косці жывёл.

Акрамя гарадзішча, на востраве Замак на возеры Мядзел маецца яшчэ адно гарадзішча, на востраве Гарадок. Авальная пляцоўка памерам 30 х 15–20 м выцягнута з паўднёвага ўсходу на паўночны захад. Вышыня пляцоўкі над узроўнем вады 3–6 м. Земляныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Знойдзены фрагменты штрыхаванай і кругавой керамікі. Даследаванні аўтара.

На трэцім востраве возера Мядзел, вядомым пад назвай Уклейна (Куклеева) выяўлены сляды селішча. Тут таксама знойдзена штрыхаваная і кругавая кераміка. Абследаваў аўтар.

Паселішчы двух тыпаў (гарадзішча і селішча) маюцца на востраве возера Нарач. Гарадзішча (Замчышча) размешчана на заходнім краі вострава. Значная частка пляцоўкі размыта водамі возера, пашкоджана траншэямі і бліндажом часоў І-й сусветнай вайны. Першапачатковя памеры пляцоўкі былі прыкладна 30 х 20 м. Земляныя абарончыя збудаванні захаваліся фрагментарна. Знойдзена кругавая кераміка. Выявілі ў 1934 годзе Х. Цэгак–Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1980 годзе М. М. Чарняўскі, у 1985 годзе аўтар (Звяруга, 1987б. С. 85).

Селішча знаходзіцца на ўсходняй ускраіне вострава. Плошча каля 0,6 га. Таўшчыня культурнага слоя 0,3–0,4 м. Знойдзена ляпная гладкасценная і кругавая кераміка. Выявіў у 1980 годзе М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 годзе аўтар.

Гарадзішча, якое, відавочна, з’яўлялася феадальным замкам, маецца каля вёскі Рэчкі Вілейскага раёна. Яно размешчана за 0,3 км на ўсход ад паўночнай ускраіны вёскі. Займае заходнюю частку ўзвышша, выцягнутага з усходу на захад. Пляцоўка авальнай формы памерам 50 х 40 м. З напольнага боку яна ўмацавана валам вышынёй 2 м. У 3,5–4,5 м ад пляцоўкі на схілах узвышша з захаду і ўсходу маюцца равы шырынёй 4–5 м і валы вышынёй 1,5–2,5 м, а з поўначы і поўдня – тэраса шырынёй 3–7 м. Уезд на гарадзішча знаходзіцца з паўночнага боку. Помнік вядомы з сярэдзіны XIX ст. у 1857 годзе яго абследаваў А. Кіркор, у 1934 годзе гарадзішча абследавалі Г. Цэгак–Галубовіч і У. Галубовіч (Hołubowicz, 1937. S. 86), у 1956 годзе – Л.В. Аляксееў, у 1985 годзе – аўтар (Звяруга, 1987а. С. 158).

Каля падножжа гарадзішча, на ўсход і захад ад яго размешчана селішча плошчай каля 1,5 га. З усходняга боку ў некаторых месцах маюцца паглыбленні, відавочна, западзіны ад зямлянкавых жытлаў. З заходняга боку культурны слой таўшчынёй 0,4–0,5 м прасочваецца на асобных участках. Выявіў і абследаваў у 1983 годзе М.М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 годзе аўтар.

**2. Пахавальныя помнікі**

Пахавальнымі помнікамі славянскага насельніцтва вывучаемага рэгіёну ў раннім сярэднявякоўі (у некаторых месцах да канца XIII – пачатку XIV ст. уключна) з’яўляліся курганныя могільнікі. Як ужо адзначалася вышэй, яны лакалізуюцца ў басейне Верхняй Віліі, у той час як сярэдняе яе цячэнне было занята курганамі ўсходнелітоўскага тыпу.

Значная частка могільнікаў размяшчаецца на берагах рэк і азёр ці ў непасрэднай блізкасці ад іх. Да нядаўняга часу ў некаторых з іх налічвалася 100 і болей насыпаў. Так, напрыклад, у могільніку Ізбішча Лагойскага раёна было 145 насыпаў (болей 100 раскопана ў 1980-я гады). Больш за 100 насыпаў налічвалася ў могільніку Наўры Мядзельскага раёна (значная частка разбурана пры пракладцы дарогі ў 1930-я гады). Найбольш буйныя могільнікі захаваліся каля вёсак Камена Вілейскага раёна (у двух могільніках 117 насыпаў), Любоўшы таго ж раёна – 97, Навасёлкі Мядзельскага раёна – 169, Нагаўкі таго ж раёна – 156 насыпаў. Побач з буйнымі вядомы могільнікі, якія складаюцца з двух–трох дзесяткаў, а то і менш дзесятка кurганоў.

Як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, славянскія курганы Павілля звычайна маюць у плане круглую форму, а насып – у форме сферычнага сегмента. Дыяметр пераважнай большасці курганоў вагаецца ад 5 да 12 м, вышыня – ад 0,5 да 2 м. Курганы дыяметрам менш за 5 м і больш за 12 м, а таксама вышынёй больш за 2 м адзінкавыя. Насыпы ўзводзіліся з узятай паблізу зямлі, часцей за ўсё – пяску або супеску. Каля асновы насыпаў звычайна маюцца прадаўгаватыя ямкі або раздзеленыя перамычкамі неглыбокія раўкі. Побач з круглымі ў плане курганамі зрэдку сустракаюцца падоўжаныя насыпы.

Пануючым абрадам пахавання было трупапалажэнне. Трупаспаленне сустракаецца значна радзей. Пры гэтым пахаванні, зробленыя паводле абодвух абрадаў, сустракаюцца нярэдка ў складзе адных і тых жа могільнікаў, але колькасныя суадносіны іх розныя. Так, напрыклад, з 29 даследаваных у Наўрах курганоў у 22 меліся трупапалажэнні, у 1 – трупаспаленне, 6 аказаліся “пустымі” (Cehak–Hołubowiczowa, 1937. S. 6, 24). Сярод 108 раскапаных у Ізбішчы курганоў толькі 8 мелі трупаспаленні (значная колькасць насыпаў тут таксама аказалася без пахаванняў (Штыхаў, 1992. С. 80–81).

Курганы VIII–IX стст. з пахаваннямі па абрадзе трупаспалення ў Верхнім Павіллі вядомы пакуль што толькі ў двух месцах: Сосенка (Вілейскі раён) і Занарач (Мядзельскі раён). Больш абшырная геаграфія курганоў з крэмацыяй двух наступных стагоддзяў (X–XI стст). Пятнаццаць курганоў з крэмацыямі даследавалі Е. Цэгак–Галубовіч і У. Галубовіч у могільніку каля вёскі Галянова Вілейскага раёна, сем – каля вёскі Свінка Мядзельскага раёна, чатыры паблізу вёскі Гаравішкі Смаргонскага раёна, тры – каля вёскі Пільцы таго ж раёна (Hołubowicz, 1937. S. 84–88). Матэрыялы гэтых раскопак засталіся неапублікаванымі. Тры падоўжаныя курганы з трупаспаленнямі раскапалі скарбашукальнікі ў могільніку Ізбішча. Пахавальны інвентар, які захаваўся, складаўся з двухшыпных наканечнікаў стрэл, рыбалоўнага кручка, бронзавай падковападобнай фібулы, бронзавага бранзалета з канцамі ў выглядзе змяіных галовак, калачападобнага крэсіва, нажа і падпраўленага на ганчарным крузе гаршка (Штыхов, 1984. С. 377–378).

Пахавальны інвентар у курганах з трупаспаленнем вельмі бедны. Найбольш частай знаходкай з'яўляюцца абломкі кругавых гліняных пасудзін. Ляпныя таўстасценныя гаршкі адзінкавыя. У мужчынскіх пахаваннях трапляюцца крэсівы, нажы, тачыльныя камяні, у жаночых – упрыгожанні (скроневыя кольцы, пацеркі, бранзалеты) і дробныя прылады працы (нажы, прасліцы).

Круглыя ў плане курганы з пахаваннямі па абрадзе трупапалажэння па знешнім выглядзе не адрозніваюцца ад курганоў з трупаспаленнем: тыя ж паўсферычныя земляныя насыпы, тыя ж неглыбокія ямкі або раўкі каля асновы. Можа, ў іх ( ды і то далёка не заўсёды) больш плоскія вяршыні.

Як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, пахаванні ў курганах з трупапалажэннем ў басейне Верхняй Віліі рабіліся на ўзроўні старажытнага гарызонту глебы (на гарызонце), у курганным насыпе (на падсыпцы), у магільнай яме пад насыпам. Так жа, як і на іншай тэрыторыі рассялення дрыгавічоў і палачан, у вывучаемым рэгіёне пераважаюць пахаванні з трупапалажэннямі на гарызонце. У Наўранскім могільніку ва ўсіх 22 курганах з трупапалажэннямі пахаванні зроблены на ўзроўні старажытнага гарызонту глебы (Cehak–Hołubowiczowa, 1937. S. 10). У Кастыках ва ўсіх 7 даследаваных курганах пахаванні таксама на гарызонце.

У курганах з трупапалажэннямі на гарызонце звычайна бывае па адным пахаванні. Толькі адзіночныя пахаванні меліся ва ўсіх 22 наўранскіх курганах. Але вядомы выпадкі, калі пад адным курганным насыпам былі пахаваны два, а то і тры нябожчыкі. Так, напрыклад, у кургане № 3 у Кастыках былі пахаваны два, а ў кургане № 6 – тры памерлыя (праўда, у апошнім кургане адно з пахаванняў, магчыма, было ўпускным). Зрэдку парныя трупапалажэнні сустракаліся ў могільніку Ізбішча (Штыхаў, 1992. С. 81).

Як і ў іншых землях Беларусі, у трупапалажэннях на гарызонце вывучаемага рэгіёну, нябожчыкі ў пераважнай большасці ляжаць у выцягнутым стане, галовамі на захад, нярэдка з адхіленнямі на поўнач або поўдзень (у залежнасці ад таго, якой парой года адбывалася пахаванне).

Побач з заходняй арыенціроўкай у могільніку Ізбішча зрэдку сустракаецца ўсходняя і паўночная. Першую арыенціроўку некаторыя даследчыкі лічаць уласцівай для балцкіх плямён, другую – для угра-фінскіх. Па падліках Г. В. Штыхава, трупапалажэнні з усходняй арыенціроўкай складаюць у Паўночнай Беларусі 11,4%, а з паўночнай – 6,5% (Штыхаў, 1992. С. 66).

Становішча рук нябожчыкаў рознае. Часцей за ўсё рукі ляжаць уздоўж тулава, радзей – адна рука ўздоўж тулава, другая – сагнута ў локці і ляжыць на жываце ці на грудзях, яшчэ радзей – сагнуты абедзве рукі, а кісці падцягнуты да падбародка або складзены на жываце ці грудзях. На думку некаторых даследчыкаў, становішча рук памерлых з кісцямі ля падбародка характэрна для балцкіх плямён, а скрыжаванне рук на грудзях – для ўсіх усходнеславянскіх плямён. На думку П.Ф. Лысенкі, рознае становішча рук з'яўляецца вынікам храналагічных перамен у абрадзе пахавання ў ходзе яго набліжэння да кананічнага хрысціянскага абраду (Лысенко, 1991. С. 46).

Рэшткі дамавін сустракаюцца рэдка. Звычайна гэта вельмі нязначныя рэшткі, часцей за ўсё сляды згніўшага дрэва. У адным з курганоў у Кастыках выяўлены жалезныя цвікі, у другім – рэшткі дрэва без цвікоў. Толькі рэшткі дрэва прасочваліся ў курганах могільніка Ізбішча (цвікі не былі знойдзены). Аднак адсутнасць цвікоў зусім не сведчыць аб тым, што нябожчыкаў хавалі без дамавін. На аснове даследаванняў у іншых рэгіёнах Беларусі вядома, што выкарыстоўваліся выдзеўбаныя дамавіны або дамавіны, зробленыя з дошак, змацаваных паміж сабой пазамі і планкамі з выразамі, без прымянення цвікоў.

У дзевяці наўранскіх курганах у аснове насыпу, амаль на ўсёй яго плошчы меліся праслойкі зямлі, перамешанай з вуглямі таўшчынёй ад 2 да 10 см. Аналагічныя праслойкі зафіксаваны ў трох кастыцкіх курганах. Наяўнасць вугальных (вугальна–попельных) праслоек з'яўляецца адным з найбольш

характэрных прызнакаў пахавальнага абраду дрыгавічоў. А.В. Успенская бачыць у гэтых праслойках перажытачныя з'явы папярэдняга абраду – трупаспалення (Успенская, 1953. С. 101). Паводле В.В. Сядова, яны з'яўляюцца перажыткамі пахавальнага абраду папярэдняга балцкага насельніцтва (Седов, 1970. С. 87).

Косці шкілетаў, якія ў Наўрах ляжалі на рэштках вогнішч, пачарнелі ад вуглёў. Але ні ў адным выпадку ні косці шкілетаў, ні прадметы пахавальнага інвентару не пашкоджаны агнём. У пяці наўранскіх курганах з трупапалажэннем акрамя рэшткаў вогнішч у аснове, праслойкі зямлі з вуглямі і попелам меліся ў насыпе. На думку Х. Цэгак–Галубовіч, гэта не рэшткі памінальных вогнішч і трызн (ні абломкаў гліняных пасудзін, ні касцей жывёл і птушак тут не знойдзена), а проста рэшткі вогнішч на пахавальных пляцоўках, якія не трапілі непасрэдна ў пахаванне (Cehak–Hołubowiczowa, 1937. S. 7, 17).

Калі ў Наўрах наяўнасць слядоў памінальных трызнаў застаецца пад пытаннем, то прысутнасць іх у курганах могільніка Ізбішча не выклікае сумнення. Тут у насыпах неаднаразова траплялiся фрагменты керамікі, косці жывёл, птушак і рыб (Штыхаў, 1992. С. 81).

Як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, пахавальны інвентар у курганах з трупапалажэннем на гарызонце ў курганах Беларускага Павілля непараўнальна больш багаты за курганы з абрадам трупаспалення. Насыпы, у якіх сустракаюцца касцякі без рэчаў, адзінкавыя.

У жаночых пахаваннях – гэта перш за ўсё ўпрыгожанні. Прылады працы ў жаночых пахаваннях нешматлікія, затое ў мужчынскіх яны звычайна складаюць асноўную масу знаходак. Акрамя прылад працы, у мужчынскіх пахаваннях сустракаюцца прадметы ўзбраення, прыналежнасці адзення, бытавыя прадметы.

Сярод пахавальнага інвентару асаблівую цікавасць уяўляюць этнавызначальныя прадметы.

Для дрыгавічоў – гэта буйназярнёныя пацеркі, для крывічоў – бранзалетападобныя з завязанымі канцамі скроневыя кольцы.

Буйназярнёныя пацеркі выяўлены толькі ў могільніку Ізбішча.

Два бранзалетападобныя завязаныя скроневыя кольцы знойдзены ў Наўрах. Адно з іх зроблена з круглага ў сячэнні бронзавага дроту, другое – сярэбранае (мал. 99: 22). Два такія кольцы знойдзены ў Кастыках (мал. 92: 30). Абодва з круглага бронзавага дроту. У адным з багатых пахаванняў могільніка Ізбішча было шэсць бранзалетападобных скроневых кольцаў (Штыхаў, 1992. С. 81).

Тыповымі для курганоў дрыгавічоў упрыгожаннямі з'яўляюцца пярсцёнкападобныя паўтараабаротныя скроневыя кольцы. Два зробленыя з бронзы такія кольцы знойдзены ў адным з дзіцячых пахаванняў Наўранскага могільніка (мал. 99: 3, 18), у другім дзіцячым пахаванні (мал. 92: 9, 10) – фрагмент кальца. Аналагічныя ўпрыгожанні выяўлены ў курганах могільніка Кастыкі.

Акрамя паўтараабаротных, у курганах Беларускага Павілля сустракаюцца пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы несамкнутыя і самкнутыя, а таксама кольцы з завітком на канцы.

Несамкнутыя і самкнутыя кольцы знойдзены ў могільніках Наўры і Ізбішча. У адрозненне ад кольцаў з курганоў з могільніка Ізбішча, у якіх аднолькавая па ўсяму кальцу таўшчыня дроту, у несамкнутых і самкнутых кольцаў з Наўраў сярэдняя частка значна таўсцейшая за канцы (мал. 99: 2, 14).

У могільніку Кастыкі знойдзены самкнутыя кольцы абодвух разнавіднасцей: з аднолькавай па ўсяму кальцу таўшчынёй дроту і з патоўшчанай сярэдняй часткай (мал. 92: 2, 14, 15).

Пярсцёнкападобныя кольцы з завітком на канцы выяўлены толькі ў курганах Ізбішча (Штыхаў, 1992. Мал. 3: 1, 5–9).

Даволі частай знаходкай у курганах Павілля з'яўляюцца пярсцёнкі. Кругладротавы спіральны ў чатыры абароты пярсцёнак трапіўся ў адным з наўранскіх курганоў (мал. 99: 13).

У другім кургане (мал. 99: 10) гэтага могільніка знойдзены пярсцёнак з трох дротаў, канцы якіх спаяны разам, а канцы пярсцёнка заходзяць адзін за другі. У выніку праведзенага ў лабараторыі тэхнічнай хіміі Віленскага універсітэта аналізу ўстаноўлена, што ён зроблены са сплаву, які складаецца з цынку (2,42 %), медзі (55,05 %) і срэбра (43,10 %) (Cehak–Hołubowiczowa, 1937. S. 34, 36).

У курганах могільнікаў Кастыкі і Камена-2 знойдзены рубчатыя пярсцёнкі, якія ў археалагічнай літаратуры атрымалі назву ілжэвітых (адлітыя ў формах, знятых з сапраўдных вітых пярсцёнкаў).

У двух курганах (мал. 92: 6, 7, 13; 97: 2, 11) Наўранскага могільніка знойдзены простыя пласціністыя пярсцёнкі, зробленыя з неарнаментаваных бронзавых палосак. У аднаго з іх аднолькавая па ўсяму кальцу шырыня палоскі (мал. 99: 6), у другога – на канцах яна больш вузкая.

Асаблівую цікавасць уяўляюць пласціністыя пярсцёнкі з Ізбішча. Яны шырокасярэдзінныя з завязанымі канцамі і так званыя вусатыя, вузкія

канцы якіх некалькі разоў абвіваюцца вакол кальца. Вонкавы бок большасці пярсцёнкаў упрыгожаны чаканным узорам, які складаецца з прамых, авальных і зігзагападобных ліній. Пярсцёнкі абодвух відаў засяроджаны ў паўночным раёне рассялення дрыгавічоў. П.Ф. Лысенка выказвае меркаванне, што яны не характэрны для дрыгавічоў (Лысенка, 1991. С. 73).

Бранзалеты ў пахавальным інвентары вывучаемага рэгіёну прадстаўлены трыма тыпамі: кругладротавымі, вітымі і пласцiністымі і выяўлены ў курганах могільніка Ізбішча.

Пласціністы бранзалет знойдзены ў Наўрах. Яго адзін канец абламаны, другі аформлены ў выглядзе галавы змяі (мал. 99: 9). Знешні бок арнаментаваны кропкамі, зігзагападобнымі і прамымі перасякаючыміся ў выглядзе літары Х лініямі.

Кругладротавыя разамкнутыя бранзалеты зроблены з круглага дроту, канцы якога крыху звужваюцца. Такія бранзалеты, па словах М.В. Сядовай, вядомы сярод старажытнасцей усіх часоў і народаў (Седова, 1959. С. 249).

Вітыя бранзалеты зроблены са складзенага ў тры столкі дроту. Падобна як і кругладротавыя, вітыя бранзалеты распаўсюджаны ў асноўным у паўночных раёнах дрыгавіцкай тэрыторыі. (Лысенка, 1992. С. 78).

Шыйныя грыўні ў курганах Павілля двух тыпаў: вітыя і жгутавыя.

Вітая бронзавая грыўня знойдзена ў Наўрах (мал. 99: 20). Яна звітая з двух перакручаных круглых у сячэнні дротаў, перавітых двума тонкімі, таксама перакручанымі дроцікамі. Наяўнасць апошніх надавала прадмету шыкоўны выгляд. Цэлыя вітыя і жгутавыя грыўні, а таксама іх абломкі неаднаразова выяўлены ў могільніку Ізбішча.

Сярод дрыгавіцкіх курганных старажытнасцей шыйныя грыўні вядомы ў невялікай колькасці, пры гэтым толькі ў паўночных раёнах рассялення племені, затое ў крывічоў яны былі распаўсюджаным ўпрыгожаннем.

У Наўранскім могільніку знойдзена шэсць бронзавых фібул (пяць у мужчынскіх пахаваннях і адна ў разбураным кургане). Усе падкоападобнай формы.

У дзвюх – патоўшчаныя канцы. Паверхня адной (мал. 99: 16) гладкая, другой (мал. 99: 19) багата арнаментаваная паўакружнасцямі, авальнымі і S–падобнымі лініямі.

Дзве фібулы з Наўраў адносяцца да тыпу, надзвычай распаўсюджанаму ва ўсходнеславянскіх землях. У іх расплюшчаныя і спіральна загнутыя канцы (мал.99: 15, 21). Адна з наўранскіх фібул сярэдніх памераў (дыяметр 4,5 см), другая мініяцюрная (дыяметр 2,4 см). У Літве мініяцюрныя падковападобныя фібулы ў пахаваннях XI–XIII стст. нешматлікія. Больш часта сустракаюцца ў пахаваннях XIV–XV стст. Да гэтага тыпу, верагодна, адносіцца фібула, канцы якой абламаны (мал. 99: 17).

Трэці тып у Наўрах прадстаўлены фібулай з гранёнымі гузічкамі на канцах (мал. 99: 23). Гузічкі – чатырохвугольныя са зрэзанымі вугламі. Такія фібулы былі шырока распаўсюджаны ў Літве ў X–XII стст. (LAA, 1978. P. 146–147).

Сярод знойдзеных у Павіллі металічных падвесак асаблівую цікавасць уяўляе круглая сярэбраная падвеска, знойдзеная ў кургане № 21 Наўранскага могільніка ля правай скроні чэрапа 30–35–гадовай жанчыны. На ёй выкананая тэхнікай ціснення выява жывёлы з павернутай назад галавой і доўгім паднятым уверх хвастом. Тулава жывёлы пакрыта геаметрычным арнаментам са звілістых ліній, грудзі – двума паралельнымі радамі круглых паглыбленняў. Ногі кароткія, тулава доўгае. У цэлым выява падобна на ката. Але галава з загнутым уніз рогам і форма морды больш нагадваюць барана (Cehak–Hołubowiczowa, 1937. S. 27–29). Па краі падвескі – авальныя выпукласці, якія прылягаюць адна да другой. У падвескі два прыкляпаныя вушкі. Адно – у верхняй частцы, другое – з левага боку. Першае было абламана да таго, як падвеска была змешчана ў пахаванне. У другім вушку захаваўся шнурок, завязаны на вузел.

У Наўрах знойдзена літая бронзавая манетападобная падвеска (мал. 99: 7). Яна багата арнаментаваная. У цэнтры – круглая выпукласць. Па краях крыжападобна размешчаныя такія ж выпукласці, злучаныя парамі выпуклымі паўавальнымі лініямі з выпуклымі паўшар'ямі па канцах. Па краі падвескі ідзе выпуклае рабро, канцы якога злучаюцца на вушку. Падобныя наўранскай знаходцы падвескі неаднаразова выяўлены на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў. А.М. Ляўданскі датаваў іх XI ст. (Ляўданскі, 1932. С. 52).

У адным з найбольш багатых курганоў (№ 26) могільніка Ізбішча знойдзена 9 падвесак. Адна з іх – скандынаўская, выкананая ў стылі Барэ. На вонкавым баку – выява фантастычнага звера, адваротны бок гладкі. Астатнія восем падвесак – арабскія, візантыйскія і заходнееўрапейскія манеты з дзірачкамі і прымацаванымі вушкамі (Штыхаў, 1992. С. 84).

У Ізбішчы знойдзены крыжык, вонкавы бок якога арнаментаваны трыма выпукласцямі і

выпуклымі авальнымі лініямі на кожным канцы. У сяродкрыжжы – выпуклы крыжык, упісаны ў ромб. Падобныя па форме і арнаментацыі крыжыкі выяўлены ў Ваўкавыску, Вышгарадзе (Украіна), на Даўгмальскім гарадзішчы (Латвія) (Довженок, 1950. Табл. VII: 16; Зверуго, 1975. С. 12–13; Могуревич, 1965. Табл. IX: 3).

У пахавальным інвентары могільніка Ізбішча многа грушападобных з крыжападобнай прораззю бразготак, ніжняя частка якіх пакрыта насечкай. У Ноўгарадзе такія бразготкі бытавалі ў X–XI стст. (Седова, 1959. С. 237). У Наўрах у часткова разбураным кургане разам з пацеркамі знойдзена гладкая бразготка гэтага тыпу (мал. 99: 4).

У Ізбішчы знойдзена бронзавая літая падвеска–лыжачка. На ручцы – арнамент з дзвюх зігзагападобных ліній. Гэта, несумненна, язычніцкі амулет (лыжка з'яўлялася сімвалам дабрабыту і заможнасці). Падобныя амулеты выяўлены ў наўгародскіх, пскоўскіх і смаленскіх курганах.

Рэдкая для курганных старажытнасцей знаходка – лунніца трапілася ў Ізбішчы. Па назіраннях П.Ф. Лысенкі, у дрыгавіцкіх курганах лунніцы сустракаюцца толькі ў пагранічнай зоне з крыві-чамі і радзімічамі. Толькі ў паўночных дрыгавіц-кіх могільніках у складзе караляў сустракаюцца спіральныя трубачкі, аналагічныя знойдзенай ў Ізбішчы (Лысенко, 1991. С. 80).

Найбольш вялікую групу знаходак у інвентары славянскіх курганоў Беларускага Павілля складаюць пацеркі. У Наўрах каралі з пацерак рознай формы (зонныя, цыліндрычныя, бочкападобныя, шарападобныя) і колеру (белыя, карычневыя, жоўтыя, чорна–белыя, залачоныя і інш.) знойдзены ў чатырох пахаваннях: двух жаночых і двух дзіцячых (мал. 99: 5, 8, 11, 12). Некалькі дзесяткаў пацерак розных тыпаў (зонныя, бочкападобныя, цыліндрычныя з хвалістай інкрустацыяй і інш.) знойдзены ў Кастыках (мал. 94: 4, 16–21, 27).

Але ўсё тое, што выяўлена ў Наўрах і Кастыках, не ідзе ні ў якое параўнанне з мноствам і разнастайнасцю пацерак у Ізбішчы. У адным толькі згаданым багатым пахаванні (курган № 26) знойдзена двое караляў па некалькі дзесяткаў пацерак у кожным: у адных – залачоных, у другіх – сердалікавых (Штыхаў, 1992. С. 81, 84).

Сярод знойдзеных у курганах Павілля ўпрыгожанняў ёсць рэчы не характэрныя як для крывіцкіх, так і для дрыгавіцкіх пахаванняў.

Гэта шматпацеркавыя скроневыя кольцы і галаўныя венчыкі. У могільніку Камена–2 у ямным пахаванні з трупапалажэннем выяўлены два шматпацеркавыя скроневыя кольцы і дзесяць пласцінак ад галаўнога венчыка (мал. 97: 1, 3–10, 12). У абодвух кольцаў – па восем надзетых на дрот медных шарападобных пацерак, кожная з якіх складаецца з дзвюх ціснёных палавінак. Скроневыя кольцы з такімі ж, як у Камена, ціснёнымі пацеркамі часта сустракаюцца ў каменных магілах Панямоння (Гуревич, 1962. С. 129). У Ноўгарадзе шматпацеркавыя кольцы датуюцца XIII – першай паловай XIV ст. (Седова, 1959. С. 224).

Сярод дзесяці выяўленых у Камена пласцінак восем маюць трохвугольную форму, адна – чатырохвугольная і адна пашкоджаная (была чатырохвугольнай або пяцівугольнай). Усе пласцінкі медныя ціснёныя. На некаторых захаваліся сляды пазалоты. Усе трохвугольныя пласцінкі арнаментаваныя аднолькава: тры выпуклыя кропкі на паглыбленым фоне, які паўтарае форму пласцінак – раўнабедраны трохвугольнік. У кожным з вуглоў маецца па адной адтуліне. Вонкавы бок чатырохвугольнай пласцінкі ўпрыгожаны ўціснутым пяцівугольнікам. На пашкоджанай пласцінцы – выява трылісніка.

Прадметы ўзбраення і бытавога прызначэння ў курганах вывучаемай тэрыторыі сустракаюцца значна радзей, чым упрыгожанні. У могільніку Камена–1 у пахаванні з трупапалажэннем на падсыпцы знойдзены наканечнік кап'я з пяром лаўралістай формы і кароткай утулкай (мал. 95: 3). На лязе даволі выразна прасочваецца грань. На думку А. М. Кірпічнікава, такія наканечнікі (тып IV А) з'явіліся у XII ст. і вялікага распаўсюджання не атрымалі (у каталогу А.М. Кірпічнікава іх усяго 24 экзэмпляры). (Кирпичников, 1966. С. 15, 91–92).

Значна часцей сустракаюцца сякеры. Яны, як і наканечнікі коп'яў, бываюць толькі ў мужчынскіх пахаваннях. Прадстаўлены двума тыпамі: I – з шырокім адцягнутым уніз лязом, двума парамі бакавых трохвугольных шчакавіц і падоўжаным выразным абухом; II – з такім жа шырокім і адцягнутым уніз лязом, але без шчакавіц і з простым абухом з кароткімі адросткамі. Сякеры гэтых тыпаў спалучалі ўласцівасці прылад працы і зброі. На Русі яны з'явіліся ў X ст., а ў XI ст. былі вядомы ў Прыбалтыцы і Польшчы (Кирпичников,1966. С. 36–37).

Шэсць сякер знойдзена ў Наўранскім могільніку: тры першага (мал. 101: 1, 2, 4) і тры другога тыпу (мал. 101: 3, 5, 6). Пры гэтым патрэбна адзначыць, што ўсяго ў гэтым могільніку было даследавана адзінаццаць курганоў з мужчынскімі пахаваннямі, у тым ліку чатыры часткова разбураныя.

Даволі частай знаходкай з'яўляюцца сякеры і ў могільніку Ізбішча. Шырокалязовая сякера з простым абухом (адросткі кароткія) без шчакавіц знойдзены ў Кастыках (мал. 92: 1).

Калі сякеры сустракаюцца толькі ў мужчынскіх пахаваннях, то нажы характэрны як для мужчынскіх, так і для жаночых пахаванняў. Аднак у першых яны сустракаюцца значна часцей. Так, у Наўрах нажы знойдзены ў 8 з 11 мужчынскіх і ў 2 з 5 жаночых пахаваннях (Cehak–Hołubowiczowa, 1937. S. 24–25). Але ў Кастыках з 4 выяўленых нажоў два знойдзены ў мужчынскіх і два ў жаночых пахаваннях. У Кастыках знойдзены рэшткі скуранога з дзвюх частак футляра, магчыма , чахла для нажа (мал. 92: 8).

У Кастыках ( мал. 92: 34) і Ізбішчы знойдзены шылы. У іх круглыя ў сячэнні вастрыё і прамавугольны чаранок. Ручкі не захаваліся. Відавочна, яны былі драўлянымі. У Кастыках трапілася іголка з вушкам (мал. 92: 28). Каля вушка маецца жалабок для ніткі. Гэта звычайная іголка, якая служыла для сшывання тканін. (У шавецкіх і рымарскіх іголак вушка знаходзілася на расплюшчаным канцы і не было жалабка) Зрэдку ў жаночых пахаваннях трапляюцца гліняныя і шыферныя прасліцы.

У мужчынскіх пахаваннях могільніка Ізбішча зрэдку сустракаюцца крэсівы і сярпы. Значна часцей трапляюцца паясныя спражкі і кольцы.

Як і ў іншых славянскіх землях, частай знаходкай у курганах вывучаемага рэгіёну з'яўляюцца гліняныя гаршкі. Яны, як правіла, стаяць каля ног пахаваных. Сярод іх адзінкавыя экзэмпляры зроблены ўручную (напрыклад, пасудзіна баначнай формы з наўранскага могільніка) (мал. 100: 6). Формы пасудзін даволі аднатыпныя. Так, кругавыя пасудзіны наўранскага могільніка мала чым адрозніваюцца адна ад другой як па форме, так і па памерах (мал. 100: 1–3, 7–9). У іх злёгку адагнуты вонкі венчык, кароткая шыйка і акругла–канічнае тулава. Частка пасудзін упрыгожана арнаментам у выглядзе хвалістых ліній, прачэрчаных па венчыку, шыйцы або тулаве. У адным выпадку хвалісты арнамент спалучаецца з гарызантальным. Асаблівай увагі заслугоўвае гаршчок з кургана № 2 у Наўрах (мал. 100: 2). Гэты трэснуўшы яшчэ ў старажытнасці гаршчок быў тады ж і адрамантаваны. Для гэтага з абодвух бакоў трэшчыны былі пракручаны па адной адтуліне. Прасунутая ў іх вяровачка звязвала пасудзіну і рабіла яе прыдатным для далейшага выкарыстання. На дзвюх пасудзінах з Наўраў маюцца выпуклыя клеймы ў выглядзе чатырохканечных крыжоў, упісаных у акружнасці (мал. 100: 10, 11).

Наўранскай кераміцы прысвяціў спецыяльны артыкул У. Галубовіч. Ім устаноўлена наяўнасць у цесце зярнят драсвы дыяметрам да 0,9 мм (сярэдняя велічыня зярнят 0,1–0,3 мм. ). Ляпіліся пасудзіны ў адным выпадку на падстаўцы, у другім – на ганчарным крузе, хутчэй за ўсё ручным. Тэхніка вырабу – кальцавая, валікавая. Днішчы пасудзін плоскія за выключэннем аднаго, берагі якога апушчаны ўніз. Абпал пасудзін адбываўся ў закрытай прасторы, магчыма, у звычайнай печы пры тэмпературы 750–800$^0$ С. Пасля абпалу пасудзіны падвяргаліся спецыяльнай апрацоўцы, так званаму закальванню: гарачую пасудзіну змяшчалі на кароткі час у раствор вады і аржаной мукі (Hołubowicz, 1937. S. 58, 63). Усе наўранскія гаршчкі невялікіх памераў: вышыня 10,5–13,5 см, дыяметр венчыка 10,7–14,5 см, найбольшы дыяметр тулава 12,3–17,5 см, дыяметр днішча 5,8–8,5 см. У выніку хімічнага аналізу асадку (налёту) на ўнутраным баку сценак установлена, што ў наўранскіх пасудзінах варылі ежу. Але адказаць на пытанне аб тым, ці выкарыстоўваліся яны ў штодзённым жыцці, ці ў іх варылі толькі рытуальную страву, аўтар артыкула не змог. Ён дапускае і адно, і другое (Hołubowicz, 1937. S. 64, 66).

Шэсць гаршчкоў выяўлена ў сямі курганах з трупапалажэннем на гарызонце ў могільніку Кастыкі (мал. 93: 1–3). Усе яны, як і наўранскія, невялікіх памераў. Ды і па форме мала чым адрозніваюцца: той жа злёгку адагнуты вонкі венчык (часам з загнутым унутр краем), такая ж кароткая шыйка і, можа быць, толькі менш акруглае тулава. Найбольшае расшырэнне тулава ва ўсіх кастыцкіх гаршчках знаходзіцца ў верхняй частцы, у той час як у амаль паловы наўранскіх – пасярэдзіне.

У двух гаршчках з Кастык на днішчах маюцца выпуклыя клеймы: у аднаго ў выглядзе ламанага крыжа (так званая свастыка), у другога – акружнасць з упісаным у яе крыжам з акруглым сяродкрыжжам (мал. 93: 1, 3).

У гаршчкоў з Ізбішча, у адрозненне ад наўранскіх і кастыцкіх, больш высокае, пераважна канічнае тулава і больш разнастайныя венчыкі (з выступамі на знешнім баку, з паглыбленнем па краі, з коса зрэзаным краем і інш.) (Штыхаў, 1992. Мал. 54).

Курганы з пахаваннямі па абрадзе трупапалажэння ў насыпе ў басейне Верхняй Віліі сустракаюцца рэдка. Два такія даследаваны ў могільніку Камена–1. У адным пры вышыні насыпу ў 1,1 м касцяк ляжаў на глыбіні 0,3–0,4 м, галавой на паўночны захад. Правая рука выцягнута ўздоўж тулава, кісць левай рукі ляжала на касці таза.

Ля ног нябожчыка стаяў гаршчок. У гаршчка даволі рэзка адагнуты венчык з паглыбленнем на ўнутраным баку, нізкая шыйка, акруглае плечыка і амаль конусападобнае тулава (мал. 95: 1). Каля гаршчка ляжаў наканечнік кап'я вастрыём уніз.

Пахаванне ў другім кургане аказалася разбураным. Захаваліся толькі некалькі фрагментаў чалавечых касцей (канечнасцей і таза) і невялікая колькасць абломкаў кругавой керамікі.

У могільніку Камена–2 даследаваны 6 курганоў з трупапалажэннем у падкурганных ямах. Усе курганы невялікіх памераў: дыяметр 3,2–4 м, вышыня 0,7–0,9 м. Глыбіня ям 0,5–0,8 м.

Становішча касцякоў выцягнутае, на спіне, галовамі на захад (з адхіленнямі на поўнач ці поўдзень). У трох нябожчыкаў адна рука ляжала ўздоўж тулава, другая – на касці таза. У трох астатніх абедзве рукі былі сагнуты ў лакцях і кісці ляжалі на жываце або косці таза.

Пахавальны інвентар: літыя рубчатыя пярсцёнкі, шматпацеркавыя скроневыя кольцы, пласцінкі ад галаўнога венчыка (мал. 97: 12).

**3. Узаемасувязі славян і балтаў**

На думку большасці сучасных даследчыкаў, асваенне славянамі тэрыторыі, занятай у старажытнасці балтамі, пачалося ў VI–VII стст. і завяршылася ў XII–XIII стст. Славяне – прышэльцы нейкі час жылі на адной тэрыторыі з мясцовым балтамоўным насельніцтвам, паступова змешваючыся з ім. Як мяркуе В.В. Сядоў, думка, выказаная некаторымі даследчыкамі аб адсутнасці балцкага этнічнага элемента ў паўночна–заходнім напрамку ў працэсе славянскага рассялення, у цяперашні час не прадстаўляецца прымальнай. Вынікам славянскага рассялення магла быць толькі асіміляцыя балтаў. Аб гэтым сведчыць значная колькасць водных назваў балцкага паходжання амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі, а таксама наяўнасць балцкіх элементаў як у інвентары, так і ў дэталях пахавальнага абраду ўсходнеславянскіх курганоў (Седов, 1970. С. 162).

Некалькі інакш прадстаўляў карціну славянскага прасоўвання літоўскі вучоны К. Буга. На яго думку, славяне жылі на поўдзень ад Прыпяці, а на ўсёй тэрыторыі Беларусі на поўнач ад гэтай ракі знаходзіліся першапачаткова паселішчы балцкіх плямён. Уся далейшая гісторыя балтаў уяўлялася яму як непарыўнае адступленне пад націскам славян з адначасовым прасоўваннем на поўнач і захад па напрамку да Балтыйскага мора (Топоров, Трубачев, 1962. С. 6).

Па назіраннях В.В. Сядова, ў тых раёнах, дзе маецца канцэнтрацыя гідронімаў балцкага паходжання, выяўляецца вялікая колькасць курганоў з балцкімі элементамі. А там, дзе водныя назвы балцкага паходжання сустракаюцца рэдка, балцкія элементы ў археалагічных помніках таксама вельмі рэдкія (Седов, 1970. С. 162).

Па ступені канцэнтрацыі балцкіх гідронімаў басейн Верхняй Віліі саступае хіба што вярхоўям Дняпра. Вельмі шматлікія тут таксама балцкія элементы ў пахавальным абрадзе і рэчавым інвентары курганных могільнікаў. Гэта перш за ўсё пахаванне нябожчыкаў на вогнішчах у аснове курганнага насыпу, усходняя арыенціроўка пахаваных, звычай ставіць гаршкі каля галавы памерлага. Пры гэтым калі два першыя абрады (пахаванне на вогнішчах і ўсходняя арыенціроўка) распаўсюджаны ўсюды, дзе славяне сутыкаліся са старажытным балцкім насельніцтвам, то пахаванні з гаршкамі ля галавы нябожчыка сканцэнтраваны пераважна ў паўночнай частцы дрыгавіцкай зямлі, г. зн. у межах вывучаемага рэгіёну і на сумежных тэрыторыях.

Адлюстраваннем балцкіх традыцый з'яўляецца, відавочна, выкарыстанне камянёў пры ўзвядзенні курганных насыпаў. Многа камянёў, у тым ліку каля галавы і ног пахаваных, зафіксавана ў могільніку Камена–2. Балцкім па сваім паходжанні з'яўляецца звычай класці ў магілу прадметы ўзбраення. Ва ўсходнелітоўскіх курганах зброя сустракаецца амаль у кожным мужчынскім пахаванні. На тэрыторыі Беларусі славянскія пахаванні са зброяй сустракаюцца пераважна ў пагранічных славянска–літоўскіх і славяна–латгальскіх раёнах (Седов, 1970. С. 91, 101, 119–121).

У курганах X–XIII стст. шырокае распаўсюджанне атрымалі такія балцкія ўпрыгожанні, як падкавападобныя фібулы, бранзалеты са звярынагаловымі (змеягаловымі) канцамі, спіральныя пярсцёнкі, некаторыя тыпы шыйных грывень. Яны распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі, але найбольшая іх канцэнтрацыя назіраецца ў Панямонні і паўночна-заходніх раёнах, там, дзе славяне суседзілі з балтамі.

Да балцкіх элементаў, выяўленых у пахавальным абрадзе і рэчавым інвентары славянскіх курганоў Верхняга Павілля і атрымаўшых характарыстыку вышэй, патрэбна дадаць яшчэ некалькі.

Па–першае, разбіванне пасудзіны і змяшчэнне ў магілу толькі чарапкоў. Такое характэрна для латгальскіх грунтавых могільнікаў. У каменных магілах міжрэчча Віліі і Нёмана, пакінутых яцвягамі і іх славянізаванымі або літуанізаванымі нашчадкамі, частай знаходкай з'яўляюцца не цэлыя пасудзіны, а іх фрагменты. В.В. Сядоў

выказвае меркаванне, што звычай разбіваць посуд з'яўляецца балцкім па паходжанні (Седов, 1970. С. 168). Па–другое, гэта звычай класці ў магілу іголку з ніткамі, які звязаны з літоўскай абраднасцю: пры развітанні з нябожчыцай ёй падносілі падарунак – іголку з ніткай (Рыбакоў, 1932. С. 88). І, нарэшце, спецыфічнай асаблівасцю старажытнабалцкага рытуалу з'яўляецца пахаванне коней разам з пахаваннем свайго гаспадара. На многіх літоўскіх і яцвяжскіх могільніках I – пачатку II тысячагоддзя такія пахаванні сустракаюцца даволі часта.

Даныя антрапалогіі таксама пераканаўча сведчаць, што славянства Верхняга Панямоння і Падзвіння склалася ў нейкай частцы за кошт асіміляцыі балтаў.

Як ужо адзначалася раней, побач з тыпова славянскімі прадметамі ў пахавальным інвентары раннесярэдневяковых курганных могільнікаў вывучаемага рэгіёну сустракаюцца рэчы, якія адносяцца да балцкіх старажытнасцей. Ва ўмовах надзвычай складанай этнічнай сітуацыі, якая тады тут існавала, частка гэтых рэчаў была, відавочна, запазычана славянамі ў балтаў, другая належала асіміляванаму насельніцтву і, нарэшце, трэцяя пакінута тымі групамі абарыгенаў, якія на працягу нейкага часу ўсё яшчэ захоўвалі этнічную самастойнасць.

Адзначана і такое спалучэнне: пахавальны інвентар славянскі, а элемент абраднасці балцкі. У неаднаразова ўжо згаданым Наўранскім могільніку, які належаў змешанаму крывіцка-дрыгавіцкаму насельніцтву, сякеры з бакавымі шчакавіцамі і падоўжаным абухом адносяцца да тыпу, які, на думку А. М. Кірпічнікава, з'яўляецца рускім вынаходніцтвам (тып IV). На Русі такія сякеры з'явіліся ў X ст. , а большасць замежных аналогій, у тым ліку і прыбалтыйскіх, адносіцца да XI ст. (Кирпичников, 1966. С. 37). Як ужо адзначалася вышэй, звычай класці ў магілу зброю, належаў балцкаму насельніцтву.

У выніку шматвяковага этнічнага змяшэння многія элементы матэрыяльнай і духоўнай культуры былі запазычаны славянамі ў балтаў, іншыя, наадварот, пранікні ад славян да балтаў. Славяне і асіміляванае балцкае насельніцтва часта карысталіся аднатыпнымі прыладамі працы, прадметамі ўзбраення і ўпрыгожаннямі. Месцамі сярод славянскага ў сваёй масе насельніцтва ўсё яшчэ захоўваліся астраўкі старажытных балтаў, а таксама больш позніх перасяленцаў з прыбалтыйскіх зямель.

Пастаяннай этнічнай граніцы паміж славянамі і балтамі не было. Не было ўжо тады, калі толькі пачыналася пранікненне славян у старажытныя балцкія землі, а тым больш калі каланізацыя гэтых зямель ішла поўным ходам. Нават на заключным этапе каланізацыі славяна – балцкая граніца можа быць вызначана з вялікай доляй умоўнасці. Зыходзячы з размяшчэння геаграфічных назваў тыпу *Крывічы*, славяна-балцкую этнічную граніцу да распаду племяннай арганізацыі на Русі ( г. зн. IX–X стст. ) Г. Лаўмяньскі праводзіць наступным чынам: ад Крывічоў на рацэ Сэрвач праз дзве вёскі на захад ад Ракава, вёску на Нёмане на паўночны захад ад Навагрудка, вёску на рацэ Зяльвянка паміж Ваўкавыскам і Слонімам, да дзвюх вёсак у наваколлі Пінска на паўночны захад і захад ад гэтага горада (Łowmiański, 1964. S. 93).

Пры вызначэнні літоўска–крывіцкай граніцы Е. Охманьскі ў якасці дапаможнай выкарыстоўвае групу геаграфічных назваў тыпу *Русакі*. Паселішчы з такой назвай, як правіла, размяшчаюцца на захад ад лініі, вызначанай паселішчамі *Крывічы* і даюць інфармацыю аб прасоўванні славянскіх паселішч у пасляплемянную эпоху, калі тэрмін *Русь* выцясніў тэрмін *Крывічы* (Охманьский, 1972. С. 247–248).

Мяжа, вызначаная з дапамогай назваў *Крывічы* і *Русакі* праходзіць прыблізна па лініі: Пліса – Докшыцы – Будслаў – Крывічы (на р. Сэрвачы) – Куранец – Радашковічы – Заслаўе – Рубяжэвічы – Крывічы (на левым беразе р. Нёман) – Крывічы (Беліцкія) – Крывічы (Слонімскія). Прыкладна такую мяжу на аснове лінгвістычных і этнагарфічных даных, а таксама звестак археалогіі ўстанаўліваюць і іншыя даследчыкі.

Да XII–XIII стст. славяна–балцкая граніца адсунулася на захад і паўночны захад. Гэта, аднак, зусім не азначала, што на славянскім баку не захаваліся, так бы мовіць, астравы літоўскага насельніцтва. Адзін з такіх астравоў меўся ў ваколіцах Докшыц. Славянская каланізацыя з поўначы не дайшла да Докшыц, спынілася на ўзроўні паселішча Літоўцы, але, абагнуўшы іх, падышла з паўднёвага ўсходу.

Востраў літоўскага насельніцтва з чатырма паселішчамі пад назвай Бакшты знаходзіўся на поўнач ад Радашковіч. На ўсходзе ён даходзіў да Гайны (тут у 1387 годзе была заснавана адна з першых парафій у Вялікім княстве Літоўскім). Літоўска–крывіцкая этнічная граніца вельмі рана (не пазней XI ст. ) перастала супадаць з палітычнай граніцай племяннай Літвы і Полацкага княства.

Уздоўж усходняй граніцы выдзяляюцца буйныя паселішчы: Браслаў, Пагост, Паставы, Мядзел, Крывічы (Сэрвацкія), Куранец, Дубатоўка, Рускае Сяло, Ганута, Маркава,

Лебедзева, Лоск, Холхлава, Крывічы (Заслаўскія). Вакол гэтых паселішч групуюцца больш дробныя паселішчы са славянскімі назвамі. У сваю чаргу паселішчы з літоўскімі назвамі групуюцца ўздоўж лініі: Друя, Ёды, Відзы, Гадуцішкі, Свір, Жодзішкі, Войстам, Забрэжжа, Валожын, Пяршаі. З боку Пяршай глыбока ўкліньваліся літоўскія паселішчы. На рубяжы двух тысячагоддзяў славяне прасунуліся да ўсходняга берага возера Свір. У XI–XII стст. яны засялілі ваколіцы Гарадзілава аж да Высокага пад Лоскам. У пагранічных землях па суседству існавалі як славянскія, так і літоўскія паселішчы (Охманьский, 1972. С. 251–253).

Такім чынам, у канцы I – пачатку II тысячагоддзя паміж кампактнымі этнічнымі масівамі славян і балтаў мелася даволі шырокая зона, у якой насельніцтва абодвух кантактуючых этнасаў жыло цераспалосна, бок у бок. Узаемаадносіны славян і балтаў у такіх умовах не маглі не быць вельмі цеснымі. Найбольш істотнай рысай гэтых узаемаадносін быў іх міралюбівы характар. Пераканаўчым сведчаннем гэтаму з’яўляецца паўсюднае распаўсюджанне змешаных славяна–балцкіх шлюбаў і захаванне на новазанятай славянамі тэрыторыі гідранамічнага пласта балцкага паходжання.

Лінгвістычнае даследаванне гідраніміі Паўночнай Беларусі, праведзенае Е.М. Катонавай, паказала, што 18,5 % назваў могуць быць з вялікай доляй верагоднасці аднесены да славянскіх, 17,5 % – да балцкіх, а 64 % гідронімаў можна аднесці як да славянскіх, так і да балцкіх. Аўтар адзначае працяглы і мірны характар балта–славянскіх адносін. Многія гідронімы ўзніклі ў выніку суіснавання носьбітаў балцкай і славянскай моўных сістэм (Катонова, 1978. С. 85).

Даследчыкі, адзначаючы шырокае распаўсюджанне патранімічных назваў паселішчаў на “-вічы”, “-ічы” (Дзедзелавічы, Каловічы, Мохавічы), лічаць, што славяне з’явіліся на значнай тэрыторыі лясной паласы Усходняй Еўропы, уключаючы, зразумела, і даследуемую тэрыторыю, не пазней VII ст. Апошняя стадыя славянізацыі балцкага насельніцтва Верхняга Падняпроўя і Падзвіння, па сцвярджэнні даследчыкаў




Мал. 79. Планы курганных могільнікаў: 1 – Вілейка; 2 – Наўры; 3 – Камена–1




Мал. 80. Планы і профілі курганоў у Сосенцы: 1 – курган № 1; 2 – курган № 7; 3 – курган № 6; 4 – курган № 4




Мал. 81. Планы і профілі кurганоў у Сосенцы: 1 – курган № 9; 2 – курган № 13;
3 – курган № 8; 4 – курган № 14




Мал. 82. Планы і профілі курганоў у Сосенцы: 1 – курган № 11; 2 – курган № 19; 3 — курган № 20; 4 – курган № 15




Мал. 83. Пахавальны інвентар з курганоў у Сосенцы: 1 – з кургана № 3; 2, 3 – з кургана № 5; 4, 6–10 – з кургана № 7; 5 – з кургана № 6; 11 – з кургана № 8; 12 – з кургана № 9.




Мал. 84. Гаршчкі з курганоў у Сосенцы: 1 – з кургана № 5; 2 – з кургана № 9; № 3 – з кургана № 13; 4 – з кургана № 18; 5 – з кургана № 16; 6 – з кургана № 19




Мал. 85. Рэчы з насыпаў курганоў у Сосенцы: 1, 4, 8 – з кургана № 6; 2 – з кургана № 13; 3 – з кургана № 12; 5 – з кургана № 22; 6 – з кургана № 18; 7 – з кургана № 7; 9 – з кургана № 23; 10 – з кургана № 14; 11– з кургана № 8




Мал. 86. Рэчы з насыпаў курганоў у Сосенцы: 1, 2, 6 – кургана № 3; 3 – з кургана № 5;
4, 5 – з кургана № 6; 7 – з кургана № 8; 8 – з кургана № 13; 9 – з кургана № 15;
10, 11 – з кургана № 16; 12, 13 – з кургана № 19; 14 – з кургана № 5




Мал. 87. Гліняныя прасліцы (1–12), л’ячка (13), мініяцюрныя пасудзіны (14, 15) з насыпаў курганоў у Сосенцы




Мал. 88. Тачыльныя камяні (1–5, 7, 10), мяла (6), гліняныя грузілы (8, 9) з насыпаў курганоў у Сосенцы




Мал. 89. Кераміка з насыпаў курганоў у Сосенцы




Мал. 90. Кераміка з насыпаў курганоў у Сосенцы




Мал. 91. Планы і профілі курганоў могільніка Кастыкі: 1 – курган № 2; 2 – курган № 3; 3 – курган № 6; 4 – курган № 7



Мал. 92. Пахавальны інвентар з курганоў могільніка Кастыкі: 1–3 – з кургана № 1; 4–8 – з кургана № 2; 9–12 – з кургана № 3; 13–21, 30, 31, 33 – з кургана № 4; 23–25 , 27 – з кургана № 5; 26, 28, 29, 32, 34, 35 – з кургана № 7




Мал. 93. Гаршчкі з курганоў могільніка Кастыкі: 1 – з кургана № 4; 2 – з кургана № 2; 3 – з кургана № 5; 4 – з кургана № 3; 5 – з кургана № 7; 6 – з кургана № 1




Мал. 94. Планы і профілі курганоў могільніка Камена 1: 1 – курган № 1; 2 – курган № 3




Мал. 95. Пахавальны інвентар з курганоў могільніка Камена– 1:
1, 3 – курган № 1; 2 – з курган № 3




Мал. 96. Планы і профілі курганоў могільніка Камена– 2:
1 – курган № 1; 2 – курган № 2; 3 – курган № 5; 4 – курган № 6




Мал. 97. Пахавальны інвентар з кургаНоў могільніка Камена– 2:
1, 3, 4, 6–10, 12 – бляшкі ад налобнай павязкі; 2, 11 – пярсцёнкі; 5 – скроневае кальцо



Мал. 98. Галаўны ўбор жанчыны з Камена–2 (рэканструкцыя)




Мал. 99. Пахавальны інвентар з кургаоў могільніка Наўры:
1, 6 – з кургана № 18; 2, 20 – з кургана № 13; 3, 5, 18 – з кургана № 25; 4 – з кургана № 14;
7, 10 – з кургана № 21; 8, 11 – 13 – з кургана № 19; 9, 14 – з кургана № 10; 15, 22 – з кургана № 5;
16 – з кургана № 2; 17 – з кургана № 24; 19 – з кургана № 9; 21 – з кургана № 20;
23 – з кургана № 8 (паводле Е. Галубовіч)




Мал. 100. Гаршчкі з курганоў могільніка Наўры: 1 – з кургана № 2; 2 – з кургана № 5; 3 – з кургана № 6; 4 – з кургана № 8; 5 – з кургана № 7; 6, 7 – з кургана № 9; 8 – з кургана № 19; 9 – з кургана № 11; 12 – з кургана № 5 (адрэзак III): 10 – кляймо на гаршчку з кургана № 9; 11 – кляймо на гаршчку з кургана № 19 (паводле У. Галубовіча)




Мал. 101. Жалезныя сякеры з курганоў у Наўрах:
1 – з кургана № 15; 2 – з кургана № 7; 4 – з кургана № 5;
5 – з кургана № 2; 6 – з кургана № 9




Мал. 102. План курганнага могільніка Нагаўкі




Мал. 103. Пахавальны інвентар з кurганоў могільніка Нагаўкі:
1, 2 – з кургана № 2; 3 – з кургана № 3; 4, 5 – з кургана № 5; 6, 7 – з кургана № 9;
8 – 12 – з кургана № 10: (паводле А.М. Плавінскага і М.А. Плавінскага)

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

На працягу ад VII–VI стст. да н.э. і да IV–V стст. н.э. Беларускае Павілле разам з сумежнымі тэрыторыямі, прымыкаючымі да яго з усходу, поўдня і захаду, засялялі плямёны культуры штрыхаванай керамікі. Паўночнымі іх суседзямі былі роднасныя плямёны днепра–дзвінскай культуры.

У VII–V стст. да н.э. насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі жыло на адкрытых паселішчах, якія размяшчаліся на берагах рэк і азёр. Пазней з’явіліся гарадзішчы. Найбольш раннія з іх умацоўваліся толькі драўлянымі сценамі на краі пляцовак, больш познія – землянымі валамі і равамі. Жытламі ў IV–I стст. да н.э. з’яўляліся вялікія доўгія дамы слупавой канструкцыі, падзеленыя на некалькі жылых памяшканняў з адкрытым агнішчам у кожным. Асновай гаспадаркі побач з лядным земляробствам і жывёлагадоўляй з’яўляліся паляванне і рыбалоўства. Значнае развіццё атрымалі дамашнія рамёствы: апрацоўка жалеза, косці, рога, каменю, дрэва, а таксама бронзаліцейная справа, ганчарства, прадзенне, ткацтва, пляценне і іншыя.

У канцы першай паловы I тысячагоддзя н.э. насельніцтва пакінула гарадзішчы і перайшло жыць на селішчы, выкарыстоўваючы гарадзішчы ў якасці сховішч. Гэты пераход быў звязаны са значнымі зрухамі ў развіцці ляднага земляробства, распадам першабытна–абшчынных адносін і пачаткам фарміравання тэрытарыяльных абшчын. Замест характэрных для гарадзішчанскай пары вялікіх абшчынных дамоў на селішчах будуюцца невялікія па памерах жытлы слупавой канструкцыі з адкрытымі агнішчамі ўнутры, разлічаныя на малыя сем’і. На думку большасці сучасных даследчыкаў, істотныя змены ў домабудаўніцтве і іншых галінах матэрыяльнай культуры насельніцтва сярэдняй і паўночнай Беларусі адбыліся ў выніку перасялення ў Беларускае і Смаленскае Падняпроўе зарубінецкіх плямён. Пытанне аб этнічнай прыналежнасці зарубінецкай культуры да гэтага часу застаецца спрэчным. Адны даследчыкі лічаць яе славянскай, іншыя – балцкай. Як бы ні вырашалася гэта пытанне, адно застаецца несумненным: прышлыя плямёны змяшаліся з мясцовым насельніцтвам, што ў канчатковым выніку прывяло да ўтварэння новых роднасных паміж сабой культур – тыпу Адаменскага селішча (Абідні) у Беларускім Падняпроўі і сярэдняга слоя Тушамлінскага гарадзішча на Смаленшчыне.

У сярэдзіне I тысячагоддзя н.э. культура штрыхаванай керамікі ў заходняй частцы Беларускага Павілля змяняецца гістарычна звязанай з ёй культурай усходнелітоўскіх кurганоў. Тут паўсюднае распаўсюджанне атрымлівае курганны пахавальны абрад, прынесены ў асяроддзе мясцовых плямён прышлым насельніцтвам з паўночных раёнаў сучаснай Літвы ці паўднёва–ўсходняй Латвіі.

Ёсць таксама меркаванне, што асноўную ролю ў фарміраванні культуры ўсходнелітоўскіх курганоў адыгралі прышэльцы з паўднёвага захаду – яцвягі з тэрыторыі паўночна-ўсходняй Польшчы. У другой палове IV ст н.э. яны пранікаюць у Беларускае Павілле да ваколіц возера Свір. Насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі ўвайшло ў склад новай культуры ў якасці субстрату.

Адносна этнічнай прыналежнасці насельніцтва культуры ўсходнелітоўскіх курганоў выказваюцца розныя меркаванні. Адны даследчыкі адносяць яго да аўкштайтаў, іншыя – да ўсходніх аўкштайтаў. Але большасць лічыць носьбітаў гэтай культуры літоўцамі, якія добра вядомыя па пісьмовых крыніцах эпохі Кіеўскай Русі.

Ва ўсходняй частцы Беларускага Павілля ў гэты час на змену культуры штрыхаванай керамікі прыйшла банцараўская культура, якая склалася на яе аснове і пры актыўным удзеле прышлага насельніцтва культуры тыпу Адаменскага селішча. Шырокае распаўсюджанне атрымліваюць паўзямлянкавыя жытлы, якія бяруць пачатак яшчэ ў зарубінецкім домабудаўніцтве. Як і ў плямён тыпу Адаменкі, на раннім этапе існавання банцараўскай культуры асноўным тыпам паселішчаў былі селішчы і толькі пазней у сувязі з узмацненнем ваеннай небяспекі, выкліканай абвастрэннем супярэчнасцей паміж плямёнамі, магчыма, і знешнімі абставінамі, жыхары аддаленых неўмацаваных паселішчаў сталі сяліцца каля закінутых гарадзішчаў, пераўтвораных імі ў сховішчы.

Асноўнымі галінамі гаспадаркі былі ляднае земляробства і жывёлагадоўля. Аднак паранейшаму вялікую ролю адыгрывалі паляванне і рыбалоўства. Рамёствы мелі дамашні характар.

На селішчах, якія часамі дасягалі значных памераў, жылі члены не аднаго роду, як гэта было на ранніх гарадзішчах, а некалькіх родаў.

На змену родавай абшчыне прыходзіць тэрытарыяльная.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Думка аб прыналежнасці банцараўскай культуры ўсходнім балтам толькі таму, што яна склалася на мясцовай аснове, прадстаўляецца не такой ужо бясспрэчнай, як гэта лічаць некаторыя даследчыкі. Больш пераканаўчым у свеце атрыманых у апошнія часы даных з'яўляецца пункт гледжання, згодна з якім банцараўская культура склалася ў выніку змешвання розных этнічных элементаў: мясцовага балцкага насельніцтва (балцкая прыналежнасць культуры штрыхаванай керамікі ні ў каго з сучасных даследчыкаў не выклікае сумнення) і прышлага славянскага. Калі не ўласна славян (хоць інфільтрацыя славян, безумоўна, мела месца), то нашчадкаў плямён культуры тыпу Адаменкі, якая сфарміравалася непасрэдна пры ўдзеле славян.

Пранікненне славян на вывучаемую тэрыторыю, падобна як і ў іншыя землі, заселеныя балтамі, мела ў асноўным мірны характар. Асноўная частка балцкага насельніцтва заставалася жыць на ранейшых месцах, хаця нейкая яго частка была, верагодна, адціснута на захад і паўночны захад, а магчыма, нават загублена. У некалькіх месцах сярод славян–прышэльцаў заставаліся астравы мясцовага насельніцтва. Так, напрыклад, аж да пачатку II тысячагоддзя н.э. такія астравы існавалі ў ваколіцах Будслава, Даўгінава, у басейне ракі Дзвінасы.

Ад мясцовага насельніцтва славяне перанялі шматлікія элементы ў пахавальным абрадзе і рэчавым інвентары курганных могільнікаў. Гэта перш за ўсё пахаванне нябожчыкаў на вогнішчах у аснове курганнага насыпу, усходняя арыенціроўка пахаваных, звычай ставіць гліняныя гаршкі каля галавы памерлых. Пры гэтым калі два першыя элементы пахавальнай абраднасці былі распаўсюджаны ва ўсіх абласцях, дзе славяне межавалі са старажытным балцкім насельніцтвам, то пахаванні з гаршкамі каля галавы нябожчыка сканцэнтраваны пераважна ў паўночнай частцы дрыгавіцкай зямлі, гэта значыць у месцах вывучаемага рэгіёну і на сумежных тэрыторыях.

Храналагічнае чляненне асноўных відаў курганных пахаванняў славянскага насельніцтва Беларускага Павілля выглядае наступным чынам: абрад трупаспалення са змяшчэннем рэшткаў спалення ў аснове курганнага насыпу існаваў у канцы X – пачатку XI ст; гэтым жа часам датуецца абрад трупапалажэння ў насыпе; трупапалажэне на гарызонце характэрна для XI–XII стст.(хаця сустракаецца і ў больш позні час); пахаванні ў падкурганных ямах з'яўляюцца пазней іншых – прыкладна ў сярэдзіне XII ст.

Аналіз асаблівасцей пахавальнага абраду і рэчавага інвентару паказвае, што славянскае насельніцтва Беларускага Павілля не было аднародным. Тут даволі выразна выступаюць этнічныя элементы, уласцівыя як дрыгавічам, так і крывічам (палачанам).

Гэта сведчыць, што асваенне краю славянамі ішло як з поўдня, так і з поўначы. І працягвалася яно некалькі стагоддзяў.

# ЛІТАРАТУРА


Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX–XIII вв. (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966.

Алексеев Л.В. Очерк истории белорусской дореволюционной археологии и исторического краеведения до 60-х годов XIX в. // СА.1967. №4.

Алексеева А.М. Античные бусы Северного Причерноморья // САИ.1978. Вып. Д 1–32.

Амброз А.К. Фибулы юга Европейской части СССР // САИ. 1966. Вып. Д 1–30.

Брюсов А.Я., Зимина Н.П. Каменные сверленные боевые топоры на территории Европейской части СССР // САИ. 1966. Вып. В4– 40.

Булкин В.А. Некоторые данные об исторической географии Центральной Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983.

Васкс А. Керамика эпохи поздней бронзы и раннего железа Латвии как исторический источник / Автореф. дис.… канд. истор. наук. Л., 1983.

Гирининкас А. Роль поздненарвенской культуры в процессе образования восточных балтов // Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985.

Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. 1945. Вып. XI.

Граудонис Я. Латвия в эпоху поздней бронзы и раннего железа. Рига, 1967.

Граудонис Я. Штрихованная керамика на территории Латвийской ССР и некоторые вопросы этногенеза балтов // Из древнейшей истории балтских народов. Рига, 1980.

Гуревич Ф.Д. Обряды погребения в Литве // КСИИМК, 1947. Вып. XVIII.

Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.–Л., 1962.

Данилайте Е. Штрихованная керамика в Литве / Автореф. дис.… канд. истор. наук. Вильнюс, 1968.

Даугудис В. Некоторые данные о хронологии и происхождении керамики с шероховатой поверхностью в Литве // ДБ. Мн., 1966.

Деопик В.Д. Классификация бус юго–восточной Европы // СА. 1963. №3.

Довженок В.И. Обзор археологического изучения древнего Вышгорода за 1934–1937 гг. //Археалогія, 1950. Т. III.

Дундулене П.В. Земледелие и его орудия в Литве (до 1917 г.) / Автореф. дис. … докт. истор. наук. Вильнюс, 1968.

Дэрумс В.Я. Болезни и врачевание в древней Прибалтике. Рига, 1970.

Егарэйчанка А.А. Культура штрыхаванай керамікі // АБ. Мн., 1999. Т. 2.

Егорейченко А.А. Древнейшие городища Белорусского Полесья. Мн., 1996.

Зайковский Э. О погребальном обряде у населения культуры штрихованной керамики // LA. Vilnius, 1992. Т. 9.

Зайкоўскі Э.М. Даследаванне культавага комлекса Ашмянец // ГАЗ. Мн., 2002. №17.

Зверуго Я.Г. Работы Верхненеманского отряда // АО 1972 года. М., 1973.

Зверуго Я.Г. Работы в Верхнем Понеманье // АО 1973 года. М., 1974.

Зверуго Я.Г. Исследования в Верхнем Понеманье // АО 1974 года. М., 1975а.

Зверуго Я.Г. Древний Волковыск X–XIVвв. Мн., 1975б.

Зверуго Я.Г. Раскопки курганов в Понеманье // АО 1975 года. М., 1976.

Зверуго Я.Г. Исследования Верхненеманского отряда // АО 1976 года. М., 1977.

Зверуго Я.Г. Работы в Понеманье // АО 1977 года. М., 1978.

Зверуго Я.Г. Исследования в Понеманье // АО 1978 года. М., 1979.

Зверуго Я.Г. Исследования в бассейне Вилии // АО 1979 года. М., 1980.

Зверуго Я.Г. Раскопки Гораньского городища // АО 1980 года. М., 1981.

Зверуго Я.Г. Работы на правобережье Вилии // АО 1981 года. М., 1983.

Зверуго Я.Г. Работы в бассейне Вилии // АО 1982 года. М., 1984.

Зверуго Я.Г. Раскопки Микольского селища // АО 1983 года. М., 1985.

Зверуго Я.Г. Работы в Понеманье // АО 1986 года. М., 1988.

Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. Мн., 1989.

Зверуго Я.Г. Исследования Гораньского городища // LA. Vilnius, 1992. Т. 9.

Зверуго Я.Г. Исследования восточнолитовских курганов на территории Белоруссии // LA. Vilnius, 2001. Т. 21.

Зверуго Я.Г., Медведев А.М. Микольское селище (исследования 1981-1982 гг.) // МАБ. Мн., 2003а. № 6.

Зверуго Я.Г., Медведев А.М. Селище Микольцы (исследования 1983 г.) // МАБ. Мн., 2003б. № 7.

Звяруга Я.Г. Рэчкі. Гарадзішча, селішча // ЗПГКБ. Мн., 1987а. Кн. 1.

Звяруга Я.Г. Пасынкі. Замчышча, селішча // ЗПГКБ. Мн., 1987б. Кн. 1.

Звяруга Я.Г., Мядзведзеў А.М. Кераміка гарадзішча Гарані // ГАЗ. Мн., 1993. Ч.1.

Звяруга Я.Г., Мядзведзеў А.М. Паселішча на возеры Свір // ГАЗ. Мн., 1994. № 3.

Звяруга Я.Г. Даследаванне курганных могільнікаў у вярхоўях Віліі // МАБ. Мн., 2001. № 3.

Звяруга Я.Г.Даследаванне Мікольскага селішча // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002.

Казакявичюс В. Редкая форма наконечников копий на территории Литвы // Древности Литвы и Белорусии. Вильнюс, 1988.

Катонова Е.М. Данные гидронимии о балто-славянских контактах на севере Белорусии. Материалы этнолингвистические // Балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. М., 1978.

Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мн., 1984.

Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие, ч. 2 // САИ. 1966. Вып. Е1–36.

Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси в XIII–XV вв. САИ. 1973. Вып. Е1-36.

Колчин Б.А. Железообратывающее ремесло Новгорода Великого. МИА, 1959. № 56.

Коробушкина Т.Н. Земледелие на территории Белоруссии в X–XIII вв. Мн., 1979.

Краснов Ю.А. Раннее земледелие и животноводство в лесной зоне Восточной Европы. М., 1971.

Куликаускене Р.К. Материальная культура населения Литвы IX–XII вв. по данным исследования погребальных памятников / Автореф. дис.… канд. истор. наук. Вильнюс, 1950.

Куликаускене Р.К. Погребения с конями у древних литовцев // СА, 1953. Т. XVII.

Кухаренко Ю.В. Зарубинецкая культура // САИ. 1961. Вып. Д 1–19.

Кухаренко Ю.В. Археология Польши. М., 1969.

Лебедев Г.С. Археолого–лингвистическая гипотеза славянского этногенеза // Славяне: Этногенез и этническая история. Л., 1989.

Левашова В. П. Браслеты // Труды ГИМ. 1967. Вып. 43.

Лухтан А.Б. Селище не берегу р. Нярис // Научные труды ВУЗ–ов ЛитССР. Вильнюс, 1987. Т. 28.

Лысенко П.Ф. Берестье. Мн., 1985.

Лысенко П.Ф. Дреговичи. Мн., 1991.

Лявданский А.Н. Археологические исследования в БССР после Октябрьской революции // Сообщения Государственной Академии истории материальной культуры. 1932. № 78.

Ляўданскі А. Археалагічныя досьледы на Смаленшчыне // Працы... Мн., 1932.Т. 3.

Максимов Е.В. Среднее Поднепровье на рубеже нашей эры. Киев, 1972.

Мачинский Д. А. Миграция славян в I тысячелетии н.э. По письменным источникам с привлечением данных археологии // Формирование раннефеодальных славянских народностей. М., 1981.

Медведев А.М. Белорусское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н.э. – V в.н.э.) / Автореф. дис.… канд. истор. наук. М., 1991.

Медведев А.М. Беларуское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н.э. – V в.н.э. ). Мн., 1996а.

Медведев А.М. Посоховидные булавки // ГАЗ. Мн., 1996б. № 7.

Медведев А.Ф. Ручное метательное оружие (лук и стрелы, самострел) VIII–XIV вв. // САИ. 1966. Вып. Е1–36.

Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.

Митрофанов А.Г. Городище в Вязынке // МАБ. Мн., 1957. Т. 1.

Митрофанов А.Г. Отчёт об археологических исследованиях группы по изучению памятников железного века Центральной и Северной Белоруссии в 1965 г. / Архіў ІГ НАН. № 268.

Митрофанов А.Г. Новые данные о памятниках VI–VIII вв. средней и северной Белоруссии // ДБ. Мн., 1966.

Митрофанов А.Г. Банцеровское городище // БД. Мн., 1967.

Митрофанов А.Г. Изучение памятников железного века Средней и Северной Белоруссии // АО 1967 года. М., 1968.

Митрофанов А.Г. Селище VI–VIII вв. близ дер. Городище // ДБ. Мн., 1969а.

Митрофанов А.Г. Территория распространения и проблема происхождения культуры штрихованной керамики // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969б.

Митрофанов А.Г. Августовское городище // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969в.

Митрофанов А.Г. Городище и селище близ дер. Городище // АО 1969 года. М., 1970а.

Митрофанов А.Г. Культура штрихованной керамики // Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1970б. Ч. 1.

Митрофанов А.Г. Памятники VI–VIII вв. Средней и Северной Белоруссии. Их этническая принадлежность // Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1970в. Ч. 1.

Митрофанов А.Г. О происхождении культуры типа верхнего слоя Банцеровщины (V–VIII вв.) // БС. Мн., 1972а.

Митрофанов А.Г. Поселение и могильник в Гурках // Тезисы докладов на секциях, посвящённых итогам полевых исследований 1971 г. М., 1972б.

Митрофанов А.Г. Изучение городища и селища близ дер. Городище // АО 1972 года. М., 1973.

Митрофанов А.Г. Селище и могильник V–VI вв.н.э. // АО 1973 года. М., 1974.

Митрофанов А.Г. Памятники VI–IX вв. Средней и Северной Белоруссии // АО 1974 года. М., 1975.

Митрофанов А.Г. Железный век Средней Белоруссии (VII–VI вв.до н.э. – VIII вв. н.э.). Мн., 1978а.

Митрофанов А.Г. Раскопки городища в дер. Малышки // АО 1977 года. М., 1978б.

Митрофанов А.Г. Изучение поселений в бассейне Немана и Западной Двины // АО 1978 года. М., 1979.

Могуревич Э.С. Восточная Латвия и соседние земли в IX–XIII вв. Рига, 1965.

Мядзведзеў А.М. Раскопкі гарадзішча каля в. Краснае // МАБ. Мн., 2003. № 7.

Охманьский Е. Литовско–кривичское пограничье в племенную эпоху // Становление раннефеодальных славянских государств. Материалы научной сессии польских и советских историков. Киев, 1972.

Перховко В.Б. Украшения из раннесредневековых памятников междуречья Днепра и Немана // Вестник МГУ. История. 1978. №2.

Плавінскі А.М., Плавінскі М.А. Курганны могільнік Нагаўкі // МАБ. Мн., 2003. № 6.

Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубинецкой культуры). Мн., 1971.

Поболь Л. Д. Древности середины и третьей четверти I тысячелетия в Белорусском Поднепровье // Раннесредневековые славянские древности. Л., 1974.

Покровский Ф.В. Случайная археологическая экскурсия в верховьях р. Вилейки // Труды ВОМПК. Вильно, 1893а.

Покровский Ф.В. Вторая археологическая экскурсия в бассейн реки Лоша // Труды ВОМПК. Отд.1. Вильно, 1893б.

Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Труды ВОМПК. Вильно, 1893в.

Покровский Ф.В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Труды IX АС. М., 1895. Т. 1.

Покровский Ф.В. К исследованию курганов и городищ на восточной окраине современной Литвы // Труды IX АС. М., 1897. Т. 2.

Покровский Ф.В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении // Труды X АС. М., 1899. Т. 1.

Русанова И.П. Славянские древности VI–VII вв. Культура пражского типа. М., 1976.

Рыбаков Б.А. Торговля и торговые пути // История культуры Древней Руси. М.–Л., 1948. Т.1.

Рыбакоў Б.А. Радзімічы // Працы... Мн., 1932. Т. 3.

Рыков П.С. Могильник близ ст. Сморгонь // ЗСЗОРГО. Вильно, 1914а. Кн. 4.

Рыков П.С. Дневник раскопок близ м. Сморгонь Ошмянского уезда Виленской губ. в мае 1913 г. // ЗСЗОРГО. Вильно, 1914б. Кн. 4.

Рындина Н.В. Технология производства новгородских ювелиров в X–XV вв. МИА. 1963. № 117.

Сальников К.В. Сарматские курганы близ г. Орска // МИА. 1940. № 1.

Седов В.В. Булавки восточных балтов эпохи раннего железа // Acta Baltico – Slavica. Białystok, 1967. T. V.

Седов В.В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970.

Седов В.В. Восточные славяне в VI–XIII вв. М., 1982.

Седов В.В. Литовские племена // Финно-угры и балты в эпоху средневековья. Археология СССР. М., 1987.

Седова М. В. Ювелирные изделия древнего Новгорода // МИА. 1959. № 65.

Смирнов А.П. Железный век чувашского Поволжья. М., 1962.

Смирнов К.А. Дьяковская культура (Материальная культура городищ междуречья Оки и Волги) // Дьяковская культура. М., 1974.

Спицын А.А. Предполагаемые литовские курганы VIII–IX вв. // ЗРАО. 1896. Т. VIII. Вып. 1.

Станкевич Я.В. К истории населения Верхнего Подвинья в I и начале II тысячелетия н.э. // МИА. 1969. № 70.

Таутавичюс А.З. Восточная Литва в I тысячелетии н.э. / Автореф. дис.… канд. истор. наук. 1954.

Таутавичюс А.З. Восточнолитовские курганы // Вопросы этнической истории Прибалтики. Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции. М., 1959.Т. 1.

Терпиловский Р.В. Ранние славяне Подесенья III–V вв.н.э. Киев, 1984.

Ткачев М.А. Исследование памятников оборонного зодчества Белоруссии // АО 1971 года. М., 1972.

Ткачев М.А. Работы экспедиции Гродненского университета // АО 1981 года. М., 1983.

Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.

Третьяков П.Н. Восточнославянские племена. М., 1953.

Третьяков П.Н., Шмидт Е.А. Древние городища Смоленщины. М., 1963.

Тышкевич К. О курганах в Литве и Западной Руси. Вильна, 1865.

Урбанавичюс В.Ф. Захоронения в воде: находки и интерпретация // Археология и история Пскова и Псковской земли. Тезисы докладов научно-практической конференции. Псков, 1972.

Уртан В. Древнейшие музыкальные инструменты на территории Латвии // Studia arheologia in memoriam Harri Moora. Tallin, 1970.

Успенская А.В. Курганы южной Белоруссии // Труды ГИМ. 1953. Вып. XXII.

Ушинскас В.А. Роль культуры штрихованной керамики в этногенезе балтов // Славяне. Этногенез и этническая история. Л., 1989.

Фляксбергер К. Зёрны з Банцараўскага гарадзішча пад Менскам // Працы... Мн., 1932. Т. 3.

Чарняўскі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мн., 1979.

Чернявский М.М., Кохановский Г.А., Адамович С.А. Археологическая разведка в зоне Вилейского водохранилища // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969.

Чернявский М.М. Исследования Неманского неолитического отряда // АО 1975 года. М., 1976.

Шадыро В.И. Ранний железный век Северной Белоруссии. Мн., 1985.

Шмидехельм М.Х. Археологические памятники периода разложения родового строя на северо–востоке Эстонии (V в. до н.э. – V в. н. э.). Таллинн, 1955.

Шмидт Е.А. Археологические памятники Смоленской области. Смоленск, 1976.

Шноре Э.Д. Асотское городище. Рига, 1961.

Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992а.

Штыхаў Г.В., Казей В.У. Ізбішча // АіНБ. Энцыклапедыя. Мн., 1993.

Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.). Мн., 1978.

Штыхов Г.В. Исследования в окрестностях Минска, Борисова, Логойска // АО 1982 года. М., 1984.

Штыхов Г.В. Об этнической интерпретации банцеровской культуры // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза. Мн., 1992б.

Этнокультурная карта территории Украинской ССР в I тыс. н. э. Киев, 1985.

Яблонските–Римантене Р. К. О древнейших культурных областях на территории Литвы // Советская этнография. 1954. № 3.

Cehak-Hołubowiczowa H. Materiał i zagadnienia cmentarzyska kurhanowego koło wsi Nawry w powiecie Postawskim // RA. Wilno,1937. T. 1.

Grigalavičiene E. Nievieriškės piliakalnis // LA. Vilnius, 1986a T. 5.

Grigalavičiene E. Sokiškių piliakalnis // LA. Vilnius, 1986б. T. 5.

Hołubowicz W. Pięć lat pracy terenowej Muzeum Archeologicznego Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie (1933–1937). // RA. Wilno, 1937. T. 1.

Hołubowicz W. Ceramika słowiańska XI–XII wieku cmentarzyska koto wsi Nawry // RA. Wilno, 1937. T. l.

Jarocki S. Kurhany i cmentarzyska w pow. Oszmiańskim // Światowit. 1901. T. III.

Jaskanis D. Materiaiy odkryte w 1934 r. na cmentarzysku kurhanowym w Zaswirzu rej. Świr w BSSR // Światowit. 1962. T. XXIV.

Kirkor A. Wycieczka archeologiczna po gubernii Wileńskiej // BW. 1855. T. V.

Kulikauskas P., Kulikauskiene R., Tautavičius A. Lietuvos archeologijos bruožai. Vilnius, 1961.

Lietuvių etnogeneze – Этногенез литовцев. Vilnius, 1987.

Lietuvos TSR archeologijos atlasas. Vilnius, 1978. Kn. IV.

Łowmiański H. Początki Polski. Warszawa, 1964.

Szymański W. Przyczynki do zagadnienia chronologii i zasięgu występowania noży z rękojeściami zakonozońymi wolutami. // WA. 1964. T. XXX. Z. 3–4.

Tyszkiewicz K. Wilija i jej brzegi. Drezno, 1871.

Volkaitė–Kulikauskienė R. Narkūnų didžiojo piliakalnio tyronėjimų rezultatai (Apatinis kultūrinis sluoksnis // LA. Vilnius, 1986. T. 5.

Wrzosek A. Szkilety z kurhanów w Nawrach w pow. Postawskim // RA. Wilno, 1937. T. 1.

# РЕЗЮМЕ

Ярослав Генрихович Зверуго

## Белорусское Повилье в железном веке и раннем средневековье

Монография посвящена истории населения одного из наиболее этнически сложных и наименее исследованных в археологическом отношении регионов Беларуси – Повилью. Здесь в железном веке проходила граница между различными культурами единого восточнобалтского этнического массива, а в раннем средневековье – пограничная зона между славянами и балтами, зона контактов между различными восточнославянскими племенами. За более чем полтораста лет в результате работы нескольких поколений археологов получен обширный материал, который позволил автору осветить хозяйственную жизнь, материальную и духовную культуру и по возможности общественный строй населения на разных этапах его истории: от родового строя до государственных образований и начала формирования белоруской народности.

**Поселения культуры штрихованной керамики** – наиболее ранние поселения (Гатовичи, Занарочь) располагались в тех же местах, что и стоянки предыдущей эпох. Это были неукрепленные селища. Укрепленные поселения (городища), возникли в местах, которые были защищены уже самой природой. Некоторые из них (Вязынка, Збаровичи, Горани, Городище) первоначально были защищены только деревянными стенами. Позднее были насыпаны валы и выкопаны рвы. Поселения, которые появились в первых веках н.э. (Малышки, Свирь), укреплялись земляными сооружениями с момента своего возникновения. Жилища были наземными (в т.ч. многокамерными) столбовой конструкции, хотя существование прямоугольных срубных строений не исключено.

На ранних поселениях количество и ассортимент металлических изделий незначительны. Зато довольно много изделий из кости, рога и камня. На поздних городищах комплекс металлических изделий довольно многочисленный и разнообразный: орудия труда, предметы вооружения, принадлежности костюма, украшения и др. Основными отраслями хозяйства являлось земледелие и животноводство. Охота и рыболовство играли важную, но всё–таки второстепенную роль. Среди домашних ремесел особое место занимали металлургия железа и кузнечное дело.

Племена жили в условиях первобытнообщинного строя, а именно – на стадии развитого патриархата. Для них были характерны сакрализация сил, явлений и предметов природы.

Что касается этнической принадлежности носителей культуры, то автор, как и большинство современных исследователей, считает их балтами.

**Культура восточнолитовских курганов** сложилась в середине I тысячелетия н.э. в литовском ареале культуры штрихованной керамики и западной части (на запад от оз. Нарочь) белорусского ареала. Для наиболее ранних (IV–V вв.) курганов (в Белорусском Повилье это могильник у дер. Андреевцы) характерно трупоположение, для более поздних – трупосожжение (для остальных исследованных могильников региона). Курганы IV–VII  вв. у основания обычно имеют каменные венцы, а вокруг насыпи – ямы, которые позже нередко сменяются рвами. Погребальный инвентарь мужских погребений как с трупоположенниием, так и трупосожжением представлен в основном предметами вооружения и снаряжения воина (топоры, наконечники копий, ножи, изредка умбоны щитов и шпоры), женских – украшениями (шейные гривны, браслеты, височные кольца, фибулы, привески, бусы). В курганах конца I – начала II тысячелетия предметы вооружения встречаются редко. Раскопочные работы в ареале восточнолитовских курганов региона производилась только на двух селищах(Засвирь, Хведевичи) и на одном городище (Свирь). В Засвири выявлены остатки наземных жилищ столбовой конструкции (хотя наличие срубных построек не исключено) с каменными очагами и печами–каменками. Найдено много кусков железного шлака и криц. Среди находок в Хведевичах – железный серп с почти прямым лезвием, посоховидная булавка с S- видным завитком и булавка с кольцеподобными навершием. В Свири найдены различные украшения (височные кольца, бубеньчики, браслеты, перстни, обломки фибул), фрагменты висячих замков, двушипные и шиловидные наконечники стрел.

**Поселения банцеровской культуры**. В середине I тысячелетия в восточной части изучаемого региона культуры штрихованной керамики сменилась банцеровской культурой.

Основным типом поселений являлись открытые селища, первоначально расположенные вдали от городищ (Гуры, Ревячка, Сосенка), а позже – непосредственно возле них (Городище, Микольцы, Некасецк). Жилища представлены двумя типами: полуземлянки срубной конструкции и наземными жилищами столбовой конструкции. Для обоих типов одинаково характерны открытые очаги и печи–каменки. Среди вещевого материала немало железных и костяных изделий, аналогичных обнаруженным на поселениях железного века. Значительно более многочисленны и разнообразны предметы из цветных металлов и их сплавов: браслеты, височные кольца, перстни, фибулы, привески, лунницы, пряжки, трубочки и др. Встречены серебряные изделия (гривны, пластина–накладка).

Основными отраслями хозяйства являлось подсечное земледелие и связанное с ним животноводство. Охота и рыболовство играли вспомогательную роль. Значительное развитие получило бронзолитейное дело (найдены тигли, льячки, литейные формы). На селище Ревячка вскрыты грунтовые погребения, аналогичные синхронным могильникам Верхнего Поднепровья.

**Славянские древности.** Изучение славянских поселений началось только в последние десятилетия (раскапывались селища у деревень Избище и Некасецк, селище и замок на полуострове оз. Мястро).

До этого, начиная с середины XIX в. исследовались только курганные могильники. Господствующим обрядом погребения было трупоположение. Покойники лежат в вытянутом положении, головой на запад. Погребальный инвентарь в мужских погребениях: топоры, наконечники копий, ножи, шилья, кресала; в женских – височные кольца, перстни, браслеты, шейные гривны, фибулы, бубеньчики, подвески, бусы). Встречены этноопределяющие дреговичские крупно-зерненые бусы (Избище) и кривичские браслетообразные височные кольца (Навры). Освоение славянами Белорусского Повилья продолжалось вплоть до XII–XIII вв. Отношения между славянами и балтами имели миролюбивый характер, о чем свидетельствует большое количество гидронимов балтского происхождения и наличие балтских элементов как в погребальном обряде (погребения на кострищах, восточная ориентировка некоторые покойников), так и в инвентаре славянских курганов (наличие предметов вооружения характерных балтских украшений, обычай разбивать глиняные сосуды и др.). К XII–XIII вв. славяно-балтская граница отодвинулась к западу и северо-западу. Однако на славянской стороне оставались острова балтского населения.

## RESUME

### Jaraslau H. Zviaruha
### Belarusian Vilia Region in the Early Iron Age and Early Medieval Period

This monograph illuminates history of population of one of the most ethnically complicated and archaeologically less studied Belarusian regions – area of the Vilia-river basin. In the Iron Age this was the place where the borderline between different cultures of the whole Eastern Baltic ethnic expanse used to go and in the early medieval period it was both the frontier zone between the Slavs and the Balts and the area of contacts between different Eastern-Slavonic tribes. In the result of almost two centuries' research work of several generations of archaeologists spacious material has been accumulated. It gave the author an opportunity to describe economical, material and spiritual aspects of life of people in that time in the region under study. When possible social organization of the population is characterized on various stages of development: from the primeval community to state formations.

**Settlements of the Stroked Ware Culture.** The earliest sites (Hatavichy, Zanarach) were unfortified and were located on the spots of the previous epochs's settlements. Fortified sites (hillforts) used to appear in the places naturally defended. Some of them (Viazynka, Zbarovichy, Harani, Haradzishcha) originally were only fortified by wooden walls. Later ramparts and moats were erected. Settlements founded in the first centuries AD (Malyshki, Svir) have been defended by manmade earthen fortification since the very beginning. Above-ground dwellings were predominantly of pile construction though rectangular log buildings could exist too. Dwelling houses included one or several rooms.

Amount and range of metal objects on the early settlements are poor enough; items made of bone or stone, however, are quite numerous. On the later hillforts set of metal artifacts appears to be fairly rich:

